# ЗАЛАТАЯ КАПЕЙКА

Першыя публікацыі Уладзіміра Сцяпана пабачылі свет напрыканцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў. Гэта былі апавяданні ў калектыўных зборніках «Жнівеньскі праспект» (1988) і «Тутэйшыя» (1989). А ў 1990 годзе выйшлі адразу два аўтарскія зборнікі прозы — «Вежа» і «Сам-насам». Ужо і тады было зразумела, што ў нашу літаратуру прыйшоў самабытны і таленавіты пісьменнік — з адметнай манерай пісьма, з непасрэдным бачаннем рэчаіснасці, з датклівым адчуваннем свету...

Аднак прайшло болей за два дзесяцігоддзі з таго часу. І хоць у літаратурна-мастацкай перыёдыцы творы, якія складаюць гэты зборнік, друкаваліся і друкуюцца пастаянна, асобнымі кнігамі яны не выдаваліся. З майго пункта гледжання, гэты факт шмат пра што гаворыць. Напрыклад, пра тое, што Уладзімір Сцяпан — не з тых, хто абівае парогі выдавецтваў і імкнецца як мага барзджэй абгарнуць напісанае ў вокладку. Ён пазбаўлены абвостранай амбітнасці, прагнасці да вядомасці, да славы. Ён займаецца творчасцю — засяроджана, спакойна, самааддана... І плённа.

Гэта нячастая з'ява, калі творчасць пісьменніка робіцца папулярнай і запатрабаванай пераважна па часопісных публікацыях. А сёння ў Сцяпана насамрэч вельмі вялікае кола прыхільнікаў. Чытачы, якім выпадкова пашанцавала натрапіць дзесьці ў перыёдыцы на творы пісьменніка, у пераважнай большасці выпадкаў назаўжды робяцца палоннікамі яго мастацкага свету.

Шмат разоў даводзілася бачыць, як студэнты літаральна «з рук у рукі» перадавалі нумары «Маладосці» з дэтэктыўнымі раманамі «Тэолаг» (2005) і «Цень анёла» (2008), напісанымі Уладзімірам

Сцяпанам у сааўтарстве з Максімам Клімковічам, неаднаразова назірала, як яны робяць ксеракопіі навел пісьменніка, надрукаваных у часопісах «Крыніца», «Полымя», «Дзеяслоў», як расшукваюць выпускі «ЛіМа», дзе былі змешчаны цыклы празаічных мініяцюр «Нататнік» альбо «Акварэльныя малюнкі. Дзед». Паказальны і той факт, што выпускнікі філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных установаў краіны штогод абавязкова прысвячаюць дыпломныя работы творчасці Сцяпана. Дый нават раннія творы пісьменніка (і тыя, што ўвайшлі ў зборнікі «Вежа» і «Сам-насам», і тыя, што крыху пазней друкаваліся ў літаратурна-мастацкіх выданнях, — навелы «Ітака», «Пакуль гарыць запалка», «Браты», «Паэты», «Пагаворым» і шматлікія іншыя) прыцягнулі ўвагу не толькі шараговых чытачоў, але зрабіліся аб'ектам навуковай зацікаўленасці філолагаў. Так, напрыклад, літаратуразнаўца Наталля Кузьміч падкрэсліла ў сваёй кандыдацкай дысертацыі, што прозу Уладзіміра Сцяпана «нельга зблытаць з якой-небудзь іншай», бо яна «адметная сваім лаканізмам, тэкставай насычанасцю», а героі пісьменніка «выпісаны вельмі ярка, характары іх — амаль заўсёды неардынарныя — абмалёўваюцца даволі выразна».

Дарэчы, можна заўважыць, што ў размовах пра літаратурную творчасць Уладзіміра Сцяпана вельмі часта ўжываюцца словы «малюнак», «жывапіс», «фарбы», «колеры», «контуры», «штрыхі», «адценні»... Ужываюцца абсалютна правамерна. Дзеля прыкладу працытую некалькі радкоў з артыкула «Калейдаскоп “акварэльнай” самоты» кандыдата філалагічных навук Ірыны Шаўляковай: «...Ці не кожны твор Уладзіміра Сцяпана — узор “выяўленчай прозы”. Так, у аповедзе “Хацелася напісаць пра...” (2002), што складаецца з міні-навел, кожны фрагмент уражвае выбудаванай экспазіцыяй, рэльефнасцю вобразаў, раскрыццём сутнасных прыкмет той ці іншай з'явы з дапамогай тонкіх сэнсавых і эмацыянальных нюансаў, спалучэннем дакладна выпісаных контураў і багацця колеравых пераліваў-пераходаў. “Выяўленчасць” пісьма бачыцца сёння адной з найважнейшых адзнак індывідуальна-творчага стылю Уладзіміра Сцяпана...» Дый сам пісьменнік пэўным цыклам сваіх твораў даў аўтарскае жанравае вызначэнне «акварэльныя малюнкі». Па-мойму, гэта вельмі трапна. У пісьменніка за спінай вельмі грунтоўная прафесійная мастакоўская школа — і ў прамым сэнсе, і ў пера-

носным... Ён скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава, а пазней — Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (па спецыяльнасці «жывапісец»), мае вопыт працы мастака-афарміцеля. Гэты досвед, несумненна, плённа паспрыяў яму ў літаратурнай творчасці — выявіўся ва ўменні заўважаць неверагодна тонкія рухі чалавечай душы, нюансы пачуццяў, інтымных перажыванняў.

Вядома, што жанр навелы з яго патрабаваннямі абавязковай напружанасці сюжэта, падзейнай вастрыні і непрадказальнасці развязкі, з яго імкненнем да лаканізму формы і мінімізацыі апісальнасці, вельмі складаны. Ён як ніводзін іншы літаратурны жанр вымагае дакладнасці слова і яснасці сэнсу. Недарэмна знакаміты французскі навеліст Гі дэ Мапасан калісьці заўважыў: «У паэзіі аўтар трымаецца цвёрдых правіл. У яго ёсць метр, цэзура, рыфма і мноства практычных указанняў — цэлая тэорыя рамяства. У прозе ж неабходна глыбокае адчуванне рытму, рытму зменлівага, у якога няма ні правіл, ні адпаведнай апоры, неабходна прыроджаная таленавітасць, патрэбны здольнасць меркаваць і мастацкае чуццё бясконца больш тонкія, больш вострыя: празаік жа штохвілінна мяняе рух, афарбоўку, гук фразы ў адпаведнасці з тым, пра што ён гаворыць. <…> Калі ён ведае дакладнае значэнне слова і ведае, як змяніць гэтае значэнне, паставіўшы слова на тое ці іншае месца, як засяродзіць усю цікавасць старонкі на адным радку, вылучыць адну ідэю з сотні іншых адзіна толькі шляхам выбару і размяшчэння слоў, што яе выказваюць; калі пісьменнік ведае, як уразіць чытача адным адзіным пастаўленым на сваё месца словам, падобна да таго, як паражаюць зброяй, калі ён ведае, як уразіць душу чытача, раптоўна напоўніць яе радасцю ці страхам, захапленнем, горам ці гневам, ужыўшы толькі адзін які-небудзь эпітэт, — тады ён сапраўдны мастак, найвышэйшы з мастакоў, сапраўдны празаік». Беларускі пісьменнік Уладзімір Сцяпан віртуозна дэманструе менавіта гэтыя здольнасці — чуйнасць да адпаведнасці слова вобразу, а фразы і яе рытму — асобнай падзеі, у кожным новым творы выяўляе ўменне заваблiваць чытача, далучаць да гісторый сваіх персанажаў і ненавязліва змушаць перажываць гэтыя гісторыі, як свае ўласныя. Ён здольны кранаць да глыбіні душы, шакаваць сітуацыямі і гіпнатызаваць падзеямі, стымуляваць да асабістых асацыяцый... Сведчаннем таму — навелы «Букет. Медаль. Шапка» і «Ключ», дзе драмы

героя ў адчуваюцца амаль што на фізічным узроўні — да спазму ў горле, да паскоранасці сэрцабіцця, навелы «Штурман» і «Казанова і Квазімода» — кранальныя і хвалюючыя гісторыі кахання, дзе пра каханне быццам бы няма непасрэднай гаворкі, але ад адчування вастрыні гэтага пачуцця чытач няўхільна перажывае грандыёзны шквал эмоцый...

Сюжэты навел Уладзіміра Сцяпана ўзрастаюць, як правіла, з аднаго лакальнага эпізоду, за якім урэшце расхінаюцца далягляды чалавечага быцця, дзіўныя і супярэчлівыя перыпетыі непрадказальнага лёсу. Так, у навеле «На вуліцы Школьнай» цэнтральны эпізод на пачатку не выглядае экстраардынарным: у лазні, у гарачай парылцы знепрытомнеў мужчына сталага ўзросту, яму выклікалі «хуткую»… Аднак у стылі і пафасе аповеда ўтрымліваюцца далікатныя адценні, інтанацыі, спецыфічныя намёкі, якія дазваляюць адчуць незвычайны стан гэтага чалавека — пакутлівую адзіноту, прыгаломшанасць ці нейкае асаблівае ўнутранае ўтрапенне: «*Доўга разбэрсваў матузкі карычневых чаравікаў на тоўстай рыфлёнай падэшве, сцягваў шкарпэткі, праз галаву скінуў чорны швэдар. Старанна, нібыта баяўся прапусціць, парасшпільваў гузікі клятчастай кашулі, акуратна склаў вельветавыя штаны на верхнюю паліцу, дзе ляжала чорная лыжная шапка, і стомлена апусціўся на лаву. Так і сядзеў, у цёплай споднай бялізне. Амаль чвэрць гадзіны адчужана пазіраў на карычневую плітку падлогі, на свае ногі. Распрануўся і зноў сеў, прываліўся спінаю да вузенькай шафкі*». Увага пісьменніка да дробязяў у паводзінах героя — стомленых рухаў, запаволеных жэстаў, засяроджана-старанных дзеянняў — выключна дакладна перадае яго стан, прававкуе змрочную здагадку… І яшчэ адна акалічнасць, якая ўзмацняе трывожна-гнятлівае прадчуванне чагосьці незваротнага: «*Набраў поўны тазік вады, паставіў на лаву пад запатнелае закратаванае акно. А потым засмучона і крыху разгублена пакруціў галавой. Падумаў, што дарма ўзяў тазік — а як каму не хопіць?*» Гучыць так, быццам бы самому герою ўжо ўсё роўна… Але сказаць з пэўнасцю, што чалавек свядома рашыўся на самагубства, больш істотных падстаў няма. Можа, толькі тое, што ў парылцы ён «*палез на самы верх, на апошнюю паліцу, пад брудную столь*»…

Сціслая кампактнасць фраз, канкрэтыка фактаў, пільная засяроджанасць на вонкавых дзеяннях і — асабліва дзіўна! — нейкая

наўмысная адсутнасць увагі да ўнутранага жыцця персанажа… Характарыстыкі, якія, здавалася б, не могуць адпавядаць твору, прысвечанаму глыбокаму пачуццю. Аднак жа ў навеле ўвасоблена менавіта гісторыя аднаго з самых глыбокіх пачуццяў — першага кахання. Бліскуча ўвасоблена…

Героі не маюць у творы ніводнай рэплікі, не прамаўляюць ніводнага слова, сам аўтар нібыта толькі назірае за іх дзеяннямі, адно зрэдку ўдакладняючы пэўныя абставіны: «*Гэта быў Віцька Руды. Пяцьдзясят гадоў таму руды, а цяпер сівы. Пазнала яго санітарка Валянціна, немаладая жанчына з нафарбаванымі вуснамі. Яна ўбачыла правую руку, а на плячы — бэзавы шнар. <…> Яна пазнала яго, але не сказала нікому. Прыйшла дамоў і пачала перабіраць фотаздымкі. Знайшла, нарэшце, тое, што шукала. Два хлопчыкі гадоў па дванаццаць у майках-саколках і чорных доўгіх трусах на школьным стадыёне. Справа, кароткастрыжаны, яе брат Віталік, а побач ён — Віцька Кныш, па мянушцы Руды. Праз два гады бацькі, а разам з імі Віцька, з'едуць з вуліцы Школьнай назаўсёды. Ён нават восьмы не паспее скончыць…*» Як бачна, мова аповеда вельмі простая, дакладная, без аніякай лірычнай «квяцістасці», уласцівай большасці гісторый пра каханне, у пэўнай ступені нават аскетычная. Але кожнае слова, кожная фраза падаюцца вельмі адпаведнымі, трапнымі, па-асабліваму дасканалымі, быццам бы адзіна магчымымі для таго ці іншага эпізоду.

Вось, напрыклад, як адлюстравана Валянціна ў момант вяртання з могілак, з пахавання Віцькі Кныша: «*Немаладая жанчына, у якой былі дарослыя дзеці і ўжо два ўнукі студэнты, усміхалася. Яна нават каўзанулася па лядку плыткай калюжыны, праехала колькі крокаў*». На першы погляд… нечакана. А далей — фінальны акорд, які не проста вытлумачвае пачуцці гераіні, а дае магчымасць амаль фізічна адчуць яе стан, самазабыўную заглыбленасць ва ўспаміны далёкага юнацтва: «*Сцюдзёны лістападаўскі вецер выдаваў гарачым, як Віцькава дыханне. Ёй здавалася, што яна сядзіць на мулкай раме, а Віцька Руды круціць педалі і жарка дыхае ёй у шыю. <…> І адно яе толькі засмучае, што вуліца Школьная такая кароткая*». Па-мойму, у гэтых некалькіх ёмкіх і дакладных фразах аўтар бездакорна выявіў і боль страты гераіні, і глыбіню яе першага няспраўджанага пачуцця, і салодкую настальгію па незваротным мінулым…

Гэтаксама, на адным дыханні, чытаецца навела «Дзве гадзіны», дзе зачын дзеяння з першых радкоў не толькі выклікае цікаўнасць, але па-свойму насцярожвае: «*Шурка выйшаў з кватэры з перакошаным тварам. Тут жа, на лесвічнай пляцоўцы, садануў кулаком з усяе моцы ў сцяну. Счакаў колькі, пахукаў на разбіты кулак, абгарнуў яго насоўкай, схаваў рукі ў кішэні і пайшоў. Ён не спаў сорак дзевяць гадзін. Ні хвіліны. Думка ў галаве была толькі адна. Калі ж усё скончыцца?*» Што сталася прычынай надзвычайнай узрушанасці героя? Што так моцна яго непакоіць?.. На працягу ўсяго сюжэта пытанні застаюцца адкрытымі. Больш таго дзеянні персанажа — мэтанакіравана-зацятыя, нервова-агрэсіўныя — трымаюць у напружанасці, абвастраюць адчуванне яго экзальтаванага стану. «*Шурку неабходна выпіць, і не праз гадзіну ці дзве, а менавіта цяпер. <…> Ён не быў алкаголікам. Не быў нават п'яніцам, як большасць знаёмых і аднагодкаў. Ён мог і тыдзень, і месяц не піць. Мог, але сёння, цяпер яму трэба было выпіць*». Фактычна ўсе сюжэтныя перыпетыі навелы — гэта ўтрапёны пошук Шуркам выпіўкі. У дынаміцы імклівых падзей ледзь заўважна мільгаюць дробныя малюнкі трывіяльнага чалавечага быту, самі людзі — звыклыя і пазнавальныя — «чырванатвары дзядзька», што падбірае пустую пляшку, «суседка ў стракатым фланелевым халаце»… Паступова ўзнікае адчуванне, што герой быццам бы раптоўна ўсвядоміў нейкую недарэчнасць усяго навакольнага, убачыў тое, чаго ў тлумным кругабегу паўсядзённасці раней не заўважаў. Сустрэчы і перамовы з людзьмі, вонкавыя абставіны ўспрымаюцца Шуркам безуважна, абыякава, амаль механічна. А вось з'явы шараговыя — кшталту растаптанага мураша ці забітай мухі — выклікаюць у яго нечакана вострую, хваравітую рэакцыю: «*Шурку перасмыкнула. Кулакі сціснуліся*»; «*Шурка прымружыў вочы. Сэрца сціснулася і закалацілася*»…

І вось развязка, якая расстаўляе ўсе кропкі над «і», цалкам вытлумачвае папярэднія дзеянні персанажа, яго душэўны стан: «*Шурка ўвайшоў у кватэру. Яго здзівіла цішыня. Маці і сястра сядзелі на канапе супраць бацькавага ложка. Шурка ўсё зразумеў і ўздыхнуў з палёгкай. Калі засынаў, то спрабаваў вылічыць хаця б прыблізна, дзе быў ён, калі памёр бацька. Але яму згадваліся то растаптаны мураш, то забітая муха*». Роспач, адчуванне безвыходнасці, уласнага бяссілля, немагчымасці супрацьстаяння абставінам — вось што

гняло героя, нервавала, балюча рвала душу. Пісьменнік здолеў не толькі натуральна і эстэтычна дасканала адлюстраваць сітуацыю, якая не супярэчыць жыццёвай праўдзе, з'яўляецца цалкам прыймальнай, але і вымусіў чытача далучыцца да стоена-пакутлівага перажывання героя, адчуць яго востры душэўны крызіс, трапяткую рэакцыю на непазбежную балючую страту.

Безумоўна, самі сюжэты навел Уладзіміра Сцяпана — рэалістычныя гісторыі, у большасці драматычныя — цікавяць і інтрыгуюць, прываблівають і захапляюць. Аднак асабліва прыцягальна ўздзейнічаюць на чытача нават не столькі сюжэтныя перыпетыі, колькі цэлыя галерэі выключных па сваёй дакладнасці партрэтаў, у якіх персаніфікуюцца характэрныя тыпы людзей — знаёмых або пазнавальных, ва ўсякім разе заўжды зразумелых, якім шчыра спачуваеш ці за якіх радуешся ўсім сэрцам...

У жанры навелы Уладзімір Сцяпан выяўляе сябе майстрам, здольным кожны раз дасягаць новай псіхалагічнай напоўненасці вобразаў, ствараць хвалюючую эмацыянальную атмасферу, асновай якой найчасцей з'яўляюцца завостраныя этычныя канфлікты.

Асобнай гаворкі, на маю думку, заслугоўвае навела «Адна капейка», паводле якой кніга Уладзіміра Сцяпана атрымала сваю назву. Колькі цеплыні і шчырасці выклікае гэта гісторыя, якой пяшчотнай настальгіяй перапаўняе душу... Цэнтральным эпізодам тут робіцца нібыта зусім шараговая выпадковасць: «*Я знайшоў восемдзесят сем капеек. Бывае і такое шчасце*». Далей аўтар нават наўмысна падкрэслівае банальнасць здарэння, узяўшы ў двукоссе ключавое слова фразы: «*Тая "неверагодная" падзея адбылася пагодным чэрвеньскім днём*»... І ўсё ж такі пісьменнік не «падвёрствае» сюжэт пад навелу, а ізноў выбудоўвае арыгінальную па кампазіцыі і ўнікальную па глыбіні пачуццяў гісторыю, вельмі яркую і незвычайна кранальную...

Аповед-успамін ад першага імя надае твору асабліва даверлівы, спавядальна-настальгічны тон. Фактычна кожны эпізод, кожная сітуацыя намаляваны адначасова скрупулёзна і нязмушана, выразна і далікатна. Вось, напрыклад, сама «знакавая» падзея, дзе паводзіны дзевяцігадовага хлопчыка выяўлены, я б сказала, па-мастацку віртуозна: «*Побач са сцежкай цьмяна бліснула манетка і спыніла мяне. Вачам не паверыў. Калупнуў мыском кеда. Прыціс-*

*нуў гумовай падэшвай. Прысеў на кукішкі, азірнуўся так, нібыта хаваўся. А можа, і наадварот, спачатку азірнуўся, а потым прысеў. У траве быў сапраўдны россып жоўтых і белых манетак. Іх было так шмат, што я спалохаўся. Я абпоўзаў, агледзеў і абмацаў зямлю і траву на два бакі ад сцежкі. Рукі ад раптоўнага шчасця калаціліся, спіна зрабілася мокрай ад поту. Кашуля прыклеілася да хрыбта… <…> Я адчуў кісла-салодкі смак шчасця і неверагодную лёгкасць…*» Не менш дакладна, цалкам адпаведна ўзросту персанажа і яго светаадчуванню, спісам «у слупок» пералічваюцца «каштоўнасці» — прадметы наіўных дзіцячых мрояў, — якія нарэшце маглі «матэрыялізавацца»: гэта і ножык-складанчык на тры лязы, і паплавок-бомбачка, і скрутак гумовага аптэчнага жгута на рагатцы, і… яшчэ адзін паплавок. Апошні «пункт» надзвычай арганічна падкрэслівае стан дзіцяці — узбуджанасць, своеасаблівую прагнасць, мітусню пажадлівых думак, імкненне ахапіць неахопнае, адчуванне «грандыёзных» перспектыў…

Увогуле, ніводная з калізій навелы не выклікае пярэчання ці недаверу, бо ўчынкі героя псіхалагічна выверaныя, абгрунтаваныя, абсалютна натуральныя і лагічныя. Блукаючы па крамах, хлопчык сутыкнуўся са старцам-жабраком, якога заўжды баяўся: «*Калі я быў зусім малы, мама Барыском палохала. Прыгаворвала, што, калі не буду слухацца, не кіну пярэчыць — аддасць мяне старцу Барыску, а ён схавае мяне ў вялікі мех, які заўжды пры ім, і зацягне далёка-далёка, адкуль я нікуды не выберуся…*» Знешні выгляд жабрака — «*гарбаты, брудны, бяззубы, апрануты ў рыззё, на нагах вялізныя ссохлыя чаравікі <…> мех каля ног, лапленыя-пералапленыя*» — несумненна здольны выклікаць агіду і страх, тым больш у дзіцяці... Таму зусім верагодным выглядае ўчынак хлопчыка, які, уражаны «празорлівасцю» гарбуна і аднačасова напалоханы яго енкам, — «*Дай Барыску капеечак… А ён твае жаданні выканае. Дай, дай, дай… <…> За кожную капеечку па адным жаданні*», — нібы заварожаны, ссыпае ўсю дробязь у далонь жабрака. Дынамічны тэмп апавядальнай плыні і лаканізм фраз узмацняюць кантраст паміж двума станамі дзіцяці, падкрэсліваюць імклівасць змены сітуацыі, калі нечаканае хвалюючае шчасце ператвараецца ў велізарную роспач: «*Рукі калаціліся, як у злодзея. Пальцы намацалі ў кішэні манетку. То была адна капейка. Як яна схавалася там, як зашылася? Вядома ж, і яна магла ператварыцца*

*ў карабок запалак. Або ў шклянку звычайнай газіроўкі… Я злосна шпурнуў капейку ў кусты і заплакаў»*. Як трапна — па сутнасці, праз адзін адчайны жэст — прадэманстраваў пісьменнік эмацыянальны стан героя! І фактычна побач — на адлегласці ў некалькі сказаў — яшчэ адзін кантраст, раптоўная падзея, якая кардынальна змяняе настрой персанажа: вярнуўшыся дамоў, хлопчык бачыць у калідоры навюткі ровар…

Лірызм аповеда, пільнасць аўтара да танчэйшых нюансаў у паводзінах маленькага героя, уважлівае ўзнаўленне бясхітраснага дзіцячага свету, з уласцівымі яму запаветнымі марамі і наіўнымі жаданнямі, несумненна, выклікаюць шчымлівае суперажыванне. Аднак апагею пачуцці дасягаюць у фінале твора, дзе ключавая сентэнцыя належыць ужо даросламу персанажу. Менавіта некалькі заключных фраз надаюць навеле прытчавы характар, узмацняюць яе філасофскі сэнс: «*Я паверыў Барыску… За адну капейку — адно жаданне… А тых капеек яшчэ аж восемдзесят шэсць… Першае з маіх жаданняў здзейснілася… І другое, і пятае, і восемдзесят шостае жаданне Барысок выканаў… Як жа мне сёння спатрэбілася б тая восемдзесят сёмая капейка. Тая, што засталася ў кішэні. Тая, якую я потым злосна шпурнуў у кусты, а не паклаў у далонь гарбатага анёла…*» Пасля прачытання гэтай навелы яшчэ доўга застаешся пад уражаннем ад сюжэтных падзей... Накрывае хваля ўспамінаў пра ўласнае маленства, ажывае тая колішняя, дзіцячая, амаль забытая вера ў цуды — тая вера, якой нам так не хапае ў дарослацці.

Да ліку гэткіх жа бясспрэчных творчых удач Уладзіміра Сцяпана належаць «Акварэльныя малюнкі. Дзед». Па вялікім рахунку — гэта аповесць, якая складаецца з замалёвак, аб'яднаных сюжэтна і тэматычна. З лаканічных абразкоў паступова выбудоўваецца вельмі цэльная аўтабіяграфічная гісторыя, у якой пісьменнік нібыта дзеліцца ўспамінамі пра свайго дзеда, пра сваё маленства і юнацтва. Так падаецца на першы погляд... Аднак гэта не зусім дакладна. Мне імпануе меркаванне філолага Алеся Грыбоўскага, які ў «лімаўскай» рэцэнзіі на часопісную публікацыю твора падкрэсліў, што гаворка тут ідзе не толькі пра дзеда і пра народную педагогіку, не толькі пра вёску і дзяцінства-юнацтва, а пра нешта «значна большае, значна глыбейшае». Пісьменнік расказвае «пра светаадчуванне беларуса, пра тыя зыходныя жыццёвыя пазіцыі, першыя ўражанні і

пачуцці, якія фармуюць асобу, пра складаныя ўзаемасувязі і суіснаванне пакаленняў». Да гэтага дадам толькі тое, што «Акварэльныя малюнкі. Дзед» выразна вытлумачваюць саму прыроду таленту пісьменніка, тыя каштоўнасці, якія зрабіліся для яго духоўным апірышчам у жыцці і творчасці.

У творах Уладзіміра Сцяпана перадусім пануе асабістае — індывідуальныя сітуацыі, прыватныя выпадкі з чалавечых лёсаў. Але гісторыям у цэлым уласціва своеасаблівая ўніверсальнасць, бо і сюжэты, і іх мастацкія інтэрпрэтацыі адпавядаюць складанасці, эстэтычнаму багаццю і шматграннасці самога жыцця. Гэтыя творы — жывы эпас сучаснасці, дзе выяўлена дыялектыка душы, складаны свет чалавечай асобы. Пісьменнік валодае прыроджанай здольнасцю прыкмячаць і па-мастацку грацыёзна дэманстраваць вузлавыя моманты нашага быцця. На яго творах — адбітак непадробнай увагі і павагі да чалавека, бязмежнай любові да Беларусі.

І апошняе... Я ўпэўнена, што кніга Уладзіміра Сцяпана «Адна капейка» зойме ганаровае месца ў гісторыі айчыннай літаратуры, зробіцца істотным унёскам у наша прыгожае пісьменства. Гэта зусім не простая капейка — яна залатая, каштоўная, вельмі высокай пробы.

Лада Алейнік

*Гэтае апавяданне і ўсю кніжку*
*я прысвячаю Алене Марковіч,*
*якая і натхняла і прымушала*
*складаць словы ў сказы.*

# АДНА КАПЕЙКА

Я знайшоў восемдзесят сем капеек. Бывае і такое шчасце.

Тая «неверагодная» падзея адбылася пагодным чэрвеньскім днём, пасля апоўдня. Першыя дні бясконцых, як заўсёды на пачатку падаецца, летніх вакацый. Ішоў я сабе ад аўтобуснага прыпынку да пляца з фантанам праз парк. Звычайна ў тым парку, а дакладней — скверы, мужчыны віно п'юць, за жыццё гамоняць, а па вечарах хлопцы за прыпынкам, пад таполямі ды каштанамі, адносіны высвятляюць, б'юцца ці з дзяўчатамі абдымаюцца-цалуюцца. Сам не ведаю, чаму менавіта праз сквер падаўся, а не асфальтам, паўз клумбы з гладыёлусамі да настуркамі, якія яшчэ і не думалі распускацца. Ні якіх прыкмет вялікага шчасця не назіралася. Сонца свяціла звычайна, птушкі ціўкалі будзённа, з чырвоных заводскіх комінаў валіў у высокае летняе неба дым.

А шчасце мяне чакала.

Побач са сцежкай цьмяна бліснула манетка і спыніла мяне. Вачам не паверыў. Калупнуў мыском кеда. Прыціснуў гумовай падэшвай. Прысеў на кукішкі, азірнуўся так, нібыта хаваўся. А можа, і наадварот, спачатку азірнуўся, а потым прысеў. У траве быў сапраўдны россып жоўтых і белых манетак. Іх было так шмат, што я спалохаўся. Я абпоўзаў, агледзеў і абмацаў зямлю і траву на два бакі ад сцежкі. Рукі ад раптоўнага шчасця калаціліся, спіна зрабілася мокрай ад поту. Кашуля прыклеілася да хрыбта...

У дзевяць гадоў, а мне менавіта столькі на той час было, я добра лічыў. А вось пералічыць сваё багацце здолеў, можа, ці не з пятага разу. З кожнай спробы атрымлівалася іншая лічба... Жменя манет нязвыкла адцягвала кішэню, і пры кожным кроку манеты ажывалі,

пазвоньвалі.... А ў галаве закруціліся думкі-планы. Я адчуў кісла-салодкі смак шчасця і неверагодную лёгкасць...

У тысяча дзевяцьсот шэсцьдзясят сёмым для дзевяцігадовага хлопчыка такая сума была раскошай. Магу скласці і напісаць даўжэзны спіс карысных, неабходных і вельмі патрэбных рэчаў і прысмакаў, якія можна было займець на тыя выпадкова знойдзеныя грошы. Спіс той зойме не адну і не дзве старонкі. Вось толькі першае з таго, што прыгадваецца:

1. Ножык-складанчык на тры лязы.
2. Пластыкавы бела-чырвоны паплавок-бомбачка.
3. Вудзільна бамбукавае, гнуткае.
4. Скрутак гумовага аптэчнага жгута на рагаткі.
5. Дзесяць метраў мадэльнай гумкі.
6. Сонечныя акуляры.
7. Кручкі карасёвыя.
8. Кулёк фінікаў.
9. Гематаген.
10. Пластыкавы брылёк.
11. Клей, шалёсткая папяросная папера, рэйкі...
12. Значкі.
13. Пераводныя карцінкі.
14. Квіткі на дарослыя фільмы.
15. Марожанае.
16. Катушку зеленкаватай жылкі.
17. Металічны грабеньчык.
18. Канверт «АВІЯ».
19. Калода картаў.
20. Маленькі сіні нататнічак.
21. Яшчэ адзін паплавок.
22. ......................................

Я не знаходзіў сабе месца. Мяне раздзімала ад шчасця, гонару і радасці. Пачаўся рэйд па крамах.

Калі выходзіў з гаспадарчай, то і ўбачыў Барыска. Ён еў белы хлеб. Стаяў пры ганку, там, дзе жанчыны вазкі з малечай, а мужчыны ровары ды мапеды пакідаюць. Міргаў пачырванелымі вочкамі і выядаў з лусты, як з кавуна сакоўную сярэдзіну, мякіш. Колькі ж было гадоў гэтаму маленькаму чалавечку? Магло быць

і трыццаць, а магло і пяцьдзясят. Ён шамкаў праваленым бяззубым ротам і ўсміхаўся, абсалютна задаволены жыццём. Ростам Барысок быў з мяне, не больш. На спіне, а дакладней за ёй, памерам з два боханы хлеба ўздымаўся горб.

Калі я быў зусім малы, мама Барыском палохала. Прыгаворвала, што, калі не буду слухацца, не кіну пярэчыць — аддасць мяне старцу Барыску, а ён схавае мяне ў вялікі мех, які заўжды пры ім, і зацягне далёка-далёка, адкуль я ніколі не выберуся...

А таму старца Барыска я не любіў і нават колькі разоў кідаў у яго каменнем. А за што яго любіць? Гарбаты, брудны, бяззубы, апрануты ў рыззё, на нагах вялізныя ссохлыя чаравікі з адным матузком. А яшчэ і мех каля ног, лаплены-пералаплены.

Правай рукой прыціснуў кішэнь з грашамі. А Барысок паглядзеў мне ў вочы і зашамкаў яшчэ хутчэй, быццам я ягоны хлеб наважыўся адняць, а скарынку схаваў за пазуху пад крысо доўгага, як паліто, пінжака.

Адышоўся ад старца крокаў на дзесяць і спыніўся. Барысок корпаўся ў мяху і глядзеў на мяне.

— Барысок усё магёт... За кожную капеечку выканаю жаданне. Дай, дай, дай, чуеш, малы, дай Барыску, а то... — мармытаў, прыгаворваў, як падалося, на ўсю вуліцу старац.

Я спалохаўся, знерухомеў, разгубіўся. Адкуль ён ведае пра грошы? Жанчыны, дзяўчаты і нават сквапныя суседкі-бабулькі заўжды падавалі Барыску, быццам абавязаныя былі. Хто дзесяць капеек дасць, хто пяць, хто паўбохана хлеба, цукерку, пару аладак ці яблык... Усё, што трапляла ў старцавы рукі, імгненна знікала ў мяху. Дзіўна, але і міліцыя Барыска не чапала, дазваляла хадзіць па пасёлку, швэндацца па пад’ездах, зазіраць у кватэры, вымантачваць ды выпрошваць. Дзеці ж старца не любілі, пабойваліся, а таму як маглі псавалі яму жыццё. Бегалі за ім, дражніліся, крыўдзілі і нават білі. Барысок ад злосных падлеткаў уцякаў. Смешна так уцякаў, перавальваўся з нагі на нагу, галаву ўгінаў, прыкрываў твар рукой і бег. Пацэліць каменем ці агрызкам у вялікі горб лічылася справай гонару.

Дзе жыве Барысок? Казалі, за шашой, за шклозаводам, за старымі могілкамі... Дакладна ж таго ніхто не ведаў, ды і ведаць ці хацеў.

— На. Бяры. Салодзенькая. — На далоні старца ляжала цукерка.

Я вагаўся, а Барысок усміхаўся.

Узяў нарэшце я тую цукерку «Залаты ключык».

— Дай Барыску капеечак... А ён твае жаданні выканае. Дай, дай, дай, — канючыў старац і глядзеў у мае вочы. — За кожную капеечку па адным жаданні.

Мая рука апусцілася ў кішэнь. Пальцы выграблі манеты, і яны з металічным шоргатам перасыпаліся, перацяклі ў глыбокую Барыскову далонь.

Я разгублена міргаў і быў гатовы расплакацца.

— Ідзі цяперака, малы, ідзі... Барысок усё магёт. Хутка ўбачыш, — прыспешыў ён голасам і зацiснуў карэлыя пальцы. Я не паспеў нават позіркам развітацца са сваім скарбам, выпадкова знойдзеным і так хутка страчаным.

Парэпаны асфальт, трава, смецце. Я не падымаў галавы. Думкі блыталіся, як у хворага пры высокай тэмпературы. Калі вярнуўся да гаспадарчай крамы — Барыска там не было, як вадой разліўся.

Рукі калаціліся, як у злодзея. Пальцы намацалі ў цемры кішэні манетку. То была адна капейка. Як яна схавалася там, як зашылася? Вядома ж, і яна магла ператварыцца ў карабок запалак. Або ў шклянку звычайнай газіроўкі... Я злосна шпурнуў капейку ў кусты і заплакаў.

Калі спустошаны, але трохі супакоены блуканнем па вуліцах прыцягнуўся дадому, то яшчэ ў пад’ездзе напружыўся, сэрца закалацілася...

Не паверыў вачам. У калідоры стаяў навюткі чорны ровар. Раму агортвала правошчаная рудая папера. Пруткі колаў пералівіста зіхцелі. Я накрыў далонню бліскучую бляшаначку званка, дакрануўся да пляскатага рычажка, і ён азваўся, ажыў.... Удыхнуў востры пах машыннага алею, і той пах падаўся смачнейшым за водар смажанай бульбы, ярчэйшым за водар сунічнага варэння...

Я паверыў Барыску...

За адну капейку — адно жаданне...

А тых капеек яшчэ аж восемдзесят шэсць...

Першае з маіх жаданняў здзейснілася...

І другое, і пятае, і восемдзесят шостае жаданне Барысок выканаў...

Як жа мне сёння спатрэбілася б тая восемдзесят сёмая капейка. Тая, што засталася ў кішэні. Тая, якую я злосна шпурнуў у кусты, а не паклаў у далонь гарбатага анёла...

19.09.2005 г.

# БУКЕТ. МЕДАЛЬ. ШАПКА

Эдзік Мельнік...

Дастаткова прамовіць гэтыя імя і прозвішча ці пачуць ад каго са знаёмых, як адразу згадваецца нервовы, не надта каб высокі мужчына, рэзкі ў рухах, з цёмным, абпаленым сонцам тварам і светлымі, як срэбныя манеты, вачамі.

Не! Не і яшчэ раз не! Эдзік не вар'ят і не ідыёт, у якога «знесла дах». І ніхто з насельнікаў пасёлка не пераканае мяне ў тым, што Мельнік хворы на галаву.

Трагедыі не адбылося. Ён не кінуўся пад цягнік ці з даху галавой на асфальт, не атруціўся, не застрэліўся і не задавіўся ў прыбіральні на ржавай трубе...

Вечар. Халодны вецер. Снег, дождж. Вось такі пачатак красавіка. Эдзік прыйшоў у «Вецярок». А, зрэшты, куды яшчэ падацца такім надвор'ем? Зайшоў, агледзеўся, зняў шапку, абабіў з яе снег і ваду, а потым і павітаўся-парукаўся. Зразумела, што і яго ўсе ведалі і ён ведаў. Знайшоў вольнае месца, паклаў на крэсла шапку і рушыў да прылаўка па піва.

Піва, гарэлка, тытунёвы дым, гамана... Мужчын тым вечарам набілася ў шкляны павільён «пад завязку». Каму прыйшла ў галаву думка пажартаваць — не ведаю. Адно дакладна, што потым усе адмаўляліся і перакладалі віну адзін на другога. Але гэта будзе потым...

А тады Эдзікаву шапку, якая вартавала месца для гаспадара, — схавалі. Віцька Курмаз, які сядзеў на шапцы, твар зрабіў адпаведны — не ведаю, не бачыў, ты чаго да мяне чапляцца пачаў, я тут сяджу, піва смакчу, а да тваёй вушанкі замызганай няма мне аніякай справы...

Эдзік паставіў цяжкія куфлі на мокры стол, спахмурнеў, збялеў, вочы крывёй наліліся, пальцы ў кулакі сціснуліся... І не паспеў Курмаз прабачэння папрасіць, як паляцеў разам з крэслам на падлогу, пад суседні стол. Два ўдары — зламаная сківіца, перабіты нос. Не да жарцікаў сталася. Эдзіка ледзь сунялі, каб не скруцілі, то мог бы да смерці Віцяху забіць...

А ўсё за што? За нейкую зношаную шапку-вушанку... Быццам у ёй сто даляраў ляжала... Эдзікава шаленства і лютасць не зразумелі, але ім ёсць апраўданне.

Гэта ён — Эдзік Мельнік годзе ў восемдзесят пятым расказаў мне пра афганскага хлопчыка і арла. Мы сядзелі на самаробнай

скамейцы пад чэзлай акацыяй. Эдзікаў Букет — баксёр залацістага колеру — ляжаў на зямлі і, змучаны спёкай, цяжка дыхаў. Гарачыня трымалася неверагодная — за трыццаць. Асфальт мякка прагінаўся, і на ім заставаліся глыбокія сляды. Пахла смалой і дымам з тарфянікаў, якія гарэлі другі тыдзень. Можа, гарачыня, а можа, горкі дым нагналі на Эдзіка сум і зрабілі гаваркім.

Да таго дня я ні разу не чуў, каб Мельнік згадваў войска і вайну ў Афганістане. Хоць, здавалася б, а пра што яшчэ гаварыць, калі чарку-другую кульнеш.

Ён сядзеў басанож і глядзеў у чырвань цаглянай сцяны. І ціха так, як толькі сабе самому, ляпіў слова да слова, сказ да сказа, без супынку, нават цыгарэту не запальваў, а толькі ў пальцах круціў.

— З нашай машыны загінулі ўсе... Уратаваўся адно я. Неяк выпаўз, выкараскаўся, нават не абгарэў... А як так атрымалася — не разумею, не памятаю. Галава трашчыць, вось-вось расколецца, а з вушэй кроў раўчукамі бяжыць... І лейтэнант гікнуўся, і сяржант, і радыст... Гэта ўсё на другі, а можа, на трэці дзень было пасля таго як...

Эдзік назваў месца, але на ўсходнія назвы, тым больш малавядомыя, памяць не адрэагавала, а выдумляць не хачу.

— Спыніліся. Стаім. Пыл ападае. Спёка дзікая. Да жалеза не дакрануцца — пальцы паапякаеш. Смярдзючую ваду жлукчам, чакаем загад, каб далей рухацца. Доўга, з гадзіну чакаем... Падыходзіць хлопчык: худы, чорны, брудны, гадоў яму — дзесяць-адзінаццаць. Рыззё на ім такое дранае, у нас падлогу лепшым мыюць. Нас разглядае і з лейтэнантам спрабуе размаўляць. На аўтамат зыркае, стрэліць просіць. Мы пасміхаемся... А ён — афганчык — паказвае пальцам у неба. Галовы пазадзіралі, вочы ад сонца далонямі прыкрываем... А там — высока-высока арол лятае... Крылы раскінуў, ляжыць на паветры, кругі над калонай наразае... Радыст і ўгаварыў лейтэнанта, каб той даў малому стрэліць. Лейтэнант загнаў патрон у патроннік, адшчоўкнуў ражок і даў дзіцёнку аўтамат. Афганчык агледзеў новы аўтамат, языком цокнуў... А потым звыкла да пляча прыціснуў, падняў у неба. Стрэліў. Арол упаў крокаў за дзесяць ад нашага танка. Вялізны — метры два з палавінай... Крыламі яшчэ тропаў, галаву падняць спрабаваў... Мы адно языкамі пацокалі, а лейтэнант мацюкнуўся, калі аўтамат забіраў...

Мне тады нешта так кепска зрабілася, ну зусім — край. Хоць схапі той аўтамат ды й застрэлься... А чаму? Нічога ж такога не адбылося...

Эдзік плюнуў на гарачы асфальт, пагладзіў сабаку, тарганўў ласкава за ашыйнік і прапанаваў мне выпіць.

Яны ішлі няспешна — чалавек і сабака. Па пыльнай гарачай вуліцы, і ні да каго ім не было справы, зрэшты, як і іншым да іх.

Чалавек і сабака... Дзве постаці, дзве душы...

...Пілі хлопцы-мужчыны піва на аўтобуснай станцыі. На гарэлку не хапала — вось і папраўлялі галовы бурштынавым напоем. На аўтобусным прыпынку, акрамя сваіх, заўсёды таўкуцца і нетутэйшыя.

Падышоў да хлопцаў дзядзька ў шэрай кепцы і кароткім палітоне з кучаравым каўняром. У руках кошык, з лазы плецены, коўдрай прыкрыты, а на няголеным твары сполах-разгубленасць. Памуліўся трохі, асмялеў і просіць хлопцаў, каб яго, небараку, півам пачаставалі, бо дужа, аж цярпець неяк, галава баліць. Хлопцы смяюцца, піва смокчуць, дзядзьку незнаёмага абгаворваюць... Дзядзька не крыўдлівы, а таму не сыходзіць. У Эдзіка было грошай адно яшчэ на куфаль сабе. Але пашкадаваў небараку з перакошаным тварам. Калі Эдзікаў бацька памёр, то маломý Мельніку і чатырох не было, а таму бацьку ён не памятаў. Хлопцы з Эдзікавай шчодрасці кпіць пачалі, а ён цыкнуў-рыкнуў на іх і пазамаўкалі разумнікі.

Дзядзька той піва выпіў, рот рукавом выцер і да Эдзіка. Адвёў за бочку, у руды колер пафарбаваную, коўдру над кашом прыўзняў, а там — пяць шчанюкоў варушацца. Маленькія, бязхвостыя і не сляпыя. Варушацца, тузаюцца, адзін на аднога лезуць, павіскваюць.

Вось так — усяго за куфаль піва — атрымаў Эдзік Мельнік сябра — вернага, надзейнага, маўклівага. Пажадай лепшага — не знойдзеш.

З крываногага, няўклюднага і адначасова спрытнага шчанюка, з якім Эдзік еў ці не з адной талеркі і які спаў на Эдзікавай падушцы, праз год вырас прыгожы і дужы сабака, колеру залатога, ну рыхтык піва. Гаспадар нядоўга думаў і яшчэ ў першы дзень назваў шчанюка Букетам.

Па пасёлку яны заўсёды хадзілі парай. Іх так і звалі — Эдзік з Букетам, ці наадварот.

Амаль дзесяць гадоў яны былі часткай гарадскога краявіду. Нават калі гаспадар быў на моцным падпітку, яго ніхто не чапаў,

бо побач заўсёды знаходзіўся Букет з маленькімі, налітымі крывёй вочкамі.

Эдзік гаварыў з сабакам, як з чалавекам, прычым старэйшым і разумнейшым. Звяртаўся да Букета паважліва, не крычаў і не крыўдзіў, хоць часам і было за што.

Аднойчы, дваццаць трэцяга лютага, Эдзік з Букетам здзівілі ўвесь гарадскі пасёлак. На моцным ашыйніку Букета забрынькалі медалі. Пачалі прыглядацца, цікавіцца, што гэта там пазваньвае-паблісквае? Адзін медаль быў «За адвагу», а другі «За баявыя заслугі». Медалі, зразумела, сапраўдныя, але даўно не чышчаныя, а таму цьмяныя, як расціснутыя накрыўкі-бляшаначкі ад піўных бутэлек.

Эдзік з Букетам выходзілі з «Вецярка». Гаспадар піва выпіў, а Букет дзве катлеты з'еў. Міліцыянеры, са сваіх, з мясцовых, спынілі Эдзіка і пачалі прымушаць, каб зняў баявыя ўзнагароды — чалавечыя — з сабачага ашыйніка. На што Эдзік, звычайна маўкліва-спакойны, не стрымаўся і кукіш паказаў: спачатку сяржанту, а потым і лейтэнанту. Міліцыянеры, хоць і былі свае — пакрыўдзіліся. Сяржант падаўся да Букета, а ў руцэ гумовая палка. Быццам не ведаў, што сабака не чалавек, і на пагоны, кукарды і скураны пас — чхаць хацеў...

Эдзік не паспеў сяржантаву руку перахапіць... Букет адскочыў на крок, а потым кінуўся на міліцыянера, збіў з ног і ледзь глотку не перагрыз. Але Эдзік здолеў адцягнуць...

— Не ты мне медалі даваў, не табе і забіраць. Мае бляшанкі... Каму хачу — таму даю! — сказаў, як адрэзаў, Мельнік.

Сяржант цяжка дыхаў, выціраў з твару сабачую сліну. Лейтэнант маўчаў, як спаралізаваны. А ўсе, хто гарэлку ды піва пілі, павыбеглі з «Вецярка» і смяяліся з ахоўнікаў парадку.

— Усё правільна! Адна «за адвагу», а другая «за баявыя заслугі»! — выкрыкваў Віцька Курмаз — сведка трагікамічнай сцэны.

Букет бег побач з гаспадаром і пазваньваў медалямі. Лейтэнант скрыгатаў зубамі, а сяржант кулак паказваў. А на твары сяржанта — разгубленасць і бездапаможнасць поўная...

Позна вечарам, па цемры, Эдзік завітаў да Міколы Каршукова. Той жыў у сваім доме, на другім канцы пасёлка — за шашой. З кожным годам дом Каршукова, абнесены высокім парканам з тоўстых дошак, дабудоўваўся і рабіўся большым і большым што ўшыркі, што ўгару. Эдзік доўга грукаў у брамку, пакуль гаспадар перапытваў

з ганка, хто прыйшоў і што трэба... Каршукова лічылі мужчынам «самастаяцельным», хоць і клікалі, зразумела, за вочы куркулём недарэзаным. Госць прыйшоў не з пустымі рукамі, меў пры сабе дзве пляшкі гарэлкі. Звычайна Эдзік «не круціў», а казаў адразу, што яму трэба і па якой нагодзе завітаў. Але тым вечарам разгубіўся і пакуль першую не дапілі, Мікола не мог уцяміць, па якой жа справе завітаў госць. Сябрамі ж мужчыны ніколі не былі...

Калі пілі другую пляшку, толькі тады і паразумеліся. Эдзік здолеў сфармуляваць сваю дзіўную просьбу. Ён расказаў, што яго Букет, якога Мікола сто разоў бачыў, захварэў і хутка здохне... На карку і пад правай пярэдняй лапай расце лішай, з кожным днём большае... Букет перастаў есці і нават піць не жадае. Расказаў, што па якіх толькі дактарах-ветэрынарах не вазіў, якімі лекамі не спрабаваў ратаваць — усё дарэмна... А таму ён, Мікола, мусіць Букета «ўсыпіць», скуру злупіць, а потым пашыць з яе для яго, Эдзіка, зімовую шапку, якую ён будзе насіць.

Мікола Каршукоў на завод не хадзіў, як большасць жыхароў гарадскога пасёлка, а лупіў з жывёлы скуры і шыў шапкі. Шапкі атрымліваліся лоўкія, на іх быў попыт, нават з Гомеля прыязджалі... З гэтай нялёгкай працы Каршукоў жыў, будаваўся сам і дзецям яшчэ дапамагаў. Шыць Мікола мог з чаго заўгодна, каб замовілі — то і з рыбіны скуру злупіў бы і шапку адмысловую пашыў...

Наступнай раніцай, шэрым світальным змрокам, праз увесь пасёлак, нёс Эдзік Мельнік загорнутага ў балоневую куртку смяротна хворага Букета. Сабака стаяць на нагах ужо не мог...

Эдзік паклаў Букета на ганак, зыркнуў і амаль збег з двара, абгароджанага высокім парканам...

Тыдзень Эдзік з кватэры не выходзіў — піў страшна, і як толькі сам не памёр... А калі адчыніў дзверы, пазнаць яго было цяжка. Цёмны, як тая зямля, шчокі ўваліліся, вочы на паўтвара — глядзяць і не бачаць. Суседка ледзь не ўпала ў парозе, так спалохалася... Не чалавек стаяў у дзвярах, а нябожчык з чорным, ссохлым ашыйнікам у руках, а на ашыйніку тым брынькаюць, трымцяць два медалі...

І ў гэтым годзе, як і ў мінулым, калі пачнуцца халады, надзене Эдзік сваю шапку і будзе няспешна ісці па пасёлку. І абавязкова хтонебудзь скажа-кіне ўслед: «Вунь Мельнік з Букетам...»

2000—2004 гг.

# DONNA MIA

Калі такое імя, як Марат, то і мянушка не трэба.

Бармена завуць Марат.

Ён звыкла ціскануў кнопку, лямпачкі на магнітафоне заміргалі, касета шчоўкнула і пачала круціцца. З груваасткіх калонак плыве саладжава-хрыпаты голас Чэлентана з яшчэ больш саладжавай жаночай падпеўкай. Марат нямоцна ляпнуў далонню па вентылятары, шэрыя лопасці тарганулiся і зрабіліся нябачнымі. Ён запусціў стары вентылятар не для трох наведвальнікаў, якія сядзяць за столікам пад акном, а для сябе. Яму падабаецца, калі тэхніка працуе. Падняў слухаўку на тэлефонным апараце, крутануў дыск, каб яшчэ раз пераканацца, што тэлефон пакуль не наладзілі.

У маленькім бары душна — другі тыдзень трымаецца спёка з кароткімі і раптоўнымі, як у тропіках, залевамі. Тропікаў бармен Марат пакуль не бачыў, не шанцавала. Два акны на залітую сонцам плошчу гарадскога пасёлка хоць і былі расчыненыя, але гэта не вельмі ратавала. Так, скразняк крыху прыносіў палёгку, а з ёй хвалі бензінавага смуроду, калі па плошчы праязджаюць бартавыя машыны альбо праносяцца падлеткі на траскучых матацыклетках.

— Нацягне зноў... — сказаў, як адрэзаў, немалады мастак-афарміцель, які засяроджана вывучаў рознакаляровыя плямы на руках.

— Даўно не было, — каб не маўчаць, прамовіў клубны электрык.

— А я парасон не ўзяла, тыдзень насіла, а сёння не ўзяла, — падтрымала размову Галя — гандлярка пральнай ды іншай хіміяй на базары.

Пасля апоўдня на базары, дзе стаяў яе чырвоны зліняла намет, ні пакупнікоў, ні гандляроў — нікога, вось яна і сядзіць у бары. Забівае час. Галя глынула з высокага куфля цёплага піва.

— Як піць даць нагоніць... Як ты думаеш, Марат?

— А мне што? Да машыны дзесяць крокаў, а да дома — дзесяць хвілін, — адказаў бармен і зірнуў на свой ярка-чырвоны «форд», які стаяў пад вокнамі і радаваў вока святочным выглядам, карамельнай слізкасцю. У тутэйшых новая машына Марата выклікала адно зайздрасць.

— І мяне, можа, падвязеш, а то ж змокну... Ты ж, кажуць, падвозіш?

— Хто кажа? — насцярожваецца бармен.

— Людзі.

— Добра папросіш, то і падвязе, — жартуе электрык і глядзіць на мастака.

— Калі машына ёсць, то чаму і не падкінуць, — спакойна адказвае Марат, пазірае на асветленую высокім сонцам плошчу, а найперш мружыцца на сваю прыгожую машыну.

Наведвальнікі паварочваюцца за позіркам бармена, як музыкі за палачкай дырыжора. Дзівіліся нядоўга. На чужое шчасце і гонар доўга не глядзяць, каб не паказваць, што насамрэч зайздросцяць. Такой машыны ў пасёлку ніхто, акрамя бармена не меў. Раней у яго быў звычайны «жыгуль», а цяпер з'явіўся «форд».

Пра сваю машыну бармен яшчэ не стаміўся расказваць, можа гаварыць гадзінамі. Як і слухаць пахвальбу. Гэтым разам кампліментаў не прагучала ні яму, ні прыгажуні-машыне.

— А чаму не? Лічы, дамовілісь! — Марат нахабна пасміхнуўся гандлярцы і паправіў скураны мятлік пад цяжкім падбароддзем. — Мне што — шкада?

Як толькі бармен прыйшоў на працоўнае месца, а дакладней, пад'ехаў, так і ахапіла яго нейкае невытлумачальнае пачуццё, што сёння здарыцца кепскае, непапраўнае. Зразумела, ён не ведаў канкрэтна, што гэта будзе такое, але адчуваў небяспеку і трывогу. Спачатку ён спісваў сапсаваны і прыгнечаны настрой на кепскі сон, бо амаль усю ноч не мог заснуць. Прахопліваўся, піў халодную мінералку, паліў. Глядзеў у акно на сінія ломкія маланкі, на чорныя нізкія хмары, якія круціла, круціла, а дождж не пачынаўся. Ён сцягваў з сябе прасціну, камечыў падушку, круціўся, накрываўся, раскрываўся, хацелася са скуры вылузнуцца, а сон не ішоў — хоць забі. Не было чым дыхаць, не ставала паветра, а вентылятар каля ложка адно гудзеў і зусім не дапамагаў...

Дождж пачаўся на світанні: шчыльны, моцны, аднастайны. З адчыненым акном пад шум залевы ён і заснуў. А калі расплюшчыў вочы, то свяціла ліпеньскае сонца, неба было сінім, весела ціўкалі нябачныя пташкі. Вось толькі настрой не палепшыўся. Крыху адпусціла, калі ён старанна, з пенай, памыў машыну. Паадчыняў

дзверцы, сеў на пярэдняе сядзенне адпачыць, запаліў, падняў гумовы дыванок, на які сыпануўся попел. Пад дыванком бліснула металічная заколка. Вузенькая, як дзве складзеныя запалкі. Марат толькі глянуў на яе, скрывіўся, як ад горкага, падняў і адразу заціснуў у далоні. На твары высыпаў пот, джынсавая кашуля з кароткімі рукавамі пад пахамі ўзмакрэла. Ён не стаў лаяцца, сцяўся і не выціснуў з сябе ні гуку, затрымаў дыханне.

Ён выкінуў заколку ў глыбокую калюгу побач з гаражамі. Сухой анучай выцер плямкі-кропелькі на шкле. Уключыў дворнікі. Яны нервова торгаліся, а ён не глядзеў на іх. Прыгадваць падзеі, якія адбыліся тыдзень таму, не хацелася. Ён і так памятаў той вечар да драбніц... Памятаў, як Верка села ў машыну і адразу, не паспелі яшчэ крануцца, папрасіла цыгарэту. «Чаму яны такія дурныя? Калі не хацела — нашто ехала? А калі хацела — тады нашто кідацца пачала... Выдаюць сябе за немаведама што. Прынцэса знайшлася!» — разважаў Марат.

Наведвальнікаў у бары пакуль мала. Вентылятар працуе, перамешвае гарачае паветра і тытунёвы дым, бо ўсе паляць. Бармен разумее, што сённяшні будні дзень для гандлю няўдалы. Можа, толькі пад вечар, калі людзі папрыходзяць з працы, калі крыху адпачнуць, тады, можа, і выйдуць на вуліцу, каб ахалануцца, і хто-ніхто зазірне ў бар. На паліцы стракацяць яркімі налепкамі нешматлікія бутэлькі з дарагімі напоямі. Гэтыя бутэлькі, неабходны рэквізіт-бутафорыя, да іх рукі не дацягваюцца. Справа да іх можа даходзіць раз на год, калі вяртаюцца з заробкаў мясцовыя «шабашнікі». Тады — крык, гамана, весялосць, а грошы ляцяць, як лісце з дрэваў. Тады за якіх пару тыдняў выпіваецца больш, чым за год. «Шабашнікі» пачнуць вяртацца да сем’яў напрыканцы верасня, у кастрычніку, каб потым, па вясне, ірвануць на заробкі...

Пакуль усё ідзе добра... Звычайна.

Бармен дадаў гуку, паглядзеў на Галю. Наступная песня Марату падабалася. Нешта там пра «донну мія» заспяваў Чэлентана. Яго хрыпаты і саладжавы голас паляцеў з чорных калонак. Бармен абапёрся на стойку і пальцамі пачаў адбіваць такт.

Вось пад гэтую песню і выйшлі на плошчу «шабашнікі» — Сяргей з Алікам. Сяргей апрануты ў чорныя скураныя штаны і джын-

савую кашулю. На Аліку джынсы і скураны чорны пінжак. На нагах у абоіх — красоўкі, у зубах незапаленыя цыгарэты... Бармен убачыў сваіх былых аднакласнікаў, калі яны толькі выйшлі з вуліцы на ярка асветлены круг плошчы.

Маратава сэрца сціснулася.

Алік з Сяргеем ішлі няспешна, быццам па даху. Перасеклі плошчу. Накіраваліся да бара. Наблізіліся, абышлі, агледзелі чырвоны «форд». Бармен хацеў выскачыць з-за стойкі, хацеў крыкнуць, але не зрабіў ні першага, ні другога.

Тэлефон з раніцы не працаваў. Усе (а ў бары сядзела двое мужчын і адна жанчына) павярнуліся да вокнаў. Бармен сціскаў чорную слухаўку, як гантэлю. Чэлентана спяваў не толькі для наведвальнікаў бара, на плошчы таксама было добра чуваць. Алік з Сяргеем пераглянуліся. У руцэ Сяргея з'явіўся цяжкі малаток, у Аліка — доўгая «фомка», зробленая з тоўстага прута рыфленай арматуры.

Бармен купіў машыну два тыдні таму, яна была як новая. Пасыпалася бакавое шкло. Адскочылі люстэркі. Правае яшчэ пабоўталася на рознакаляровых дроціках, а потым упала. Яшчэ пара моцных удараў — і машына аслепла. Аскепкі фар зазіхцелі на пыльным асфальце, захрубасцелі пад нагамі «шабашнікаў». Раскрышанае ветравое шкло ўвалілася ў салон. Адарваны пярэдні бампер з грукатам адляцеў пад бардзюр...

Наведвальнікі стаялі перад вокнамі, сачылі за кожным ударам, за кожным рухам. Галя хітала фарбаванай галавой, па-бабску прыціскала да грудзей рукі, мармытала: «Кончаць, кончаць, як піць даць, кончаць...»

Бармен з-за стойкі не выйшаў.

Ён адчуваў сваю віну перад аднакласнікамі.

Верка, якую ён «пакатаў» тыдзень таму на чырвоным «фордзе», была Аліку жонкай, а Сяргею сястрой.

Песня пра «донну мія» не паспела скончыцца, а машына зрабілася «інвалідам». Алік з Сяргеем запалілі і пайшлі прэч ад знявечанага чырвонага жалеза.

29.06.2006 г.

# КЛЮЧ

*А. С. прысвячаецца*

Ад дзічкі да дома сто крокаў. Мужчына ведаў гэта даўным-даўно. За шэсцьдзясят два гады жыцця тысячы разоў праходзіў вузкай сцежкай. Бывала, калі стомлены, то атрымлівалася трохі больш, а калі спяшаўся — менш.

Далонь легла на шурпаты камель дзічкі, і адлік пачаўся.

Дзевяноста дзевяць, дзевяноста восем, дзевяноста сем…

Пяць, чатыры, тры, два…

Ён прываліўся да сцяны плячом і перавёў дыханне, сцягнуў кепку, расшпіліў верхні гузік кашулі, расшморгнуў маланку курткі… Пальцы намацалі на дне глыбокай кішэні ключы. Апусціў на ганак няцяжкі пляцак, павесіў на гнуты цвік старую кепку.

Пальцы пабялелі, анямелі, уздуліся жылы, лоб абсыпаў пот, ключ, як гаспадар ні круціў, у вялікім замку не праварочваўся. Можна было б і яшчэ павэжкацца, паспрабаваць другім, які ляжаў у кансароўцы, пад ганкам, прывалены пляскатым шэрым каменем, але навошта? Што гэта магло змяніць?

Мужчына пайшоў у паветку, адкінуў ад сцяны скрутак падранага, скарабачанага руберойду, калупнуў нагой сырое пілавінне і падняў цяжкі ржавы шворань.

Віскнуў-войкнуў, як жывы, прабой, ускрыкнуў і неахвотна, хрубастам пачаў вылазіць з дубовага вушака. Бразнуў і застаўся нерухома вісець замок, з якога вытыркалася вуха ключа.

Толькі цяпер, калі перадыхнуў, агледзеўся і ўбачыў, як хутка цямнее, як насоўваецца восеньскі змрок. Гаспадар пачаў спяшацца, нават мітуслівасць з'явілася ў рухах, а з ёй і няўпэўненасць. Ён схадзіў да калодзежа і прынёс амаль поўнае вядро вады, а потым паадчыняў абабітыя бляхай аканіцы, упусціў у пакоі сіня-шэрае святло кастрычніцкага вечара. Яшчэ з лета нарыхтаваныя дровы ляжалі ў сенцах, пад сцяной. Дроў было шмат. Яны былі акуратна складзены — паленца да паленца. Смалістыя, сухія, паколатыя… Перанёс тры абярэмкі ў выстылы дом, акуратна склаў пад грубкай, побач з печчу.

Што яшчэ трэба было зрабіць тэрмінова. Ды нічога. Так сам сабе і сказаў. Вада ёсць, дровы нарыхтаваныя. Схадзіў і прынёс

з двара пляцак. Паставіў на самаробную канапу пад акном і заняўся грубкай, а потым печчу. Сухія дровы разгарэліся хутка. Запахла глінай, гарэлым пылам, потым цэглай, вільгаццю. Дым паплыў у пакоі. Мужчына расчыніў дзверы ў сенцы і ў двор. Дым пацягнула туды, ён пачаў звівацца, выпаўзаць за парог і прападаць. Выйшаў з парожняй газнічкай на ганак, узяў у каморы цяжкую каністру і наліў газнічку. Паправіў кнот і падпаліў яго. Шкляны каўпак наставіў толькі ў пакоі. Яму не стала ад залатога святла лепш, на душы па-ранейшаму было паскудна і змрочна.

У плецаку ляжала пляшка гарэлкі і торбачка з ежай. Калі ўсё было раскладзена на стале, выпіў першую чарку. Ён любіў піць сам насам. Кампанія яму даўно была без патрэбы. Піць дактары забаранілі катэгарычна, але тут — дома, у бацькоўскай хаце, дактароў не было і нагадаць пра забарону ніхто не мог. Адно з рамак глядзелі сваякі, большасць з якіх даўно знайшлі прытулак пад бярозамі і елкамі на могілках, у жоўтым пясочку… З усяго пасёлка толькі яго дом пакуль не разрабавалі, хоць і браць у ім не было чаго. Валацугі, якія швэндаліся, шукалі спажывы па дамах, кінутых жыхарамі, спрабавалі колькі разоў зламіць замкі ды зашчапкі, але не атрымалася. Калі ён уяўляў сабе дом разрабаваным, з выбітымі вокнамі, з разламанай падлогай, загаджаны, закіданы смеццем — яму рабілася млосна.

Тут, у бацькоўскім доме, які быў на год старэйшы за яго, ён адчуваў сябе абароненым, упэўненым, а таму спакойным. Толькі тут думкі плылі роўна, не блыталіся. Дзецям яго дом без патрэбы, яны далёка. Толькі яму ён, гэты дом, і трэба. Толькі яму. А калі яго не стане, то і дома не будзе. У гэтым гаспадар быў абсалютна ўпэўнены… А таму, каб не перажываць і не думаць пакутліва, прыняў рашэнне, пра якое не сказаў нават жонцы. Што яна магла зрабіць? Чым дапамагчы? Ды і хто можа яго зразумець? На ўсе пытанні быў адзін адказ, яму вядомы і, на яго думку, правільны. Дзеля адказу ён прыехаў з гарадской кватэры ў выселеную, кінутую жыхарамі вёску. Прыехаў паставіць кропку.

У бацькоўскі дом…

На падарожнай машыне, з негаваркім маладзёнам-шафёрам.

А потым ледзь прайшоў пяць кіламетраў ад шашы да вёскі…

Паставіў на пліту маленькі чыгунок з вадой, падклаў у печ і грубку дроў і выпіў яшчэ чарку. Захацелася запаліць, так нясцерпна, як

часам хочацца піць… Гэтае задавальненне дактары таксама забаранілі. Ён ведаў, што за люстэркам, над канапай, пачак «Прымы».

Цыгарэты былі мяккія, вільготныя, пахлі цвіллю. Ён расклаў іх на пліце, а сам сеў побач з цёплай грубкай.

Дым першай зацяжкі падаўся неверагодна смачным, аж галава закруцілася, а рукі зрабіліся ватнымі…

«Як мала мне трэба», — падумаў ён разгублена.

Ну зусім мала… Каб цыгарэты былі сухімі, гарэлка моцнай, а дом сваім…

А ці мала гэта?.. Пра здароў'е думаць не хацелася: боль адпусціў, не турбаваў да пары да часу. Але ж ён вернецца. Хутка вернецца, і тады зусім іншыя думкі пачнуць біцца ў галаве, і тады зноўку паўстануць пытанні, на якія няма адказаў — уцямных адказаў. Ясных, як дзённае святло. Аперацыя… Аперацыя… Калі ён чуў гэтае слова раней, то яно не вельмі і хвалявала. Але ж тое было раней і не яго тычылася. Цяперака ўсё перакулілася і слова аперацыя нагадвала вялізны аскепак шкла, якая дзюбай, а дакладней, джалам сваім нацэлілася на яго істоту.

Аперацыя — смерць. Але і без яе смерць, можа, толькі яшчэ хутчэйшая…

У яго застаўся тыдзень. Сем дзён. А потым як атрымаецца. Атрымаецца кепска — у гэтым ён быў упэўнены. Як і ў тым, што дом без гаспадара, без яго, абрабуюць, знявечаць, разбураць, расцягнуць… Трэцяя чарка і другая цыгарэта, якая не падаецца такой смачнай, як першая. Ён неахвотна з'еў скрылік сала, варанае яйка, аблупіў жоўты мяккі яблык, укусіў і адклаў. Вада ў маленькім чыгунку забулькацела, але гатаваць гарбату расхацелася, а чыгунок з пліты зняў.

З газнічкай у руцэ мужчына хадзіў па доме: аглядаў пакоі, у змрочнай каморы таргануў каністру з газай, вадкасць важка плёхнулася ў сярэдзіне, і ў сенцах адразу запахла газай, а можа, гэта толькі падалося. Выйшаў за браму, стаў каля плота і агледзеўся, бо спадзяваўся хоць дзе-небудзь убачыць дым — знак, што там людзі ці чалавек. Ніхто гэтай цёмнай і хмарнай кастрычніцкай ноччу прыйсці да яго не мог. Не было каму. Цішыня стаяла аднастайная, як лёд, з усіх бакоў на яго і на дом насоўвалася цемра, сціскала свае халодныя бязгучныя абдымкі…

Вярнуўся да цяпла. Дровы ў печы перагарэлі. Ён падкінуў у грубку два паленцы, бо не хацеў пакідаць іх у пакоі, а выносіць у сенцы ленаваўся.

Ён ляжаў на нагрэтай печы, рукі трымаў пад галавой, а па шчаках беглі слёзы. Так і заснуў, як пакрыўджанае дзіця, якое бацькі не суцешылі.

У доме спалася добра, бо кожны гук і пах былі зразумелыя і знаёмыя.

Прахапіўся раптоўна, як быццам нехта нябачны крануў за плячо. Хутка злез з печы. Прыслухаўся і, як быў басанож, так і наблізіўся да акна. Адсунуў фіранку. Працёр кулаком вочы. Пад яблыняй стаяў белы конь. Белы на першым белым снезе. Сэрца закалацілася. Мужчына правёў далонню па запацелай шыбцы. Выява не сцёрлася, а зрабілася больш акрэсленай… Адкуль ён узяўся, дзе яго гаспадар? Чый ён, такі прыгожы? Белы конь стаяў пад яблыняй, хітаў шэрай грывай і пазіраў на дом.

Мужчына хутка ўздзеў боты, накінуў на плечы куртку і выйшаў у двор. Белы конь глядзеў на чалавека, а чалавек на яго. Доўга глядзелі, быццам былі знаёмыя… «Кося, Кося, хадзі да мяне…» — прашаптаў, а потым гучней паўтарыў мужчына. Белы конь таргануў галавой, матлянуў зблытанай грывай, зрабіў крок, а потым пабег. З-пад капытоў паляцеў тонкі снег, на зямлі зачарнелі сляды. «Эх, Кося, Кося…» — наўздагон прашаптаў чалавек. Чый ён, куды пабег, да каго прыб'ецца? А на твары з'явілася вінаватая, як у дзіцёнка, усмешка.

Яшчэ з гадзіну мужчына таптаўся вакол дома. Дапіў гарэлку. На ганак выйшаў рашучы, апрануты, з плецаком у руцэ. Аканіцы не зачыняў. Прабой у вушак не забіваў.

Вынес з каморы ў сенцы цяжкую каністру, выцягнуў корак і паморшчыўся, так рэзка запахла газай. Пах гэты прымусіў спыніцца. Мужчына выйшаў, зграб з ганка снег, адкусіў ад камяка, снегам жа выцер твар. «Ну, што стаў?» — спытаў сам сябе.

Газа лілася на масніцы, на лаву, на сцены, на дзверы, чорным ручаём зацякла пад дровы… Калі ж яна скончыцца, калі? Каністра бомкнула аб парог паветкі, адкацілася пад сцяну. Мужчына выцягнуў з кішэні рудую перасушаную цыгарэту. З яе пасыпаўся тытунь, чыркануў запалкай і стомлена зацягнуўся… Глядзеў на агеньчык і вагаўся…

Пачуў тупат…

Цяжкі, як удары сэрца…

Белы конь бег па вуліцы.

«Дзевяноста сем, дзевяноста шэсць, дзевяноста пяць… Восемдзесят адзін, восемдзесят, кося, кося, кося…» — шаптаў мужчына на аперацыйным стале.

Ён не расказаў ні сыну, ні жонцы пра тое, як насіў з калодзежа ваду, як шараваў падлогу, як адмываў, змываў са сцен газу, як пляскатым каменем забіваў прабой… Як ішоў да шашы і баяўся азірнуцца. Ён расказаў толькі пра белага каня з чорнымі капытамі.

2006 г.

## ВОГНЕННАЕ ВОБЛАКА

У майстэрні гарыць толькі настольная лямпа. Ад яе яркага жоўтага святла гарэлка ў шклянках выдае залатой, як ліманад.

Мы даўно не бачыліся, вельмі даўно, а таму гаворым мала, п’ём і паглядаем адзін на аднаго. Калі ёсць што ўспомніць, то алкаголь не бярэ. А нам ёсць пра што маўчаць, ёсць што згадаць.

Я задаў пытанне, якое даўно насіў у душы. Так даўно, што нават вымавіў з цяжкасцю, як праклён, ці клятву, якую вымагаюць абставіны.

— Ты памятаеш вогненнае воблака над возерам? — пытанне прагучала ціха, амаль інтымна.

Майму суразмоўцу за шэсцьдзясят. Ён жыве ў правінцыі, я — у сталіцы, бачымся вельмі рэдка. Ён мастак-акварэліст. Ён частка мінулага жыцця, таго, калі я быў мастаком.

Пытанне доўга застаецца без адказу. Яно вісіць у паветры, яно, як мне здаецца, запоўніла паўцёмную майстэрню, як змрок...

Дужыя пальцы мастака сціснуліся ў кулакі. Ён падняў на мяне вочы і колькі хвілін глядзеў. Цяжка сфармуляваць той позірк, поўны непаразумення, сполаху. Спынены позірк, шкляны, адсутны.

— Ты сказаў, над возерам? Воб-ла-ка?

— Так, — кажу ціха, але настойліва.

— Як гэта вогненнае?

— У цябе была такая карцінка, краявід, акварэлька. Маленькая. — Я праводжу ўказальным пальцам па стале, паказваю прыкладны памер эцюда.

— А што такое?

Валодзя, так завуць мастака, намагаецца згадаць і не можа. Ён хоча згадаць. На твары пакутлівы выраз, зіхцяць кропелькі поту, рот крывіцца. Але на твары застаецца не ўсмешка, а боль.

Шкадую, што палез да яго са сваім пытаннем. Спрабую «перавесці стрэлкі» на іншае.

— Не думай... Хопіць, праехалі...

— Не збівай... Не замінай... Воблака... Вогненнае, над возерам...

— Раскажы лепш пра...

— Пачакай... — мастак цяжка дыхае.

Яго дужыя пальцы сціскаюць кант стала. Ён хапаецца за стол, як за крохкі лёд, які абломліваецца, трушчыцца, у кроў рэжа рукі...

Жнівеньскі вечар. Павольна садзіцца сонца. Мастака з раскладзеным эцюднікам я заўважыў здалёк. Ён нерухома стаяў на пагорку. Над возерам імкліва і бязгучна лёталі ластаўкі. Цішыня. Аблокі спынілі палёт, як мне здавалася. Адно, што змянялася ў свеце — даўжыня ценяў, колер вады, якая адлюстроўвала неба і аблокі, а вось абрысы іх заставаліся нязменнымі.

Сцежка, пратаптаная рыбакамі, падвяла да пагорка. Мужчына ў капелюшы і светлай кашулі стаяў абсалютна нерухома і глядзеў на... Я прасачыў яго позірк. Ён глядзеў на сонечны дыск. Павольна, амаль незаўважна на сонца насоўвалася воблака, а можа, сонца садзілася ў яго. Праз колькі часу воблака зрабілася вогненным. Яно палымнела па краях, ззяла, быццам яго адлілі са шкла, выплавілі на вачах, і яшчэ не ачахла...

Вогненнае воблака... Нерухомае.

Мастак... Яшчэ малады.

Цішыня... Бясконцая.

Даволі часта я згадваю той жнівеньскі вечар. Бязгучны палёт ластавак. Серпікі крылаў, якімі птушкі парушаюць спакой вады.

А найчасцей згадваю маленькі краявід у памер лісціка з вучнёўскага сшытка. На шурпатай паперы акварэльнымі фарбамі мастак намаляваў вогненнае воблака, якое на імгненне закрыла сонца. Зямлі на малюнку было зусім мала — вузенькі цёмны пасак.

Маленькі, як радок напрыканцы тэксту. Галоўным на краявідзе было неба, а на небе, невытлумачальнага колеру, галоўным стала воблака.

Памятаю тую акварэльку з неверагоднай дакладнасцю... Простая, як усё чароўнае, незразумелая, як усё простае.

Заўсёды ёсць факт, рэч, слова, учынак, якія змяняюць лёс. Тая акварэлька скаланула маю свядомасць, душу, расплюшчыла вочы — вузкія кітайскія вочкі, прымусіла па-іншаму глядзець на свет.

Воблака сплыло, а потым растала...

Воблака засталося на паперы...

Мастак спыніў імгненне...

Цуд адбыўся на вачах. Мастак — усемагутны, ён не чалавек, а калі чалавек — то незвычайны. З вады і фарбы на паперы ўзнікла яркае воблака. Я не мог даць веры, што ўсё так проста, а галоўнае, так хутка.

Агаломшаны, спалоханы, спаралізаваны, уражаны дзесяцігадовы хлопчык і мастак на пагорку, над возерам...

— Падабаецца? — спытаў ён. — Што маўчыш?

Мая далонь схавалася ў вялізнай руцэ. На маіх пальцах засталася фарба, цёмныя плямы. Так на крылах пчалы застаецца духмяны сонечны пыл — след, сведчанне спаткання, дотыку...

Мы разам рушылі да гарадка. Нашы доўгія цені ішлі наперадзе, маўклівыя цёмныя цені. Я не азіраўся.

Не памятаю, як вячэраў, як заснуў.

На наступны дзень раніцай я паведаміў бацькам, што вырашыў стаць мастаком. Не лётчыкам, як стрыечны брат, не доктарам, не вадалазам, не электрыкам, настаўнікам ці інжынерам, а менавіта мастаком. Мае словы азваліся здзіўленнем і ўсмешкай, якая мільганула на бацькавым твары. Голас мой гучаў з недзіцячай упэўненасцю. Рашэнне было прынята, і я ведаў, што не адступлюся. Мне стала лёгка.

У вачах стаяў малюнак. Я мог глядзець на дрэвы за акном, на ржавы дах суседняга дома, на талерку з супам, на вокладку падручніка, на братаў твар, а бачыў адно яго — вогненнае воблака.

Ведаў, як сваё імя, што пакуль не намалюю такое ж, яно будзе стаяць у вачах і палымнець, будзе замінаць глядзець на свет.

Я плакаў, адчуваў уласную бездапаможнасць: фарба расцякалася на паперы, а папера карабачылася...

Цуд, сведкам якога пашчасціла быць, не атрымліваўся. Воблака на маім малюнку нагадвала абгарэлы кавалак паперы, няўдала спечаны блін — усё што заўгодна, але не воблака — лёгкае і празрыстае. Я змагаўся з вадой і фарбамі, а поспех не прыходзіў. Ці фарба была не такой, ці пэндзлік, ці папера — я не ведаў...

Падфарбаваная святлом гарэлка пералілася з бутэлькі ў шклянкі. Валодзя цёр сівыя скроні, на мяне не глядзеў, маўчаў. У майстэрні зрабілася зусім цёмна: сцены, стэлажы, шафа схаваліся ў цемры.

Ён падняў шклянку і выпіў, я — следам.

— А ведаеш, я зусім хворы. Ныркі, сэрца, а горш за ўсё, што галава баліць моцна...

Валодзя не скардзіўся. Ён ніколі не скардзіўся на сваё жыццё. Нават калі прыгажуня-жонка здрадзіла, а потым сышла ад яго, а сына пасадзілі на пяць гадоў, ён і тады нават слова не сказаў. Зацяўся, спахмурнеў, амаль перастаў гаварыць, а малява́ць не кінуў... Вясной, восенню, раніцай, надвячоркам, у холад і ў спёку пісаў дрэвы, прыцярушаныя снегам, рудую лістоту, калюжыны на дарозе, захады і світанні... Пісаў нястомна і з апантанай упартасцю. Можа, праца і ўратавала яго ад самагубства. Праца, а што ж яшчэ...

Як кожны творца, ён хацеў прызнання. Як кожны творца, ён спадзяваўся, што яго абавязкова заўважаць, прыйдзе запозненае прызнанне. І гэтым ён давядзе найперш сабе, што пакутаваў і жыў недарма.

Я спрабаваў пераканаць, што ён і так мастак, а колькасць выстаў не вырашае абсалютна нічога.

— Вазьмі сабе на памяць, што падабаецца, — сумна сказаў ён і абвёў позіркам цёмную майстэрню. — Бяры. Раму сам зробіш.

— А ты што, паміраць наважыўся?

— Расцягнуць усё... Каму яно трэба? Ні-ко-му... Смецце... Брудная папера.

Ён падняўся, клацнуў выключальнікам. Доўгія лямпы пад столлю загулі, замігцелі — белае святло напоўніла майстэрню.

Валодзя пачаў хапаць са стэлажа, выцягваць з шафы стосы акварэляў і кідаць на падлогу. Акварэлі разляталіся, рассыпаліся, як улёткі. Сотні, тысячы — не злічыць.

— Вогненнае воблака?.. Ты кажаш, над возерам... Неба, а на ім яно? Шукай, калі знойдзеш... Але ты яго не знойдзеш!

— Чаму? Няма? Ты некаму аддаў?

— Згарэла тое воблака, — са смехам раптам крыкнуў мастак і цяжка сеў на старую канапу.

— Як гэта згарэла?

— У агні. Папера добра гарыць... Я ляжаў у шпіталі, калі яна спаліла ўсё, што тут было. Усё, уяўляеш, да апошняй паперчыны... Крыўдна, а яшчэ кажуць, што рукапісы не гараць. Гараць, яшчэ як гараць, яркім полымем...

— Адкуль ты ведаеш, што гэта яна?

— Ну а хто, па-твойму?

— А даўно ты яе бачыў?

— Даўно...

— А з кім ты цяпер жывеш?

— Прыбіўся да адной жанчыны, як кот-бадзяга... Яна мяне глядзіць, корміць. А маё мастацтва ёй да плешкі — і гэта добра.

Маўчаць лягчэй, чым гаварыць, а таму маўчу. І мастак маўчыць. Трымаем шклянкі з гарэлкай і не п'ём.

Вогненнае воблака стаіць у вачах.

Не сплывае, не растае, не знікае...

2004 г.

## ДЗВЕ ГАДЗІНЫ

Шурка выйшаў з кватэры з перакошаным тварам. Тут жа, на лесвічнай пляцоўцы, садануў кулаком з усяе моцы ў сцяну. Счакаў колькі, пахукаў на разбіты кулак, абгарнуў яго насоўкай, схаваў рукі ў кішэні і пайшоў.

Ён не спаў сорак дзевяць гадзін. Ні хвіліны. Думка ў галаве была толькі адна. Калі ж усё скончыцца? Рука балела так, што боль аддаваўся ў шыю, пад вуха.

Пастаяў колькі ў бязлюдным двары і падаўся да аўтобуснай станцыі. Тамака тапталіся знаёмыя, але па іх выглядзе Шурка зразумеў, што яны сёння «галяк», як, зрэшты, і звычайна. Нават гаманіць з імі не стаў.

Шурку неабходна выпіць, і не праз гадзіну ці дзве, а менавіта цяпер. Ён збочыў на сквер і рушыў да гастранома. Але і там, на пыль-

ным, запляваным недапалкамі пятаку, знаёмых, тых, у каго можна пазычыць на пляшку гарэлкі, не было. Нервы пачалі здаваць, а Шурка заводзіцца. Ён не быў алкаголікам. Не быў нават п'яніцам, як большасць знаёмых і аднагодкаў. Ён мог і тыдзень, і месяц не піць. Мог, але сёння, цяпер яму трэба было выпіць.

Шурку дваццаць шэсць. Ён невысокі, дужы, учэпісты, хуткі ў рухах.

Пад лазняй трапіўся Кірым. Сядзеў на лаве з чырванатварымі дзядзькамі і цягнуў піва з рыльца. Павіталіся. Кірым быў вінен Шурку грошы. Схавацца не паспеў, Шурка заўважыў яго першым.

— Ну, — сказаў Шурка ціха.

— Пацягні, глыні, — прапанаваў, замітусіўся Кірым.

— Піва не буду, — адказаў Шурка і расціснуў аб край бетоннай сметніцы кароценькі недапалак.

— Вось, толькі на піва і дала, ты ж яе ведаеш, — пачаў тлумачыць, апраўдвацца Кірым.

— А мне справа, каму яна дала. Ты браў — вярні! Я што, за табой бегаць павінен?

— Я ж абавязкова, з задавальненнем. Толькі няма.

— А мне… Ты атрымаў учора? Атрымаў!

— Пачакай, я ў суседкі вазьму, ты ж яе ведаеш — баба Маня. Ёй сёння пенсію прынеслі, яна пазычыць. У старых заўсёды грошы ёсць. А мне і за кватэру, і за малую, і за тэлефон, і за…

Шурка не слухаў былога аднакласніка. Утрапёна глядзеў на мураша, які бегаў па асфальце побач з чаравікам. Звычайны чорны мураш.

Кірым заміргаў падслепаватымі вачамі і падняўся. Парожнюю пляшку пакінуў пад лаўкай. Яе тут жа ўзяў чырванатвары дзядзька і схаваў у торбу, з якой тырчэў мокры, абтрапаны венік.

— Што там выглядаеш?

— Нічога, пайшлі.

Кірым наступіў на чорнага мураша. Шурку перасмыкнула. Кулакі сціснуліся.

З Кастрычніцкай, праз увесь пасёлак, прыйшлі на Першамайскую. Усю дарогу Кірым трындзеў і трындзеў, не спыніўся ні на хвіліну. Шурка ж не сказаў ні слова.

Ён сеў на лаву каля пад'езда і запаліў. У пачку заставалася адна цыгарэта. Кірыма не было паўгадзіны. Шурка не вытрымаў, падняўся на чацвёрты, злосна штурхануў дзверы Кірымавай кватэры, а потым націснуў гузік званка. Ціскаў і цiскаў. Выйшла суседка ў стракатым фланэлевым халаце з доўгай мухабойкай у руцэ.

— Няма іх, што ты звоніш!

— Як няма, а дзе?

— З'ехалі да яе сваякоў на хрэсьбіны.

— Мне Кірым грошы вінен, — сказаў Шурка, як сабе, і паглядзеў на старую.

— Ён і мне вінен, паскуда, — адказала старая, узмахнула мухабойкай і рэзка ляпнула па сцяне.

Чорная муха ўпала.

— І не звані, няма іх, кажу табе, з'ехалі, — прабурчэла Кірымава суседка, і яе маршчыністы твар выцягнуўся.

Муха варушылася на цэментавай падлозе. Старая расціснула яе абцасам стаптанага пантофля.

Кірым з'явіўся, калі Шурка выкалочваў з пачка апошнюю цыгарэту. Круглы, як поўня, Кірымаў твар выглядаў разгубленым.

— Увесь пад'езд абышоў.

— А мне што.

— А тыя, у каго ёсць, — не даюць.

Шурка прымружыў вочы. Сэрца сціснулася і закалацілася.

— Пачакай. Не заводзься… Давай да Кульгавага падскочым, у яго заўсёды ёсць, — спалохана прапанаваў Кірым.

Яны зноў пайшлі на Кастрычніцкую, паўз лазню, побач з новай бальніцай, паўз Шуркаў дом.

Антона Кульгавага дома не аказалася. Яго жонка радасна і нахабна сказала, што ведаць не жадае, дзе таго носіць, і калі ён вернецца. Кірым паспрабаваў пазычыць у гаваркой жанчыны, але яна адно ўсміхнулася ў твар.

— А каб і былі — не дала б.

Шурка паглядзеў на гадзіннік, уздыхнуў.

— Слухай, загані яго.

— Дык ён жа яшчэ новы.

— Загані.

— Добры гадзіннік. Бранзалетка прыгожая, спраўная… А каму ён трэба.

Кірым гаварыў і круціў гадзіннік, узважваў на ўказальным пальцы. Потым аддаў Шурку. Той узяў гадзіннік і запхаў у кішэнь.

— Мне сёння трэба, разумееш.

Цяпер Кірым уздыхнуў-выдыхнуў. Цяжка, быццам мех цэменту на плечы ўсклаў. Круглы твар пасвятлеў.

— Пайшлі ў музычную школу.

— Куды?

Праз чвэрць гадзіны яны былі ў агромністым вестыбюлі. Ішлі па калідоры. Кірым паперадзе, а Шурка следам. Будынак напаўнялі няскладныя гукі: духавыя, піяніна, баяны, ускрыквалі скрыпкі.

— А што ты руку ў кішэні хаваеш? — спытаў Кірым, калі спыніўся перад абабітымі дзерманцінам дзвярамі.

— Грошы шукай, — прасычэў Шурка.

Кірым хутка адчыняў адны за аднымі цяжкія дзверы, зазіраў, выбачаўся і гэтак жа хутка зачыняў. Баян змоўк. Шурка застаўся на калідоры. Ён прываліўся спінаю да сцяны і замружыў вочы.

Баян зайграў. Кірымаў твар чырванеў.

— Пайшлі адсюль, хутчэй. Ёсць!

— Давай, — стомлена сказаў Шурка.

Кірым паклаў грошы на Шуркаву далонь.

Яны купілі пляшку гарэлкі і два пачкі цыгарэт.

Шурка піў з рыльца. Кірым глядзеў на Шуркаву руку, на пабітыя да крыві пальцы.

— Я ж казаў, знойдзем. Сёння твой дзень.

— Ага.

Яны развіталіся пад лазняй, і Шурка падаўся дадому.

Шурка ўвайшоў у кватэру. Яго здзівіла цішыня. Маці і сястра сядзелі на канапе супраць бацькавага ложка. Шурка ўсё зразумеў і ўздыхнуў з палёгкай.

Калі засынаў, то спрабаваў вылічыць хаця б прыблізна, дзе быў ён, калі памёр бацька. Але яму згадваліся то растаптаны мураш, то забітая муха.

02.11.2005 г.

# МЯТЛІК БЕЛЫ. ЯСТРАБ ШЭРЫ

Напісаў мала...
Напісанае — кропля ў моры.
Адна кропля.

*Самы звычайны белы мятлік вылецеў з-пад ног і запырхаў над густой травой. У белакрылага мятліка кароткі век — зусім кароткі, адкуль яму ведаць пра Атлантыду, над якой ён лётае...*

*І ястраб шэры, які то стрыг паветра крыламі, то плыў павольна-павольна, пра маю Атлантыду не ведаў. Ён паляваў на мышэй і дробных пташак, вышукваў сваімі зоркімі вочкамі ахвяру, а потым падаў...*

*І тады, калі была Атлантыда, мятлік белы пырхаў, ястраб шэры плыў у паветры...*

Вясковы выган. Зялёны мурог, дробныя бела-ружовыя кветачкі канюшыны, па якіх поўзаюць марудныя пчолкі і вялікія чмялі.

На траве, на звыклым месцы, расселіся-разлегліся дзеці. Пальцы спрытна габлююць зашмальцаваную калоду, а потым карты па адной урачыста разлятаюцца на чатыры бакі, у кожны стосік па шэсць. За козыр сёння бубновы валет, калода прыціскае яго так, што відаць адно частку вусатай галавы. Гульцы перабіраюць карты, разгортваюць веерам, каб праз імгненне скласці, заціснуць у далонях.

Гульня ў «дурня» пайшла. Меншыя нахабна і бессаромна заглядаюць у карты, замінаюць, лезуць. Больш за другіх назаляе Шуркаў Алік, ён дае парады, хапае з-пад рук карты, рагоча, нібыта яго казычуць. Вось схапіў калоду і крычыць, што перад вальтом казырным — васьмёрка. За падказку і нахабства атрымлівае спачатку аплявуху, а потым па лапах і, нарэшце, апошняе папярэджванне, якое ўжо не першае.

Непадалёк пасвяцца дзве рабыя цялушкі і два спутаныя кані: карычневая зграбная кабыла Плісіца і шэры, у яблыкі жарабец па мянушцы Мацак.

Засычэў у мураву пругкі струмень, Мацак задаволена захітаў зблытанай-пераблытанай сівой грывай, аж захроп ад задавальнення.

— Гядзіце, глядзіце, які ў Мацака струк! — падхопліваецца на ногі дзевяцігадовы Шуркаў Алік.

Ад захаплення аж рот адкрываецца. Блішчаць шырокія, як у труса, зубы. А Мацак працягвае спраўляць сваю патрэбу, на дзяцей нават і не косіць бліскучым чорна-бэзавым вокам. Хвастом памахвае, мух адганяе. Пырскі разлятаюцца ды пены на траве большае.

— І на мяне здавай, чуеш, Стасік, — просіць Алік і глядзіць на хлопца, які пачынае няспешна, з веданнем справы габляваць сабраныя з травы карты.

— Адчапіся, ідзі лепш Мацака за струк паторгай, адгані далей,— жартам, праз плячо, прапануе Лявонаў Стасік і працягвае мне калоду, каб я «зрэзаў».

Зашмальцаваныя карты пырхаюць над травой, ляцяць на чатыры бакі.

Тым часам Шуркаў Алік, са сваёй заўсёднай паўдуркаватай усмешкай, падыходзіць да Мацака. Прасоўвае паміж конскімі нагамі левую руку (Алік ляўша, крываручкі, як яго абзываюць у вёсцы), і робіць тое, што яму параілі.

Не паспеў Стасік засвяціць козыр, спутаны Мацак стрыгануў вушамі, захроп, заржаў і ўдарыў заднімі нагамі... Алік ляціць крокаў дзесяць, а потым коціцца па траве і нерухома ляжыць з падкурчанай пад грудзі нагой. Мацак перапалохана скача і трасе галавой, нібыта авадзень у вуха залез.

У Аліка з рота на зялёную траву цячэ, як мне падаецца, не сапраўдная чырвоная кроў, а маркоўны сок. Хлопец ляжыць нерухома, да яго боязна падступіцца. Мы, усе, хто ляжаў на выгане і гуляў у карты, аслупянелі, слова мовіць баімся ад сполаху і гнятлівага прадчування бяды.

***

...Не напісаў пра змрочных міліцыянераў, якія наляцелі знянацку і пачалі абшукваць хату і двор дзядзькі Кандрата. Перапаролі ў хаце і двары ўсё што можна, параскідалі, а вось зброю, пра якую нехта падказаў, так і не знайшлі, хоць і пабілі старэйшых сыноў Юрку з Алегам. А зброя была, ляжала сабе ў сабачай будцы пад са-

пселай саломай... Тых злосных ахоўнікаў правапарадку перапужаліся ці не кожны з жыхароў вёскі.

*Не спалохаўся толькі ён — белы мятлік.*

*Апусціўся на Алікаву шчаку, склаў крылцы і стаў цярпліва сядзець, аж пакуль Алік не застагнаў, не захрыпеў, не пачаў давіцца крывёй і выбітымі зубамі.*

*Белы мятлік паляцеў над выганам, закружляў-запырхаў над галовамі перапалоханай дзятвы, а потым знік, як і не было яго тут — пад бясхмарным небам...*

— А твая аднавокая баба — табе няродная! — сказаў, як плюнуў, Лявонаў Стасік і пабег, як мог хутка, агародам да свайго двара.

Пачуў і не мог даць веры, уцягнуў галаву ў плечы і застаўся стаяць пад яблыняй. Тое, што ў маёй бабы няма вока — праўда, хто ж спрачацца стане, гэта я і сам ведаю. А вось што баба мне няродная — мана! Як жа гэта так, баба, якая заўсёды плача, калі мяне прывозяць у вёску і гэтак жа плача, калі мяне забіраюць ад яе — мне чужая?

Стасіка паб'ю. Нават не спалохаюся яго старэйшых братоў — Толіка, Шуркі, Косціка.

Стаю пад вялізнай старой яблыняй і чую галасы.

Бачу сябе і тым, хлапчуком босым, неабазнаным, і сённяшнім...

Цяпер я ведаю праўду. А вось мой бацька так і пайшоў з жыцця ўпэўнены, што ўсё было менавіта так, як ён расказаў мне, а яму яго бацька — мой дзед.

«...Сярод ночы ў трыццаць трэцім годзе забрахаў сабака ў двары, пагрукалі ў шыбку, яна прахапілася, думала, можа, хто з сыноў вярнуўся, і паляцела з печы. Пабілася дужа: і галаву, і плячо, і рэбры, відаць, паламіла... Злегла, а праз колькі дзён і памерла... Я яе нават і не памятаю — малы яшчэ зусім быў... Мне тры, а твайму дзядзьку і года тады не было...» — гучыць, чуецца нетаропкі, амаль не ўсхваляваны бацькаў голас.

Як было насамрэч, расказала дзедава дачка — дзевяностагадовая цётка Адарка. Зразумела, у такім узросце памыліцца і пераблытаць няцяжка, але старыя звычайна блытаюць і забываюцца на дзень сённяшні-ўчарашні, а вось тое, што было семдзесят гадоў таму — памятаюць дакладна.

«...Увесну, пад вечар, прыйшлі да нашага двара трое мужчынаў. Старшыня, міліцыянер і адзін незнаёмы, апрануты па-гарадскому. Бацька згледзеў і паспеў схавацца на агародзе, залез у стог, за хатай. Гэтыя, што прыйшлі, загадалі, каб мама аддала ім золата, якое, як яны казалі, у бацькі ёсць. Пачалі шукаць, а калі не знайшлі, пачалі маму біць, каб сама паказала, дзе схованка. Білі доўга: і нагамі, і рукамі, і палкай, і наганам жалезным. Бацька хаваўся, чуў, як крыкам крычыць жонка, плачам заходзяцца дзеці...

Тата загадаў, папрасіў мяне — сваю адзіную дачку — нікому пра тое, што было, не казаць, бо калі яго забяруць — уся сям'я прападзе...»

Яна паслухмяна маўчала аж семдзесят гадоў. А калі б памерла, то і знесла б з сабой таямніцу смерці маёй роднай па крыві бабулі.

А Лявонаву Стасіку я на другі дзень за абразу разаб'ю глыжом дурную галаву. Выскачу з-за плота, перайму, калі ён карову пагоніць. Стасік спалохана ўцякаць кінецца, я следам, а калі зразумею, што не даганю — шпурну глыжом у спіну, а патраплю ў патыліцу. Старэйшыя браты нават і не заступяцца за малога.

І толькі мая няродная аднавокая баба, якая не ведала прычыны маёй злосці ды пахмурнага настрою, насварыцца на мяне і паабяцае расказаць бацькам. Але так і не раскажа, відаць, забудзецца.

Бачу яе, ідзе ад поля з вялізнай посцілкай травы за спінай. Цёмная хустка, на вочы, ражкі абвязаны вакол шыі, у руцэ граблі, а другая сціскае вузел посцілкі на грудзях. Доўгі цень яе цямнее на колкім золаце іржэўніку. Яна рыхтык адна з тых, каго маляваў знакаміты Франсуа Міле на сваіх змрочных і тужлівых палотнах...

***

...Не напісаў пра свайго бацьку, які ў чаканні чарговага ўколу морфію курчыўся ад нясцерпнага болю і, каб хоць на момант, на міг супакоіцца, пачынаў прамаўляць, як ратавальную малітву, імёны, прозвішчы, мянушкі ўсіх тых, каго ведаў куды лепш за мяне. Ён пачынаў з таго краю вёскі — ад могілак — і перабіраў, пераходзіў ад хаты да хаты. Згадваў даўно памерлых і тых, хто яшчэ жыў... І пра кожнага была не адна гісторыя... Імёны, прозвішчы... Патап, Ганна, Аксіння, Арына, Дзяніс, Ядзя, Косцік, Алёша, Глаша...

*А шэры ястраб кружляў над полем...*
*А белы мятлік пырхаў над маёй няроднай бабай...*
*Гукаў, а яна не чула, не спынялася, праходзіла побач, праплывала...*

Міця Хахол, калі не дождж, то заўсёды на выгане. Ляжыць на траве, дзіравая ватоўка пад бокам. І глядзіць шэрымі вочкамі з-пад касматых сівых броваў, што вакол яго дзеецца, хто куды ідзе ці едзе, хто з кім гамоніць ці сварыцца. А стане горача — на другі бок перавернецца, кепку скіне, патыліцу ўспатнелую ветрыку падставіць і далей адпачывае.

Міцю добра — ён калека, у калгас хадзіць не трэба. Пенсію раз на месяц паштарка прыносіць, а таму можна адпачываць і ў карты на грошы з мужчынамі рэзацца. А калі дарослыя занятыя, то можна і з дзецьмі картамі бавіцца.

Гэта ён, Міця Хахол, навучыў мяне там, на вясковым выгане, гуляць у «храпа» і «дваццаць адно», а мацюкі я і без яго ведаў.

Надакучыць на белы свет дзівіцца, абрыдне глядзець, слухаць — ён кепку на вочы насуне і засне... Ляжыць, не варушыцца, як нежывы.

Дзеці — істоты помслівыя. І тое, што Міця Хахол — нямоглы калека, не толькі не спыняе, а наадварот дадае імпэту. Задавальненне — ціхенька падкрасціся, падпаўзці да небаракі непачутым і незаўважаным, схапіць самаробныя мыліцу і кавеньку, а потым збегчы. Без іх калека бездапаможны. Паўзе, крычыць, лаецца праваленым бяззубым ротам, б'е паветра, праклёны пасылае, ляпае кулаком па зямлі, скубе траву, а зрабіць нічога не можа. Ён злуецца непадробна, па-сапраўднаму, але не плача...

Плакаў Міця наўзрыд, галасіў, па зямлі качаўся, за рукі сам сябе бяззубым ротам кусаў, калі мышы ўсе яго грошы з'елі. На пацяруху ружова-бэзавую стачылі сваімі вострымі зубкамі. А грошы Міця па тых часах меў вялікія. Не ў карты навыйграваў, не скраў дзе, а зарабіў працай — сваімі рукамі і ўмельствам.

На паедзеныя, паточаныя мышамі чырвонцы ды дваццацьпяткі хадзілі глядзець і дзеці, і дарослыя. Разважалі бессаромна, камячылі ў пальцах тое, што некалі было грашыма. Прыкідалі, а колькі ж было насамрэч тых шалёсткіх паперак. Лічбы вымаўляліся ціха і неяк баязліва. Мужчыны нервова палілі, цокалі языкамі,

круцілі пальцамі каля ссівелых скроняў, стукалі па наморшчаных ілбах, патыліцы чухалі...

— Лепш бы ты прапіў іх, Хахол дурны, а то мышэй накарміў...

— Да хоць бы скраў хто грошы, і то лепей — чалавеку якому радасць была б...

— Хто ж гэта хавае грошы папяровыя загорнутымі ў цырату, няўжо кансароўку не мог знайсці ці слоік які, адно слова — хахол сквапны. Вось запхай іх зараз сабе ў задніцу, — больш за іншых абураўся Алікаў бацька — Шурка Міхалевіч, які на той час быў за конюха. А грошы, як высветлілася, Міця хаваў не дзе небудзь далёка-глыбока, а ў калгаснай канюшні, за якой прыглядаў па начах, бо яго маленькі дамок стаяў ад яе ці не ў дваццаці кроках, амаль насупраць.

Нашто Міця збіраў тыя грошы, я не ведаю...

Ні жонкі, ні дзяцей, ні сваякоў, ні сабакі, ні ката ў яго не было. А былі ў Міці Хахла толькі дзве вялізныя, як куфэркі, свінні, якія прыносілі па два разы на год парасят. І не па пяць-шэсць, як у іншых, а па дзесяць-дванаццаць — на зайздрасць вяскоўцам. Вось з прададзеных кабанчыкаў свінак Міця і займеў тыя нешчаслівыя грошы...

Людзей сабралася вакол маленькага дамка на адзін пакойчык як на пахаванне. Маладзейшыя радасці не хавалі, смяяліся з Міцевага няшчасця, а старыя адмоўчваліся, разумелі, што кожны, нават самы разумны ды абачлівы, і той можа памыліцца.

А гаспадар не вытрымаў, запоўз за парог, цырату брудную, пагрызеную, дзіравую, у якую тыя грошы былі загорнутыя, знёс і зачыніўся, каб ніхто з вяскоўцаў яго гора не бачыў.

Пасля таго няшчасця калека хварэў доўга, аж да самай зімы. Свіней гадаваць кінуў, нават сабе парсючка не трымаў і агарод вялікі не сеяў.

Адно што не кінуў гуляць у карты, хоць і бачыць пачаў кепска, блыталіся дамы з каралямі, а віні з трэфамі...

***

...Не напісаў пра лясніка дзядзьку Алёшу — бацьку майго вясковага прыяцеля Валодзькі. Аднойчы па вясне Алёша вярнуўся з ваенкамата на добрым падпітку. Зняў цяжкі ад медалёў і ордэнаў пінжак, павесіў на плот, а сам сеў на бярвёны пад сцяной хаты і заплакаў.

— Не залупайся, кажа мне, разведчыку, стань, дзе сказалі, і стой, тут табе не там — не вайна, і чакай сваёй чаргі... — мармытаў пакрыўджана ляснік і скрыгатаў зубамі, быццам шкло еў.

Мы з Валодзькам дзівіліся на новы бліскучы медаль і не маглі даўмецца, з якой такой прычыны плача дарослы чалавек, і пра якога вырадка-маёра расказвае...

*Біўся белы мятлік у шыбку, лапатаў крылцамі, караскаўся па шкле, а вылецець на волю з Міцевага дамка не мог.*

«...Гэта без цукру, без салодкага пражыць можна, а без солі — край, ніяк. Ні бульбу, ні мяса, ні шкварку — не згатуеш... Яны ноччу прыехалі, а пад раніцу з'ехалі. Як ведалі, што толькі ў нас тая соль і была... Забралі ўсю. Нават прыгаршчы не кінулі, хоць і бачылі, што дзяцей малых поўная хата. У лесе ж без солі як пражывеш?.. Вось мой бацька, а твой дзед, выправіў мяне ў Сялец да сваіх братоў, а маіх дзядзькоў. Усе яны жылі там — у Сяльцы: Мінка, Кірык, Вінадык. А твой дзед Ладзімір з'ехаў на пасёлак, хату паставіў — тут зямля была, а там, у Сяльцы, не было...» — зноў чую бацькаў голас — нетаропкі, разважлівы, бясколерны.

Трынаццацігадовы падлетак ідзе лясной дарогай. Ён вяртаецца дамоў з Сяльца. За спінай цяжкаватая палатняная торбачка, але свая ношка плячо не муляе. У торбачцы шэрая буйная соль, якой падзяліліся дзядзькі.

Вечар. Хутка цямнее. Ён ведае гэтую дарогу, як і ўсе іншыя, якія вядуць дадому. Ён ведае свой лес і ўпэўнены, што ні ўзімку, калі ўсё зацярушана снегам, ні цяпер, летам, не заплутае, але спяшаецца, дома чакаюць...

Колькі драбінак солі, заціснутых у далоні, паступова пачынаюць раставаць. На начной дарозе соль, якую ён злізвае з рукі, падаецца смачнейшай за цукар. Адно кепска, што пасля солі, якой ён налізаўся, пачынае смажыць. Піць хочацца нясцерпна, яшчэ больш, чым хацелася лізаць соль.

А яшчэ камарыназаляюць, лезуць за каўнер, кусаюць... Амаль бязгучна хрумснула галінка ляшчыны з шырокімі мяккімі лістамі, цяпер ён адмахваецца ад нябачных, але чутных крывасмокаў, якіх большае і большае, чым цямнейшым робіцца лес, чым бліжэйшай

становіцца заўсёды мокрая лагчына. Там — у лагчыне — цячэ вада. Адтуль да вёскі зусім недалёка, менш за палову дарогі.

Ён рушыў подбегам. Хвастала па твары лісце, а кусты сваімі ўчэпістымі галінкамі спрабавалі збіць кепку, і атрымалася такі. Шэрая кепка, крыху велікаватая, зляцела ў цемру і знікла. Ён яшчэ прабег па інерцыі колькі крокаў, пакуль спыніўся. Цяжкае, разгубленае дыханне, раптоўны сполах, што не знойдзе. Прысеў і пачаў абмацваць мяккую вільготную траву, пад якой набрынялая вадой зямля. Адна справа знайсці згубленае ўдзень, калі кожную казюрку відаць, іншая — у цемры... Але пашчасціла: босая нага сама стала на цупкі брылёк, і засталося толькі нахіліцца, узрадавана падняць, што не давялося поўзаць па траве, паляпаць кепкай па калене і бегчы далей...

У лагчыне, дзе пад нагамі плёхалася вада, спыніўся. Рассунуў, развёў траву, асцярожна апусціў кепку і цярпліва чакаў, пакуль яна напоўніцца вадой. Трымаў над галавой і прагна піў цёплую балотную ваду. Адціснуў кепку, надзеў і пачаў выбірацца на пагорак.

Палатняная торбачка, калі спатыкнуўся і ўпаў, разадралася — соль рассыпалася на дарогу — у траву, пад ногі...

Ноч. Цемра. Хлопчык поўзае на каленцах, зграбае, выбірае з травы, з зямлі непаслухмянымі пальцамі, якія калоцяцца, тое, што можна сабраць, выдраць, выкалупаць, і асцярожна складае на разасланую кашулю...

Як і прасіў бацька, ён прынёс соль, каб ніхто не ведаў і не бачыў, перад самым світаннем, калі вёска яшчэ спала. Тая соль будзе чорнай ад лясной зямлі, з травой і каменьчыкамі, з сасновымі голкамі, з пяском, які хрубасціць на зубах...

«...Без салодкага пражыць можна, а без солі — зусім ніяк...» — скажа бацька і прысядзе на траву побач з лясной дарогай.

А я стану глядзець сабе пад ногі, на рудую плешыну сярод зялёнай травы, на тое месца, дзе летам сорак трэцяга бацька спатыкнуўся і рассыпаў соль...

***

...Не напісаў пра змрочнага дзеда Дзяніса, ці па-вясковаму Дзёньку, які ніводнага дня не працаваў на калгас. У дзвярах яго хаты была дзірка ад кулі. Мой худы мезенец лёгка праходзіў праз яе...

Адзін сын стрэліў у другога. Старэйшы быў партызанам, а малодшы служыў у паліцыі. Каторы страляў, не ведаю, а выдумляць не стану... У Дзёнькавай хаце не было ні электрычнасці, ні радыё. Па вечарах гарэла газнічка, а гаспадар-аднаасобнік сядзеў пры стале на лаве і плёў лазовыя кашы. А найчасцей пазіраў на мігатлівае святло газнічкі, падпёршы сівую галаву цёмным кулаком. За каламутным шклом акенца ён — як на палатне Рэмбранта. Залатое святло газнічкі выхапіла адно галаву і рукі, а ўсё астатняе хавае глыбокая цемра...

*А дзе ты быў, мятлік белы?*
*А ты, ястраб шэры?*
*Спыніўся вецер, і аблокі спыніліся, застылі, як на карціне.*

Пятро Яшкаў — мужчына дробненькі і мітуслівы, працу робіць хутка, але непрыгожа, над ім пасмейваюцца і ў вочы, і за спінаю. Пятро, зразумела, крыўдуе, лаецца сабе пад нос, а зрабіць нічога не можа. Ён баязлівец, а калі і палохае, то толькі дзяцей малых. Мянушка ў яго Трусік, а атрымаў ён яе даўно, калі яшчэ толькі ў школу пайшоў. У Трусіка трое дзяцей: хлопец Сашка і дзеўкі Тома з Галяй.

— Ты ім перадай, сваім сябрукам, што, калі не кінуць да маёй дачкі хадзіць да грушу трэсці, — пазабіваю вырадкаў! — пырскае слінай і ледзь не наскоквае на мяне малога дзядзька Пятро.

Адыходжу да плота, спіна натыркаецца на жэрдку. Мой павольны рух спыняецца.

— І яшчэ, каб ты ведаў, — правая рука хаваецца ў кішэні шырокіх порткаў, дзядзька пераходзіць на шэпт. — Толькі табе і скажу. У мяне наган ёсць, — Пятро злосна глядзіць мне ў вочы, — і пяць патронаў... Усіх вас тут, байструкоў, як аднаго, і пакладу.

З агарода чуецца смех. Галя збірае ў кошык салодкія, даўкія грушы, якія абселі восы, а калі бацька ідзе ў двор, то яна частуе мяне...

Можа, за іншае мянушку далі , якая на ўсё жыццё прыляпілася, не ведаю, але расказваюць менавіта пра той выпадак.

Ідуць праз вёску немцы. Нікога не чапаюць, смяюцца, гергечуць па-свойму. Сытыя і вясёлыя, задаволеныя. Як прыйшлі — так і сышлі б. Але давялося ім затрымацца... А ўсё чаму? Пятро Яшкаў,

калі пачуў, як матацыклеткі вуркочуць, а немцы гергечуць, — спалохаўся і пабег ад вуліцы агародамі да старога сада, які яшчэ арандатар Рабзон пасадзіў. Там, у колкіх кустах маліны, пад вялікімі елкамі, была ў яго схованка. А ў той схованцы — стрэльба з адным адзіным патронам. Вось тая стрэльба і бабахнула ў неба. Кінуў яе малы, яшчэ больш напалохаўся, пабег ад сваёй схованкі, як той заяц, толькі галава светлая замільгала... Матацыклеткі затрашчалі, развярнуліся і напярэймы памчалі. Злавілі стралка, прывезлі ў вёску. Малы Пятро паспеў і па-вялікаму і па-малому зрабіць, пакуль у люльцы ехаў. Прыбегла яго матка са сваёй сястрой, і сталі разам галасіць, прасіць немцаў, каб малога адпусцілі. Немцы, якія наважыліся злачынцу-партызана пакараць — высекчы пасам па спіне і срацы, — згадзіліся...

Легла тады на зямлю Пятрова матка, а два немцы сталі па баках і адлупцавалі яе так, што жанчына тыдзень сесці не магла, ледзь ногі перастаўляла.

Гэта ён, Пятро Яшкаў, па мянушцы Трусік, прыносіў нам з жонкай свежае малако і салодкія, даўкія грушы, калі ў вёсцы і людзей ужо амаль не было. Гэта ён дапамагаў капаць магілу маім дзеду, бацьку і сыну... Ён і ў семдзесят з нечым заставаўся мітуслівым, як і тады, калі мне было — як зараз маёй дачцэ — дзевяць.

***

...Не напісаў пра бацьку сваіх стрыечных братоў — дзядзьку Міколу, някепскага цырульніка-самавука, які лоўка падстрыгаў з дапамогай бліскучай механічнай машынкі старых і малых, жывых і нябожчыкаў. Не згадаў, як ён вяртаўся на добрым падпітку з базару, ці, як казалі, кірмашу, дзе выгодна збыў тузін парасят. І на лясной дарозе згубіў усе грошы. На раніцу спахапіўся, падумаў, што жонка выцягнула, а ён не заўважыў. А калі цётка Адарка пачала непадробна плакаць-галасіць, яму стала не па сабе. Схапіў ровар і паехаў у лес... Грошы, загорнутыя ў старую пакамечаную газету, чакалі яго на дарозе — газета нікому не прыдалася. А жонцы, якую пакрыўдзіў першай, ён наступным вечарам купіць квяцістую хустку...

*Пырхаў мятлік белы, гулі пчолы, ціўкалі птушкі, трымцелі над полем жаўрукі, кружляў у бясхмарным небе ястраб шэры, але майго дзеда гэта не цікавіла...*

Радыёпрыёмнік вісіць на белай сцяне пад люстэркам, над самаробнай драўлянай канапай. Побач з прыёмнікам, на цвічку, старыя нямецкія нажніцы, колькі ні спрабую прачытаць паўсцёрты надпіс — не атрымліваецца. Дзед слухае радыё — навіны там розныя і надвор'е — па колькі разоў на дні. І газеты мой дзед чытае: «Гомельскую праўду» і буда-кашалёўскі «Авангард», і не таму, што выпісвае, а таму, што падабаецца ведаць пра розныя падзеі. Газеты і спазніцца могуць, а вось радыё, калі, канешне, вецер драты не парве, працуе ад рання да паўночы...

— Ты, Валодзька, сёння нікуды не адыходзь ад хаты, баба дзе? — дзед кажа ціха і ўстрывожана, на ганак выйшаў без шапкі.

Я паказваю рукой з яблыкам на прачыненыя вароты хлява, адкуль чуецца задаволенае рохканне і бразгае парожняе вядро.

Калі я забег у хату папіць вады, дзед аддзіраў шпалеру на сталі, каля печы, а потым лічыў грошы. Як мне падалося, рознакаляровых паперак шмат. А праз гадзіну мы з бабай кацілі палявой дарогай вазок, а дзед ішоў з неверагодна засяроджаным выглядам і пазіраў сабе пад ногі. Парожні вазок каціць лёгка і нават прыемна. Ён сам бяжыць па ўтаптанай палявой дарозе. Да суседняй вёскі, дзе крама, ад пагорка зусім блізка. З гары я пабег, а вазок заскакаў следам...

Вяртаемся. Вазок, напакаваны так, што колы вязнуць у мяккай зямлі, а мы ўтрох ледзь яго цягнем. У вазку — прыкрытыя клятчастай посцілкай мяхі, мяшэчкі, торбачкі, скрыні і скрыначкі. Соль, цукар, мука, крупы, цвікі, запалак ажно цэлая скрыня, алей у гранёных брудных бутэльках... Спыніліся адпачыць. Мне здаецца, што я змарыўся больш, чым дзед з бабай. Хукаю на чырвоныя далоні, выціраю ўспатнелы лоб, паляпваю па мяхах і мяшэчках і не магу даўмецца, а навошта мы ледзь не паўкрамы вясковай на свой вазок перацягнулі.

Як толькі ўкоцімся ў двор — дзед зачыніць браму і пойдзе ў хату. Скіне кепку, пакладзе побач, сядзе на канапу, прыцісне вуха да радыё і стане насцярожана слухаць навіны. А я пабягу праз выган да стрыечных братоў, каб паведаміць, што хутка, можа, нават заўтра, пачнецца вялікая вайна...

За колькі дзён крамы ў суседніх вёсках пазачыняюцца, бо не стане чым гандляваць.

А праз два тыдні цётка Адарка атрымае ліст ад свайго сына Міколы, аж з той самай далёкай Чэхаславакіі, пра якую гаварыла радыё. Ці не палова радкоў будзе зафарбаванай на чорнае — не прачытаць, а канверт без маркі, з трохкутным штэмпелем прыйдзе незаклееным.

Запалак, купленых летам шэсцьдзясят восьмага, калі мне было дзесяць, хапіла гадоў на пяць — не менш.

***

...Не напісаў пра Лявона, нашага суседа, і пра тое, як ён пабіўся з маім дзедам, а дакладней, пабіў дзеда, які быў ці не на сорак гадоў старэйшым. Сварка, а потым бойка, адбылася за адну баразну, якую Лявон адхапіў ад агульнае мяжы. Потым, праз колькі гадоў, сусед прастудзіцца на меліярацыйных канавах, якія ўладкуецца даглядаць. У хаце будуць гудзець мухі, і дзядзька Лявон паспрабуе прыўзняцца з бруднага ложка, стане хапацца за рушнік, навязаны да білаў. Пачне перахопліваць яго, падцягвацца па ім на руках, бо ногі на той час перастануць слухацца. Ён падасць мне руку, а я зраблю выгляд, што не заўважыў. Спытаю пра аднаго з сыноў і сыду. Такі ж самы вышываны рушнік, толькі чысты, павяжуць яму на дубовы крыж.

*Ястраб шэры імкліва падаў долу, як слізгацеў, па нябачнай чалавечым вокам, напятай між небам і зямлёй нітцы.*

*Мятлік белы нагадваў кветку шыпшыны, з якой бавіцца вецер. Ён то складаў пялёсткі крылцаў, то зноў раскрываў.*

Міця Хахол сядзіць на калодзе пад акном свайго дамка і спрабуе залапіць падраны мех, хутка пачнуць капаць бульбу. Калі вочы бачаць кепска, а пальцы не слухаюцца, то і такую няхітрую справу зрабіць цяжка. Міця сварыцца на пальцы, на вочы, на святло і на хуткую восень. Давядзецца ж людзей наймаць, каб агарод спарадкавалі, а значыць, і грошы плаціць. Задарма і не перахрысціцца ніхто, адно мацюкамі абкладуць.

На полі трэці дзень працуе камбайн, ён то хаваецца за пагоркам, і гуку нават не чуваць, то пад'язджае амаль пад самую вёску.

Кандратаў Іван вяртаецца з грыбоў, ідзе ад леса па скошаным полі. Івану гадоў трынаццаць, ён заўзяты карцёжнік. Але хваляван-

не і імпэтнасць, з якімі ён бярэ ў рукі карты — яго асноўныя ворагі, і таму ён звычайна застаецца ў пройгрышы. З дарослых, якія гуляюць у карты на грошы, Іван вінен ці не кожнаму.

Дзядзька Кандрат лупцаваў малодшага з сыноў лейцамі як пры ўсіх, так і дома, і ўшчуваў, і сароміць спрабаваў, і карты не раз адымаў, у печы паліў — усё марна. Вучыўся Іван абы-як, школу прагульваў, праседжваў заняткі ў кустах на паўдарозе, перакідаў у пальцах карты, а потым вяртаўся дахаты са змрочным і злосным тварам.

— Што, Міця, сядзіш, мяхі лапіш? — хлопец спыняецца, ставіць на зямлю плецены кошык, прыкрыты пінжаком.

— А ты цэ не бачыш. У школу восенню пойдзеш цэ, можа, прагналі?

— А куды я падзенуся, Міця? Можа, згуляем? — прапануе Іван і спрытна габлюе хрубасткую калоду.

— Яно цэ можна, да толькі ты мне два рублі трыццаць капеек вінен. — Зыркае на Івана Міця Хахол. — І гляджу, нават не ў галаве табе гэта.

Хлопец робіць сур'ёзна-пакрыўджаны твар, адкідае з кошыка пінжак, быццам там не грыбы, а грошы.

— Чуеш, Хахол, я табе замест пазыкі дзве курапаткі дам. Толькі што камбайн іх прыціснуў, а я злавіў і дабіў. Зварыш — павячэраеш..

Міця дзяўбе голкай палец, каўтае сліну. Здымае, а праз імгненне надзявае кепку. Адкладае недалаплены мех.

— Цэ добра, Іван, давай сваіх курапатак, а ў карты заўтра прыходзь гуляць, цёмна сёння, не бачна ні халеры.

Хлопец задаволена падхоплівае кошык. Ідзе да сваёй хаты і пасміхаецца.

Калека скубе курапатку, шэрыя пёркі лётаюць у паветры. На пліце карэлы чыгунок, пад ім зырка гараць, патрэскваюць сухія дровы, вада пачынае булькацець, а Міця спяшацца.

Цётка Сафея пераняла карову і гоніць яе паўз калгасную канюшню. Жанчыны больш цікаўныя, чым мужчыны.

Сафея прыпыніцца, павітаецца і закрычыць на калеку так, як на карову, што ў шкоду ўбілася. Як толькі ад таго крыку абшчыпаныя курапаткі не паляцелі...

— Ці ты зусім здурнеў — не бачыш, па ёй жа чарвякі поўзаюць і смярдзіць яна падлай, а дурны ж ты, Хахол, як ёсць... Наскрозь твае курапаткі гнілыя!

Іван, малодшы сын Кандрата, на наступны дзень атрымае крыўдную мянушку — Курапатка, якая прылепіцца на ўсё жыццё.

А ў карты Міця Хахол з Іванам больш ніколі гуляць не сядзе.

***

...Не напісаў пра ленінградскага ўнука дзеда Яшкі — Барыса, які прывёз у чамадане цяжкі шэра-чорны нямецкі аўтамат... І пра бойку васямнаццацігадовага хлопца з лесніком Алёшам, які перакуліў у балота воз сена, накошанага і высушанага ў лесе дзедам Яшкам. Ні Барыс, ні Алёша нікога не баяліся, а таму і саступіць адзін аднаму не жадалі — кожны меў сваю праўду. Барыс заступіўся за свайго пакрыўджанага дзеда, а ляснік за парадак, які не ён прыдумаў, але па якім вяскоўцы мусілі жыць. Яны біліся люта, як да смерці. Ляснік перамог, але потым больш ніколі не перакульваў вазы з сенам і рабіў выгляд, што не бачаць мужчын з косамі, а жанчын з граблямі на лясных дарогах.

***

*Мятлік белы паляцеў і растаў там, пад аблокамі...*
*А ястраб шэры апусціўся ніжэй...*

Бацьку Аліка дзеці паважаюць. Дзядзька Шурка — конюх, а без каня ні дроў з лесу не прывязеш, ні сена з пожні, ні ўзараць, ні паскарадзіць соткі, ні пасеяць бульбу, ні выкапаць... Без каня і хворага ў бальніцу не завязеш, і нябожчыка на блізкія могілкі...

Шурка пабіў сваю жонку так моцна, што яна нават карову колькі дзён даіць не выходзіла. Ляжала за печчу і ціхенька стагнала. І твар, і рукі былі чорныя ад сінякоў і кровападцёкаў, вочы пазаплывалі, амаль не відаць. Нехта падказаў, што жанчына з брыгадзірам каля леса ў люпіне ляжаць — адпачываюць. Шурка на каня — і туды...

Шуркаў Алік ідзе полем да Лугінскага лесу. Яго твар, з бэзавым рубцом-шнарам пад зламаным, а таму крываватым носам, змрочны, злосны і рашучы. У адной кішэні ляжыць нож, а другую адцягвае бутэлька з коркам. Алік, калі што надумае, абавязкова зробіць. Ні бутэлькі, ні нажа не відаць, яны пад выпушчанай кашуляй. З бутэлькай па маліны не ходзяць, а ён кіруецца да зарас-

цяў малінніка. Выразае з ляшчыны дубец з рагулькай на канцы, а потым рассоўвае высокую крапіву і знікае ў гушчары. Маліннік — зсунутыя бульдозерамі меліяратараў з поля і балота кусты, паваленыя дрэвы, груды, праз якія без патрэбы прадзірацца не будзеш. Тут, на гнілых карчах, жывуць змеі... А таму ў маліны ходзяць на дзялянкі, а не на груды...

Ён зловіць гадзюку з дапамогай пругкага дубца. Не самую вялікую, але і не малую — спрытную, як чорная маланка. Сцісне пальцамі, як апцэнгамі, змяіную шыю пад самай галавой і трымае, пакуль яна круціцца, звіваецца, трымае — аж пакуль яна не выпрастаецца — бездапаможная і ціхая. Асцярожна апусціць хвост змяі ў бутэльку, а потым пачне запіхваць і ўсю яе. Старанна закаркуе, схавае бутэльку ў кішэню і з палёгкай уздыхне. Злоўленая змяя сціснецца, скруціцца ў тугі клубок, ні галавы ні хваста, толькі аднастайныя чорна-шэрыя плямкі і бялёсы, як цыратавы, жывот... Алік будзе калаціць бутэльку, ляпаць па ёй далонню, дзынькаць ножыкам, каб толькі змяя паказала сваю галаву.

— Бач ты, якая падла, галаву сваю гадзючую падняць не хоча, — кажа Алік з нядобрай усмешкай і перакульвае бутэльку да гары донцам.

— Ты, відаць, задушыў яе, мусіць, хрыбетнік пераламіў, — з агідай і не без зайздрасці разважаю ў адказ.

З бутэлькай у кішэні Алік пойдзе да свайго роднага дзядзькі Івана — бацькавага малодшага брата. Там, у паўцёмных сенцах, выкалаціць гадзюку ў дзядзькаў гумовы бот. Брудная пара будзе стаяць пры дзвярах пад сцяной. Пляменніка яшчэ і да стала запросяць, каб папалуднаваў, але хлопец адмовіцца, адно вады вып’е поўны карэц.

Іван выйдзе з-за стала, гляне на гадзіннік, а потым возьмецца за боты ў паўцёмных сенцах... Гадзюка выпадзе, пляснецца, саўецца пругкай пятлёй на нефарбаваных масніцах, ускіне галаву, а вось укусіць не паспее. Лязо рыдлёўкі рассячэ яе надвая, коўзкі хвост стане круціцца, а мужчына будзе апантана працягваць біць, біць, біць — аж пакуль перапалоханая жонка не перахопіць рыдлёўку.

Праз год Іван з’едзе з вёскі, і хату сваю разбярэ, і звязе...

Старэйшы брат, Шурка Міхалевічаў, таксама з’едзе, але хату разбіраць не будзе, а прадасць суседу. Пятро Яшкаў... па мянушцы Трусік набудзе новае жытло і са сваёй маленькай, як паветка, пяройдзе ў вялікую хату.

***

...Не напісаў пра сунічны водар. Менавіта суніцамі пах на пачатку лета наш лес, хаты, неба, аблокі, дзяўчаты. Шчаслівымі былі тыя сем'і, у каго дзяўчаты, а не сыны. Памятаю і яшчэ не даспелыя, самыя-самыя першыя, яшчэ ружовыя і як заскарузлыя ягады, сабраныя на прыпёку — сонечных месцах. Першыя ягады, не самыя салодкія, не самыя буйныя, але самыя дарагія. За шклянку тых суніц гомельскія габрэі аддавалі на базары па шэсцьдзясят капеек. А калі пастаяць на шашы з узнятай рукой, чырвонай ад ягаднага соку, то шклянку ягад можна было прадаць і за цэлы рубель. Лясы вакол вёскі, звычайна ціхія, на пачатку лета запаўняліся высокімі дзявочымі галасамі. Ніхто не мог зраўняцца спрытам з цёткай Таццянай, Пятровай жонкай, і іх дзеўкамі — Галяй і Тамарай. З сонцам яны ішлі ў лес, апоўдні вярталіся — з поўным, як вока, вядром ярка-чырвоных суніц. А праз дзве гадзіны зноў выпраўляліся да лесу, і гэтак штодня амаль месяц. Сабе ж ягад на варэнне ніколі не хапала...

***

Ідзе дождж. Я стаю ў сенцах і слухаю, як тысячы тысяч празрыстых кропель б'юць у жалезны дах дзедавай хаты. Дзверы адчынены ў двор, на ганку — вялікія бляшаныя начоўкі, у якія цурчыць, збягае, як па нітках, дажджавая вада. Начоўкі напаўняюцца залацістай цёплай вадой, яна пачынае пераліванца праз краі, і тут раптоўны дождж канчаецца. З даху яшчэ абрываюцца бліскучыя кроплі і парушаюць спакой, разбіваюць кавалак нябеснай сінечы, якая адлюстроўвалася ў вадзе, і неба пачынае пераліванца на мокры ганак...

Апускаю рукі ў ваду.

Гляджу на белыя і ружовыя мальвы.

Белы мятлік сядзіць на шырокім зялёным лісце.

І не важна, колькі мне на гэты момант гадоў — пяць, ці сорак пяць, ці семдзесят, гэта можа быць у любым узросце — пакуль жывы...

Вёску закапалі. І цяпер яна назаўсёды пад зямлёй. І хата майго дзеда з жалезным чырвоным дахам, які я так старанна фарбаваў. І хаты нашых суседзяў, і калодзежы, і сцежкі... Не быў на пахаванні, калі раўлі бульдозеры і экскаватары, калі ссоўвалі, спіхвалі ў вялізныя ямы хаты, хлявы, паветкі... А потым засыпалі і раўнялі груды.

Курган, Засценны, Баявы, Лук'янаў, Закрэўе, Лугінічы, Ліпа, Харошаўка, Халочча, Мачулішча... Шапчу, як шаптаў бацька ў апошнія дні жыцця.

Дрэвы... Колькі дрэў засталося. Стаю пад старой яблыняй, якая не здаецца такой вялікай, як тады, і думаю пра тое, а ці пазнала яна мяне?

І не знаходжу адказ на сентыментальнае пытанне. А памяць настойліва працягвае маляваць яркія карціны, упісваць у краявід тое, што было і знікла...

*А ні мятлік белы, які бесклапотна пырхае над пахаванай вёскай,*
*а ні ястраб шэры ў бясхмарным небе*
*пра Атлантыду не ведаюць ні-чо-га...*

2005 г.

# КАХАННЕ

## Гісторыя І.

**Чорная кава**

Першы глыток. Першы пацалунак. Першая зацяжка.

Першы глыток сапраўднай чорнай кавы я зрабіў, калі мне было дзевяць гадоў.

Смак таго глытка ўвайшоў у маю кроў чорнымі зорачкамі мікраскапічных кропель, а потым вандраваў па жылах, хаваўся ў клетках і атамах істоты, чакаў свайго часу — моманту ўваскрашэння.

…Кава была горкая, без цукру, кіславатая і не спадабалася зусім. Захрасла ў горле, прымусіла спачатку папярхнуцца, потым закашляцца і скрывіцца. Падалося, што атруты выпіў…

Хто мог у тысяча дзевяцьсот шэсцьдзясят сёмым у гарадскім пасёлку піць чорную каву? Хто ведаў правілы і рэцэпты прыгатавання? Хто мог пачаставаць экзатычным напоем дзевяцігадовага хлопчыка — аматара прыгодніцкіх раманаў?

Муся і Зіна — родныя сёстры, падобныя, як кроплі, як зерні кавы.

Зіна — старэйшая, настаўніца геаграфіі, а Муся вучылася на фельдшара.

Яны, ці не адзіныя ў пасёлку, пілі чорную каву, а Зіна пры гэтым яшчэ і папяросы паліла. Сёстры жылі ў маленькім абшаляваным дамку на вуліцы Узбярэжная. Дзіўна, ні ракі, ні возера, ні мора побач з вуліцай не існавала. За агародамі калгаснае поле, а за ім балота, парослае алешнікам і асакой.

Побач з дамком сёстраў Іваноўскіх раслі дзве вялізныя таполі з дуплістымі камлямі і парэпанай, як разбіты шэры асфальт, карой. Дрэвы былі таўшчэзныя, такія, што ўтрох не абхопіш.

На пачатку чэрвеня з таполяў ляцеў пух. Сцежкі, ганак, жалезны дах выглядалі, як узімку, абсыпаныя першым мяккім снегам. Пух быў паўсюль, нават на паверхні кавы плавалі, уздрыгвалі парушынкі.

**Пацалунак**

Зіна ніколі перада мной не перапраналася, заўсёды выходзіла ў другі пакой і прычыняла дзверы. А Муся магла. Забегла ў дом з вуліцы, пад залеву трапіла… У водар змолатай, не згатаванай яшчэ кавы, ублытаўся пах ветру, мокрага лісця, прыцемак і спірту, эфіру, лекаў… Муся зірнула на мяне і заскочыла за пасястую шырму. Яна сцягвала мокрыя апранахі, кідала іх на ложак з жалезнымі біламі і бліскучымі шарамі і, толькі калі распранулася, калі з-пад шырмы тырчалі ружовыя пяткі, — спахапілася, што сухую сукенку не ўзяла. Яна папрасіла прынесці халат, які вісеў на цвіку побач з грубкай. Адсунула шырму, узяла халат і бесклапотна засмяялася. Я для яе, сямнаццацігадовай, не быў мужчынам. Чырвань заліла твар, калі ўбачыў цёмныя падпахі і белыя грудзі — горача зрабілася, быццам у кіпень трапіў.

А пацалавала мяне Муся, калі я стаяў побач з этажэркай і гартаў кніжку. Гэта здарылася позняй восенню. Зіна яшчэ не прыйшла са школы. Мы былі адны.

Муся ўзяла мяне за плечы, рэзка павярнула да сябе, сціснула далонямі мае скроні і пацалавала.

Яе вочы былі заплюшчаны, на мяккіх вуснах трымаўся смак кавы…

Адштурхнула разгубленага і спалоханага і сказала, што мне час ісці дадому класціся спаць.

Той пацалунак з прысмакам кавы быў сапраўдным, дарослым.

Па вуліцы Узбярэжнай імчаў мне насустрач матацыкл…

**Млынок**

А яшчэ сёстры мелі млынок — драўляную скрыню з металічным нутром і бліскучай касцяной ручкай. З яго дапамогай няўсмешлівая Зінаператрушчвала цвёрдыя зярняты кавы на каштанавы жвір з казытлівым прывабным пахам. Да візглівага млынка меўся падобны да касмічнага спадарожніка медны начышчаны прымус, на якім сёстры гатавалі каву.

Кампанію прымусу складалі: блакітны глобус, нажная швейная машынка «Зінгер» і цэлая этажэрка кніжак. Мяне цікавіла тоўстая анатомія са шматлікімі малюнкамі чалавечага цела, і мне дазвалялі падоўгу гартаць кніжку, і нават не цікавіліся, што я там разглядаю з такой апантанасцю.

Віктар Пракопавіч Самуйлёнак — трыццацігадовы настаўнік чарчэння і малявання — уварваўся і разбурыў размеранае, але не бясклапотнае жыццё сёстраў трэскатам і рокатам свайго чорнага двухцыліндровага матацыкла. Тапалёвы пух разлятаўся, густым дымам закручваўся ў сувоі, калі траскучы матацыкл пад'язджаў да брамкі. Пракопавіч саскокваў з яго, як з арабскага жарабца, адкідаў жалезную падпорку і забягаў у двор. Танкісцкі шалом, скуранка, рукавіцы-крагі і чорныя вусы — рыхтык адзін з герояў польскага серыяла пра танкістаў і сабаку.

Зіна адразу хавала акуляры, а Муся чырванела. Блёклыя контурныя мапы знікалі са стала. Млынок пачынаў хрубасцець, Муся хапалася за запалкі і бегла да прымуса. Чытанне ўголас перапынялася на самым цікавым, я пачынаў збірацца дадому.

**Дамскі ровар**

Аднаго разу Віктар Пракопавіч прывёз на багажніку матацыкла дамскі ровар. У двары прыкруціў руль і сядло, пеpакуліў і пачаў ставіць колы, а потым нацягнуў чорны, слізкі ад салідолу ланцуг. Ровар быў перафарбаваны з зялёнага ў чырвоны колер. Фарба ярка паблісквала, як той піянерскі гальштук, пераліваляся. Спіцы зіхцелі, колы круціліся.

Зіна першай стала вучыцца ездзіць на чырвоным ровары. Быццам адразу і атрымалася, але не змагла спыніцца, упала, пабіла

калена і падрала сукенку. Больш да ровара старэйшая з сёстраў не падыходзіла. Муся навучылася ездзіць ці не на другі дзень.

Настаўнік креслення паабяцаў, што па хуткім часе навучыць яе кіраваць матацыклам.

Мне ж на дамскім ровары, хоць і прапаноўвала Муся, ездзіць было сорамна, а хацелася нясцерпна праляцець, прамчаць, ды яшчэ не трымацца руля…

**Зацяжка**

Цыгарэта гарыць доўга, аж пакуль фільтр не зробіцца чорным, а сама яна не ператворыцца ў срэбрана-папяловага чарвячка, які рассыпаецца ад дотыку пальца. А папяроса згасае хутка. Паклаў на край попельніцы, забыўся зацягнуцца — і яна мёртвая, ні агеньчыка, ні блакітнага дыму.

Зіна за адзін раз папяросу не выпальвала, нават калі нервавалася. Яна падоўгу круціла яе ў пальцах, выкалочвала з гільзы крошкі рудога тытуню, а потым плішчыла яе ў двух месцах. На папяросе заўсёды заставаўся след чырвонай памады — акуратны, як знарок намаляваны.

Папяроса настаўніцы геаграфіі пасавала, рабіла яе загадкавай, нетутэйшай… Акрамя Зіны ў пасёлку не бачыў ніводнай жанчыны з папяросай. Паліла яна толькі дома. У школе ніхто з дзяцей пра яе таямніцу не ведаў. Я нават крыху ганарыўся сваёй набліжанасцю да строгай настаўніцы.

Схапіў папяросу, калі Зіна выйшла на ганак да паштаркі… Паднёс да рота, заціснуў зубамі і зацягнуўся, набраў поўны рот дыму. Кашаль, з вачэй слёзы.

Настаўніца смяялася. Яна была разумная, здагадалася. Бацькам Зінаіда Максімаўна не скажа, ведаў напэўна.

Тая зацяжка — першая ў жыцці — на доўгія гады засталася нашай з ёй таямніцай.

**Аскепкі**

Аднаго разу, па восені, па коўзкім дыване мокрай таполевай лістоты ў змроку пад'ехаў матацыкл. Настаўнік чарчэння Віктар Пракопавіч Самуйлёнак увайшоў у дом з Мусяй, якую забраў на аўтобусным прыпынку.

Зіна хуценька зняла, схавала акуляры, лічыла, што яны робяць яе занадта дарослай, і пачала насыпаць у млынок каву. У Пракопавіча пад скуранкай была белая кашуля і гальштук. На стале з'явіліся аднолькавыя, а іх у доме было ўсяго тры, філіжанкі. Калі Зіна разліла каву, Пракопавіч з філіжанкай у руцэ, як заўсёды гучна, з мужчынскай і настаўніцкай пераканананасцю абвясціў, што ён і Муся вырашылі ажаніцца, жыць збіраюцца доўга і шчасліва, а калі памруць, то ў адзін дзень…

Філіжанка спачатку выпала з пальцаў Зіны на стол, кава заліла абрус, а потым скацілася, разбілася. Зіна паспрабавала ўсміхнуцца. Муся кінулася збіраць аскепкі і парэзала ўказальны палец.

Настаўніца геаграфіі паказала Пракопавічу на дзверы. Не пусціла сястру правесці жаніха нават да брамкі. Матацыкл завёўся адразу: затарахцеў, зароў, з'ехаў…

Зіне зрабілася кепска. Схапіла сэрца, яна пачала губляць прытомнасць. Муся ўзялася ратаваць старэйшую сястру, якая да гэтага дня на сэрца ніколі не скардзілася. Заціналі ў шклянку кроплі карвалолу, разліўся ў паветры, знішчыў водар кавы п'янаваты, аж нутро выварочвае, пах валяр'янкі.

У начы Муся выклікала «хуткую». Зіне зрабілі ўкол, але яна да раніцы так і не заснула. Пайшла ў школу, заняткі вяла няўважліва, галасам ціхім, як той шэпт. На апошнім уроку ў восьмым класе настаўніца геаграфіі згубіла прытомнасць. Два тыдні праляжала ў бальніцы. Два тыдні млынок пыліўся на паліцы і ў доме не пахла кавай.

Пракопавіч спрабаваў пагаварыць з Мусяй, але яна глядзела на мужчыну адчужана, амаль варожа. Муся вінавачіла Пракопавіча ў хваробе сястры, плакала, а аднаго разу нават дзверы яму не адчыніла.

Узаемаадносіны жанчын больш складаныя і заблытаныя, чым падаюцца на першы погляд. Прыхаваныя крыўды, зайздрасць, раўнівасць разбураюць паразуменне…

Пасля ад'езду настаўніка чарчэння ў свой родны Жлобін сёстры перасталі размаўляць. Нават каву разам не пілі.

**Кацяня**

Па восені, снегу яшчэ не было, да сёстраў прыбіўся кот. Худы, як лінейка, з тонкім, у палец, хвастом і падраным вухам. Доўга хадзіў

вакол дома і каўкаў, а потым лёг на дыванок перад дзвярамі на ганку, паклаў галаву на лапы і стаў маўкліва чакаць. Самы звычайны шэры кот-бадзяга.

Муся пусціла ў дом. Завяла для яго дзве місачкі пад ежу і ваду. Коцік спачатку спалохаўся, не паверыў свайму шчасцю, схаваўся, а потым асмялеў і пачаў выходзіць з-пад ложка да місачак. Палахліва азіраўся, а потым браўся есці малако. Ён цокаў языком, і пакой запаўняўся вясёлым гукам, быццам хутка-хутка працуе швейная машынка. Муся, стомленая маўчаннем, гаварыла з ім як з чалавекам, як з сябрам.

Зіна кацяня бачыла, крывіла тонкія вусны, і было незразумела, захапляецца яна ці адно грэбліва церпіць.

Бухматае стварэнне з тонкім хвастом адразу знікала пад ложкам ці канапкай, як толькі Зіна здымала з паліцы млынок і першы раз паварочвала ручку. Кава цяпер засыпалася ашчадна, толькі на адну філіжанку, таму сполах кацяняці доўгім ніколі не быў.

Я прыходзіў у дамок пад таполямі і скурай адчуваў варожасць такіх блізкіх раней людзей. Аддаваў кніжку, браў новую і хутка сыходзіў. А што можна рабіць у гнятлівым маўчанні, калі здаецца, што паветра ў пакоях, як той лёд, не праглынуць. Сёстры не сварыліся, саступалі адна адной дарогу і пры гэтым не пасміхаліся нават.

Шэры каток, гэта маленькая істота, адчуў, што ў доме нешта не так — і здох! Сышоў у іншы свет бязгучна, нават не каўкнуў…

Муся не вытрымала, расплакалася, зрабілася непрыгожай, старэйшай за сястру.

Зіна раззлавалася, бліснула акулярамі, грымнула дзвярамі, вярнулася з рыдлёўкай і панесла здохлае кацяня з выпрастанымі лапамі і цвёрдым хвастом на агарод, дзе і закапала ў мёрзлую зямлю пад плотам.

Малодшай, якая так і не паспела прыдумаць кату імя, засталося прыбраць дзве місачкі: адну з малаком, другую з вадой.

Ні ў адной з сёстраў сямейнае жыццё не склалася, хоць замужам і адна, і другая пабылі. Зіна амаль год, Муся чатыры месяцы.

Чырвоны дамскі ровар у Мусі скралі, калі яна пайшла ў аптэку па лекі для старэйшай сястры.

Ровар для сёстраў Іваноўскіх быў апошняй матэрыяльнай субстанцыяй, якая звязвала дзень сённяшні з днём мінулым. Чырвоны

ровар з'яўляўся доказам кахання, якое хоць і не спраўдзілася, але ж было, было, было…

Тыдзень Муся пра ровар старэйшай сястры не казала, берагла яе хворае сэрца і нервы. Калі ж не стрымалася і паведаміла, то Зіна ні на каліва не здзівілася, паціснула плячамі і пайшла гатаваць каву.

**Мясарэзка**

Зіны не было — бацькоўскі сход, яна класны кіраўнік, яе клас лепшы ў школе. У мяне па-дзявочы доўгія валасы, тоўсты швэдар. Я вучуся на мастака ў Мінску.

Муся ўзрадавалася майму з'яўленню, расхвалявалася і разгубілася, нават не ведала, куды мяне пасадзіць. Я прывёз у падарунак сёстрам пакецік кавы, зразумела, у зернях. Упершыню кручу касцяную ручку, млынок скрыжэча, ператрушчвае на жвір цвёрдыя зярняты.

Прымуса не відаць. Каву Муся гатуе на газавай пліце ў новай турцы. Памешвае лыжачкай, дзівіцца, распытвае пра жыццё… Сподкі, філіжанкі і кава, такая ж чорная, як цемра за акном.

Кніжак у доме амаль не дадалося. На шафе, пад столлю, глобус, прыкрыты белай хусткай. Муся дарослая, паліць цыгарэту з фільтрам, п'е каву. Недапалак расціскаецца ў попельніцы, філіжанка перакульваецца на сподак…

На стале пачынаюць з'яўляцца часткі мясарэзкі. У Зіны заўтра дзень нараджэння. Я няспешна п'ю каву.

Муся збірае мясарэзку і мацуе да кухоннага шкапка. Прыносіць місу з кавалкамі парэзанага мяса, сала і цыбуляй. Яна размаўляе са мной і круціць мясарэзку. З дзірачак выпаўзаюць доўгія ружовыя чарвячкі фаршу і падаюць у місу. Адварочваюся, мне ад відовішча пераўтварэння крыху не па сабе.

Адчуваецца, што Муся змірылася з абставінамі, скарылася і пра маладое, таемнае, высокае згадваць баіцца. Яна стала цяжкай, вочы не блішчаць, а рухі будзённыя, як у вязня з жыццёвым тэрмінам зняволення.

Фарш паўзе і паўзе, ружова-белая гара расце, прыцікаецца.

Нарэшце мясарэзка, разабраная на кавалкі, блішчыць шэрым металам на ручніку. Муся сядае да стала і падымае перакуленую філіжанку. Яна глядзіць у яе, як дзіця ў студню, а потым пачынае вывучаць цёмныя, як з торфу, плямы-кантыненты на сподку.

Малодшай з сёстраў дваццаць восем, старэйшай заўтра трыццаць пяць.

У тысяча дзевяцьсот дзевяноста першым годзе Зінаіда Максімаўна Іваноўская перанесла інсульт, яе спаралізавала, а праз тры тыдні настаўніца геаграфіі памерла.

Адкуль Віктар Пракопавіч Самуйлёнак дазнаўся пра смерць старэйшай з сёстраў, мне не вядома — свет жа не такі вялікі, як здаецца ў дзяцінстве…

На саракавіны белыя «Жыгулі» былога настаўніка чарчэння стаялі на вуліцы Узбярэжная, у цяньку, пад таполямі.

Відаць, пасля жалобнага стала і вырашылі былыя жаніх і нявеста пабрацца шлюбам і жыць разам.

Пракопавіч паехаў, паляцеў, памчаў у Жлобін, каб як хутчэй адрамантаваць кватэру. Муся пачала збірацца, парадкаваць рэчы… Па вечарах падоўгу стракатала швейная машынка, быццам кацяня малако п’е.

Мне не верыцца, але людзі казалі, што так і было.

Муся і Пракопавіч, якім больш нічога не замінала шчасліва жыць, памерлі ў адзін дзень, з розніцай у колькі гадзін.

У тэлеграмах, якія прынеслі на вуліцу Узбярэжная і Касманаўтаў, аднолькавы дзень смерці і дзень, калі адбудзецца пахаванне.

**Дзве таполі**

Дзеці, а хто ж яшчэ мог такое прыдумаць і ўтварыць. Нацягалі дошак, руберойду, папераў і расклалі ў дуплістых таполях вогнішчы. Полымя зашугала, пачало нішчыць, выпальваць, выядаць з сярэдзіны дрэвы. Чырвоныя, як піянерскія гальштукі, языкі агню пачалі лізаць шурпатую кару таполяў… А потым халодны і рэзкі паўночны вецер дарабіў справу і дзве таполі, адна за адной, зламіліся, упалі на дарогу, перагарадзілі вуліцу Узбярэжную — ні прайсці, ні праехаць.

Не было каму патушыць агонь, выратаваць дрэвы. Абшаляваны дамок, пад жалезным дахам, на той час нехта купіў, пранумараваў бярвёны і вывез, склаў лецішча…

Абгарэлыя рэшткі камлёў спілавалі. І як не было дамка, таполяў, кавы, глобуса, млынка…

Засталася гісторыя, якую пераказваюць і доўга не забудуць. Гісторыя пра сёстраў: адну добрую, другую — настаўніцу геаграфіі, і пра мужчыну, з якім малодшая сястра памерла ў адзін дзень, а шчаслівa не пражыла ніводнага.

## Гісторыя II.

На маю думку, у жыцці нічога выпадковага не бывае — тым больш сустрэч.

Мне ішоў дванаццаты год. Я вяртаўся са школы, бесклапотны, задаволены жыццём. Бацька аднакласніка, сталяр-чырванадрэўшчык Юзік Юрэвіч, сядзеў пад балконам, на ўмураванай чыгуннымі лапамі ў тоўшчу асфальта, блакітнай лаве. Сядзеў ціха, грэўся на сонцы, паліў папяросу. Левую руку дзядзька Юзік, як звычайна, хаваў у кішэні.

Я павітаўся яшчэ здалёк. Ён, як даросламу, падаў руку, а потым тарганууўся наперад і схапіў мяне паміж ног сваёй знявечанай, без трох пальцаў, левай рукой-кляшнёй. Схапіў, моцна сціснуў і зарагатаў. Ён, дарослы, дужы, уважліва глядзеў мне ў вочы, трымаў маю правую руку і цяжка, з прысвістам дыхаў. Партфельчык упаў пад ногі, я закрычаў, а потым заплакаў ад болю і нясцерпнай крыўды…

Што ён хацеў убачыць у маіх вачах? Не ведаў тады, не ведаю і цяпер…

Мужчына і дзяўчына сутыкнуліся першы раз у новай трохпакаёўцы дырэктара завода. Кватэру трэба было давесці да ладу — і як мага хутчэй. Працавалі ад рання да рання, дырэктар паабяцаў майстрам прэмію. Працы шмат, часу мала, карацей, як заўсёды на будоўлі.

Ніна (дзявочага прозвішча не ведаю) — муляр. Пабяліць столь, пафарбаваць вокны, дзверы, паклеіць шпалеры ці адцягнуць роўную, як напятая струна, філёнку…

Юзік Юрэвіч — сталяр-чырванадрэўшчык. Паркет, мэбля, дубовыя панэлі, замкі-зашчапкі, шпінгалеты…

Ёй дваццаць, яму дваццаць шэсць. Ён пачаставаў яе півам. Глыток залацістай вадкасці з рыльца і… Каханне з першага глытка.

Ажаніліся праз паўгода, зімой тысяча дзевяцьсот пяцьдзясят сёмага, калі Ніна была цяжарная Віталікам — маім аднагодкам-ад-

накласнікам. І сталяр, і муляр, калі не зломкі, заўсёды знойдуць, дзе зарабіць у вольны ад асноўнай працы час. Жылі шчасліва, прынамсі, так лічылі суседзі, сваякі, знаёмыя.

Вядома ж, тады — не цяпер, жанчыны падоўгу ў дэкрэтным адпачынку не сядзелі. Плаксівага Віталіка, як і мяне, уладкавалі ў заводскія яслі, і крыху паспраўнелая Ніна выйшла на працу. Цяжкія вёдры з фарбай і клеем, шпалеры, мяхі з тынкам, вапна, брудны камбінезон, рукавіцы, хустачка — будзённыя аднастайныя справы.

З нараджэннем сына заместа радасці ў дом маладой пары прыйшла бяда. Юзік Юрэвіч пачаў шалёна раўнаваць жонку. Раўнаваў да кожнага мужчыны, незалежна ад узросту. Сталяр-чырванадрэўшчык бегаў ад будоўлі да будоўлі, хаваўся, высочваў, пільнаваў. Яго вочы цямнелі, твар палатнеў, позірк рабіўся вар'яцкім, рукі калаціліся, а рот крывіла нядобрая ўсмешка.

З Юзіка пачалі кпіць. Знайшліся зласліўцы-зайздроснікі і папаўзлі чуткі. То казалі, што Ніну бачылі з прарабам — рудым таўстуном, у вагончыку, то з кашчавым брыгадзірам тынкоўшчыкаў, то з маладзёнам сантэхнікам у сутарэннях новага інтэрната…

Па-рознаму людзі п'юць. Адзін вып'е і робіцца вясёлым, песні спявае, добрыя словы кажа. Другі пасля пляшкі віна паесць з апетытам і спаць кладзецца…

Юзік мяняўся пасля першай чаркі. Замаўкаў, а калі і вымаўляў словы, то сіпеў, быццам змяя ў горле хаваецца. А пасля другой чаркі бег дадому і ўчыняў сварку-бойку. Спрабавалі яго ўгаворваць, і саромелі, і ўшчувалі, але ўсё марна. Як рэзаны, плакаў Віталік, крычала-галасіла Ніна… Суседзі выклікалі міліцыю, і шалёнага Юзіка выцягвалі з кватэры і забіралі да рання.

Вяртаўся ён ціхі, з пагаслымі вачамі, з вінаватай усмешкай. Кляўся, бажыўся, што піць кіне, што няхай рука адсохне, калі чарку з гарэлкай падыме і да рота паднясе…

Ніна даравала мужу абразы, сваркі… Карміла сняданкам, і яны разам выпраўляліся на працу. Ішлі па вуліцы і рабілі выгляд, што нічога не здарылася.

Сталяр-чырванадрэўшык Юзік Юрэвіч, да вяр'яцтва закаханы ў жонку, адрэзаў сабе тры пальцы на левай руцэ…

Загарнуў у сінюю насоўку, прынёс дамоў і паклаў перад жонкай на ўласнаручна зроблены круглы стол. Трыццаціпяцігадовая жан-

чына прышывала каўнер сынавай кашулі. Яна зірнула на спалатнелы мужаў твар, апусціла на калені шытво і разгарнула насоўку…

Юзік пры гэтым стаяў побач і хаваў пераціснутую гумовай трубкай знявечаную руку пад крысом бруднай ватоўкі…

Стол, на якім ляжала разгорнутая насоўка, сталяр-чырванадрэўшчык рабіў цэлы год у падарунак Ніне. Такі стол ні тады, ні цяпер не купіш. Паліраваны, бліскучы, точаны… Падобную мэблю можна ўбачыць у музеях творчасці прыгонных. Больш за ўсё ўражвала стальніца. У цэнтры — выкладзеная з рознакаляровага шпону, падабраная, падагнаная кавалачак да кавалачка, бубачка да бубачкі — кветка сланечніка з залатымі, як жытнёвая салома, пялёсткамі. А вакол вялікай кветкі трыццаць пяць дробных.

Сіметрыя і гармонія — усё разлічана да міліметра. І гэтая прыгажосць, як пад першым празрыстым лядком, пад бліскучым лакам.

У тысяча восемсот восемдзесят дзявятым годзе яшчэ мала каму вядомы мастак Вінцэнт ван Гог адрэзаў сабе вуха…

Старанна загарнуў у чыстую сурвэтку, мяркую, цёмна-блакітнага колеру, і адаслаў у «падарунак» жанчыне, якую кахаў і якая баялася адказаць узаемнасцю. Як звалі каханую ван Гога, вядома толькі даследчыкам ягонай творчасці, біёграфам ды, магчыма, нашчадкам той абачлівай жанчыны.

Прайшло б колькі часу, і скандальна-вядомая падзея ператварылася б у побытавы, не надта прывабны факт біяграфіі мастака, які б мала хто згадваў. І не такое твораць атручаныя каханнем і мастацтвам людзі ад шкадобы да сябе самога.

Але… Вінцэнт ван Гог не быў бы самім сабой, калі б не паставіў на мальберт чыстае палатно, не выціснуў на палітру яркіх фарбаў і не намаляваў сябе любага з забінтаванай галавой.

«Аўтапартрэт з адрэзаным вухам» (1899 год. Лондан. Галерэя інстытута Кортада) — карціна, безумоўна, геніяльная. З яе дапамогай побытавы факт зрабіўся творам мастацтва, а адрэзанае вуха стала міфам, які жыве і мусіць жыць бясконца.

Мы з Віталікам збегалі ў майстэрню, якую сталяр-чырванадрэўшчык пакінуў незамкнёнай. Касыя промні яркага сонца. Дробны залаты пыл. Бліскучы рыштунак на сценах і палічках. Гурба пілавіння, падобная да піраміды. Залацістыя, срэбныя спіралі духмяных габлюшак, дошачкі, скрыначкі, бутэлькі і кансароўкі

з лакамі і шкіпінарам, слоік загусцелага паўпразрыстага пакосту на падваконні. На адпаліраваным сталёвым лісце, з якога вытыркалася драпежнымі зубамі паўкола пілы-цыркуляркі… згаслая папяроса…

А на залатых спіралях габлюшак — чырвоная кроў.

Вінцэнт ван Гог адрэзаў вуха.

Чаму менавіта вуха? Не руку, не палец, не нос, а вуха?

Ван Гога, за якім замацавалася ўстойлівая слава, прынята лічыць вар'ятам. Ну, а як жа па-іншаму? Карціны не такія, як у астатніх… Выдзяляюцца, уражваюць, зачароўваюць, захапляюць. Некалькі разоў мастак лячыўся ў клініцы для душэўнахворых у доктара Рэя, чый партрэт таксама намаляваў. Дайшоў да поўнага самазнішчэння, жыццё скончыў самагубствам…

Самасцвярджэнне праз самазнішчэнне.

Але… Ці настолькі ён быў вар'ятам, калі адсек брытвай вуха? Не!..

Вуха для мастака — рэч другасная. Адсутнасць яго не замінае выціскаць на палітру фарбы, не замінае трымаць пэндзлі, не замінае маляваць.

Ван Гог не быў вар'ятам да такой ступені, як сцвярджаюць даследчыкі ягонай творчасці і біёграфы. Вар'яцтва мастака — міф, так неабходны мастацтвазнаўцам і галерэйшчыкам-аўкцыёншчыкам. На міфах трымаецца цікаўнасць і зарабляюцца вялікія грошы.

Юзік Юрэвіч — ляўша, і пальцы адрэзаў на левай руцэ.

Па шляху самаразбурэння, самазнішчэння ён пайшоў значна далей за Вінцэнта ван Гога…

Рука без пальцаў для сталяра-чырванадрэўшчыка — сапсаваны інструмент, як нажоўка без зубоў.

Ніна плакала горка і доўга. Віталік не плакаў зусім і маці не суцяшаў.

Юзіка завезлі ў бальніцу, а адтуль у вар'ятню, аж за сорак кіламетраў ад дома.

Сталяр згубіў пальцы. Узамен атрымаў мянушку Куцапалы і стаў чалавекам вядомым, амаль легендарным. Пра яго каханне да жонкі, пра бязмежную раўнівасць гаварылі і будуць гаварыць…

Гады тры Юзік не піў. На жонку глядзеў скоса. Выпіў з мужчынамі ў майстэрні, угаварылі. Выпіў мала, чарку няпоўную, — схапіў сякеру і прыбег дамоў.

Віталік рабіў урокі за круглым сталом. Ніна ў суседнім доме клеіла шпалеры.

Юзік знішчыў, пасек уласнаручна зроблены стол з інкрустацыяй кветкі сланечніка.

Ні сына, перапалоханага да смерці, ні суседзяў, якія збегліся на грукат, плач і крыкі, сталяр не паслухаў.

Пасек стол і знясілена сеў у кут, закрыў твар рукамі і заплакаў.

Калі мастак нішчыць лепшыя творы, гэта яно — каханне. Гэта самаразбурэнне і самазнішчэнне.

Праз месяц Юзік сышоў з дому. Гэта было восенню. Яго шукалі. Ніна плакала. Віталік папрасіў мяне дапамагчы, і мы разам зацягнулі рэшткі зламанага, знявечанага стала з пасечанай кветкай сланечніка ў мёртвую без гаспадара майстэрню.

І жонка, і сын спадзяваліся на лепшае…

Чакалі, чакалі…

Цела сталяра-чырванадрэўшчыка знайшлі вясной, калі сышоў снег і растаў лёд на тарфяных кар'ерах за сем кіламетраў ад гарадскога пасёлка.

Апазналі па знявечанай руцэ.

Жонка і сын на пахаванні не плакалі, маўчалі і адноківалі знаёмым і сваякам.

Віталік паспрабаваў склеіць-сабраць пасечаны стол. Не атрымалася. Не было ў хлопца бацькавага таленту, стараннасці і спрыту ў руках.

Ніна пасадзіла на магіле Юзіка сланечнікі. Яны выраслі высокія і прыгожыя, з залатымі пялёсткамі, вышэйшыя за агароджу.

І Юзік, і Ніна, і Вінцэнт ван Гог лічылі кветкі сланечніка ці не самымі прыгожымі на белым свеце.

Сланечнікі растуць і на магіле Ніны Юрэвіч.

Вінцэнт ван Гог адрэзаў сабе вуха…

Юзік Юрэвіч адрэзаў сабе тры пальцы…

Мастакамі не нараджаюцца — мастакамі паміраюць.

## Гісторыя III.

Пачатак гэтай гісторыі я ведаю ад мамы, бо тры гады яна з Тоняй жыла праз сцяну, у суседніх пакоях заводскага інтэрната і працавала ў адным цэху.

Тоня Квяцінская прыехала на завод на пачатку пяцьдзясят шостага года. З рэчаў пры ёй быў дыктавы чамадан, валізка з вясковай ежай, дакументы — пашпарт, даведка з сельсавета — і насоўка, у якой захоўваліся пакамечаныя грошы.

Калі ў завадскім аддзеле кадраў яна скінула вялікую шэрую хустку, прысутныя на імгненне аслупянелі, гамана сціхла. Мужчыны кінуліся прапаноўваць дзяўчыне табурэтку, а жанчыны здзіўлена заміргалі і пачалі папраўляць прычоскі.

Начальнік аддзела кадраў у той жа дзень прапанаваў Тоні працаваць яго памочніцай. Ён падскокваў і бегаў вакол Антаніны, паказваў груваткі, як сцэна ў клубе, дубовы стол з друкарскай машынкай. Бесперапынна абцягваў караткаватыя рукавы, папраўляў гальштук, пагладжваў ордэнскія калодкі і нават кульгаць перастаў. Але гранёная шклянка ў цяжкой металічнай аздобе і сподак з сінявацімі кубікамі цукру заставаліся некранутымі. Тоня хацела працаваць у цэху са знаёмымі дзяўчатамі, рэзаць шкло. Як ні ўгаворваў, як ні пераконваў лысаваты адстаўны падпалкоўнік — Тоня стаяла на сваім.

Я ўяўляю тыя гады адно па фатаздымках у сямейным альбоме, па кінастужках, па ўспамінах бацькоў, якія абвяргаюць тагачасную кінахроніку, і па нешматлікіх рэчах, што захаваліся, дажылі да сённяшняга дня.

Праца… Вялізныя цэхі, сталы, абцягнутыя шэрым сукном, на іх ззяе шкло, стужка транспарцёра і жанчыны з перавязанымі рукамі, каб, крый божа, вострая і цяжкая шкліна не зламілася, не абрынулася і не перарэзала вены.

Мама прыходзіла з працы ледзь жывая. Сядала на табурэтку, апускала рукі і сядзела нерухома з заплюшчанымі вачыма.

Магчыма, каб не стос глянцавых ганаровых грамат і дыпломаў з чырвонымі сцягамі, зоркамі і профілямі правадыроў, то ні ў які працоўны энтузіязм, подзвігі і здзяйсненні не паверыў бы.

А мама захоўвае глянцавыя лісты, беражэ…

А вось што танцы ў паўцёмным парку, на дошках абгароджанай пляцоўкі, былі вясёлымі — у гэта веру ахвотна. Белыя шкарпэткі, квяцістыя сукенкі, цёмныя пінжакі з вялікімі лацканамі, гузікі ў два рады, кепкі, лёгкія шаўковыя хустачкі, празрыстыя, як каляровы дым…

Мужчыны, заўсёды чыста паголеныя, стрыжаныя, усмешлівыя, з папяросай, зацiснутай у крэпкіх белых зубах…

На танцы Тоня не хадзіла.

Мама казала, што ёй не даводзілася бачыць прыгажэйшых за Тоню і што ні да якой другой дзяўчыны так не заляцаліся кавалеры, як да яе суседкі.

Рыпелі партупеі вайскоўцаў, шноўкалі абцасы хромавых ботаў. Маладыя лейтэнанты і капітаны клікалі Тоню ў Венгрыю, Германію, інжынеры і тэхнолагі разам з рукой і сэрцам прапаноўвалі асобныя кватэры і ўладкаваны побыт, начальнікі — адпачынак на Поўдні і модныя апранахі, маладыя практыканты — каханне да скону, вясёлае жыццё і табун дзяцей… Але на ўсе прапановы Тоня пасміхалася, адмоўна хістала прыгожай галавой і спяшалася ў свой цесны пакойчык, хавалася за шырмай, дзе над акуратна засланым дзявочым ложкам вісела сямiструнная гітара з шаўковым бантам на чорным грыфе. А кавалерам адно заставалася згадваць бездакорную паставу ды падносіць запалку да згаслай папяросы.

Зайздрасць была заўсёды, яна нязводная і непераможная, як і само жыццё…

З прыгажуні Тоні пачалі здзекліва жартаваць, зразумела, за вочы. Казалі, што яна хоць і прыгожая, але не надта каб разумная, і што на яе «выкшталцоны» густ не дагадзіць. Не інакш як прынца ці генерала чакае. Далей — болей, дайшло да таго, што папаўзлі чуткі пра тое, што Тоня крыху не ў сабе, што яна хворая, а таму з мужчынамі жыць не здатная, а тым больш нарадзіць дзіця.

Ні прынца з-за мора, ні айчыннага генерала на даляглядзе не ўзнікала, а з'явіліся на шклозаводзе тры дэмабілізаваныя хлопцы. Як і іншыя, пачалі заляцацца да Тоні, прапаноўваць ёй руку і сэрца, бо нічога іншага прапанаваць не маглі. І дарма ўсе смяяліся і кпілі, зусім дарма, бо з Алікам Царлюкевічам Антаніна Кваціінская суботнім вечарам з'явілася на танцпляцоўцы. Танчыла адно з ім, а потым, пад зайздросныя позіркі, рука ў руцэ, яны зніклі ў цёплай травеньскай цемры.

Здзіўленне не мела межаў, бо такога, як той Царлюкевіч, магла б адхапіць сабе кожная, і што галоўнае — без усялякіх высілкаў. Карацей, радаваліся нядобразычліўцы.

Бялявы недагледжаны Алік прафесію меў самую звычайную — працаваў зваршчыкам. Пра свае адносіны з прыгажуняй Тоняй маўчаў, пытанняў, якімі назалялі, унікаў, а планамі на будучыню не хваліўся. Тры, а можа, чатыры разы Тоня і Алік хадзілі на танцы. Пару разоў бачылі, як ён частаваў яе марожаным на аўтобусным прыпынку…

Зусім нечакана, праз які месяц, хлопец звольніўся з завода, разлічыўся з камендантам інтэрната і з рудым плецаком на плячы з'ехаў з гарадскога пасёлка. Ад яго сяброў па пакоі і стала вядома, што Алік не збег, не ўцёк, як спадзяваліся многія, а завербаваўся на паўгода на Поўнач, каб зарабіць на вяселле, а галоўнае — на матацыкл з люлькай — даўнюю, яшчэ юначую мару.

Ні тэлеграм, ні лістоў, ні пасылак ад Аліка не было. Праз тры месяцы ў Антаніны прапаў апетыт, колькі разоў яна губляла прытомнасць. Нават аднойчы ледзь засталася жывой, вадзіцель паспеў заўважыць, як дзяўчына хіснулася і ўпала пад ногі пагрузчыка, прама ў цэху. Сяброўкі завялі Тоню ў паліклініку, дзе і высветлілася, што яна ўжо на чацвёртым месяцы цяжарнасці. Больш за ўсіх навіне здзівілася сама Тоня, хоць выгляду і не падала.

Як тады пачалі клясці і лаяць Царлюкевіча, як пачалі шкадаваць непадступную Тоню, як чакалі таго Аліка, каб выказаць абурэнне…

Але дзе быў той Алік, што рабіў, — ніхто не ведаў, а таму праклёны ляцелі ў паветра. Нядобразычліўцы радаваліся, бо казалі, што так і трэба. Няхай папакутуе, як і ўсе, бо прыгажосць — гэта яшчэ не шчасце, а так сабе — сёння ёсць, а заўтра няма.

Алік абяцаў зарабіць грошы і вярнуцца праз паўгода. Абяцанне выканаў. Прыехаў на завод праз дванаццаць гадоў. Прыехаў на таксоўцы з крыху прывялым букетам ружаў у левай руцэ і акуратным чамаданчыкам у правай. Апрануты Алік быў у светлы плашч, на галаве — шэры капялюш з шырокімі брылямі і шаўковай стужкай.

Ён хутка, быццам ведаў, знайшоў кватэру на другім паверсе, націснуў гузік званка, пагрукаў і ўвайшоў у кватэру… Тоня была дома.

Яна па-ранейшаму была прыгожай, але не празрыстым хараством дзяўчыны, якое ён памятаў, а завершанай жаноцкай дасканаласцю, якая імгненна кідаецца ў вочы. Мужчына і жанчына прайшлі ў пакой, а праз паўгадзіны Царлюкевіч выходзіў з пад'езда з чамаданчыкам, але без кветак.

Разгублены і заклапочаны, з усмешкай, якую цяжка вытлумачыць, няцвёрдай хадой Алік падаўся праз пляц да рэстарана.

У тыя гады рэстаран месціўся на другім паверсе, а першы займала сталоўка. Я добра памятаю светлую залу з карцінамі ў груваcткіх пазалочаных рамах. Мармуровую падлогу, падобную да сальцісону, квадратныя калоны, расфарбаваныя пад жылісты ружовы мармур.

Колькі столікаў займалі мужчынскія кампаніі, яны бавілі час за куфлямі піва. Алік сеў за вольны столік, адкрыў чамаданчык і выцягнуў нераспакаваны пачак хрубасткіх і слізкіх чырвонцаў. Падбегла паслужлівая афіцыянтка ў накрухмаленым карункавым каўпачку-кароне, бездакорна бялюткім фартуху, павіталася і, здзіўленая, прыняла заказ. А замовіў мужчына на кожны заняты столік па дзве пляшкі гарэлкі, піва і лёгкую закуску…

За тыя дні, што Царлюкевіч правёў у рэстаране, ён шмат разоў адкрываў і закрываў чамаданчык, дзе акрамя пачкаў з грашамі ляжалі адно брытва, бутэлечка адэкалона, стракаты гальштук і капэрта з фотаздымкамі. Тры дні гудзеў і патынаў у папяросным дыме рэстаран. Тры дні шчыраваў маленькі аркестрык, бесперапынна выконваў усе тагачасныя шлягеры. Двойчы да Царлюкевіча падыходзілі міліцыянеры, правяралі дакументы, цікавіліся, адкуль у яго такія шалёныя грошы, ці не абрабаваў ён банк або калгасную касу. Але дакументы былі правільныя, на грошы меліся адпаведныя даведкі, а таму міліцыя сыходзіла, прыхапіўшы са шчодрага стала па пляшцы гарэлкі.

Усё на гэтым свеце мае як пачатак, так і канец. Скончылася і раптоўнае, неверагоднае свята, бо скончыліся ў чамаданчыку грошы.

На чацвёрты дзень няголены Царлюкевіч сядзеў за столікам у пустой зале, падтрымліваў рукамі цяжкую галаву і спакойна, без зацікаўленасці пазіраў на карціны ў груваcткіх рамах. Замовіць нешта са спіртнога ён не мог. Паслужлівая афіцыянтка прапанавала сысці, пакуль не забралі ў міліцыю…

На шырокіх мармуровых сходах з'явілася святочна апранутая Тоня.

Яна шпарка прайшла да Аліка, прысела насупраць, сказала колькі слоў… Мужчына ўмомант зрабіўся цвярозым. Падхапіўся, узяў парожні, а таму амаль бязважкі чамаданчык і падаўся следам за жанчынай. Ён прабыў у яе да вечара, а потым, паголены і рашучы, выйшаў з пад'езда, сеў на аўтобус і з'ехаў на вакзал.

Малы Алік казаў (ён быў сведкам размовы маці з Царлюкевічам), што дарослыя не сварыліся, а спакойна ўспаміналі клуб, танцпляцоўку, шэрую хустку і цесны пакойчык у інтэрнаце. І яшчэ Алік казаў, што мужчына ў светлым плашчы і капелюшы — ягоны сапраўдны бацька. Ад малога даведаліся, што Тоня выправіла бацьку ў камандзіроўку на тры месяцы, а потым, калі ён заробіць грошы і вернецца, бацькі ажэняцца і з'едуць… Куды паедуць, Алік не ведаў, але ўпарта даводзіў, што пачнецца новае жыццё, і пачнецца яно там, дзе бацькоў ніхто не ведае.

Шчаслівы, а таму заклапочаны бялявы падлетак гойсаў па аднакласніках і знаёмых, радасна выхваляўся, што хутка бацька вернецца з вялікімі грашамі — Аліку купіць ровар, на якім ён будзе лётаць па незнаёмым горадзе. Праўда, побач з радасцю таіўся ў шэрых хлапчуковых вачах ледзь заўважны сполах і лёгкі недавер раптоўнаму шчасцю…

А зласліўцы-зайздроснікі ўсё перакручвалі. Яны сцвярджалі, што ў Царлюкевіча на Поўначы ёсць жонка і ажно трое дзяцей, а сюды ён вярнуўся, каб адкупіцца. Але дурніца Тоня тыя грошы не ўзяла, а самога Аліка прагнала, як блудлівага кабяля. Яшчэ даводзілі, што Царлюкевіч — крымінальнік-злодзей і дзесяць гадоў сядзеў за кратамі, валіў лес, а потым збег з падробленымі дакументамі. І яшчэ (на гэтым сыходзіліся многія) — грошы, і немалыя, трэба было ўзяць, а не пускаць дымам на гарэлку.

Супакоіліся толькі пасля таго, як Антаніна Квяцінская звольнілася з працы (а працавала яна гадоў восем сакратаркай галоўнага інжынера завода). Звольнілася і нікуды не ўладкоўваецца, відаць, і сапраўды вырашыла з'ехаць.

Мінула тры месяцы. Потым яшчэ тры…

Ад Аліка — ні лістоў, ні тэлеграм, ні званкоў.

Добрыя сяброўкі пачалі раіць звярнуцца ў міліцыю і абвясціць Альберта Максімавіча Царлюкевіча ў вышук. Угаворвалі ўпарта — не менш рашуча Тоня адмаўлялася.

Галоўны інжынер з вялікім задавальненнем узяў жанчыну на былую працу і нават заробак павялічыў.

Малы ж Алік зацяўся, зрабіўся злосным, калі крыўдзілі — кідаўся ў бойку, але вучыўся добра. Казалі, што гэта менавіта з-за сына, які ні кропляй, ні рысай не падобны да бацькі, Царлюкевіч не

вярнуўся да Тоні. А яшчэ з-за яе цяжкага характару, невыноснага нораву і ўпартасці ў дробязях.

Гісторыя, якая пачалася да майго нараджэння, не скончылася і сёння.

Антаніна Квяцінская жыве адна. Яна на пенсіі. Ад былой ашаламляльнай прыгажосці мала што засталося, можа, толькі ясны позірк шэрых вачэй ды лёгкая хада…

Яе сын, Алік Квяцінскі, прыязджае дадому не часта. Ён лысаваты, але з бародкай. Яго дачка нагадвае дзеда — як дзве кроплі.

Мая мама неяк сказала, што ў Тоні быў толькі адзін мужчына — ды і той дурань, бо прайшоў побач са сваім шчасцем.

А Тоня ўсё яшчэ чакае, спадзяецца.

Але мне здаецца, што, нават калі Альберт Максімавіч Царлюкевіч і вернецца, Тоня яго абавязкова прагоніць, каб ізноў чакаць…

2005 г.

## НА ВУЛІЦЫ ШКОЛЬНАЙ

У яго не было пры сабе ні мачалкі, ні мыла, ні рушніка, ні веніка. Ён прыйшоў у лазню, як толькі яна адчынілася, з пустымі рукамі...

Доўга разбэрсваў матузкі карычневых чаравікаў на тоўстай рыфлёнай падэшве, сцягваў шкарпэткі, праз галаву скінуў чорны швэдар. Старанна, нібыта баяўся прапусціць, парасшпільваў гузікі клятчастай кашулі, акуратна склаў вельветавыя штаны на верхнюю паліцу, дзе ляжала чорная лыжная шапка, і стомлена апусціўся на лаву. Так і сядзеў, у цёплай споднай бялізне. Амаль чвэрць гадзіны адчужана пазіраў на карычневую плітку падлогі, на свае ногі. Распрануўся і зноў сеў, прываліўся спінаю да вузенькай шафкі. А вакол гаманілі. Распраналіся. Дзеці смяяліся, бацькі на іх пакрыквалі, прыспешвалі, а сівы мужчына ўсё вывучаў свае ногі.

Ён узяў з пірамiды верхні цынкавы тазік з адной ручкай і няспешна ўвайшоў у лазню, поўную дзіцячага віску, смеху, пырскаў і вільготнай пары... Стаяў пад дожджыкам. На запясці паблісквaў гадзіннік, а на шыі пласцінка медальёна. Ён быў высокі, сівы і ружоваскуры. Каб не маршчыністы твар і шыя ды сівізна па ўсім целе...

Набраў поўны тазік вады, паставіў на лаву пад запатнелае закратаванае акно. А потым засмучона і крыху разгублена пакруціў галавой. Падумаў, што дарма ўзяў тазік — а як каму не хопіць? Стол быў яшчэ чысты, яго каменная паверхня нагадвала сальцісон хатняга вырабу.

У парылцы двое падлеткаў гадоў па дванаццаць сядзелі на другой паліцы і моршчылі насы. А трэці цынкавай конаўкай плюхаў на камяні халодную ваду. Падлеткам давялося падняцца, калі высокі і сівы, ружоваскуры незнаёмец увайшоў у скварна асветленае закратаванай лямпачкай памяшканне і палез на самы верх, на апошнюю паліцу, пад брудную столь.

Там ён лёг, выпрастаўся і прыкрыў вочы рукой.

Падлеткі мужчыну не ведалі, і не таму, што ён, як і ўсе ў лазні, голы.

Пра чвэрць гадзіны яго непрытомнага вынеслі з парылкі чацвёра мужчын і паклалі на доўгі стол пад акном. Аблілі сцюдзёнай вадой... Паднялі крык.

Калі прыехала «хуткая», то незнаёмец яшчэ не апрытомнеў.

Жанчына доктар увайшла ў мужчынскую лазню. Маладая. У белым халаце, з чамаданчыкам і стэтаскопам на шыі. Зацокалі абцасы па мокра-слізкай падлозе. Дзеці сарамліва паадварочваліся.

Вузкую шафку адчынілі лёгка. Калупнулі нажом замочак — і гатова. Дакументаў не было. Пачак цыгарэт, аднаразовая запальнічка, насоўка, пальчаткі, прыгожы сцізорык, грошы па розных кішэнях. У чорным бушлаце знайшлі ключ, тры каштаны і аўтобусны квіток. На стале доктарка зрабіла старому ўкол, а потым яго паклалі на насілкі, перанеслі ў машыну і павезлі ў бальніцу.

Гадзіннік, ланцужок з медальёнам...

Гэта быў Віцька Руды. Пяцьдзясят гадоў таму руды, а цяпер сівы.

Пазнала яго санітарка Валянціна, немаладая жанчына з нафарбаванымі вуснамі. Яна ўбачыла правую руку, а на плячы — бэзавы шнар.

На вуліцы Школьнай — школа. Старая, трохпавярховая, даваенная, жоўтая. З высокім жалезным дахам. Нумар школы трынаццаць. Але гэта неістотна.

Вуліца Школьная кароткая. Раней яна была брукаваная. Едзеш на ровары — зубы ляскаюць. Калюжыны абмінаеш, ключы пад ра-

май у карычневай кабуры бразгаюць.... Яна зусім кароткая — метраў трыста. Ад шашы да базара. Пры школе стадыён, а за парканам дзіцячы садок. Але і гэта малацікава.

На вуліцы Школьнай усе дамы старыя. Пабудавалі завод, а побач, амаль насупраць, за шашой, — дамы для начальства і рабочых. У «этээраўскім» дырэктар жыў, інжынеры, тэхнолагі, начальнікі розныя...

У доме для рабочых, на вуліцы Школьнай, жыла сям'я Віцькі Кныша і ён сам. Гэта важна. Гэта істотна.

Віцька быў руды, як падасінавік, а таму і на сваю мянушку не крыўдаваў.

Цяпер яго там няма.

І мяне цяпер там няма.

А тады Віцька жыў на трэцім паверсе дома для рабочых, якраз насупраць школы. У камуналцы, у пакоі на васямнаццаць метраў.

Яна пазнала яго, але не сказала нікому. Прыйшла дамоў і пачала перабіраць фотаздымкі. Знайшла, нарэшце, тое, што шукала. Два хлопчыкі гадоў па дванаццаць у майках-саколках і чорных доўгіх трусах на школьным стадыёне. Справа, кароткастрыжаны, яе брат Віталік, а побач ён — Віцька Кныш, па мянушцы Руды. Праз два гады бацькі, а разам з імі Віцька, з'едуць з вуліцы Школьнай назаўсёды. Ён нават восьмы не паспее скончыць...

Яна і акуляры ўздзела. Каб лепей разгледзець Віцькава плячо, каб яшчэ раз упэўніцца, што яна не памылілася.

Праз дзень санітарка зайшла ў рэанімацыйную палату.

Белы халат, без адзінай плямкі, валасы падкручаныя, вочы падфарбаваныя.

Хворы ляжаў пад кропельніцай. Твар яго быў як мукой прыцярушаны, шчокі запалі, вочы ўваліліся. Востры кадык зрэдку торгаўся пад сівой шчэццю.

Яна абышла вакол ложка, паглядзела на шнар. Села побач, на крэсла з жалезнымі ножкамі, і прасядзела амаль гадзіну, адно галавой хітала ды насоўку камечыла. А калі пачула, што дактары па калідоры ідуць — сышла на свой паверх.

Медыкі рабілі што маглі. На трэці дзень раніцай хворы расплюшчыў вочы і паварушыў пальцамі правай рукі. А вось усмешка не атрымалася. Левая палова твара не рухалася. Гаварыць пакуль не дужаў.

А яшчэ праз дзень Віцька Кныш памёр. Другі інсульт — і яго не стала на белым свеце. Праз сем дзён яго пахавалі, бо сваякоў, дзяцей і жонку знайсці не змаглі, нават і не ведалі, дзе тыя ёсць.

Валянціна — малодшая сястра Віцькавага аднакласніка — ішла з могілак па вуліцы Школьнай. Яна, як і раней, жыла ў «этээраўскім» доме. У спіну дзьмуў заходні вецер, гнаў перад сабой пасохлую лістоту. Немаладая жанчына, у якой былі дарослыя дзеці і ўжо два ўнукі студэнты, усміхалася. Яна нават каўзанулася па лядку плыткай калюжыны, праехала колькі крокаў.

Сцюдзёны лістападаўскі вецер выдаваў гарачым, як Віцькава дыханне. Ёй здавалася, што яна сядзіць на мулкай раме, а Віцька Руды круціць педалі і жарка дыхае ёй у шыю...

...І адно яе толькі засмучае, што вуліца Школьная такая кароткая.

17.10.2005 г.

## ПАЛІТО

Старая аднапавярховая аптэка месціцца насупраць Палаца культуры. Калі праходжу побач з ёй, абавязкова падыму галаву, гляну на цёмныя вокны гуртка выяўленчага мастацтва, які наведваў гады чатыры ўзапар. Хадзіў туды ледзь не штодня, заседжваўся да ночы, аж пакуль не праганялі... Гурток, які працаваў гадоў дваццаць і з'яўляўся гонарам гарадскога пасёлка, перастаў існаваць разам з кіраўніком. Не стала настаўніка — не стала і гуртка. Памяшканне з вялікімі вокнамі і паркетнай падлогай ёсць. Сцены стаяць. І начынне засталося: мальберты, стэлажы, гіпсавыя скульптуры, самавары, прасы, васковыя муляжы садавіны і гародніны. Кавалкі рознай тканіны. Шкілет чалавека, зразумела, штучны, і белыя чарапы каня, каровы, авечкі, сабакі — самыя сапраўдныя...

Колькі ні спрабавалі аднавіць гурток — не атрымалася.

Я стаяў у чарзе па таблеткі, разглядаў аптэчнае шкло — бутэлечкі рознапамерныя, і думаў пра маленькія малюнкі выдатнага мастака Мітрохіна. Заўсёды менавіта ў аптэках згадваю яго простую і выразную графіку, а таксама гравюры і малюнкі чорнай тушшу японскіх мастакоў...

Мужчына за спінаю кашлянуў, але не так, як кашляюць ад хваробы, а так, каб звярнулі ўвагу. Высокі мужчына ў шэрым зімовым паліто камечыць у руках чорную кудлатую шапку і глядзіць на мяне. Твар яго доўгі, паголены кепска, на падбародку шчэць шэрая, а рот фіялетавы, як атрамантам перапэцканы, рэдкія шэрыя валасы да ілба папрыклейваліся. Незнаёмы твар, зусім незнаёмы. Пацiскаю плячыма і працягваю на паліцы дзівіцца, спрабую засяродзіцца, каб зноў пра японскіх паэтаў і аптэчныя бутэлечкі думаць.

— Што, не пазнаў... — гучыць у вуха. — Захварэў?

Міргаю, углядаюся ў незнаёмы твар.

— А я цябе адразу пазнаў, як толькі ў аптэку зайшоў. Глянуў і пазнаў.

— Бывае, — прамовіў слова і не ведаю, што далей сказаць.

— Я — Даніленка Міхась. Мы з табой разам у студыю хадзілі, маляваць вучыліся. Да Сільвестравіча... — кажа ён абсалютна без усялякіх сантыментаў у голасе.

Дзіўна. Але так бывае. У пасёлку людзей няшмат, а трыццаць гадоў не бачыліся. Паціскаем рукі, але маршчыны на Мішкавым твары не разгладжваюцца, не знікаюць. Яго доўгі твар не маладзее, а наадварот камянее, шэрыя вочы цямнеюць. Звычайна знаёмыя дзяцінства — аднакласнікі, аднагодкі — просяць грошы і прапануюць разам выпіць. Калі грошы ёсць — даю, без надзеі, што яны вернуцца. Але бывае, што пазыкі вяртаюцца. Сябры, з якімі басцяўся па пыльных вулках і цёмных калідорах старой аднапавярховай школкі, прыносяць грошы маме і дзякуюць. Пры наступнай сустрэчы, праз год-два, нагадваюць, што пазыку вярнулі і зноў просяць... Але Даніленка грошы пазычаць не збіраўся.

— Ты таксама змяніўся. Сівы нейкі. А я вось лысы амаль зусім.

— Гады́ — га́ды, — кажу банальны жарт, каб не маўчаць, каб запоўніць пустату.

— Кажаш, гады, — паўтарае мой сумны жарт Даніленка. Націск падае на першы склад кароткага слова.

З аптэкі выходзім разам. Стаім перад Палацам культуры, пад цёмнымі вокнамі гуртка. Маўчу, бо скурай адчуваю, што ён зараз скажа нешта такое, пра што доўга, нястомна і напружана думаў.

— А ты ніколі не згадваў той вечар, калі мы з табой вось тут пабіліся? Што, не чакаў такога пытання, маўчыш? Значыць, не ду-

маў. Як гэта так: ты, слабейшы і меншы за мяне, змог тады перамагчы?

— Змог жа неяк... А як, і сам не ведаю, — кажу не без лёгкага, амаль незаўважнага гонару. І вось што цікава, не дапамог ніхто, сам.

— Значыцца, думаў, — на Мішкавым твары на імгненне з'яўляецца радасць.

Кручу пачак цыгарэт, спрабую ўздзець пальчаткі. На вуліцы сцюдзёна, ветрана, а мой знаёмы шапку камечыць. Вочы ад ветру блішчаць.

— Я табе паддаўся, — ціха і сумна кажа ён і ўглядаецца мне ў вочы. — Паддаўся.

Адварочваюся, спрабую запаліць, вецер задзімае агеньчык.

— Як жа я цябе ненавідзеў... Каб ты толькі ведаў... Каб ты не з'ехаў — я б цябе забіў.

— За што, Міша? За тую дурную бойку? Кінь... Калі яно было?

— Пры чым тут бойка? Ты мне жыццё зламіў, праз калена. І нават не задумаўся...

— ...

— Гэта я павінен быў мастаком стаць, у сталіцы вучыцца. Я ў царкву хаджу...

На такія словы застаецца адно хітаць згодна. Што і раблю.

— А ты, відаць, і не памятаеш, калі там быў.

— Бывае, заходжу.

— Я не п'ю і не палю — вера забараняе. — Слова «вера» прагучала як імя жанчыны.

— ...

— Я радаваўся, як на крылах лётаў, калі Сільвестравіч цябе з гуртка выгнаў і вітацца нават з табой перастаў. Думаў, што ўсё табе, не падняцца, і перамога за мной. Мне трэба было тады, каб ты мяне збіў, змясіў як след. Вось тут, пад вокнамі. Я крычаў, каб Сільвестравіч у акно пабачыў... Атрымліваецца, дарма... Усё жыццё міма.

Немалады мужчына ў доўгім паліто і з кудлатай шапкай у руцэ ішоў па вуліцы, сыходзіў, а я стаяў пад аптэкай і глядзеў, як жанчыны ў белых халатах парадкуюць лекі ў асветленай зале.

Аказваецца, не такое яно было і салодзенькае, не такое цукровае — дзяцінства ў пасёлку... Не ўсё там празрыста і бясклапотна...

Памятаю засяроджаныя і злосныя твары гурткоўцаў. Восеньскі вечар. Халоднае святло ліхтара. Калі яшчэ толькі сыходзілі па шырокіх лесвіцах з Палаца культуры, я напэўна ведаў, што пачнецца на вуліцы. Бойкі не баяўся. Рэдка бывае, калі не страшна біцца. Тады страшна не было зусім. Мы з сябрам і пяць падлеткаў супраць нас. Мішка сказаў, што будзе біцца толькі са мной, а астатнія каб не лезлі, стаялі і не мінаналі... Ён разлічваў, што я спалохаюся і ўцяку. Не атрымалася — не кінуўся я ў ратавальную цемру. Біліся пад ліхтаром. Качаліся па асфальце і клумбе, рвалі адзежу, кусаліся, білі кулакамі куды траплялі...

Я падняўся на ногі, а ён застаўся ляжаць акрываўленым тварам у асфальт. Я ганарыўся сабой, і мой сябар мяне падбадзёрваў. Дома мяне ванітавала, як прытручанага. Бацькі толькі на раніцу агледзелі, які іх сын. Мама абмацала галаву і грудзі. Да мяне прагучала кароткае «пасодзяць», а да бацькі — злоснае «а ты што маўчыш?»

Мішку завялі тым жа вечарам у бальніцу. Наклалі колькі швоў, прамылі раны, перавязалі, а на раніцу знялі пабоі і склалі заяву ў міліцыю.

З гуртка мяне выгналі на наступны дзень. Вінаватым я сябе не лічыў, бо сам на бойку не напрошваўся і першым не лез.

Мішка Даніленка — стараста гуртка. Выдае паперу, алоўкі, тушыць святло, замыкае пасля заняткаў студыю і здае пад роспіс у гардэроб вялікі самаробны ключ, які пахне латунню і пакідае на пальцах цёмныя сляды. Калі я прыйшоў у студыю, Мішка займаўся два гады і вельмі добра маляваў. А я маляваў кепска ў параўнанні з астатнімі. Усё атрымлівалася нейкім кволым, крывенькім, нязграбным. А галоўнае, абсалютна нежывым. Фарбы на маіх краявідах і нацюрмортах былі блёклыя, брудныя, цьмяныя і невясёлыя... Стараўся, хацеў, са скуры быў гатовы вылузнуцца, але не атрымлівалася. Праўда, настаўнік зрэдку казаў што-небудзь суцяшальнае, падбадзёрваў — не за малюнкі, а за стараннасць. Але мая стараннасць і працоўны фанатызм былі нішто ў параўнанні з Мішкавымі высілкамі і прагай дасканаласці. Ён мог сядзець не разгінаючыся. Не адыходзячы ад мальберта паўдня, і як толькі вытрымліваў...

Мяне Мішка не залюбіў адразу. Не спадабаўся я яму, ну зусім не прыйшоўся. Не ведаю, за што і чаму... Адно, што прыходзіла ў галаву, дык тое, што Сільвестравіч быў маім суседам і часам мы

разам прыходзілі ў студыю, а бывала, што і сыходзілі. Але я тут ні пры чым — проста ён жыў з нашай суседкай.

Як так атрымалася, і пра што я думаў, калі маляваў Мішкава старое восеньскае паліто на старамодным выкручастым вешаку, не ведаю і растлумачыць не магу. Здаецца, ні пра што такое не думаў. Глядзеў то на паліто шэрае, зношанае, абтрапанае, то на паперу — і крэмзаў, штрыхаваў… Паліто на малюнку нечакана для мяне самога атрымалася пазнавальным і жывым. І хлясцік з адарваным гузікам, і пакамечаны каўнер, і адтапыраныя кішэні — усё склалася адно да аднаго. Яно, паліто, — рыхтык гаспадар, партрэт Мішкі Даніленкі, яго фотаздымак. А гумку, каб нешта падцерці, паправіць я ні разу ў руку не ўзяў — не часта такое бывае…

Заставалася зусім мала, каб скончыць. Але Мішка палез па кішэнях і ўсё імгненна змянілася. І рукавы не так вісяць, і каўнер не туды глядзіць… Зноў так паліто не павесіш — кожны разумее. Паліто не табурэтка, не кубак з адколатай ручкай…

Я нешта сказаў, не стрымаўся. Нават не мог згадаць потым, што менавіта, якія словы вырваліся, зляцелі з языка. Відаць, крыўдлівыя, але не надта, бо ён тады не адказаў.

Настаўнік спыніўся толькі перад маім малюнкам.

— Твой? — ён ласкава зірнуў на старасту гуртка.

— Гэта мой… — сказаў я ціха і адляпіўся ад сцяны.

Настаўнік не пачуў, ён прысеў на кукішкі перад планшэтам.

— Акакій Акакіевіч Башмачкін… Не новы шынель, а той — стары… Зношаны, які вецер наскрозь прадзімае… Бач ты, аж мароз па скуры прабягае… Вось так і трэба маляваць, зайздрошчу — маладыя вы зусім.

— Гэта мой малюнак, — прашаптаў я і пачырванеў, каб потым збялець.

На твары настаўніка застыла непадробнае здзіўленне. Ён не знайшоў нічога лепшага, як пагладзіць мяне па галаве.

Таго малюнка праз два дні не стане. На яго выпадкова выплехнецца густая алейная фарба. Ярка зялёная, як першая трава. І вінаватых не будзе…

Потым, праз гады, у мастацкай вучэльні і мастацкім інстытуце, будуць знікаць лепшыя малюнкі, будуць запісвацца паверху парт-

рэты і нацюрморты, пэцкацца і рвацца палотны і аркушы, у выдавецтве будуць губляцца ілюстрацыі да кніжак...

Гэта будзе працяг прыгодаў «шыняля». Таго самага, праз зношаную тканіну якога праглядае невыводная чалавечая зайздрасць.

Сакавік 2005 г.

## ПАРТРЭТ

У суседкі па лесвічнай пляцоўцы цёткі Ніны на сцяне карціна. Не вышываныя крыжыкам каты ў кошыку ці кветкі ў пукатым вазоне, ружы там яркія, як полымя... Ці гронкі бэзу, бэзавыя, як мачалка ў эмаліраваным тазіку... Не выдраная з часопіса, а потым прыклееная да кардона, рэпрадукцыя. На сцяне, над канапай, пад шклом — сапраўдная карціна. Мора... Хвалі, скалы, цёмнае неба невытлумачальнага колеру, пена на высокіх хвалях, пырскі і чайкі... Менавіта такім і павінна быць мора. Калі я трапіў на бераг сапраўднага мора, то моцна здзівіўся і расчараваўся. Думаў, яно бурапеннае, а насамрэч мора аказалася маўклівым і амаль нерухомым, як бязмежная калюжына.

У дзяцінстве, не сакрэт, многае падаецца таямнічым, велічным, а не звыклым і будзённым, не такім, як на самай справе.

Гэта яна, бяздзетная саракагадовая жанчына, навучыла мяне шасцігадовага чытаць і пісаць крывымі, вялікімі друкаванымі літарамі. Ад той дзіцячай звычкі я не пазбавіўся і сёння. Пішу друкаванымі літарамі, дробнымі, роўнымі, як шрот. Гадзінамі суседка магла сядзець на канапе і чытаць услых дарослыя кнігі. Як чытала — памятаю. А вось пра што, на жаль, забыўся. Яна чытала, а я слухаў і глядзеў на сапраўдную карціну над яе галавой. Праз кожныя паўгадзіны суседка перапытвала і ўдакладняла, ці ўсё мне малому зразумела. Казаў, што зразумела. Упэўнены голас запаўняў невялікі пакой.

А яшчэ былі бенгальскія агні... Вось гэта — дзіва, радасць і свята. Яны з'яўляліся, калі цётка Ніна зусім стамлялася чытаць, а я стамляўся глядзець на карціну. Сабе суседка брала скрыначку запалак, а мне давала металічны пруток у шурпатай, як акамянелы

попел, абмазцы. Язычок полымя кранаўся прутка, і праз колькі імгненняў пруток пстрыкаў, сіпеў, трашчаў, сыпаў зыркімі іскрамі на ўсе бакі... У цемры пакоя былі толькі нашы бліскучыя вочы і пачварныя цені на сценах і століі, і кветка агеньчыка ў маёй руцэ. Зорачкі сыпаліся, ляцелі, ляцелі... Бенгальскія агні згараюць хутка, але запамінальна.

У пасёлку няшмат тых, хто не па святах і выхадных носіць адпрасаваны гарнітур, белую кашулю пад гальштук, да бляску наваксаваныя чаравікі, фетравы капялюш, упрыгожаны шаўковай стужкай і ў дадатак груваслкія акуляры. Уладзімір Сільвестравіч Камоўскі — адзін з нямногіх, а можа, і адзіны. Сільвестравіч — мастак, адзіны і сапраўдны. Усімі прызнаны, усімі паважаны, карацей, мастак і ўсё тут. Звяртаюцца да яго не інакш, як па бацьку. Павітацца з Сільвестравічам за руку — гонар і дырэктару шклозавода, і стаматолагу, да якога без блату не дагтупіцца, і начальніку міліцыі, і бруднаму сантэхніку.

У Сільвестравіча ёсць старэйшы брат. Яны вельмі падобныя адзін да аднаго. Падобныя, як чорна-белая фотакартка з каляровай. Калі быць больш дакладным — як расфарбаваны здымак з чорна-белым.

Старэйшы Камоўскі — начальнік камунальнай службы пасёлка, яму падпарадкоўваюцца зваршчыкі, сантэхнікі, прыбіральшчыкі і прыбіральшчыцы, а таксама могілкі... Старэйшы з братоў чырванатвары, белазубы, дужы, акуляры не носіць, але глухаваты. Ён круглы год купаецца, не зважаючы на надвор’е, і бегае вакол возера, размахвае рукамі, як крыламі... Спыніцца побач з рыбакамі і пачынае агітаваць за здаровы лад жыцця. А калі адбяжыць, рыбакі запаляць, пальцамі каля скроняў пакруцяць і кінуць услед што-небудзь крыўднае, абразлівае.

Малодшы Сільвестравіч паліць. Цыгарэта, заціснутая вялікім і ўказальным пальцамі, — такая ж дэталь знешняга выгляду, як і груваслкія модныя акуляры. І запальнічка заўсёды побач, пабліскавае ў пальцах, калі гаспадар размаўляе або чытае газету, праглядае часопіс.

Старэйшы брат прыйшоў у майстэрню, калі малодшы маляваў зімовы краявід з чырвонымі заводскімі комінамі, з якіх уздымаецца бэзавы дым. Ён прынёс водар вуліцы і радасны смех абсалютна здаровага і ўпэўненага ў сабе чалавека. Гучна, як усе глухаватыя,

павітаўся, скрывіўся ад тытунёвага дыму, замахаў рукой, а потым выцягнуў з-за пазухі часопіс і паклаў побач з братам на край пісьмовага стала. Хоць і было тое даўно, а фразу памятаю, як толькі што пачуў.

— Вось, пачытай, не пашкадаваў рубель, табе набыў... Тытунь — найкарацейшы шлях да анкалагічных хваробаў. Вучоныя і медыкі гэта з лічбамі і прыкладамі даводзяць. А ты цыгарэту з пальцаў не выпускаеш, — сказаў, як прысуд абвясціў, і пайшоў.

— Сказаў дык сказаў… Быццам я без яго не ведаў. Разумнік, — прамовіў мастак і расціснуў недапалак.

Часопіс быў слізкі. Чорна-чырвоная вокладка, і на ёй шэры, як штопар, струмень дыму, уваткнуты ў намаляваныя лёгкія. Сільвестравіч няспешна перагортваў старонкі і паглядаў на свой недароблены краявід.

Чым менш на галаве валасоў, тым часцей у руках з'яўляецца грабеньчык.

Уладзімір Сільвестравіч — мужчына адукаваны, ветлівы, да жыцця ставіцца з разумнай цярплівасцю, але ён не ёсць персанаж цалкам станоўчы. Сільвестравіч — мастак, але з жонкай не жыве — сышоў. Там засталіся два сыны, кватэра, бібліятэка і мінулае жыццё, мачыма, нават някепскае. Другога б абгаворвалі і асуджалі, цыкалі б услед, але ён не другія — ён сам па сабе, а таму плёткі да яго не ліпнуць, ды і прыслухоўвацца да іх ён не збіраецца... Калі хто і асуджаў яго — толькі старэйшы брат.

Сільвестравіч перайшоў жыць да нашай суседкі. Раніцай, калі я спяшаюся ў школу, ён звычайна чысціць на лесвічнай пляцоўцы чаравікі. Хоць яны і так бліскучыя, нібы толькі што з абутковай крамы. Спазніцца на працу, у адрозненне ад маіх бацькоў і суседзяў, ён не баіцца. Мастак у маштабе гарадскога пасёлка — гэта як касманаўт, а можа, нават і лепей.

Суседка цётка Ніна паслала мяне ў Палац культуры з даручэннем, каб занёс Сільвестравічу кефір, кашу, тэрмас з запаранай травой.

Майстэрня на трэцім паверсе. Вечар. Паўцёмныя шырокія калідоры, бліскучы навошчаны паркет. Дзверы ў майстэрню прычыненыя, праз вузкую шчыліну відаць край палатна і плячо ў сінім халаце...

Пэндзлік дакранаецца да шурпатай паверхні палатна і пакідае след. На палітры толькі дзве фарбы: белая і карычневая. Партрэт робіцца ў два колеры. Так мой настаўнік маляваў правадыроў да святаў, так, толькі з большай стараннасцю і імпэтам ён малюе сябе. Гэта не аўтапартрэт. Гэта — партрэт для жалобнага шэсця, які панясуць перад труной. А труна будзе ехаць на машыне з адкінутымі бартамі.

Такіх партрэтаў мастак перамаляваў дзясяткі. Навучыўся рабіць хутка. Учора замовілі, а на другі дзень пад абед і забіраць можна. Але адна справа маляваць некаму і зусім іншая — сабе самому. Сільвестравіч хвалюецца, і пэндзлік калоціцца. А таму рука абапіраецца на муштабель, і тады з'яўляецца дакладнасць. Я таго партрэта спалохаўся, аж пад пахамі мокра зрабілася.

— Ну як табе, падобна?

Ён не дачакаўся маіх слоў. Ён спяшаўся, бо з бальніцы пусцілі адно на выхадныя. Выглядаў Сільвестравіч кепска. Зжаўцеў і схуднеў неверагодна. Гадзіннік з рукі як не саслізне, круціцца на белым запясці... А валасоў на галаве зусім мала, шэрыя нейкія, як павута. А на карычневым партрэце з валасамі поўны парадак, і гальштук у белыя бубачкі. І пінжак строгі — выхадны, а вось акуляраў звыклых няма... Фотакартка прыклеена ў куце палатна, яна таксама ў карычневых танах.

Сільвестравіч не паліць, на стале чыстая шкляная попельніца. А таму ў майстэрні пахне не тытунём, а лекамі і гуталінам. Пах нязвыклы, чужы.

— Ты не хвалюйся, можа, усё яшчэ і абыдзецца. Хірург ён добры, самы лепшы. Памятаеш, я яго жонку маляваў і цешчу потым... Так што ён мне па жыцці вінен... Будзе старацца, я ж яшчэ не стары — пяцьдзясят з хвосцікам. А мой брат паўдурак прынёс у палату кніжку пра анкалагічныя захворванні... Дадумаўся. Кажа, што праўда лепш за таблеткі.

Ён зняў партрэт з мальберта і занёс у суседні пакой, дзе таксама майстэрня, у якой працуюць памагатыя. Там праца кіпіць ад рання да вечара: фарбюцца планшэты, выразаюцца трафарэты, абцягваюцца падрамнікі палатном... А ў яго пакоі, пасля таго як гаспадар захварэў, — тужлівая цішыня. Прыбіральшчыца кожную раніцу прыходзіць, пыл выцірае, попельніцу чыстую па стале перасоўвае, ад гэтага яшчэ больш сумна робіцца. На сценах тры старыя гадзін-

нікі — усе тры стаяць. Заводзіць умее толькі гаспадар. Сам адраманатаваў, яго яны толькі і слухаюцца.

Майстэрня за сцяной, у якой працаваў Віцька Казей, загарэлася. Кінуў хлопец недапалак у сметніцу, не патушыў як след, а сам пайшоў на другі паверх рукі і пэндзлі мыць. Сметніца, поўная паперы рэзанай, стаіць пад стэлажом, на якім карціны Сільвестравіча акуратна спакаваныя.

Прыйшоў Віцька, дзверы расчыніў, а за імі полымя шугае, праз дым толькі акно бялее. Віцька да акна і кінуўся, адчыніў. Вось тут і пачалося па-сапраўднаму — затрашчала, зашумела, загуло, як у печы. Скразняк завіхурыў агонь па ўсёй майстэрні. Шкіпінар, лакі. Ацэтон. Распускальнікі, кумач, папера, дыкта сухая, дошкі, рэйкі — усё загарэлася... Віцька рабіў што мог. Крычаў, на дапамогу клікаў. Халатам сацінавым полымя збіваць спрабаваў. Але дзе там...

Знявечаныя, абгарэлыя карціны, малюнкі, тысячы эцюдаў, партрэты пажарнікі выкідвалі на вуліцу, выцягвалі ў калідор. Агонь, вада, пена — знішчылі амаль усё...

Старэйшы брат і расказаў малодшаму пра пажар у майстэрні. Адведаць прыйшоў хворага, соку слоік прынёс, мёду свежага... «Праўда лепш за таблеткі...»

Віцька Казей у бальніцу да настаўніка ісці баяўся, а я пайшоў, суседка папрасіла.

— Ну што там?.. Партрэт хоць цэлы? — пытанне прагучала ў падлогу.

Партрэт згарэў, але я, каб суцешыць Сільвестравіча, зманіў. Сказаў, што партрэт якраз і цэлы. Нават не абгарэў.

— Хоць гэта добра, — прамовіў ён. — А Віцьку скажы, каб не хваляваўся, на праводку спішуць, на кароткае замыканне, я брата папрасіў — ён абяцаў з усімі дамовіцца... Галоўнае, што партрэт застаўся...

Той фотаздымак, з якога настаўнік маляваў свой апошні партрэт, мне прынесла наша былая суседка — цётка Ніна. Фотаздымак быў загорнуты ў белую шалёсткую паперу, правы верхні ражок запэцканы карычневай фарбай.

Бенгальскія агні... Зыркія іскры... Жыццё праходзіць хутка і канчаецца смерцю.

Жыццё кароткае, а мастацтва вечнае... Можа, яно і так, хочацца спадзявацца.

Было яшчэ колькі абгарэлых па краях эцюдаў. Зялёнае поле, вузкая сцежка, сіне-белае неба і гэтак далей. Разумею, што гэта не мастацтва... Як, магчыма, і тое, што пішу сам друкаванымі літарамі, дробнымі, як шрот. Ёсць пэўная змушанасць і наканаванасць у паводзінах, ад іх не пазбавіцца. І таму даводзіцца рабіць тое, што робіш.

2005 г.

## ПА ТОЙ БОК НОЧЫ

У мяне заўсёды была і ёсць упэўненасць, што ў жыцці няма выпадковасцей, усё звязана, знітавана, пераплецена, і падзеі, на першы погляд далёкія ў часе і па месцы дзеяння, — пачатак і працяг адно другога… Ланцуг, імя якому, — жыццё.

Залева… Парасон не ратуе. Раптоўны вецер выдзірае, разломвае, выхоплівае яго з рук. Што такое парасон супраць сапраўднай летняй залевы? Маланка, грукат перуна, перакуленыя пластыкавыя крэслы вулічных кавярняў і зняверчаныя ветрам стракатыя парасоны. Праз сотню крокаў нічога не відаць…

На століку гарэлка, попельніца з цыгарэтай, ад якой уздымаецца струменьчык шызага дыму… І гісторыя — насамрэч дзіўная…

Восем гадоў таму я пазычыў Кастусю грошы. Пазычаць не хацелася, добра памятаю, але ж даў… Грошы, хоць і са спазненнем, — вярнуліся. Праз год грошы спатрэбіліся мне. Звярнуўся да Кастуся, бо ведаў, што ён «падняўся» і пры «бабках». Не нахабна і жорстка, што было б лепш, а спакойна і нават ласкава, ён адмовіў. Спаслаўся на цяжкія часы, а калі яны былі лепшыя, — на тое, што грошы ў справе і вытаргнуць патрэбную суму ён не можа, калі толькі праз месяц ці два. Ні праз месяц, ні праз год я да яго не звярнуўся… Выкрасліў Кастуся Троса з нататніка. Ён перастаў для мяне існаваць.

Піўны бар — бліжэйшае месца пад дахам. Паўцёмны, не вельмі ўтульны, са сваімі сталымі наведвальнікамі, і такімі ж выпадковымі, як і я. Над стойкай успыхвае, быццам змагаецца з маланкай, экран тэлевізара. Рэклама! Кліп! Рэклама!..

З келіхам у руцэ і мокрым, аж цячэ, парасонам азіраюся, шукаю вольнае месца, каб перачакаць залеву…

Кастусь Трос (Трос — прозвішча і мянушка адначасова) крануў мяне за плячо… Столік у самым далёкім і цёмным куце побач з акном. Шторы шчыльна ссунутыя. Гарэлка, попельніца… і навальніца там, за сценамі.

Спрабую схаваць сполах, стараюся на Кастуся не глядзець, але вочы самі…

— Што, спалохаўся? — голас той жа, толькі самаўпэўненасці бракуе.

Рукі, шыя, падбароддзе ў чырвона-шэрай каросце. На парэпаных пальцах амаль няма пазногцяў.

— Ну, што скажаш?

— Нават і не ведаю.

— Ты пі. Гарэлкі, хочаш, пліхну… Хвароба не перадаецца, — кажа Кастусь і сваім кілішкам чокаецца з маім келіхам.

Узнікае думка, што лепш было б пайсці залевай, змокнуць, як сабака…

У тыя часы, калі мы пазнаёміліся, Кастусь ганяў машыны з Захаду ў Беларусь, а калі трэба, то і далей, нават за Урал.

Перагоншчыкі — людзі не зусім звычайныя. Прафесія, занятак змяняюць чалавека. Рызыка, міліцыя, бандыты, вялікія наяўныя грошы, памежнікі, мытнікі, дакументы, з большага падробныя, хабар, зброя і гэтак далей. Перагоншчыкі — не бандыты, але і сумленнымі іх не назавеш. Шмат у іх працы трымаецца на слове: паабяцаў — зрабі. Не зрабіў — адказвай.

Кастусю, ведаю, шанцавала. Танна купляў, а часам краў машыны там, а тут задорага прадаваў.

Вялізны — пад два метры, — дужы, але хуткі і абаяльны. Бабы, як ён казаў, на яго вешаліся, а ён не адмаўляў ні непрыгожым, ні састарэлым… Яго хапала на ўсіх: на жонку, каханак, знаёмых, на прастытутак Гамбурга і Варшавы, Цюрыха, Вроцлава, Брэста, Гродна, Мінска.

— Гэтая брыда па ўсім целе… На спіне, на сцёгнах і нават там, на ім… Не магу больш… Ты гэтага не зразумееш.

— А як яна называецца?

— Дактары дзівяцца… Сукі… Кажуць, што такой не бачылі. Адзін перад адным хваляцца… А я бабу трахнуць не магу… Баліць… Як у полымя ці ў кіслату трапляе…

Кастусь п'е гарэлку, на мяне глядзіць так, быццам я магу дапамагчы.

— А піць табе можна?

— Нельга… Каб ты толькі ведаў, каб ты толькі ведаў, колькі я на лекі звёў… На дактароў гэтых, на бальніцы, на шпіталі, на бабулек і дзядкоў — каб іх… Ніхто ж не адмаўляецца… Кожны абяцае хваробу перамагчы… Я ж на Мёртвае мора тройчы ездзіў. Гэта жах… У ваду заходзіш — быццам скуру жыўцом злупліваюць… А ты як…

Зразумела.

— …

— А мяне жонка кінула… Спілася, сучка… Гідлівая сучка. Не верыла, што хвароба не перадаецца.

— А даўно?

— Два гады.

Пра незаробленыя грошы і незалечаныя хваробы чалавек можа гаварыць доўга і ўпарта.

— А Віцькі няма… Паехаў без мяне, са мной жа не паедзеш… На мяжы Германіі і Польшчы паклалі… А хто, не ведаю, зрэшты, якая розніца, хто: паны ці фрыцы… Без розніцы.

Вочы майго суразмоўцы цямнелі, правальваліся ў вачніцы.

— Я таго салдата вось гэтымі рукамі прыдушыў бы… Усё праз яго, — хрыпеў Кастусь і цягнуўся да маёй шыі знявечанымі хваробай пальцамі.

У душы мастака, літаратара-творцы ёсць кволае спадзяванне, слабенькая надзея, што прыдуманае ім, перажытае, а потым перанесенае на палатно, паперу, ператворанае ў словы, выявы, вобразы, — уратуе яго, і лёс будзе літасцівым, непазбежнае абміне. Але гэта, ведаю, адно спадзяванні… На жаль. Ад непазбежных навінаў нават адключаны тэлефон не ўратуе.

…Першы нумар беларускай газеты «Свабода» надрукаваў на разгортцы чатыры з васьмі карцінаў пад агульнай назвай «Страшны суд». На кожным з палотнаў — знявечаная галава, паўразбураная смяротнай хваробай — ракам скуры. Чаму менавіта гэты твор абрала рэдакцыя для першага нумара, — цалкам зразумела. А што яшчэ можна прыдумаць і надрукаваць, каб скалануць і зрушыць

свядомасць чытача? Шэрыя, з паліграфічным растрам фотаздымкі палотнаў «білі па мазгах» мацней за самыя гучныя лозунгі, шчырыя артыкулы і самыя дакладныя лічбы…

Да моманту надрукавання палотны, амаль дзесяць гадоў нікому не вядомыя, захоўваліся ў сутарэннях Дома літаратара, разам са стосамі перавязаных шпагатам старых часопісаў, зжаўцелых газет і непатрэбных кніг.

…Халоднай вясной тысяча дзевяцьсот семдзесят дзявятага года я з сябрам набыў у кнігарні «Дружба» насупраць уваходу ў Парк Чалюскінцаў невялікую польскую кніжачку ў мяккай вокладцы. Раней і пазней у той кнігарні я набываў кніжкі адно па мастацтве. Не памятаю, колькі яна каштавала, але думаю, што няшмат, а вось непрыемнасцей праз яе, як у маім жыцці, так і ў жыцці сябра дадалося. Кніжка тая была медыцынская: тэкст і два дзясяткі фотаздымкаў на ўсю старонку. Фотакарткі чорна-белыя: дзеці, мужчыны, жанчыны — розныя ўзросты, ад немаўляці да зусім старых. Рак скуры буйным планам, нават у паталагічным набліжэнні. Ад здымкаў калаціла, перахоплівала дыханне, круціла ў жываце. Разглядаць доўга такое цяжка, але мы разглядалі.

Летам таго ж года нам давялося працаваць на рэстаўрацыі касцёла ў Мсціславе. Мы — студэнты-мастакі, лічылі сябе, і не беспадстаўна, геніямі. У дваццаць, калі яшчэ амаль нічога не зроблена, а наперадзе доўгае жыццё, такое даравальна. А калі ты геній, то паводзіць і працаваць павінен адпаведна. Думаць-разважаць мусіш не над дробнымі тэмачкамі і праблемамі, а над вялікімі, усеабдымнымі… Максімалізм, адсутнасць аўтарытэтаў, смеласць на мяжы з нахабствам — усё гэта было, не адняць.

Над баракальнымі фрэскамі — анёлы, кветкі-лілеі, капітэлі, святыя, паўсцёртыя часам, — працавалі з рання да вечара, аж пакуль у касцёле не рабілася сутонліва-змрочна. А потым, калі злазілі з рыштаванняў на зямлю (адкуль толькі сілы браліся) — зноў працавалі…

Мы прывезлі ў Мсціслаў дванаццаць палотнаў памерам пяцьдзясят на семдзесят сантыметраў. Фармат стандартны: што перадавіка вытворчасці напісаць, піянера-героя ці дзеяча тагачаснага палітбюро. Кніжачка «Рак скуры», набытая халоднай вясной, прыдалася гарачым летам. Мы вырашылі стварыць свой «Страшны суд»,

стварыць так, як разумелі на той час. А што? Чым мы горшыя за Мікеланджэла Буанароці, Дантэ Аліг'еры, Іераніма Босха, Агюста Радэна?..

Па вечарах, начах, слепячы вочы, па выхадных — мы пераносілі фотаздымкі на палатно, павялічвалі ў дзясяткі разоў смяротныя разбурэнні, якія несла з сабой хвароба. Старанна, рупліва-апантана, з вар'яцкай упэўненасцю ў тым, што наша праца зможа змяніць свет да лепшага. Пакрысе ўзнікалі выявы: твары людзей, якія разбурае хвароба. Знішчэнне знешняй абалонкі… Карціны не выклікалі паталагічных адчуванняў: акуратныя, шэра-алавяныя выявы… Калі палотны стаялі адвернутыя да сцяны, то праз загрунтаваную срэбна-цёплую тканіну праступала хвароба, абрысы язваў — сляды смерці…

Менавіта за карціны, за «Страшны суд» рэстаўратары выгналі і мяне, і майго сябра Валодзю з працы, з касцёла, з храма, з Мсціслава.

Мы з'ехалі аўтобусам разам з няскончанымі карцінамі, упэўненыя ў сваёй праўдзе. Да выбуху рэактара на Чарнобыльскай станцыі заставалася сем гадоў…

Нячаста, але бывае, што пры сутыкненні з незразумелым, невытлумачальным, непазбежным — душа сціскаецца, змяншаецца да маленькай чорнай кропкі… Адчуваеш поўную бездапаможнасць перад жыццём… І тады разумееш, што застаўся сам на сам, а той, хто вёў, падказваў — адышоў, пакінуў цябе на дарозе, і невядома, ці вернецца, згадае пра тваё існаванне і дасць паратунак…

…Анёл на дарозе. Вялізны, заляпаны гразёй, пыльны, а таму нават колер вызначыць немагчыма, джып імчыць па шашы. У машыне бліскучае і чыстае — працертае шчоткамі пярэдняе шкло. Нумары (транзітныя) прачытаць немагчыма, бо іх запэцкалі знарок.

Пра што могуць гаварыць Кастусь з Віктарам? Зразумела, пра грошы, жанчын, гарэлку ды іншыя ненадакучлівыя і дасягальныя кайфы. Яны пераганяюць скрадзены ў Нямеччыне, перакінуты ў Польшчу і там набыты ў пана з цяжказапамінальным прозвішчам амаль што новы аўтамабіль. Машыну вядуць па чарзе — трыста кіламетраў адзін, кароткі прыпынак, потым мяняюцца месцамі. Спяшаюцца, пакуль яшчэ ёсць магчымасць паспець да Піцера ў час, зразумела, калі ўсё будзе добра. Харчавацца даводзіцца ў машыне.

Восень. Кастрычнік. Краявіды абапал шашы бязрадасныя, над даляглядам нізкія і цяжкія, як тыя мяхі з зямлёй, хмары. Асфальт то чорны — намачыў дождж, то шэры і пыльны. Па шкле — то касыя ручаі бягуць, і шчоткі ледзь паспяваюць скідваць ваду, то сонца б'е ў твар, у пачырванелыя вочы.

Перагоншчыкі колькі дзён няголеныя, а таму твары зверавата, як у кіношных бандытаў-дыверсантаў, стомленыя хваляваннем, увагай памежнікаў, мытнікаў, паліцыянтаў, аўтаінспектараў… У машыне смурод ад тытунёвага дыму, поту, брудных шкарпэтак, мокрай вопраткі і вэнджанага мяса. Пакуль усё добра — мяжу прайшлі, адно не выспаліся ў доўгай чарзе, едуць па сваёй зямлі, па Беларусі. А са сваімі і дамаўляцца прасцей, калі што якое. Машына добрая — новыя машыны ўсе добрыя, кожны ведае. Пра «джып» размовы забароненыя — можна сурочыць. Кастусь трымае сотку, ці сто дзесяць, — гэта яго ўлюбёная хуткасць. Віктар — дзевяноста пяць, а калі траса вольная — прыціскае пад сто трыццаць. Эх, неба, неба! Зноў дождж, чорна-алейны асфальт і даводзіцца скідаць хуткасць…

…Дарога зачароўвае, закалыхвае, цягне ў сон. Кастусь пачынае ківацца і засынае… Віктар выкалочвае з пачка цыгарэту і запальвае. Машына імчыць. На твары Віктара засяроджанасць. Ён, пакуль Кастусь спіць, абганяе ўсе машыны: палахлівыя легкавікі, нахабныя вялізныя фуры, трактары, аўтобусы. «Джып» дазваляе імчаць і адчуваць сябе гаспадаром трасы.

Кастусь уздрыгвае, расплюшчвае пачырванелыя вочы, скрабе няголеныя шчокі, трэ кулакамі вочы, лаецца: на дарогу, на надвор'е, на сваё жыццё, перапоўненае клопатамі і збольшага непрыемнасцямі… На пытанне «дзе мы?» адказу не атрымлівае. Бярэ пластыкавую бутэльку і п'е мінералку. Вада цячэ па падбароддзі, па вопратцы, ліецца на падлогу, на гумовы дыванок. На заўвагу, што хопіць паскудзіць машыну, Кастусь адно грэбліва моршчыцца і пасміхаецца, машына ж не яго… Кароткі прыпынак. Мужчыны мяняюцца месцамі, і «джып» зрываецца, імчыць на Піцер, да якога, калі верыць указальніку, шэсцьсот кіламетраў…

На ўскраіне, у мікрараёне з аднолькава-шэрымі дамамі Віктар вылазіць з «джыпа» і тэлефануе. На твары спакой і засяроджанасць. Слухаўку здымаюць хутка. Прыемны жаночы голас. Віктар просіць

паклікаць да тэлефона мужа. У адказ чуе прабачэнні і прапанову патэлефанаваць на наступны дзень, бо муж з'ехаў у Петразаводск па пільных справах і вернецца заўтра. Віцька вешае слухаўку і бяжыць да машыны. Шэрая восеньская раніца з пахмурнымі постацямі і чырвонымі агеньчыкамі цыгарэт. Віктар лаецца, кляне гандляра піламатэрыяламі, для якога прыгналі «джып». Кастусь пасміхаецца… А што сварыцца? Ва ўсіх справы… Можна адпачыць, зрабіць кароткае свята.

…Віктар — да сястры: адпачыць, памыцца, перабачыцца, а Кастусь загуляў. На наступны дзень перагоншчыкі сустрэліся. Віктар, як зазірнуў у машыну, так і «завёўся». Ён пачаў клясці Кастуся, які так убрудзіў машыну, быццам свіней у ім вазіў. На гэта Кастусь аджартаваўся, стомлены і спакойны. Ён удакладніў, што не свіней вазіў, а піцерскіх цёлак…

Віктар патэлефанаваў гандляру піламатэрыяламі, якому прыгналі «джып». Слухаўку ўзялі імгненна, як чакалі. Не жаночы знаёмы голас, а раздражнёны мужчынскі паведаміў, што гаспадара кватэры застрэлілі ўчора ў Петразаводску, а пахаванне адбудзецца праз тры дні. Віктар хацеў перапытаць, удакладніць, але слухаўку кінулі…

…Спачатку не паверылі. Кастусь нават выпіць прапанаваў, каб «пераварыць» навіну. Параіліся і ўзрадаваліся. Машына цяпер належала ім. Яе падзяліць немагчыма, а вось грошы можна. Пачалі прыкідваць, каму, дзе, а галоўнае, за колькі збудуць крадзены (цяпер двойчы) «джып». Кастусь узяўся чысціць, месці, мыць салон. А што, машына — яго уласнасць. З Піцера выехалі вясёлыя. Каму няшчасце, а ім «карта легла», пашанцавала нарэшце як ніколі. Набралі цыгарэт, потым пітва, ежы і памчалі дадому, на Беларусь.

Да мяжы ехалі і ўзбуджана размаўлялі. Прыхаваныя крыўды не згадвалі, а таму і сварыцца нагоды не было. Пасля аўтазапраўкі памяняліся месцамі. Віктар машыну шкадаваў, бо пачаў падумваць, а ці не набыць яе сабе…

Адразу за мяжой, можа, кіламетраў дзесяць праехалі, убачылі дзяўчыну ў чырвоным, як кроў, паліто. Яна стаяла пры дарозе, вецер раскідваў чорныя валасы. Кастусь прапанаваў падхапіць «цёлку», каб весялей ехаць, але Віктар катэгарычна адмовіў, нават хуткасць не скінуў. Кастусь пакрыўдзіўся і з паўгадзіны маўчаў. Попел збіваў на гумовы дыванок пад нагамі, ведаў — Віцьку гэта раздражняе і злуе.

Салдата ўбачылі здалёк, стаяў побач з указальнікам: вецер адкідаў то адно крысо доўгага шыняля, то другое, падняты каўнер, пляцак… Кастусь прапанаваў, хоць ведаў напэўна, што сябар адмовіць падхапіць-падкінуць салдата. «Джып» прамчаў побач, салдат адвярнуўся, забінтаваная рука апусцілася… Машына спынілася, паехала да салдаціка заднім ходам. Кастусь адчыніў дзверы. Салдат, гадоў дзевятнаццаці, не больш, з дзіцячым, ружовашчокім тварыкам, залез у цёплы салон… Віктар злаваў і маўчаў, калі Кастусь пачаў выхваляцца, што гэтая машына належыць ім. Салдацік не дзівіўся, не захапляўся, не распытваў…

А вось што за бяда з ім здарылася і чаму рукі забінтаваныя, як Кастусь ні дамагаўся, даведацца не змог. З брудных бінтоў тырчэлі кончыкі пальцаў, ружовыя, як крэветкі, з рэшткамі белых, як лушпінне яек, пазногцяў. Салдат заціяўся, змоўк, быццам анямеў. Ад цяпла, а можа, ад хуткага руху, ён задрамаў, шапка ўпала з галавы, і ён прахапіўся, пачаў спалохана шукаць яе. Кастусь з Віктарам смяяліся. Салдацік пачырванеў і сказаў мужчынам, што яны злодзеі, бандыты… Папрасіў спыніць машыну. Сам пачаў спрабаваць адчыніць дзверы…

«Джып» стаў, салдат выскачыў на дарогу, няўмела закінуў на плячо пляцак, надзеў шапку і ў незашпіленым доўгім шынялі пайшоў полем.

Віцька з Кастусём памяняліся месцамі. Крануліся. На полі салдата не было відаць, як растаў у паветры.

З паўгадзіны ехалі моўчкі, раздражнёныя, злосныя. Абагналі колькі вялізных лесавозаў і зразумелі, што, калі не вып’юць кавы — пазасынаюць. Кавярня пры дарозе. Спыніліся, перайшлі шашу. На «джып» наляцеў лесавоз з даўжэзнымі абчасанымі бярвёнамі…

Новая машына ператварылася ў пакарабачанае жалеза, пабітае шкло, раструшчаны пластык… Кастусь і Віктар стаялі на другім баку шашы, у якіх трыццаці кроках ад месца аварыі, гарачая кава апякала пальцы нават праз тоўстае шкло…

Я бязмэтна ішоў па вуліцы. Асфальт блішчаў і плыў пад нагамі. У вушах працягваў гучаць голас Кастуся Троса. Душа сціснулася да чорнай кропкі. І не было ў ёй ні спагады, ні спадзявання, ні шкадобы. Чорная кропка вісела ў пустаце.

2003 г.

# ЧОРНЫ КАНДУІТ

1. Нажніцы медыцынскія, вялікія. Яны ляжалі ў скрыні пісьмовага стала (знікненне заўважыў пятага кастрычніка 1996 года). Выпадкова прыдбаў іх у Пятроўскага, суседа па гаражы, восенню 1990 года яму не хапала на бутэльку. Ад таго таннага віна разбалелася галава. Потым зрабілася кепска, а ноччу давялося двойчы прамыць страўнік. Яна кажа, што не бачыла іх ужо даўно. Цікава. Нажніцы я нікому не даваў, з кватэры не выносіў. Ну, і дзе яны?

2. Партманэтка скураная, новая, запакаваная ў кардонку, падарунак на шасцідзесяцігоддзе. Знікла з шафы з добрай вопраткай, якая стаіць у яе пакоі. Ляжала на верхняй паліцы, побач з шэрым чэшскім капелюшом. У кардонцы з фотаздымкамі з пахавання Андрэя... Яна кажа, што я збіраўся з партманэткай ісці на дзень нараджэння, пакласці туды яшчэ дваццаць даляраў і падараваць Самсону. Па-першае, у Самсона даўно няма машыны. А там спецыяльная кішэнька празрыстая пад дакументы. Па-другое, няма ў Самсона столькі грошаў, каб хадзіць па хлеб з кефірам з такой шыкоўнай партманэткай. Гэта яна — некаму са сваіх знаёмых занесла. Думала, што я не заўважу. Сказаў тое, што думаў, — тры дні не размаўляла і да стала не клікала. (Знайшлася 12 лістапада 1996 года, калі збіраўся да Самсона ў бальніцу.) Ляжала ў кішэні шэрага драпавага паліто, гузік быў зашпілены, а драп тоўсты, дзе там адразу намацаеш. Давялося сказаць пра знаходку, прасіць прабачэння. Не здзівілася. А партманэтка не турэцкая, як я лічыў, а італьянская...

3. Інструкцыя да мікрахвалёўкі. Каму яна трэба, калі ў Мінску перакладчыка з японскай не знайсці.

4. Рамка памерам 32 на 44 см. (самаробная, дубовая... знікла невядома калі). Хапіўся ўчора — 5 сакавіка 1997, пад вечар. Думаў, што на антрэсолі паклаў. Давялося лезці пад самую столь. Перабраў, перагледзеў усё — рамкі няма. Знайшоў рукавіцы-крагі і матацыклетныя акуляры, якія лічыў згубленымі. Вось толькі рамкі той дубовай няма. Абышоў усе чатыры пакоі, ванную, прыбіральню, калідор. Нават на шафах паглядзеў. Хацеў уставіць партрэт Лінды, той самы, дзе яна сядзіць на падваконні ў новым ашыйніку, глядзіць на мяне ўважліва, па-чалавечы.

5. Свярдзёлак, фрэза (заводская) 30 сакавіка.

6. Акуляры яе — старыя. Зніклі 1 красавіка гэтага года. Ёсць футарал, а акуляраў няма. Няхай сама шукае. Мне ж яны без патрэбы. Паглядзеў за ложкам у яе пакоі — яны аказаліся там, разам з часопісам, так я і ведаў. Матлянула рукой ноччу — яны і зляцелі.

7. Попельніца крыштальная. 20 красавіка. Стаяла на паліцы ў маленькім пакоі. Калі сыходзіў з працы, прыхапіў яе. Не мог не ўзяць — дваццаць восем гадоў пераходзіла разам са мной з кабінета ў кабінет. Каму яна магла спатрэбіцца. Можа, сантэхнікі? Яны ж дзве гадзіны круцілі яшчэ новы радыятар, прадзімалі... Паскуды. Нічога рабіць не ўмеюць. Я ж ім бутэльку гарэлкі даў і закуску. Яны — больш няма каму.

8. Тэлефонны даведнік з працы. Акрамя мяне нікому ён не трэба. Даведнік стары, але тэлефонныя нумары новыя.

9. Брусок карэльскай бярозы. Не знайшоў. А ведаю, што ён стаяў у прыбіральні. З яго планаваў зрабіць падсвечнік і падарыць стаматолагу Ч. Давядзецца тачыць з грушы... Знайшоў, дзякуй богу, падклала пад скрыню з абуткам у передпакоі, каб тая не хісталася. Дадумалася... Кажа, што я сам і падставіў. Думае, што я бярозу ад сасны не адрозню...

10. Нататнік маленькі ў скураной вокладцы. Знік 12 траўня 1997 года. Там тэлефоны дактароў: акулістаў, тэрапеўтаў і стаматолагаў... Каб не каронка, пад якой разбалеўся зуб, то і не хапіўся б таго нататнічка. Ёсць там яшчэ некалькі патрэбных нумароў... А можа, яна перахавала? Знайшоў попельніцу — была пад ваннай, а ў ёй — недапалак.

11. Даведка з падатковай інспекцыі. Знікла 29 траўня 1997 года.

12. Порах, пяць патронаў да карабіна. Нашто пакідаў? Цяпер шукай — хвалюйся, думай.

13. Атлас аўтамабільных дарог СССР з уласнаручнымі запісамі, заўвагамі. Знік 19 чэрвеня 1997 года. Абшукаў кніжныя шафы ва ўсіх пакоях. Перабраў дзве тысячы кніжак. Перапароў падшыўкі газет і часопісаў... Схадзіў у гараж, агледзеў паліцы і скрыні. Няма. А я па ім столькі аб'ехаў. Цяпер такіх не выдаюць. Пазваніў Мікалаю П. — кажа, што атлас мой памятае. Але не браў, бо ёсць тры сваіх. Ды і куды па ім цяпер ездзіць? Каб даехаць да Крыжоўкі атлас не трэба. Прапанаваў свае, з трох — на выбар. Хоча, каб я да яго

зайшоў, бутэльку прынёс. Нашто мне чужыя, калі свой ёсць? Можа, ён у жалезнай скрыні?

14. Ключ ад жалезнай скрыні. Самаробны. 27 верасня 1997 года шукаў атлас. Падумаў, што ён можа ляжаць у скрыні, яна ж парожняя. Яна сказала, ключа таго не бачыла, але памятае, што раней ён вісеў на цвічку ў малым пакоі. На цвічку, між іншым, паглядзеў адразу. Перабраў усе запасныя ключы ў шуфлядах пісьмовага стала, на кухні і ў скрыні пад ваннай — не адзін не падыходзіць... Давядзецца зламаць замок. У скрыні атласа не было.

15. Штаны вельветавыя. 2 кастрычніка 1998 года. Сабраліся ісці на базар па памідоры. Вырашыў надзець вельветавыя штаны. Шукаў па ўсіх шафах, паглядзеў у ваннай, нават у калідоры на вешаку. На базар не пайшоў, памідораў не купіў — шукаў і злаваўся на сябе, а больш на яе. Разумею, што ёй яны не трэба. Але, упэўнены, гэта яна іх некуды запхала, а цяпер і сама не памятае куды, прызнацца ж сорамна... Можа, у гаражы? Заўтра пагляджу. Абавязкова.

16. Шалік шэры. Утульны, махеравы. Хапіўся 3 лістапада гэтага года. Спадзяваўся, што ў рукаво запхаў. Перабраў курткі і паліто — няма. Крыўдна — такі цёплы і прыгожы. Можа, на пахаванні Т. К. забыўся. Патэлефанаваў яго дачцэ. Насварылася, што на саракавіны не прыйшоў... А мне тыя саракавіны... Каб шалік быў, то можна было б і на могілкі пад'ехаць...

17. Брошка з бурштынам. Знікла невядома калі. Памятаю, што каштавала 36 рублёў. Купілі ў 1972 годзе ў Вільнюсе, у маленькім мастацкім салоне, побач з плошчай. Ёй брошку, а мне пальчаткі. Рудыя і цеснаватыя. Быццам без брошкі той і немагчыма да сястры схадзіць. Маўчыць, а я тут пры чым. Пераглядзелі ўсё. Думаю — не знойдзем ніколі...

18. Пальчатка скураная на правую руку. Я ёй тлумачу, што калі б нехта скраў, то не адну пальчатку, а пару. Каму адна пальчатка патрэбная. Знаёмых інвалідаў у нас няма. Здаецца, пераканаў. Прапанаваў пашукаць па кішэнях цёплай вопраткі. Не знайшла, а таму злосная. Можа, цяпер мяне зразумее, калі я нешта шукаю і не знаходжу. Не, не зразумее.

19. Касета 23, які ж на ёй фільм?

20. Часопіс «Кодры» (адзінаццаты нумар за 1989 год). Цікава. Каму ж я мог яго даць? Трэба паглядзець у іншых нумарах, што друкавалася ў адзінаццатым, і па змесце вылічыць.

21. Самапіска «PARKER».

22. Самапіска «Ленінград» — зялёная, са срэбным каўпачком.

23. Кніжка «Выбранае» М. Зошчанкі. 1962 года.

24. Кніжка «Рабінзон Круза» 46 года выдання.

25. Замок гаражны, вялікі, самаробны (хацеў прадаць Пятроўскаму).

26. Брэзент. Кавалак ладны. Ляжаў у канапе, пад цэлафанам.

27. Нажоўка новая «SANDVIK».

28. Лупа ў латуннай рамцы. Нямецкая. З драўлянай ручкай. Здаецца, учора ляжала на стале ў зале, а можа, на падваконні... Знікла. Хацеў прачытаць інструкцыю да таблетак, праз акуляры не бачу. Паперу эканомяць, дурні... Яна не бачыла. Добра, што хоць інструкцыю прачытала.

29. Пасведчанне з працы (чырвонае). Шукаю, а нашто яно мне?

30. Канверт з фотаздымкамі каляровымі і ч.-б. з пахавання сына. Канверт сіні. Заклеены. Падпісаны. Шукаў 2—3 студзеня 2004 года. Ляжаў у вялікай кніжнай шафе, на верхняй паліцы.

31. Касета 23. «Золата Макены»

32. Здымак скіўцаў. Ну, а ён каму трэба?

33. Акуляры новыя.

34.

…

118.

«Сідарук Яўген Мікалаевіч, 1933 года нараджэння. На выгляд семдзесят — семдзесят пяць. Пайшоў з дома 8 студзеня гэтага года і знік. Апрануты быў у шэрае паліто, зімовую шапку, шэрыя вельветавыя штаны, чорныя зімовыя чаравікі. Пад левым вокам маленькі шнар. Калі хто бачыў, то, калі ласка, патэлефануйце...» — аб'ява з газеты «Вячэрні Мінск» ад 10 студзеня 2005 года, прыклееная ў чорны кандуіт пад нумарам 122.

P. S. Калі я напісаў гэтую гісторыю, то мае знаёмыя яшчэ былі жывыя. Збіраліся пераклейваць шпалеры і фарбаваць падлогу. Рабілі ў тоўстым сшытку запісы пра рэчы, якія згубіліся. Сварыліся ў сваёй вялізнай кватэры, запоўненай розным барахлом. Я не захацеў друкаваць гэты тэкст, бо навошта крыўдзіць старых людзей. Першай памерла жонка. Раптоўна. У гаспадара пачалася дэпрэсія.

Ён застаўся адзін, і жыццё згубіла сэнс. Калі адчынілі кватэру, то ў вялікім пакоі знайшлі чатыры падрабязныя лісты. Сваякам жонкі, школьнаму сябру, суседзям, якія дапамаглі з пахаваннем жонкі... Чацвёрты ліст у пракуратуру. У ім ён патлумачыў прычыны, па якіх не жадае далей жыць. Мой добры знаёмы скончыў жыццё самагубствам.

2007 г.

## ШТУРМАН

На раніцу акушэрка і доктар былі цвярозымі. Сведкаў таго, як яны пілі, а потым прымалі роды, не знайшлося. Нованароджаны хлопчык быў здаровы, важыў тры з паловай кілаграмы. Стомлены цяжкім з'яўленнем на гэты свет, заснуў. А яго маці сышла крывёй і памерла.

Немалады доктар, загадчык адзялення, першым дазнаўся пра няшчасны выпадак. Ён абклаў акушэрку мацюкамі, а свайму маладзейшаму калегу даў па зубах. Але позна, позна, позна…

Хлопчыка забіралі дзед з бабай, сваякі і суседзі. Доктар, які прымаў роды, і акушэрка, ад сваякоў хаваліся. На вочы стараліся не патрапіць.

***

Любка выйшла ў двор з вялікім чырвоным тазам, поўным бялізны. На шыі пагойдваўся матузок з прышчэпкамі. Цяпер такія рэдка ўбачыш — драўляныя. З бліскучымі спружынамі ў сярэдзіне. Прышчэпкі прыемна пастуквалі адна аб другую. Любка развешвала прасціны, ручнікі, навалкі, кашулі...

Сонца яркае, прасціны белыя, як сакавіцкі снег пад сонцам. Цень на вільготнай тканіне рэзкі, ультрамарынавы — глядзець балюча.

Але Штурман глядзеў. Праз два дні яму трэба было з'язджаць. Квіток ляжаў у кішэні. А ён вачэй не мог адвесці ад прывабнай васямнаццацігадовай дзяўчыны, якая то хавалася за прасцінамі, то зноў з'яўлялася перад ім. Ён глядзеў то на цень яе, то на ногі, то на ўскінутыя рукі, на твар, на грудзі... І не мог даўмецца, хто яна. Адкуль? Што робіць тут, у двары? І чаму на яго нават не глядзіць?

— Хто гэта? — спытаў ён малога, які сядзеў на лаве пад разгалістай акацыяй і маленькім сцізорыкам упарта заточваў дубчык.

— Дзе? — малы агледзеўся, пацiснуў плячыма, а потым зразумеў. — Любка з чацвёртага. Шуркава сястра.

— На табе жуўку.

Гэтым разам малы зірнуў на Штурмана з яшчэ большай павагай і захапленнем. Жуўку ўзяў і схаваў у кішэнь.

Увечары Штурман і Любка сядзелі пад старой акацыяй. Дзяўчына прыціскала да вуха вялікую, як два мужчынскія кулакі, ракаўку... У прахалоднай і склізкай, гладкай, як шкло, але жывой глыбіні, гуло і шумела мора. Набягалі на бераг хвалі, сычэла вада, уздыхаў вецер, крычалі чайкі... Ракаўка ўтрымлівала ў сабе таемнае і неразгаданае жыццё — далёкае і загадкавае.

Гібралтар. Сінгапур. Карыбы. Атлантыка. Гальфстрым. Куба. Экватар... Геаграфічныя назвы гучалі радкамі вершаў. На небе гарэлі зоры. Складаліся ў сузор'і. Штурман паказваў рукой у чорнае прадонне, праводзіў пальцам нябачныя лініі і прамаўляў астранамічныя тэрміны.

Любка ж, акрамя Палярнай зоркі, іншых не ведала. Астраномія ёй была без патрэбы... Яна хацела замуж. Будучыня бачылася ёй светлай, а якой жа яшчэ.

Штурман затрымаўся ў гасцях яшчэ на два тыдні. Яны разам з Любкай схадзілі на пошту, дзе склалі і адправілі тэлеграму ў параходства... Два тыдні праляцелі як адзін дзень.

Любка праводзіла Штурмана на вакзал, на мурманскі цягнік. Яны цалаваліся, калі пілі шампанскае ў прывакзальным рэстаране, цалаваліся на шматлюдным пероне, цалаваліся ў цесным і вузкім калідоры вагона. Цягнік крануўся. Вакзал застаўся, і Любка засталася. Яна тады не плакала. А весела махала рукой. Аж пакуль не сціхнуў гук сіняга цягніка.

Штурман прыехаў у пасёлак, калі Сяргею было два месяцы. Дзед з бабай дзверы яму не адчынілі, слухаць не захацелі, дзіця не паказалі. Штурман плакаў. Ён ноч праседзеў у двары пад акацыяй. Выпаліў два пачкі цыгарэт, а раніцай, першым аўтобусам, з'ехаў назаўсёды. Ён хадзіў па марах і акіянах на вялікіх і малых караблях. Бываў шмат у якіх краінах. Па начах, магчыма, яму снілася Любка.

Малога Сяргея, вядома ж за вочы, інакш як Штурманам-малодшым ні дзеці, ні дарослыя не клікалі. Звычайна Штурман-меншы сядзеў на канапе ці ў ложку, а ў руках трымаў ракаўку. Нават калі еў сваю кашу — ракаўка была побач. Гэта была не адзіная, але самая любімая цацка малога... Хлопчык прыціскаў яе то да аднаго вуха, то да другога. Слухаў засяроджана, нават з нейкай недзіцячай упартасцю і цікавасцю. Калі старэйшыя забіралі ракаўку — пачынаў істэрычна плакаць, а супакойваўся толькі тады, калі яе вярталі.

***

Штурман-малодшы сядзеў у глыбокім фатэлі перад тэлевізарам з незапаленай цыгарэтай у доўгіх пальцах. На каленях ляжаў пульт, і, час ад часу, трыццаціпяцігадовы мужчына браў яго і пераключаў каналы. Ён убачыў спярша мора. Потым высокія хвалі. А потым птаха, які ляцеў над хвалямі.... Тое была чайка, а можа, альбатрос.... Альбатрос. Падумаў мужчына, бо гэтае слова падалося яму прыгажэйшым. Ён больш не глядзеў у зеленавата-алавяны экран. Імкліва падхапіўся. Падышоў да акна. Восеньскае неба — празрыстае і блакітнае, як каляровае шкло. У двары немаладая суседка здымала сухую бялізну. Штурман расхінуў шафу, адсунуў стос старых нотных сшыткаў на верхняй паліцы, выцягнуў і паставіў на стол кардонную скрыню з-пад абутку.

Ён умеў збірацца хутка. Жыццё навучыла. Мог і патэлефанаваць, але пакінуў жонцы пасярод круглага стала запіску. У яго даўно ўсё было падрыхтавана. Заставалася толькі прыняць рашэнне. Праз чвэрць гадзіны ён быў на аўтобусным прыпынку. А яшчэ праз паўгадзіны перасеў з аўтобуса ў тралейбус. У кішэні затрэнькаў мабільнік. Ён нават не глянуў на нумар, адключыў. І так ведаў, што тэлефануюць з музычнай школы, каб дазнацца, ці будуць сёння заняткі. Ён то мармытаў, то насвістваў сабе пад нос знакамітую модную арыю. Атрымлівалася. Слых у яго быў абсалютны. На чыгуначным вакзале, калі квіток ляжаў у пашпарце, а да цягніка заставалася гадзіна, зайшоў у рэстаран і замовіў два па сто гарэлкі і тры пачкі цыгарэт. Праз акно глядзеў на пасажырскія цягнікі, якія адыходзілі ад перонаў і на таварнякі, якія прапаўзалі. Чорныя, брудныя, доўгія...

Сіні мурманскі цягнік крануўся. Вакзал пачаў адплываць, як бераг. Ён стаяў у цесным вагонным калідоры і прыціскаў далоні да прахалоднага шкла.

У купэ спадарожнікамі аказаліся малады праваслаўны святар у чорнай сутане і дзве жанчыны ў гадах. Святар, што прыемна здзівіла Штурмана, быў негаваркі і чытаў газеты. Час ад часу папраўляў срэбны крыж. А жанчыны ў яго прысутнасці адно шапталіся і лускалі чорныя семкі. За ўсю дарогу Штурман тройчы хадзіў у вагон-рэстаран. Аднойчы сядзеў са святаром за адным столікам, гаманілі пра надвор’е. Жанчыны займалі ніжнія паліцы, мужчыны верхнія. Перад тым як легчы, святар шэптам маліўся. Распранаўся і па-салдацку спрытна заскокваў на сваю паліцу. Хутка засынаў. Вопратка святара пахла бальніцай.

У Мурманску пасажыры сёмага купэ з палёгкай развіталіся. Святар перахрысціў жанчын. А Штурману ўдзячна паціснуў руку ды пажадаў поспехаў. На пероне дзьмуў пранізлівы вецер з крупкамі колкага снегу. У прывакзальным рэстаране Штурман замовіў шклянку гарэлкі, закуску і каву. Пачак цыгарэт у яго яшчэ заставаўся.

Ён няспешна ішоў па незнаёмым горадзе. Патрэбную вуліцу і дом знайшоў праз гадзіну. Падняўся на трэці паверх і націснуў кнопку. З-за дзвярэй жаночы голас пацікавіўся, хто там, і дзверы адчыніліся. З кватэры дыхнула цяплом і карыцай з ванілінам.

Гаспадар сядзеў на канапе перад тэлевізарам і хутчэй слухаў, чым глядзеў...

Штурман тысячу разоў уяўляў сабе сустрэчу з бацькам, якога ніколі не бачыў. Але ўсё адбылося зусім не так, як яму бачылася. Насустрач падняўся высокі, сівы і нyears... 

— Я — Валянцін Сяргеевіч. Чым магу... Вы наконт пенсіі? З параходства?

— Я Сяргей Валянцінавіч... Я прыехаў з...

Гаспадара кватэры страсянула, ён хіснуўся. Па твары прабегла сутарга.

***

Яны прагаварылі два дні і дзве ночы. Шмат выпілі, але п’янымі не былі. Жонка падносіла закускі. Сыходзіла і вярталася. Прыбірала брудныя талеркі, парожнія бутэлькі, выносіла поўную недапалкамі

попельніцу. У мужчынскую размову яна не ўступала. Да стала не садзілася.

А мужчыны гаварылі і гаварылі...

Гаварылі і налівалі. Гаварылі і пілі. Закусвалі і гаварылі. Палілі і гаварылі. Налівалі. Гаварылі. Пілі. Гаварылі. Палілі. Пілі. Гаварылі...

На стале, на фотаздымках, якія прывёз Сяргей, ляжала вялікая, памерам з два кулакі, ракаўка. Мужчыны па чарзе прыкладаліся да яе. Слухалі таемны шум.

На вакзале яны моцна абняліся і пацалаваліся. Яны былі падобныя. Толькі старэйшы зусім сівы. Вецер кудлаціў яго валасы. А малодзейшы.... а вось вочы ў абодвух былі шэрыя. Як мокры лёд.

Мурманскі чыгуначны вакзал паплыў, як бераг. На пероне застаўся Штурман-старэйшы. Ён не плакаў, вочы слязіліся ад ветру. Памахаў рукой. Паправіў мяккі каўнер падбітай футрам марской скуранкі. Сцягнуў пальчаткі. Дастаў з кішэні незаклееены канверт, у якім была толькі адна паперка. Разгарнуў. Ён мог і не чытаць. Ведаў на памяць. Паглядзеў на яркую круглую пячатку. На прамакутны штамп медыцынскай установы, на подпіс доктара і лабаранта. Прозвішча лабаранта было гучнае — Свірыдаў.

— А ты сцвярджаў, што ў мяне не можа быць дзяцей. Памыліўся ты, Свірыдаў. — Штурман плюнуў і падраў паперку на дробныя шматкі.

Вецер змёў іх з далоні, падхапіў і рассыпаў па пероне.

Ён зайшоў у прывакзальны бар-рэстаран. Замовіў два па сто самай лепшай гарэлкі і стомлена абапёрся аб высокую барную стойку.

09.10.2005 г.

## БЕЗНАЗОЎНАЯ РАКА

***

Хлопчык спаў гадзіну. Праз сон пачуў тупат, але не зразумеў, што гэта: гукі, народжаныя памяццю аб пражытым дні, ці… Расчыніліся дзверы, і ў пакой увайшоў бацька. Успыхнула святло — знішчыла цемру і пакінула чорным адно прамакутнік акна, за якім была ноч. Хлопчык інстынктыўна павярнуўся тварам да сцяны, да цемры. Бацька наблізіўся і паклаў халодную далонь на плячо сына,

нямоцна сціснуў пальцы. У голасе за ўпэўненасцю, можа, празмернай, хавалася хваляванне. На твары застыла разгубленасць, у вачах то з'яўляўся, то знікаў сполах. Плямістая камізэлька са шматлікімі кішэнямі, такія ж порткі і чаравікі на тоўстай падэшве не рабілі мужчыну ваяўнічым і самаўпэўненым. Ён нервова сціскаў і расціскаў пальцы…

Хлопчык збіраўся хутка. Так хутка, як ніколі раней. Пры гэтым, заняты, захоплены пошукамі і складаннем, увесь час намагаўся прыгадаць, чым жа скончыўся сон: каляровы, доўгі і неверагодна яркі. У якім жа месцы бацькаў голас перасек нітку, тонкую і жывую, напятую, як жылка, калі на кручку трапечацца вялікая рыбіна. Тую нітку, якая звязвае сапраўднае з несапраўдным, жывое і існае з прыдуманым. Плэер, дыскі, ліхтарык, дзве вуды з катушкамі, цёплы швэдар, ваўняныя шкарпэткі, бляшанкі з кручкамі, грузікамі, паплаўкамі, старыя джынсы, гумовыя (ярка-сінія) боты, сцізорык: а як жа без яго…

Бацька са спачывальні — там жа ва ўбудаванай шафе знаходзілася жалезная скрыня, высокая, заўсёды замкнёная, — вынес стрэльбу і патранташ, паклаў на сярэдзіну стала, навідавоку. З лядоўні пачаў даставаць і перакладаць у кардонную скрыню ежу. Чатыры пляшкі гарэлкі леглі на торбачкі з крупамі. Мужчына ўсё рабіў моўчкі і хутка, быццам перад вачамі меў доўгі, шмат разоў пераправераны спіс. Ён дзейнічаў спрактыкавана, нібыта штотыдзень вось так хутка даводзілася з'язджаць з дому.

За два разы бацька з дванаццацігадовым сынам перанеслі ўсё неабходнае з кватэры ў машыну пад пад'ездам. Хлопчык зірнуў на гадзіннік — палова на першую. У іх кватэры на трэцім паверсе пачало згасаць святло ў вокнах: спачатку ў спачывальні, потым у гасцёўні, кухні і передпакоі… Бацька з'явіўся на ганку з коўдрамі і падушкамі, на плячы вісеў патранташ, а стрэльба ляжала на падушцы, як спала. Рэчы зніклі ў багажніку, пстрыкнуў замок. Хлопчык цёр кулакамі вочы. Машына выехала з паўцёмнага двара на праспект, які падаўся ноччу неверагодна шырокім, памчала на ўсход. Хлопчык спрабаваў пералічыць у памяці ўсё, што захапіў, хоць і разумеў, што, калі на нешта забыўся, вярнуцца не атрымаецца… За горадам бацька спыніў машыну і загадаў сыну перасесці. Там, на заднім сядзенні, паклаўшы галаву на цыгейкавы каўнер бушлата, хлопчык заснуў…

***

Шырокі і брудны «форд» з'ехаў з асфальту шашы на гравійку і спыніўся, а рухавік працягваў вуркатаць. Шэры ад пылу, як ніколі нямыты, легкавік з мінуту вуркатаў побач з бетонным слупам, на якім не было ўказальніка, а потым змоўк.

Трое мужчын выйшлі з машыны. Гравійка, шэра-вільготная, паблісквала белымі каменьчыкамі і крокаў праз пяцьдзясят прападала ў шчыльным тумане — там пачыналася лагчына.

Мужчына ў шэра-чорным, як скура жабы-рапухі, камуфля-жы з маёрскімі зоркамі на пагонах і цёмнай ад поту спінай запаліў цыгарэту. Другі праціраў шкельца гадзінніка рукавом швэ-дара і заціскаў пад пахай перакладзеную ў колькі столак навюткую карту.

Трэці — кіроўца-маладзён — адарваў травінку і ўзяўся яе грызці. Травінка тырчэла з рота, як змяінае джала, уздрыгвала, трымцела.

— Мы вось тут, чуеш, Франц. На маім чатыры трыццаць дзве, — і мезенцам скінуў кроплю з каляровай слізкай паперы мужчына па мянушцы Кіслы.

— І што з таго, што мы тут. І я тут, і ты тут… — тонкім, не па паставе, голасам адказаў Франц і пачаў прысядаць.

— А ён там? — кіроўца-маладзён углядаўся ў туман, жаваў травіну, а потым падняў з дарогі каменьчык, белы, як яйка, і шпурнуў у кусты алешніку. — Недзе там…

Туман пачынаў мяняць колер. Ён ружавеў зверху, а над самай зямлёй рабіўся бэзавым. Быццам зверху ў малако трапіла кропля крыві, а знізу атраманту.

— Дзверы зачыні, камароў наляціць, — загадна сказаў Франц і шпурнуў недапалак у траву.

Бухнулі дзверы не старога, але добра такі дабітага «форда», і стала ціха-ціха. І ў гэтай цішыні, птушкі яшчэ не спявалі, з'явіўся незразумелы гук. Нечым ён нагадваў бразгат зброі на плячы салдата, звон маністы, бразгат ключоў на дне кішэні… Гэта быў гук, народжаны ў тумане — незразумелы, таемны. Мужчыны наблізіліся да машыны. Ад капота ўздымалася пара.

Незразумелы гук павольна набліжаўся.

— Што гэта? — маладзён-кіроўца кінуў складзеную карту ў машыну.

З каляровага туману ўзнік чорны конь. Вялізны, з доўгай грывай, а за ім, на тонкіх нагах, выбегла на сярэдзіну гравійкі цыбатае жарабя.

— Конь!

— Кабыла!

— А якая розніца?

З шыі кабылы звісаў і прападаў у тумане доўгі ланцуг.

— Стой! — пачуўся стомлены голас, і на дарогу выйшаў высокі мужчына ў гадах.

Кабыла зрабіла колькі крокаў і стала. Мужчына паспеў схапіць ланцуг.

— Каб ты здохла, халера! — нягучна і ўзрадавана сказаў ён і тарпануў за ланцуг.

— Можа, спытаць, Франц?

— Стой!

Гаспадар чорнай кабылы і прыгожага жарабяці пастаяў хвіліну на краі туману, падзівіўся на пыльны легкавік побач са слупам, на трох незнаёмцаў, развярнуўся і прапаў, як праваліўся, у тумане. Адно ланцуг яшчэ бразгаў і пазвоньваў, але яго гук больш не здаваўся незразумелым, а таму таемным. Нарэшце і гук прапаў.

***

На хутары хлопчыку было добра. Яму падабаліся вялізныя ліпы, на якіх гулі пчолы, старая шаматкая бяроза і бясконцая колькасць пахаў, якія прыносіў вецер. А больш за ўсё падабалася безназоўная рака. Зразумела, што ў яе мелася, як і ва ўсяго на гэтым свеце, імя. Да ракі ад хутара, калі ісці напрасткі, — зусім недалёка, можа, сотні тры крокаў. А вось да вёскі, якая месцілася пад сінім лесам, амаль на даляглядзе, далекавата. Для хлопчыка і вёска была безназоўнай.

Тут, на хутары, ён быў упершыню. Ніколі раней бацька яго сюды не прывозіў і нават не казаў пра яго існаванне. А калі нечага не ведаеш, то яно для цябе і не існуе. Чаго не ведаеш — таго і няма.

Ён, хлопчык, прачынаўся вельмі рана, ці не за паўгадзіны да світання. У прыцемках, за шклом, ярка ззялі шматлікія зоры, хлопчык хутка навобмацак апранаўся. Калі нечага не знаходзіў, то свяціў сабе ліхтарыкам. Браў вуды і ціха сыходзіў. Ежу гатаваў сабе з вечару (чорны хлеб, дзве лусты, масла, сыр і скрылікі марына-

ваных агуркоў). Бутэрброды ляжалі ў брызентавай торбачцы, якая стаяла на падваконні. Пакарабачанае вядро вісела ў цёмных сенцах на вялікім цвіку, вуды стаялі побач.

Штодня, на світанні, па мокрай ад расы траве ён ішоў да ракі, якая хавалася ў тумане. Над сувоямі туману, як горы, парослыя лесам, цямнелі купы вербаў. Адна зорка, проста над вербамі, гарэла неверагодна ярка. Але і яна была безыменнай.

Пах ракі набліжаўся з кожным крокам: жывы, шчыльны, мяккі…

Зломіш травінку, расціснеш у пальцах доўгі лісцік аеру, а ён духмяны. Вада, паветра, рэчы, гукі, словы — тут усё мела пах і колер. Тут усё было жывым, сапраўдным — нават цішыня і тая дыхала. Тут, хоць і не быў стомлены цяжкай працай і доўгім пражытым днём, хлопчык салодка засынаў, спаў без сноў, а прачынаўся бадзёрым.

Ён увайшоў у туман і пачуў раку…

Яна сычэла, булькала, вуркатала ў карэнні вербаў і трыснягу.

Бухнула вялікая рыбіна. Па вадзе яшчэ беглі хвалі, але рыбіну ён не ўбачыў — не паспеў. І падумаў, калі на імгненне прыпыніўся, што ніколі не атрымліваецца, каб спачатку ўбачыць, а потым пачуць. Заўсёды наадварот: спачатку ўдар, усплёск, гук… Адно хвалісты след бяжыць па вадзе, але і ён хутка знікае, быццам нябачны прас разгладжвае хвалі на паверхні цёмнай, яшчэ начной вады.

***

Мужчыны паселі ў машыну, рухавік затахкаў, захрабусцелі каменьчыкі пад коламі, і «форд» няпэўнага колеру заехаў у падфарбаваны сонцам туман. Ехалі павольна, як на пахаванні, быццам колы намацвалі дарогу.

Той, у шэра-чорным камуфляжы, нервова паліў і збіваў попел сабе пад ногі. Кіроўца, самы малады (яму крыху за дваццаць), да каламуці ў вачах узіраўся ў туман, хапаў пакамечаную анучу і пачынаў церці перад сабой шкло, а яно амаль імгненна рабілася вільготным. Вільгаць хутка збіралася ў кроплі, і яны збягалі… На тым месцы, дзе звычайна месціцца магнітола, чарнела дзірка, з якой віселі рознакаляровыя ніткі дроту.

— А ты ўпэўнены, што так трэба ехаць? — спытаў Франц і зацягнуўся. — Дай даб’ю!

— На, — пакамечаны пачак цыгарэт паляцеў на задняе сядзенне, на калені Кісламу.

— Здаецца, гэтай дарогай ехалі, — з сумненнем прамовіў кіроўца і нервова перакінуў пагрызеную травіну ў роце з боку на бок. Машына раптам спынілася.

— Што? Чаго стаў?

— Там нехта ёсць, — кіроўца цёр шкло.

З туману выбегла рудое танканогае жарабя, з кароценькай, як знарок абрэзанай, грывай-шчоткай, матлянула хвастом…

Высокі мужчына з чорнай, а ў тумане — як мокрай, кабылай, стаяў на краі дарогі. І ён сам, і кабыла, цыбатае жарабя правялі позіркам легкавік. Мужчына таргануў за повад, грымнуў ланцуг, і яны ўтрох сышлі з гравійкі на толькі ім вядомую і ў тумане нябачную сцежку.

Кіламетры праз чатыры гравійка скончылася.

— Здаецца, тут паварочвалі… Лес быў, — няўпэўнена прамовіў кіроўца-маладзён.

— Не бачу лесу, — Франц адкаркаваў бляшанку з півам, злізнуў пульхную пену і пачаў піць.

— Мне пакінь, чуеш?

— Перакалацілася.

Легкавік выехаў з лагчыны і апынуўся ў цёмным ельніку. Давялося пазачыняць вокны. Яловыя лапкі білі па шкле, хвасталі машыну, размазвалі пыл, змешвалі вільгаць з брудам.

— Стас сказаў, каб да вечару вярнуліся з ім, — пачулася з задняга сядзення.

— Вернемся, а куды дзецца… — Франц высмактаў піва да апошняй кроплі, расціснуў бляшанку і перадаў праз плячо. — На, попел збівай, разумнік.

***

Учора з раніцы хлопчыку пашанцавала. Ён злавіў трох галаўнёў, ладнага акуня і сем плотак. Ён паразумеўся з ракой, хоць і не ведаў яе імя, адчуў да яе павагу, і з’явілася ўпэўненасць, што ён заўсёды зможа злавіць рыбу.

Адну вуду закідаў пад бераг і паглядаў на белае пёрка паплаўка зрэдку. Пад берагам, у глыбокай яміне, вада амаль не плыла, толькі закручвалася ледзь заўважна. Другая вуда закідалася далёка

ад берага, і паплавок павольна плыў аж пад самыя вербы, пакуль не рабіўся ледзь бачнай рыскай-кропкай. Там, пад вербамі, звычайна і трапляліся палахлівыя і асцярожныя галаўні. Выцягваць іх адтуль, здалёк, — сапраўдная асалода.

Хлопчык сядзеў на перакуленым вядры і ўздрыгваў ад ранішняй прахалоды, з вербаў сыпаліся на рукі і шыю буйныя кроплі. На тонкай травінцы-мяцёлцы сядзела страказа, яна яшчэ не прасохла, крылы зліпліся, і яна, нават пры вялікім жаданні, паляцець не змагла б.

Ён асцярожна мокрымі і халоднымі пальцамі ўзяў яе за хвост, патрымаў колькі, а потым кінуў у раку. Плынь ціха панесла яе, закруціла. Страказа варушыла крыламі, моршчыла шкло паверхні. Плыла, плыла, плыла і раптам знікла. Бязгучна, толькі кругі пабеглі…

Бацькі думаюць, што іх дзеці не вельмі разумныя — што яны зусім дзеці і ў жыцці не абазнаныя, але насамрэч не гэтак. Хлопчык у свае дванаццаць разумеў значна больш, чым меркавалі бацькі.

Гадоў да дзевяці хлопчык глядзеў на бацьку зачаравана, меў абсалютную ўпэўненасць, што яго бацька — сама дасканаласць, прычым ва ўсім.

Цяперака ж бачыў і нервовую мітуслівасць і спалоханасць-разгубленасць, якую бацька спрабаваў хаваць, не паказваць, але атрымлівалася непераканаўча. Нават не сполах, а сапраўдны жах жыў у вачах, быў прыклеены да твару, трымцеў у голасе, у кожным сказе, слове, гуку…

Хлопчык засынаў, а бацька сядзеў за сталом, засланым цыратай, з бутэлькай і шклянкай, круціў прыёмнік, прыслухоўваўся да галасоў дыктараў, аднастайна ўпэўненых, а таму ідыёцкіх. А за сценамі дома ўскрыквалі ў цемры начныя птахі, іржалі, далёка-далёка пад вёскай, коні…

Як толькі навіны заканчваліся надвор'ем і пачынала гучаць музыка, бацька пераключаўся на іншую станцыю ці хвалю, а хлопчык засынаў.

***

Легкавік няпэўнага колеру вынырнуў з лесу. Свяціла нясцерпна яркае сонца, біла проста ў вочы. Кіроўца-маладзён і Франц адначасова адпусцілі брылькі, але сонца вісела нізка, і гэта амаль не дапамагала. Яны мружыліся, крывіліся, прыкрывалі вочы далонямі. «Форд»

ледзь сунуўся, цяжка перавальваўся па разбітай трактарамі дарозе. У тры бакі разгарнулася панарама. Менавіта такія краявіды здымаюць фатографы для тоўстых альбомаў: краявіды — візітоўкі краіны. Луг, поле і стужка ракі са старымі вербамі па берагах. Над ракой вісеў залацісты туман, а вада дзе-нідзе сляпуча зіхцела. Неба сіняе-сіняе з празрыстай квадрай і кропкамі птушак. Шэрая чапля ляцела над ракой, цяжка ўзмахвала крыламі.

— Стой, адліць трэба! — загадаў Франц.

— Вунь там, — кіроўца паказаў на раку, на цёмную купку дрэваў, амаль на даляглядзе.

Усе трое зрабілі сваю справу з задавальненнем. У Франца з-пад шэра-чорнага плямістага камуфляжу выпаў у траву пісталет. Ён нязлосна мацюкнуўся, зашпіліўся, падняў зброю і выцер крысом курткі, пахукаў, як на азяблыя рукі, і запхаў пад пас. Пісталет быў халодны да непрыемнасці, і гаспадара зброі аж калатнула.

— А як праз раку? — спытаў у маладзёна-кіроўцы Кіслы і прыкрыў вочы складзенай картай, пачаў углядацца.

— Можна праз мост і праз вёску…

— А яшчэ як?

— Не ведаю… Я тут толькі раз быў. Ноччу прыехалі, па цемры і з’язджалі: восень, дождж, брыда. Усе трое нерваваліся. Маладзён-кіроўца грыз травіну і без супыну цёр нямоленыя шчокі.

Па разбітай трактарамі дарозе легкавік не даехаў да кладкі, вузенькай — не разысціся, і развярнуўся, стаў у стракатым цені старой разгалістай вярбы.

— Пайшлі, — ціха-ціха, але ўпэўнена загадаў Франц і абцягнуў крысо плямістай курткі.

Яны дайшлі да кладкі, да трох звязаных дротам і сцягнутых сталёвымі скобкамі абчасаных асінавых жэрдак.

Кладка прагіналася ці не да вады, пахіствалася. Плынь калыхала доўгія ярка-зялёныя водарасці. Паблісквалі срэбнымі бакамі імклівыя, як тыя іскры, рыбкі.

Першым раку перайшоў Франц. За ім рушыў Кіслы, а кіроўца ўсё стаяў і стаяў перад ракой.

Франц і Кіслы спыніліся на пагорку, павярнуліся да ракі. На твары Франца паблісквалі чорныя акуляры, а калашыны амаль да каленяў былі мокрыя ад расы.

Маладзён перайшоў раку і спыніўся. Потым нагнуўся, стаў на каленцы, набраў у прыгаршні вады і плёхнуў у твар, а потым яшчэ і яшчэ.

— Пайшлі! Развёў…

— А вада цёплая — сам сабе сказаў кіроўца і рушыў па цёмным следзе амаль подбегам.

***

Чырвонае з белым пасам пёрка паплаўка вуды, закінутай у ціхае глыбокае месца пад берагам, хіснулася, загайдалася, а потым хіснулася яшчэ двойчы. Хлопчык убачыў гэта краем вока. Пачырванелыя ад світальнай прахалоды пальцы выслізнулі з задоўгіх рукавоў тоўстага швэдара. Чырвона-белае пёрка выперла з вады, паплавок упаў на бок і закруціўся на паверхні, быццам вада змяніла, прычым імгненна, сваю шчыльнасьць — зрабілася цвёрдай, як шкло. Ледзь бачная жылка, што да гэтага моманту вісела над паверхняй упала на ваду. Заўчасна зрудзелы, ссохлы лісцік вярбы зачапіўся за жылку і пацягнуў яе. Хлопчык, як вучылі, палічыў да пяці… Азяблыя пальцы леглі на вудзільна, сціснулі яго. Павольны ўзмах, жылка напялася, з яе веерам сыпануліся кроплі, катушка піскнула і застракатала. Нябачная рыбіна пайшла ўбок, потым супраць плыні, потым пад супрацьлеглы бераг у трыснёг. Дазволіць рыбіне ўбіцца ў траву — страціць яе…

«Галавень?.. Акунь?.. Лешч?..» — сутаргава разважаў і круціў ручку катушкі хлопчык. Ён, як мог, стараўся не даць нябачнай пакуль яшчэ рыбіне слабіну, трымаў вуду сагнутай, а жылку напятай. Пластыкавае вудзільна выгіналася, уздрыгвала, жылка трымцела — вось-вось парвецца…

Нарэшце кілаграмовы лешч, стомлены барацьбой, а можа, спаралізаваны болем ад загнанага ў рот кручка, падняўся з глыбіні, цьмяна бліснуў бронзавай луской і вывернуўся, лёг на бок. Хлопчык, зусім па-даросламу, падвёў рыбіну да берагу і на імгненне разгубіўся… А потым апусціўся на калені: вуда ў левай, а правай рукой сціснуў слізкую, цвёрдую галаву ляшча і спрытна выкінуў рыбіну на бераг, у траву, да перакуленага вядра.

Пляскаты, як патэльня, слізкі лешч заскакаў, зяхаючы ротам, і давялося яго прыціснуць далонямі да зямлі, прытрымаць. На гадзінніку было пяць сямнаццаць…

Рукі хлопчыка калаціліся ад стомы і хвалявання. Ён шмыгаў носам і выціраў рукавом мокры твар, раз-пораз кідаў пераможныя позіркі на рыбіну і часта дыхаў. Калі б ён быў дарослым, то, напэўна, мацюкнуўся б з асалодай, а потым выбіў з пачка цыгарэту і, каб перамагчы, пазбавіцца хвалявання, запаліў. Але яму было толькі дванаццаць…

Шэрая чапля ляцела над трыснягом. Вялікая, цяжкая, але наструненая і прыгожая. Адно бачыць вялікую птушку ў тэлевізары, і зусім іншае вось так, калі сядзіш побач з вадой і чуеш узмахі яе крылаў…

Хлопчык правёў позіркам чаплю і заняўся сваімі справамі. Вялікі чарвяк, вялікая рыбіна.

Пальцы, якія яшчэ чвэрць гадзіны таму здаваліся азяблымі і непаслухмянымі, спрытна знайшлі ў кансароўцы самага лепшага чарвяка: вялікага, пругкага і рухавага.

Чарвяк выгінаўся, спрабаваў выслізнуць, але вастрыё кручка тройчы пракалола яго, прашыла наскрозь, зрабіла жывое адным цэлым з мёртвым жалезам.

Хлопчык трымаў кручок за жылку і задаволена разглядаў чарвяка, які працягваў выгінацца. Узмах вудзільнам, асцярожны, ціхі і можна сесці, адкласці вуду і чакаць, чакаць…

Спачатку ён убачыў дзве цёмныя постаці, а потым трэцюю. Мужчыны ішлі ад кладкі на пагорак, праз жытнёвае поле, кіраваліся да хутару.

Праз чвэрць гадзіны на пагорку з'явіўся мужчына з чорным канём. За імі бегла жарабя. Часам яно хавалася ў жыце, прападала, каб потым выскачыць і ляцець наўздагон.

Лепш за ўсё ў краявідзе глядзіцца мужчына з касой на плячы, калі нагойстраная каса зрэдку блісне, зырка ўспыхне на зялёным аксаміце травы. Вясковец, доўгагрывы конь і танканогае жарабя перайшлі раку за паваротам. Хлопчык ведаў, што там, за кустамі алешніку і вербалозу, безназоўная рака робіцца плыткай, па цвёрдым пясчаным дне можна пераходзіць з берага на бераг, пераязджаць на кані, пераганяць кароў… На думку хлопчыка, лепей за ўсё ў краявідзе глядзіцца чалавек з вудай на плячы, але рыбакоў, акрамя яго, паблізу не было.

***

Высокае жыта, за сцяной якога можна было ісці і не прыгінацца, скончылася. Да хутара на пагорку засталася сотня крокаў. Франц

перавёў дыханне, зняў і зноў надзеў цёмныя акуляры, якія зусім не пасавалі з маёрскай плямістай курткай.

Кіроўца грыз травіну. Кіслы сеў і ўзяўся забэрсваць красоўкі. Згаслы недапалак тырчэў з роту.

— Ты падыдзеш адтуль, чуеш, Кіслы, — сказаў Франц і рукой намаляваў у паветры паўкола.— А ён страляць не будзе? — мокры матузок зацягнуўся тугім вузлом.

— Ты што, Кіслы! — Франц засмяяўся.

— А калі ён там не адзін, — Кіслы падняўся на ногі і падскочыў. — А з кім?

— З жанчынай, — сумна прамовіў кіроўца.

— Пайшлі.

— Стойце, пачакайце, глядзіце! — самы малады, кіроўца, выструніўся, амаль на дыбачкі падняўся.

Франц і Кіслы павярнуліся да ракі.

Над трыснягом, над рэшткамі залатога туману, над гарамі-пагоркамі дрэваў і кустоў ляцела шэрая чапля, вялікая і такая дзіўная, што…

— Цаца! — прашаптаў кіроўца, амаль як дзіцёнак. — Пайшлі, птушак не бачыў… — Франц плюнуў і тарганаў Кіслага. — Знайшлі чым здзівіць!

Чапля сваім палётам паўтарала кожны паварот роднай для яе ракі…

***

Дзеці больш абазнаныя, чым лічаць дарослыя, іх веды пра жыццё глыбейшыя і часам больш дакладныя… Хлопчык праз другія дзверы, праз цёмныя і прахалодныя сенцы, па шырачэзных нефарбаваных масніцах, яны нават ні рыпнулі, ні ўздыхнулі — не здрадзілі, праслізнуў у дом. Дзверы і вокны ў доме былі расчыненыя, і ён чуў галасы: варожыя, злосна-абыякавыя, але каму з мужчын належаў тонкі, віскілвы, глухаваты, хто папярхнуўся і закашляўся — ён, зразумела, не ведаў. А вось стогны і ўскрыкі — пазнаў імгненна. Ён чуў удары, лаянку, крыкі… Фарбаваныя масніцы ў самім доме таксама не рыпнулі. Хлопчык дзейнічаў без разваг, як па раней прыдуманым і шмат разоў паўтораным сцэнарыі.

Стрэльбу і патроны, на другі дзень, як прыехалі на хутар, бацька схаваў у высокую, паточаную шашалем шафу з філянговымі дзверцамі. Шафа мела замочак і ключык. Яна стаяла за грубкай у спачывальні.

Хлопчык ведаў, дзе зброя!..

Хлопчыкі заўсёды ведаюць, дзе зброя!..

Яна там, у шафе, пад старым, зношаным зімовым паліто вісіць на цвіку… Шафа замкнёная, ключык у бацькі, у верхняй кішэні паляўнічай камізэлькі… Хлопчыкі ўмеюць і без ключоў адкрываць замкі.

Са сцізорыка вышчаўкнулася бліскучае лязо. Яно прайшло ў шчыліну паміж дзверцамі. Так хлопчык ужо рабіў колькі разоў, калі бацька з’язджаў у райцэнтр па ежу і каб патэлефанаваць.

Лязо сцізорыка падчапіла язычок замка. Націск — і язычок заскочыў у замок.

Зімовае паліто ўпала, абсела, амаль як паранены ці п’яны чалавек пад сцяной, сціснулася. Стрэльба не падалася ні вялікай, ні цяжкай. Яна лёгка, без супраціву, пераламілася праз калена. Два патроны ў кішэнь запэцканых, з наліплай луской джынсаў, а два — у чорныя сталёвыя норы. Стрэльба склалася. Куркі шчоўкнулі.

Ён, дванаццацігадовы хлопчык, са зброяй у руках ішоў праз пакоі. Ішоў туды — на ганак.

Яго бацька, са звязанымі за спінай рукамі, ляжаў тварам у зямлю. Скронь і шчака чырванелі ад крыві.

Мужчына ў шэра-чорным камуфляжы з маёрскімі пагонамі чысціў рукавом калашыну. Кіроўца-маладзён з травінкай, заціснутай зубамі, сядзеў на кукішках побач са звязаным і нерухомым хлопчыкавым бацькам. Кіслы з непадробнай увагай вывучаў разбіты кулак і моршчыўся, быццам кулак баліць нясцерпна — аж трываць нияк.

Хлопчык са стрэльбай стаяў за акном. На яго твары адсутнічалі і хваляванне, і здзіўленне.

Кіслы з кіроўцам-маладзёнам паднялі хлопчыкавага бацьку, паставілі на ногі.

— Пайшлі, да машыны цягніце яго! — загадаў Франц сваім тонкім голасам.

Хлопчык толькі зараз зразумеў, чаму бацька не падае голасу. Яго рот быў залеплены шырокай празрыстай стужкай, ад вуха да вуха. Кіслы штурхнуў звязанага ў спіну. Той хіснуўся і зрабіў колькі крокаў ад ганка.

— Франц, а кіндар яго дзе? — спытаў кіроўца.

— А табе справа?

— Стас і яго загадаў прывезці.

***

Дзверы грымнулі-ляснулі, старыя, цяжкія, — скразняк расхінуў іх. На верхняй прыступцы нізкага ганка стаяў хлопчык з паляўнічай стрэльбай. Спакойны, рашучы, немітуслівы, можа, нават абыякавы да ўсяго, акрамя трох незнаёмцаў.

— Кіндар, — прамовіў нават з нейкай радасцю кіроўца.

— Кінь стрэльбу! — не вельмі цвёрда загадаў Кіслы і зрабіў крок.

Хлопчыкаў бацька хістаў галавой. Вось зараз, а не тады, калі білі, калі схапілі, ён па-сапраўднаму спалохаўся…

Кіслы зрабіў крок, выставіў руку з разбітым кулаком, наблізіўся да ўзброенага хлопчыка.

— Кінь, — крыкнуў Кіслы і падаўся наперад.

Стрэл быў гучны… Ніхто з дарослых яго не чакаў. Але з шасці крокаў не патрапіць шротам немагчыма, асабліва, калі патрапіць жадаеш.

Шэрыя свінцовыя шарыкі, памерам з гарошыну, такія прыдатныя на грузікі, упіліся, разарвалі, развалілі жывот Кісламу, павалілі, кінулі на зямлю. Ён зайшоўся ад пякучага болю, скурчыўся, пачаў зацiскаць далонямі скрываўлены жывот. Ён, які не верыў у сур'ёзнасць намераў хлопчыка, цяпер паверыў — уласная бездапаможнасць і нясцерпны боль пераконваюць лепш за іншыя аргументы.

Травінка ў зубах кіроўцы стала нерухомай, як кавалачак дроту, умураванага ў сцяну. Ён і сам скамянеў, адно вачамі пераводзіў то на скрываўленага, смяротна параненага Кіслага, то на дванаццацігадовага забойцу.

Рукі кіроўцы ўзняліся дагары.

— Чаго стаіш?! — крыкнуў у спіну кіроўцу Франц.

Грымнуў другі стрэл. Ён быў не такі гучны, як папярэдні.

Буйны шрот ударыў маладзёну-кіроўцу ў твар, у шыю, у грудзі…

Франц і хлопчык колькі імгненняў глядзелі адзін на аднога. Мужчына не вытрымаў і пабег.

Хлопчык пераламіў стрэльбу. Дзве гарачыя і бліскучыя гільзы выпалі з руляў пад ногі.

Франц спыніўся. Ён згадаў пра сваю зброю, пра пісталет, схаваны пад курткай…

Хлопчык засунуў першы патрон і пачаў запіхваць другі. Патрон выслізнуў, упаў, пакаціўся, заскакаў па прыступках…

Франц набліжаўся няспешна. Хлопчыкаў бацька памкнуўся стаць паміж сынам і Францам, загарадзіць сына, але зачапіўся за смяротна параненага Кіслага і ўпаў.

Рука з пісталетам пачала падымацца.

Два стрэлы прагучалі адначасова…

***

Два стрэлы прагучалі адначасова…

Франц прапоўз колькі крокаў і знерухомеў…

Хлопчык хацеў пераламіць стрэльбу праз калена, але яна выпала з рук. Стрэльба зрабілася занадта цяжкай…

Ён ляжаў на заднім сядзенні машыны. Нясцерпна пякло ў грудзях, хацелася піць…

Яму здавалася, што цяпер ноч, што ўсё толькі пачынаецца, і ён едзе на хутар…

Бацькаў голас і яшчэ адзін зусім незнаёмы, але не варожы, а заклапочаны, спалоханы, гучалі побач… Яны і перасеклі нітку, тонкую і жывую, напятую, як жылка. Тую нітку, якая звязвала сапраўднае з несапраўдным, жывое і існае з прыдуманым.

Шэрая чапля ляцела павольна. Так павольна, што здавалася нерухомай.

Шэрая чапля ляцела да безназоўнай ракі.

22.10.2003 г.

# ВЯРТАННЕ

Хацелася напісаць пра... Але не мог, не наважваўся...

***

Мастак памёр на пероне, яшчэ таго, старога мінскага вакзала.

Пасадзіў жонку ў вагон, цягнік крануўся, ён узмахнуў на развітанне рукой, схапіўся за сэрца, і чалавека не стала...

Мастак быў маім настаўнікам.

На апошнім курсе вучэльні я напісаў алейнымі фарбамі на палатне карціну памерам метр на метр. Яна, тая карціна, напісалася вельмі хутка, ці не за дзень. Памятаю да драбніц. Мужчына і цяжарная жанчына сядзяць на табурэтцы спіна да спіны. На падлозе, каля босых ног, прайгравальнік, а на ім чорная з чырвонай сярэдзінай пласцінка. За імі вісіць прасціна ў цяжкіх, ломкіх складках. Усё на тым палатне абліта залаціста-васковым святлом нядужай лямпачкі. Мужчына і жанчына знерухомелі, заглыбленыя ў свае думкі. Яны разам і ў той жа час кожны сам-насам.

Настаўнік, якому на той час было гадоў пяцьдзясят шэсць, глядзеў на карціну даволі доўга і насцярожана. Зняў акуляры, пачаў нервова круціць, уздзеў, а потым рэзка павярнуўся да мяне і зірнуў не ў вочы, а ў твар: «А ведаеш, тут усё няпраўда, але гэта — мастацтва». Сказаў і выйшаў з майстэрні.

Чаму я згадаў тое палатно ці не праз трыццаць гадоў? А вось чаму. Мужчына з жанчынай слухаюць музыку. Слухаюць джаз. Я гэта ведаю — сам маляваў.

Сапраўдны джаз — чорны, мурынскі...

І жыццё джаз.

Непрадказальнае, пакутлівае, а бывае, і невыноснае...

Паставіць музыку — рытуал. Трэба ўзяць з паліцы ці з шуфляды пласцінку. Выцягнуць яе з канверта, а лепш дазволіць самой выслізнуць з папяровай схованкі ў руку. Апусціць, асцярожна пакласці на

круцёлку, сцерці аксамітавай падушачкай пылінкі і вільготныя адбіткі пальцаў, а потым націснуць клавішу і акуратна павярнуць рычаг... Прайгравальнік з чорнымі калонкамі — адзіная рэч, якую мы з жонкай за наша сумеснае жыццё набылі ў крэдыт.

Шэсць лічбаў тэлефоннага нумару сядзелі ў памяці так моцна, што пабудзі сярод ночы, спытай — і скажу беспамылкова. А сэрца пры гэтым сціснецца ў кулак, зробіцца цвёрдым і перастане біцца...

Яны, тыя лічбы, былі як невыводная татуіроўка, як выпаленае таўро. Я насіў іх пры сабе, цягаў, ненавідзеў, але пры гэтым атрымліваў незразумелую садысцкую асалоду. Яны выплывалі ў памяці ў самы непатрэбны момант, бо жылі сваім жыццём, адасоблена ад мяне. Раніцай, калі спяшаўся на працу, ногі пачыналі заплятацца, у вачах з'яўлялася жоўтая каламуць і даводзілася спыняцца, бо акрамя лічбаў нічога перад сабой не бачыў — яны засцілі свет...

Яны хаваліся там, глыбока-глыбока ў душы. Гарэлі, балелі так моцна, асабліва па начах, што мяне курчыла, і я скрыгатаў зубамі, пракусваў язык і ў роце рабілася салёна.

На працягу месяца па колькі разоў на дзень я тэлефанаваў, а потым, калі перапыняліся гудкі і там бралі слухаўку, дрогкім голасам прасіў паклікаць доктарку. Дзіўна, ні прозвішча, ні імя яе не памятаю — толькі нумар, толькі шэсць лічбаў. У дактароў, як і ў настаўнікаў, запамінаецца адразу імя і імя па бацьку, і няма розніцы, колькі ім гадоў... Толькі аднойчы яна, тая доктарка, аказалася побач з тэлефонам і мне не давялося чакаць. Пачуў яе голас і ўсё зразумеў... Прытуліўся спінаю да сцяны — стаяць не мог, у сярэдзіне загуло, засвістала, як у вялізнай парожняй бочцы і доўга не мог нават слова мовіць. Праз дзікі свіст і скавытанне прабіваліся галасы, але я іх перастаў разумець...

Цяжка такое пачуць, а яшчэ цяжэй паведаміць жонцы... Позірк і доўгі крык прымусілі хіснуцца і апусціцца перад ёй на калені...

Яе прыгажосць ды мой талент, а яшчэ залаты пярсцёнак з ружовым каменьчыкам — вось і ўсе каштоўнасці, якія мы

мелі на той час. Шырокія і важкія заручальныя пярсцёнкі прадаліся, калі я служыў у войску, іх не шкада: ні тады, ні цяпер. Пры даволі рэдкіх сустрэчах з доктаркай нясцерпна хацелася перапыніць яе перасыпаную, перанасычаную медыцынскімі тэрмінамі размову, за якой дактары хаваюць сваю бездапаможнасць. Выцягнуць з кішэні загорнуты ў бялюткую насоўку той залаты пярсцёнак і прашаптаць-прамовіць, але так, каб не пачуць адмоўнага адказу: «Вось, вазьміце, бярыце, бярыце... Больш нічога каштоўнага ў нас няма... Зрабіце толькі каб... каб ён жыў».

Але гэтага я так і не сказаў, не паспеў... Разумею, што гэта не змяніла б анічога, адно, магчыма, дадало ілюзіяў і беспадстаўных спадзяванняў.

«Тра-та-та-та-ра, тра-та-та-та-ра, та-та-та...»

Музыка загучала раней, чым ён з'явіўся на палубе. Цёмныя пальцы беглі па клавішах і кнопках старога, дабітага акардэона. Музыка пасміхаўся шчарбатым ротам. Ён вылез з нетраў маленькага параходзіка, як той «чорт з люка». На параходзіку людзей — па пальцах пералічыць. Вецер з мора, спёка, хвалі блакітна-зялёныя, музыка... Што яшчэ трэба?

Параходзік гайдае, як трэсачку, хвалі бухаюць у левы борт, ляцяць салёныя пырскі, зіхцяць на белых парэнчах, на дошках палубы, паблісквауюць прахалодным пылам у паветры. Яшчэ адна хваля — і яе кідае ў мае абдымкі, лаўлю, быццам чакаў, прыціскаю да сябе і хутка цалую ў прахалодную шчаку.

Чарнявы, лысаваты, расхрыстаны музыка, апрануты пад аперэтачнага марака, пачынае абыходзіць пасажыраў. Спрактыкавана, яму дастаткова хуткага позірку на адпачыньніка, каб вызначыць, з якой краіны той прыехаў — і тады музыка ўсміхаецца яшчэ шырэй, яшчэ больш прыязна і ветліва. Ён усё разлічыў: параходзік маленькі — не схавацца, людзей няшмат, так што за яго музыку давядзецца плаціць кожнаму.

З намі ў іспанца-каталонца атрымаўся «пракол». Ён прыняў маю жонку спярша за мадам — зайграў французскую мелодыю і атрымаў адно яе бесклапотную ўсмешку, потым за фраў, потым за пані — і замест аднаго музычнага нумару для яе прагучала ажно цэлых чатыры. На ілбе музыкі высыпалі кроплі поту, ён, бедалага, нечакана расхваляваўся, нават пачырванеў... Перад прыгажосцю

заўсёды пачуваеш сябе крыху спалохана і разгублена. Ён тады пайшоў «ва банк» — загучала бяспройгрышная «Галубка».

А яна смяялася і фатаграфавала яго з капітанскай фуражкай у руцэ.

Тэракотавыя форты Барселоны, белыя вежы-маякі, малахітавага колеру марская вада, сіняе неба — усё гэта плыло, гайдалася ў яе вачах, якія штохвілінна мянялі свой колер...

Насцярожанасць і лёгкі сполах (відаць, яна баялася, што шчасце можа раптам скончыцца) з'яўляліся то ва ўсмешцы, то ў позірку, але хутка раставалі.

А музыка расцягваў стракатыя мяхі дабітага акардэончыка, дужыя і няспрытныя пальцы прабягалі па кнопках-клавішах, яго, як і іншых, хістала, але ён усё адно яшчэ паспяваў прытоптваць у такт мелодыі.

Жонка дала яму грошы — поўную жменю манетак, усе, якія былі.

За шчасце трэба плаціць... За няшчасце — расплачвацца...

Электрычка, якая звычайна гэтую падземную станцыю праскоквала без прыпынку, раптам тарганулася і стала. Пасажыры колькі часу дысцыплінавана і нерухома сядзелі ў паўзморку, а як толькі святло ярка ўспыхнула — загаманілі. Хрыпатая абвестка па радыё — і гамана змянілася рухам. Вагон апусцеў, стала светла, але зрабілася ніякавата ад такой перамены. Мы з жонкай і яшчэ парачка — перапалоханыя немец і немка. Яны цікуюць за намі, а падысці не наважваюцца. На падземным пероне людзі паспелі паразыходзіцца — скразняк смецце папяровае туды-сюды ганяе... Адзінае, што мы з жонкай зразумелі — электрычка па незразумелай прычыне спынілася на краі сталіцы Каталоніі, далей не пойдзе, а таму выбірайся як ведаеш. Ведаю — над намі прамысловыя кварталы, і рабіць там няма чаго, бо прамысловыя зоны паўсюль аднолькавыя — шэрыя, што ў Мінску, што ў Віцебску, што ў Барселоне.

З дапамогай нязвыклага задушлівага і бруднага метро дабіраемся да патрэбнай станцыі ў цэнтры горада і з уздыхам сапраўднай палёгкі рушым, рука ў руцэ, на паверхню. Немец і яго ружоваскурая фраў, акуляры на ланцужку, ідуць па нашых слядах — разумеюць, што мы больш за іх абазнаныя і спрактыкаваныя.

Потым яшчэ тройчы мы з імі сустрэнемся...

Ізноў злаўлю — перахаплю зайздросныя позіркі. Немец стане есці вачамі маю жонку, а немка будзе глядзець на яе праз акуляры, так, як можа глядзець адно жанчына на жанчыну — з непрыхаванай варожасцю, насцярожанасцю і здзіўленнем. Азірнуся і ўбачу, як фрау таргане свайго мужа за плячо, так злосна і непрыгожа, а потым яшчэ пачне выгаворваць.

А мы хацелі з імі, як з сябрамі па няшчасці, пазнаёміцца і, можа, нават выпіць...

Не перасекчыся ў пустым вялізным горадзе немагчыма — чалавека відаць здалёк.

Горад, звычайна перапоўнены, гаманкі, вірлівы, пусты і светлы, як той святочны стол нараніцу. Горад — як кватэра без гаспадароў.

Горад, у якім спыніўся час. Начное жыццё сышло, а дзённае не пачалося.

Ён належыць нам, а мы яму.

Трымаю жонку за руку, а дакладней, трымаюся яе рукі, хоць выдатна разумею, што сёння, калі нават моцна пажадаеш згубіцца ці знікнуць, — не атрымаецца, вуліцы амаль бязлюдныя. Вецер з блізкага мора і яркае гарачае сонца.

Нашы адлюстраванні ў вымытых вітрынах крамаў, кавярняў, офісаў здзіўляюць, бо ўсе нагадваюць урачыстыя парныя партрэты на фоне горада, дзе ў поўны рост, з брукаванкай пад нагамі, а дзе толькі галовы.

Крамы зачынены ўсе чыста. Кавярні і бары — з пяці працуе адна. Але гэтак нават і лепш. У кожнай кавярні стануць вітаць нас так, нібыта мы — самыя чаканыя, самыя жаданыя госці. І куды толькі падзенецца заўсёдная каталонская стрыманасць?

Сіеста, якую не шануюць адно французы ды сабакі...

Але ж якая сіеста з рання? Пытанне, на якое мы так і не знайшлі адказ, а хутка і шукаць перасталі. Занадта добра і спакойна ў напоўненым сонцам і ветрам горадзе, каб яшчэ пра нешта думаць, перажываць.

Залацістыя вежы Саграды, як вышытыя на шоўку напятага ветрам сцягу, паказаліся ў канцы вуліцы і з кожным крокам пачалі набліжацца.

Побач з саборам тузін турыстаў на зялёным газоне ды мужчына ў памаранчыкавай камізэльцы, які старанна паліваў

ярка-зялёную траву і апельсінавыя дрэўцы, а на сабор нават не глядзеў.

Побач з каменнай аграмадзінай мы пачуваліся дробнымі казюркамі-мурашамі, але неверагодна шчаслівымі. Хацелася ўпасці на мяккую траву, схапіць любую жанчыну, сціснуць у абдымках і цалаваць...

А залацістыя вежы Саграды няхай хістаюцца, ляцяць,плывуць, плавяцца ў шаўковай сінечы.

Каталонец у памаранчыкавай камізэльцы сваю немудрагелістую справу рабіў сумленна. І на траву мы, зразумела, не паваліліся, бо яна была мокрай, паблісквала, як поплаў на світанні.

Паўднёвая ноч надыходзіць імгненна. Толькі што было светла, мора існавала асобна ад неба, а цяпер яны — адно цэлае і непадзельнае. Хвалі, якія набягаюць з цемры, туды і вяртаюцца з эратычнымі ўсхліпамі і пяшчотнымі ўздыхамі.

Пад вокнамі гучыць музыка, песні, як хвалі, змяняюць адна другую.

На плячах, акруглых, як намаляваных з дапамогай мора і ветру, спіне, шыі, на сабраных у хвалісты хвост залацістых валасах — зіхоткія кроплі... Яна выйшла з ваннай і бессаромна дэманструе сваю прыгажосць. Не вытрымліваю, а хто ж такую пакуту можа цярпець, кідаюся да яе...

Кроплі вады робяцца салёнымі. Кандыцыянер натужна гудзе, але не можа астудзіць нашы пераплеценыя целы. Даводзіцца наноў лезці пад прахалодныя струменьчыкі дожджыка, а потым усё паўтараецца...

Хвалі, якія набягаюць з гарачай каталонскай цемры, туды і вяртаюцца, з усхліпамі і ўздыхамі...

Напоўненая спустошанасць і лёгкі сум. Размовы пра нешта нязначнае і дробязнае. Гаворым адно, каб не расплёхаць, не пераліць праз край тое, што насамрэч нас напаўняе. Толькі цяпер заўважаем, што кандыцыянер гоніць у пакой, зацягвае пах смажанай рыбы з шумлівага рэстарана пад вокнамі...

А ноччу чуваць мора, якое адно цэлае з цемрай, а цемра — цэлае з намі.

Яна спіць з анёльскай усмешкай.

Такой залевы, колькі жыву, — не памятаю...

Шаша кіпела ў святле фараў. Вада, вада, вада... Яна плыла па ветравым шкле, і дворнікі ўжо не дужалі яе змахваць, адно сутаргава ўздрыгвалі. Яны, як рукі, стомленыя, напрацаваныя, — спрабуюць падняцца, а потым ападаюць, апускаюцца.

Грукат перуна. Шалёныя сполахі маланкі і шоргат, хліпанне, сычэнне вады... Машына не ехала, а плыла. Святло фараў выхоплівала, выдзірала з мокрай цемры зусім мала прасторы, толькі ўсяго некалькі крокаў.

Вялізная, як тая гара, фура вынырвае з дажджу, выскоквае насустрач. Сляпучае святло б'е па вачах, і яны інстынктыўна заплюшчваюцца, а пальцы сутаргава, яшчэ мацней сціскаюць ручку гаспадарчай сумкі. Удар, скрыгат металу, звон разбітага шкла і наша разбітая, знявечаная машына ляціць з шашы ў кювет...

Тады я не баяўся смерці. Яна падавалася лягчэйшым і лагічным выйсцем, прычым хуткім. Трое забітых: два мужчыны і маладая жанчына... Потым высветліцца памылка. Потым — пасля таго, як расчэпяць мае і яе пальцы, расшпіляць маланку гаспадарчае сумкі... Там, у сумцы, знойдуць загорнутае ў навюткія пялёнкі мёртвае дзіця.

Усю доўгую дарогу — шэсць гадзін — мне бачылася аварыя, катастрофа... Гэта было і магчыма, і больш чым верагодна.

Машына з'ехала з шашы, спынілася. Хапіла-такі розуму. А дождж шумеў і шумеў, хвастаў маленькі памаранчыкавы легкавічок з трыма няшчаснымі ў задушлівым салоне.

Я глядзеў на яе, калі маланкі рассякалі сцяну залевы, калі святло машын, што ішлі насустрач, выхоплівала з цемры яе спалатнелы — ні крывінкі — твар і не мог знайсці слоў, каб суцешыць. А якія словы маглі дапамагчы? Усе яны прагучалі без водгуку, раней, яшчэ там — у інтэрнатаўскім пакойчыку, калі прымушаў яе ледзь не сілай піць гарэлку і піў сам.

У мяне не засталося ані кроплі мужнасці. Я хацеў знайсці яе ў сваёй душы — не знаходзіў. Кроплю — толькі адну. А яе не было.

Санітарка, круглатварая немаладая жанчына, разгубілася і не адразу паверыла, што я — гэта я. Доўга круціла, вывучала мой пашпарт. Параўноўвала фотаздымак з тым, хто стаяў перад ёй. У яе позірку было поўнае непаразуменне, і яна яго нават не хавала.

Я ніколі і нікому не расказваў пра маленькае цельца свайго сына. Тым больш жонцы. Яно — распоратае ад шыі да паху — было на хуткую руку сшыта тоўстымі ніткамі. Так не сшываюць нават разадраную ляльку. Не расказваў, як няўмела спрабаваў загарнуць у пялёнку маленькі трупік, чым больш спяшаўся і стараўся, тым горш атрымлівалася. Санітарка адсунула мяне ад жалезнага стала з халоднай, як брудны лёд, бляхай, запакавала мёртвае, як жывое, і аддала мне...

Жончыны пальцы колькі ні спрабаваў расціснуць — не мог. Яна трымалася за сумку аберуч і адно пакутліва ўздрыгвала... І, як мне здавалася, не разумела ні дзе мы, ні куды едзем начной залевай.

Для мяне прайгравальнік — істота жывая, амаль чароўная, цудадзейная. А чорная пласцінка — начное неба — палёты, падзенні... У кожнага прайгравальніка, нават не самага дасканалага, ёсць рычаг, які паварочваецца, як рука, і вастрыё голкі мякка і чуйна датыкаецца да ледзь бачнай дарожкі. Плытка ціха кранаецца і пачынае свой танец. Часу стае адно на тое, каб набраць у грудзі паветра — гучыць музыка...

Ды і музыка на чорных вінілавых пласцінках, на маю думку, жывая. Бо іголка бяжыць па драпінах, незаўважных пылінках, падскоквае, а часам спыняецца, каб потым, калі не паспяваеш падысці, ізноў прахапіцца, абдумацца і нарадзіць гук, пяшчотны ці трывожны..

З гэтым нічога не зробіш: я чалавек мінулага стагоддзя і нават тысячагоддзя — той эпохі, якую варта назваць вінілавай. А носьбітамі музыкі той эпохі былі чорныя пласцінкі з яркімі, часцей глянцавымі кружкамі-сярэдзінамі. Папярова-вінілавая эпоха...

Вось таму, а не з якой іншай прычыны на той карціне з цяжарнай жанчынай і мужчынам, якія сядзяць спіна да спіны, ёсць і ён — прайгравальнік.

Гучыць блюз, а што ж яшчэ яны могуць так засяроджана слухаць?..

Снег пайшоў з вечара. Ляцеў, падаў, валіў. Пакрываў, засыпаў змерзлы, выстылы ў чаканні свет. Зямля была халодная, высахлая ад сцюдзёнага ветру, як жалеза ці камень. А таму снег, першы за восень і зіму, выдаваў лёгкім, пульхным і неверагодна белым. Я глядзеў на яго праз вокны, пераходзіў з пакою ў пакой і не мог паверыць, што нарэшце пачалася чаканая зіма. Не будзе надакучлівага

скавытання ветру, бомкання цяжкіх кропляў па бляхах карнізаў, такога аднастайнага і варожага...

Нараніцу той першы снег храбусцеў, як капуста пад лязом нажа спрытнай гаспадыні. Я спяшаўся ў краму, якая месцілася ў суседнім мікрараёне. Ішоў праз поле — белай цалінoй, не кранутай, не сапсаванай чалавекам.

Падумаў, што дзень пачынаецца з белага ліста.

Набываў крамяныя зялёныя яблыкі, выбіраў лепшыя, вялікія, як мужчынскі кулак. Памідоры на зялёных галінках, сок, мінеральную ваду... А ў душы нарастала дзіўнае пачуццё, разабрацца ў якім, заняты будзённымі клопатамі, не паспяваў.

Пальцы намацалі ў кішэні тэлефонны жэтон, звыкла набралі хатні нумар доктаркі, і ў той жа час ён рассыпаўся ў памяці — камбінацыя лічбаў зрабілася амаль бясконцай, а таму бессэнсоўнай. Слухаўка ў левай руцэ, пластыкавы пакет з ежай у правай. А вакол снег... Бадзёрым голасам доктарка павіншавала, а далей я не памятаю... Белы свет перакуліўся... Мужчыны і жанчыны на небе, спалоханыя твары, зялёныя яблыкі, чырвоныя шарыкі памідораў без галінак, снег.

І разуменне таго, што там, за бетоннай сцяной мікрараёна, за аднолькава-шэрымі шматпавярховікамі ў мяне нарадзілася, ты нарадзіла... Дакладна памятаю вагу і рост дачкі — іх захавала памяць.

Іду па снезе, гляджу на снег, ем снег...

На шчаках слёзы, выціраю іх снегам...

Снег, які выпаў з пятага на шостае лістапада тысяча дзевяцьсот дзевяноста пятага года, сцёр з памяці, як хваля з пяску, лічбы, якія замінaлі глядзець на свет шэсць гадоў.

Сонца схавалася за лес.

Шарая гадзіна — улюбёны час мастакоў. Свет ясны, амаль бяз ценяў, зразумелы, але ўсё адно з лёгкім прысмакам таемнасці. Старыя сосны, прамаляваныя святлом дня, які адыходзіць, дробныя кветачкі, травінкі, пчолы і казюркі — нагадваюць дасканалыя ювелірныя ўпрыгожанні. Нават звычайны шэры каменьчык на дарозе, і ён, абліты цудадзейным святлом, — твор мастацтва, бо выдае каштоўным...

Нават не надта прыгожыя людзі ў залацістым святле шарай гадзіны, і тыя выглядаюць як мадэлі мастакоў Адраджэння, а што казаць пра маладую жанчыну, прыгожую і дасканалую ад нараджэн-

ня… Я гляджу на яе моўчкі, крыху спалоханы, уражаны, разгублены да такой ступені, што па колькі разоў перапытваю.

Разумею, што мастацтва, пры ўсёй велічы і магутнасці, здатнае ў лепшым выпадку спыніць імгненне, але яно не можа змагацца з жыццём. З трымценнем цёплага паветра, напоўненага пахамі доўгага летняга дня, з гукамі, далёкімі і блізкімі, з шоргатам крокаў, з ціхай размовай…

Мастацтва будзе імкнуцца, але ластаўку так і не дагоніць…

Гэты час кароткі — хуткаплынны. Кіношнікі называюць яго рэжымам. Час, паміж святлом, якое хутка сыходзіць, і змрокам, цемрай, якія пакуль хаваюцца, але не паспееш азірнуцца — запоўняць свет, запануюць да першых світальных промняў.

Залаты акраец стромы пясчанага кар’еру ў чорных кропках ластаўчыных нораў, як святочны хлеб, спечаны з макам. На строме велічныя сосны з чырвонымі камлямі. Носяцца імклівыя і нястомныя ластаўкі, ціўкаюць.

Дарога нашая з табой ад вясковых могілак да шашы. Пад нагамі патрэсканы, разбіты асфальт, над галавой зменлівае неба. Мы гаворым пра жыццё і пра смерць, пра могілкі, якія мінулі, і пра розныя месцы на гэтым свеце, дзе былі шчаслівымі…

У яе вачах адбіваецца шафранавае неба, калі яна ўсміхаецца…

Яна нагадвае мадонну.

Кудзеркі валасоў, як залатыя спружынкі, пахістваюцца пры кожным кроку.

Яна амаль шчаслівая, прыгожая.

Тады я не сказаў, а толькі падумаў… Пра чорнае слова — здрада.

І, можа, таму я разважаў пра смерць і папрасіў спаліць маё цела, а попел расцерушыць у тых месцах, дзе мы з ёй былі шчаслівымі. Такіх месцаў аж чатыры, і ўсе яны, на жаль, далёка адно ад аднаго…

Вакацыі пасля першага курса інстытута. У Гомелі дапамагаў састарэламу мастаку-афармляльніку павялічыць пенсію: маляваў вялізныя агітацыйныя плакаты. І сёння памятаю заклікі-папярэджанні ад неасцярожнага абыходжання з газам і газавымі балонамі…

Пад вечар вяртаўся ў бацькоўскую кватэру. У пад’ездзе сустрэў суседку, і яна з усмешкай паведаміла, што да мяне прыехала прыгожая-прыгожая дзяўчына…

Нават не спытаў, якая дзяўчына — ведаў напэўна. Яна — тая самая, прыгожая...

Паверхня возера, у дробных хвальках, нагадвала неадпрасаваны вільготны шоўк. Мы ішлі да вады павольна. Рука ў руцэ, і мае пальцы пачалі па-здрадніцку калаціцца. Мая ліхаманка перадалася навакольнаму свету. Лаўка ў пяці кроках ад вады. Не магу прыгадаць, ці праходзіў хто побач... Калаціла так моцна, што зубы ляскалі, а цела зрабілася непаслухмяным, як не маім, па скуры прабягалі сутарговыя хвалі. Я хацеў яе... Хацеў! І жаданні нашыя супалі, бо і яе калаціла нясцерпна.

Там — наперадзе, няхай будзе што будзе, а мы тут і цяпер. Нашы жаданні супадаюць, прыціскаюць адно да аднаго так моцна, што не разарваць...

Чаму яна абрала менавіта мяне? Чаму прыйшла на мой інтэрнатаўскі ложак з рыпучай, правіслай да падлогі панцырнай сеткай... У яе ж быў выбар, за ёй бегалі, хадзілі, вакол яе круціліся інстытуцкія выкладчыкі, акторы і мастакі... Можа, з кім іншым яна магла быць больш шчаслівай?

І потым, праз гады, яна крыўдавала на мяне за тое, што я не мог згадаць, якую стужку круцілі ў кіназале Палаца культуры... Сапраўды, не памятаю, які там ішоў фільм.

А вось яна памятала той музычны фільм пра знакаміты гурт «АВВА».

Была адно мая ліхаманка ў цемры перапоўненай залы, і яна — жаданаю. Тая ліхаманка сцерла, знішчыла з памяці ўсё астатняе — неістотнае.

Увогуле, жаданне было толькі адно — блізказць з ёй!

Тут, цяпер і назаўсёды...

Здрада — чорнае, атрутна-саладжавае слова. І тое, што апостал Пётр тройчы выракаўся Хрыста, нікольки мяне не супакойвае, не суцяшае і палёгкі не дае... Як і развага пра тое, што здраднік Іуда пакутаваў, магчыма, не менш чым той, каго ён кінуў на крыж, — не ратуе ад чарнаты, не ратуе... І шукаць апраўданні сваім учынкам бяссэнсоўна, іх няма. А што тады застаецца, што? Спадзявацца на дараванне? А ці магчыма дараваць сабе самому? Пакуль не ведаю...

Жыццё чалавека ад першага дня і да апошняга — джаз.

Непрадказальнае, пакутлівае, а таму — шчаслівае.

2004—2005 гг.

# МІНСКІ АЛЬБОМ

**Рэрых і Ліўшыц**

Любое сховішча з карцінамі мае пэўныя памеры. Надыходзіць час, і старыя палотны павінны саступіць сваё месца новым. Так было і так будзе. Мне даводзілася запісваць палотны з фонду кафедры станковага жывапісу БДТМІ. Даводзілася замалёўваць палотны сваіх выкладчыкаў-настаўнікаў, калі яны былі яшчэ студэнтамі. Пісаў і паверх сваіх уласных старых палотнаў… Мой выкладчык жывапісу — Хаім Майсеевіч Ліўшыц, расказаў пра свае гады вучобы ў Ленінградскай акадэміі мастацтваў. Пра суровыя і жорсткія трыццатыя гады. Палотнаў не хапала, грашовых сродкаў не было, каб набыць чыстае льняное палатно. Паперы добрай — не знайсці… Студэнтам выдалі старыя карціны навучэнцаў яшчэ той — імператарскай акадэміі. Выдалі са сховішчаў і тры вялізныя карціны Мікалая Рэрыха. Студэнты разрэзалі іх на кавалкі. Паабцягвалі свае падрамнікі і пазамалёўвалі. Я тут палітыкі не бачу. Сумна? Несправядліва? Можа, і так. Але жыццё рухаецца па сваіх законах. Некаму, гадоў праз дваццаць, выдалі са сховішчаў і палотны Хаіма Ліўшыца. Нехта замаляваў іх… Адкуль апантанаму студэнту пяцідзясятых-шасцідзясятых гадоў было ведаць, што ён весела квэцае фарбай па палатне Мікалая Рэрыха.

**Мінск—Віцебск—Парыж…**

Калі табе дзевятнаццаць, то выкладчыка, якому шэсцьдзясят пяць, успрымаеш неверагодна старым. У 1977 годзе столькі і было майму інстытуцкаму настаўніку жывапісу і кампазіцыі — Хаіму Майсеевічу Ліўшыцу. Гэта яго пераняў на парадны лесвіцы пры вялізным акне Глобус і паказаў невялікага памеру фотаздымак, кепскай якасці. На той картачцы быў сам Глобус, які праходзіць па местачковай вуліцы ля аднапавярховага цаглянага дамка. Я стаяў праваруч і маўчаў. Хаім Майсеевіч уздзеў акуляры з тоўстымі шкельцамі, адставіў здымак на даўжыню рукі.

— Што гэта, Хаім Майсеевіч? — спытаў мой сябар у майго выкладчыка.

— Дзе?

— На здымку.

— Чалавек ідзе па вуліцы.

— А што гэта за дом? — тыцнуў пальцам у картачку Глобус.

— Ну, дом, і што? Аднапавярховы.

— Хаім Майсеевіч, гэта ж дом Шагала, — сказаў я расчаравана. Ліўшыц паглядзеў спачатку на мяне, потым на майго сябра, потым на здымак, потым падышоў бліжэй да акна. Раптам з яго тварам нешта зрабілася. Я не магу гэта апісаць дакладна. Трэба доўга і старанна падбіраць словы. Карацей, Хаім Майсеевіч на вачах памаладзеў. Тарганууся. На паўгалавы зрабіўся вышэйшы, акуляры зляцелі з носа і павіслі на шнурку.

— І вы што, думаеце, што я не знаю, што гэта дом Шагала? Думаеце так?.. Мой дом, наш дом, мы жылі праз два ад гэтага. Вось тут. — Кароткі ўказальны палец зрабіў пятлю і завіс у паветры, быццам да сцяны дакрануўся.

Семдзесят сёмы год. Мінск. Пра Шагала ўголас лепей было не гаварыць. Вучылі сацыялістычнаму рэалізму, навуковаму камунізму і гісторыі партыі… Парыж здаваўся недасягальным.

Мы з Глобусам ішлі па праспекце і гаварылі пра Парыж. Пра Шагала і Пікасо, пра Жоржа Брака і Фернана Лежэ. Мы гаварылі пра выдатных мастакоў. Купілі ў гастраноме партвейна і напіліся. Але і п’яныя працягвалі гаварыць пра карціны і Парыж. Большасць інстытуцкіх выкладчыкаў «прафукалі» свой талент на партрэты перадавікоў, брыгадзіраў, калгасніц і калгаснікаў, партызан і чырвонаармейцаў… І калі яны бачылі, што нехта збіраецца пайсці не іхнім шляхам, то раздражняліся. Яны, як тапельцы, хапалі за рукі жывых і цягнулі на дно. Мы пачыналі вучыцца падманваць настаўнікаў, уладу, пачалі вучыцца выжываць. Мы не баяліся будучыні.

Праз пару месяцаў я сядзеў у майстэрні і маляваў. Прыйшоў Ліўшыц. Час быў позні, нават вячэрні, малюнак скончыўся. Я маляваў Мінск. Маляваў, як Парыж… Маляваў тэлевежу і хацеў, каб яна была падобная да Эйфелевай. Хаім Майсеевіч сеў на табурэтку. Доўга разглядаў мае эскізы і накіды. Потым закрыў твар рукамі. Потым мне падалося, што ён заплача. Потым, калі адыме далоні ад твару, то яго рот стане крывіцца, а вочы мружыцца, як ад сляпучага святла…

«Яны вас, Уладзімір… Я ж Паўла Філонава ведаў, чулі пра яго? Бедны чалавек. І Шагала бачыў. Ён з’ехаў назаўсёды. Калі б не з’ехаў, то і… Паслухайце мяне, я вам дабра жадаю, не піце столькі

віна, не трэба. Я ў Ленінградзе напіўся ў трыццаць трэцім — ледзь не памёр… Віно добрае было, старое, сапраўднае… Не паказвайце гэта нікому. Сабе малюйце, а іншым не паказвайце. Можа, потым, калі-небудзь… І сябру свайму скажыце… І я быў левы, такі левы, ну такі… Бачыў эцюд Веласкеса, той, з Эрмітажа, які прадалі амерыканцам. Яны шмат прадалі. Лепшае прадалі. Я ўсе тыя карціны бачыў. На свае вочы, як вашы… А Шагал, што Шагал… Рэмбрант ёсць. “Начная варта” — самая лепшая карціна ў свеце… Эх, стары я… Эх, я столькі бачыў усяго. Не піце столькі, я вас вельмі прашу».

Хаім Майсеевіч Ліўшыц пайшоў.

Ён выглядаў прыгнечаным і спалоханым. Я зірнуў на яго плечы, на патыліцу і пачаў збіраць з падлогі малюнкі. Яго спіна — была спінай палоннага…

На наступны дзень ён прыйшоў на заняткі. Ён быў звычайны. Сціплы, ветлівы і крышку абыякавы. Больш з такой шчырасцю ён са мной не гаварыў.

Ліўшыц памёр у Амерыцы, куды з’ехаў на самым пачатку дзевяностых да сына. Не ведаю, ці захаваліся яго ўспаміны пра дваццатыя-трыццатыя гады, калі ён вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме, а потым у Ленінградскай Акадэміі мастацтваў…

Я маляваў тэлевежу, старыя кварталы Верхняга горада, Траецкае, мост праз Свіслач, касцёл і царкву… Пачыналі будаваць гандлёвы цэнтр «Няміга» і дом Мусінскага…

У цагляным і абшарпаным двухпавярховым дамку на вуліцы Астроўскага мастакі ладзілі выставу. Мікола Паўлоўскі выношваў план уцёкаў у Парыж. У вялікім і брудным пакоі, дзе боўталіся дзве яркія лямпачкі, а ўсе вокны закрывалі планшэты і зацягвалі посцілкамі, ён расстаўляў на падлозе свае палотны, расфарбаваныя аэрографам. Ён хадзіў сярод іх у брудным сацінавым халаце, у спартыўных штанах з адвіслымі каленямі і кедах на босыя ногі. Рукавы халата былі закасаныя вышэй локцяў… Яго чорна-зялёна-цытронавыя карціны на тэмы космасу мяне не хвалявалі зусім. Яны здаваліся нежывымі, як фотаздымкі.

Паўлоўскі застаўся для мяне там — у семдзесят сёмым, у паўразбураным дамку. У прыціснутым начным небам цёмным квартальчыку Верхняга горада. Я маляваў Мінск, як Парыж.

**Дзённы сеанс. «Змена»**

1974 год. Пачатак красавіка. Ёсць у Мінску месцы, якія я ненавіджу. Люта ненавіджу, як па мне, то лепш бы іх не было… Але яны ёсць. І цяпер кінатэатар «Змена» падаецца месцам далёкім, як не ў Мінску. Не памятаю, які там круцілі фільм, але, відаць, вельмі цікавы, што мы з Глобусам вырашылі паглядзець. Доўга калаціліся ў трамваі нумар тры. Даехалі. Гаварылі пра сваё: пра мастацтва і карціны, пра настаўнікаў і аднакурсніц, пра алейны жывапіс і будучыню. Перад гэтым пабылі на Камароўцы, пamалявалі вясковых цётак у клятчастых хустках і мужыкоў у ватоўках… Падзівіліся на агромністыя гарбузы, на свінячыя галовы з заплюшчанымі вачамі і крыўдліва падцiснутымі пашчамі, на рэбры свінячыя ружова-бэзавыя… Паелі пончыкаў з павідлам па пяць капеек… Хацелі патрапіць у вучэльню, у сваю майстэрню, але злосная вахцёрка дзверы не адчыніла — нядзеля.

Які ж там ішоў фільм? Як і тады, так і цяпер, праз трыццаць пяць гадоў, мне гэта не дае спакою. Бывае, што адной дэталі і не хапае, каб успамін выглядаў пераканаўча. Мінск быў шэры, расплывісты, як малюнак тушшу на абгортачнай вогкай паперы. Ну, ведаеце, калі туш расплываецца і лінія губляе дакладнасць. Пакамечаным, як тая абгортачная папера, выглядаў красавіцкі Мінск. І мы з Глобусам былі абгорнутыя той паперай. Перайшлі рэйкі, павярнулі за рог, прайшлі побач з тэлефоннымі будкамі. Шкло павыбіванае, а самі тэлефонныя апараты на дзве капейкі выглядалі калекамі, знявечанымі і непатрэбнымі. Касы кінатэатра зачыненыя — сеанс адмянілі…

Кіно не прадбачылася. Мы пахадзілі побач, падзівіліся і вырашылі паспрабаваць вярнуцца ў вучэльню, каб пamаляваць у цёплай майстэрні цукрова-снежныя гіпсы. Можа, нарэшце, хоць там пашанцуе? Але кіно нас чакала.

Сапраўднае, рэальнае, жывое, а не на чыстай прасціне экрана. Кіно мусіла адбыцца тут. На шэрай мокрай вуліцы, на бруднай пакамечанай абгортачнай паперы, на шурпатым асфальце. Спачатку з’явіліся два падшыванцы гадоў па трынаццаць — дробныя і мітуслівыя. Яны папрасілі капеек. Мы не далі. Пераглянуліся з Глобусам, плячыма перасмыкнулі, хацелі да прыпынку рушыць. Тут падышлі трое юнакоў нашых гадоў. Мясцовыя і нахабныя, з цыгарэтамі. Па іх разуменні — мы пакрыўдзілі меншых сяброў. Да прыпынку — метраў сто. Але для гэтага трэба павярнуць за рог.

Не, мы не спалохаліся. Удвух можна супраць трох. Лёгка. Меншыя падшыванцы некуды зніклі. Слова за слова, і бойка пачалася…

Глобус выхапіў нож.

Яго сцізорык ляжаў у кішэні. Лоўкі — нагойстраны, як брытва. У мокра-хрыпатым гомане і крыках нож бліснуў кароткім лязом суха і колка. Мясцовыя адхінуліся, адскочылі, спалохаліся, бо не чакалі такога сцэнарыя… Помню вочы іхнія і твары, якія згубілі афарбоўку, імгненна спалатнелі…

Нож — гэта не жарт. Гэта моцны жэст. Глобус хутка сакануў паветра. «Нож…» — здзіўлена прашаптаў адзін з мясцовых і азірнуўся. З-за рога дома выбегла трое меншых і пара дарослых дваццацігадовых хлопцаў. У аднаго на шыі матляўся шалік колеру варанай морквы. Глобус адступіў на крок, хутка склаў нож, закінуў у кішэнь. Тут і пачалася сапраўдная бойка… Тупая і бяздарная. З крыкам, лаянкай… Вулічная. Мяне павалілі першага. Пачалі «мясіць». Калі я здолеў вырвацца і падхапіцца на ногі, то Глобус ляжаў, а яго білі. Я ўчапіўся ў шалік колеру варанай морквы і пачаў адцягваць хлопца. Ён захроп, заторгаўся, але Глобуса біць кінуў. Мяне павалілі на спіну і зноў пачалі біць нагамі.

«Нож! У гэтага нож…» — апошняе, што я пачуў…

Глобус размазваў па твары яркую кроў. Мы цягнуліся да прыпынку… І тут зноў з'явіліся падшыванцы. Мы пабеглі. Увалiліся ў трамвай. Брудныя і ў крыві. Глобус закрываў твар рукамі, а кроў выцякала між пальцаў…

На другі дзень, у інтэрнаце архітэктурна-будаўнічага тэхнікума, дзе я тады жыў, мне зробіцца млосна. Знаёмы студэнт-в'етнамец абмажа мае жоўта-бэзавыя бакі смярдзючай маззю з металічнай пушачкі. Я буду моршчыцца ад болю і дзівіцца на фотакартачкі ў пакоі в'етнамцаў. Ён, мой лекар, стаіць з аўтаматам пад дрэвам. На галаве саламяны капялюш… Мае сінякі праз тыдзень сыдуць, а рэбры перастануць балець. Глобусу застанецца зламаны нос…

У маёй сумцы ляжаў скальпель. У кішэні балоневай курткі Глобуса — ножык з блакітнымі тронкамі. Усё магло скласціся інакш. Зусім кепска. Гнюснае месца — кінатэатр «Змена». Ненавіджу… Здаецца, там побач жылі Сяргей Шупа і Альгерд Бахарэвіч.

P. S. А кіно называлася — «Франсіска Гоя, ці Цяжкі шлях пазнання».

**Нафталінавыя цукеркі**

У той вечар ішоў снег. Нават не ішоў, а валіў. Вішня ў бэзавым змроку, залаты ліхтар…

Дрэўца так абляпіў снег, што яно выдае несапраўдным — казачным, падобным да дэкарацыі лялечнага мультфільма. Вішня і ліхтар за акном, а я за сталом. Падпёр галаву кулаком і гляджу ў бэзавы змрок. Вось, нарэшце, адна з галінак не вытрымлівае цяжару і выпростваецца, скідае снег. А потым ізноў, на вачах, пачынае павольна згінацца. Гаспадыня, у якой мы здымаем маленькі пакойчык, такі вузкі, што дваім цяжка разысціся, трындзіць і трындзіць. Яна напілася нашай дармовай кавы, сыпала духмяны карычневы парашок — не шкадавала, а цяпер пакутуе. Сэрца калоціцца, твар — чырвонымі плямамі, на лбе — кропелькі поту. Ёй не падабаецца снег, зіма, доўгі вечар, кватарант Жэнька, які яшчэ не вярнуўся з інстытута. Калі б не было мяне ці Генуся, то кепскімі былі б мы, а не Жэнька. Кепскі заўсёды той, каго зараз няма.

— Ну, хто мне скажа, дзе пархатага носіць? — гучна так прамаўляе гаспадыня і папраўляе пад бокам вялізную падушку.

Яна сядзіць на высокім ложку, абкладзеная падушкамі, і глядзіць, сочыць за кожным нашым рухам.

— Прыйдзе, — адказвае Генусь і працягвае крэмзаць алоўкам па старонцы альбома.

— Відаць, па дзеўках бегае… Прыцягне паскуднік яшчэ брыдоту якую. Заразы рознай хапае на свеце. Мала іх немцы душылі.

— Заняткі ў яго да дзевяці, пакуль збярэцца, даедзе, якія дзеўкі? — пярэчыць Генусь, якога задзяўбло слухаць старую.

— Снег прымушу зграбаць, як толькі прывалачэцца… А ў пятніцу выпраўлю ў лазню, каб свае пархі памыў.

Я не ведаю, што такое пархі, але не перапытваю — сабе даражэй. Спытай толькі, дык потым гадзіну гаварыць давядзецца.

Сяджу за сталом і гляджу ў бэзавы вечар. Ні чытаць, ні маляваць не хочацца — баляць вочы. Хочацца спаць, але пакуль не прыйдзе трэці кватарант, гаспадыня заснуць не дасць, праверана.

Апранаюся і выходжу, каб прынесці вядро вугалю з дрывотні. Дзверы адсоўваюць снег, праразаюць на ганку паўкола. Мне падабаецца гэты дворык, засыпаны снегам. Падабаецца цішыня. Прыват-

ны дом знаходзіцца амаль у цэнтры горада, а адчуванне такое, што горад далёка-далёка, вакол засыпаныя, пахаваныя пад снегам аднапавярховыя дамы…

Жэнька нарэшце прыйшоў. Моўчкі выслухоўвае праклёны на сябе і на тое племя, да якога належыць, круціць пальцам каля скроні, каб гаспадыня не бачыла, паціскае плячыма, грэбліва крывіць рот, вячэрае цёплым малаком з батонам і кладзецца побач з грубкай.

Мы з Генусем спім на вузкім тапчане. Ён такі вузкі, што спаць удвух можна толькі бокам, а калі паварочвацца, то разам. У нас дамоўленасць — пад коўдрай пра дзевак не гаварыць. Забароненая тэма. Каб не гаспадыня, якой за семдзесят, я б заснуў адразу. Яна выспіцца ўдзень, калі нас няма, а потым і сама не спіць, і нам не дае, прымушае слухаць байкі пра маладосць і мінулае. Ці пра хваробы разважаць возьмецца. Якая лепш, ад якой добра памерці, а ад якой адны пакуты і смерць паганая, нялюдская, і няхай ад такіх іншыя загінаюцца. У сямнаццаць гадоў слухаць пра такое невыносна і нецікава, але ж даводзіцца.

— А чыстыя якія тыя немцы былі… І паголеныя, і пастрыжаныя, і духмяныя… Не тое, што наш Жэнька. Чуеш, што кажу? З мылам мыліся, а не так, як ты — бруд адно па скуры размазваеш…

Снег працягвае падаць. Па шпалерах ляцяць цені, слізгацяць, як лісце.

— Жэнька, ці чуеш мяне?

— Ага.

— Мала вас немцы душылі, кажу… Каб не я, ой, што б тады і было, — брыдка-саладжавым голасам цягне словы гаспадыня… — Жах!

— Ну, і што б тады было? — злосна з кухні перапытвае Жэнька.

— Я адна, мусіць, дзясяткі з два жыдкоў ад вернай смерці ўратавала… Гаспадыня чакае або пытанняў, або пярэчанняў, а іх няма.

Кватарант прыкідваецца, што заснуў.

— Магла б і болей, а ты мне хлеба прынесці не хочаш... Эх, няўдзячны ты, Жэнька… Мяне немцы на брычцы вазілі, і на легкавіку каталася, лётала па Мінску, як тая фрау. Шакаладам частавалі, чуеш? Я ў тое вашае гета лекі насіла. І хлеб, і сала… У мяне

там сяброўка была. Галя Коган — чарнявенькая такая, маленькая. Застрэлілі яе, відаць, фашысты. Не верыш, заўтра картачку знайду, пакажу табе Галю. Яны ў самым канцы завулка жылі, у цаглясным доме.

— Калі яна засне? — шэпча ў плячо Генусь.

— Заўтра раніцай каб снег прыбралі. Пакуль не прыбярэш, Жэнька, на працу не пойдзеш. А калі не жадаеш — ідзі шукай кватэру! Але дзе ж ты, пархаты, такую танную знойдзеш? Амаль задарма жывеш у цяпле…

— Добра, добра… Я спаць хачу… Я сплю…

— Спі, а хто табе не дае.

Падае снег. Усё ў галаве пачынае блытацца, перамешвацца. Вішня, немцы на легкавіку, сабакі, зноў немцы, ваеннапалонныя, карціны, няскончаныя малюнкі, фотаздымкі, снег, за мной бягуць немцы і страляюць, брэшуць сабакі, я падаю і спаўзаю з высокага адхону ў траву, прыкідваюся забітым, здзіраю больку пад сэрцам, кашу вокам на плямку крыві, якая расплываецца на кашулі, і здзіўляюся, што крыві так мала, могуць не паверыць, могуць здагадацца, што я жывы, палохаюся… «Вой! Памажыце ж, памажыце! Вой, паміраю, Жэнька, дзе ты? Вады, вады!» — не адразу разумею, хто просіць ратунку, хто крычыць, каму дапамагаць, я ж мушу ляжаць нерухома. Упэўнены, што крыкі — у маім сне, бо там — вайнушка…

А крычыць наша старая гаспадыня. Крычыць і стогне, кліча нас на дапамогу. Падхопліваемся, грукаем у сцяну, за якой жывуць нявестка гаспадыні і яе ўнукі. У іх ёсць тэлефон. Я апранаюся і выходжу сустракаць «хуткую». Ідзе снег. Нават не ідзе, а валіць. Стаю ў двары, на снезе толькі мае сляды. Прыходзіць унук гаспадыні, просіць цыгарэту. Чакаем разам, палім і маўчым. Машына з чырвоным крыжам прыязджае праз паўгадзіны. Немалады доктар, халат паверх паліто, вітаецца з нашай гаспадыняй — ён ведае ўсе яе хваробы. Мерае ціск, а потым спрактыкавана робіць укол. Жэнька прыбірае снег, выцірае на падлозе калюгі, возіць па масніцах анучай. Гаспадыня сядзіць на сваім высокім ложку, прыціскае да грудзей падушку.

— Ці ж гэта дактары? Вось у немцаў былі дактары. Жэнька, і тут, і там прыбяры, толькі бруду нанеслі. Жэнька, і судна маё далёка пад ложак не запіхвай. Спіце, што сядзець, не памру я сёння.

Раніцой на заняткі ў мастацкую вучэльню я не пайшоў. Вольна спаў гадзін да дзесяці на вузкім тапчане, а потым выйшаў у двор і пачаў маляваць снег… Гаспадыня пазірала на мяне з акна, потым выкараскалася на чыста падмецены ганак, доўга стаяла і, як мне падалося, усміхалася.

— А мой сын таксама мастаком быў… Эх, шкада — няма яго… Змерз? Ідзі ў дом, я вады нагрэла, кавы пап'ём, а то захварэеш, хто лячыць будзе. Я толькі аборты рабіць добра ўмею.

Ногі мокрыя. Рукі замерзлі. Эцюд атрымаўся.

— А майго сына як і цябе звалі… — кажа гаспадыня і размешвае ў вялікім кубку распушчальную каву.

На стале, побач з маім кубкам, — дзве цукеркі. Разгортваю фальгу, кусаю ссівелы цвёрды шакалад. У роце прысмак нафталіну.

І вішню я намаляваў…

І чорны плот, і брамку сінюю.

І цішыню…

Гаспадыня аблізала лыжачку і паклала на цырату.

Жэньку наша гаспадыня здолее прапісаць у сваім доме. Калі праз пяць гадоў дом знясуць — ён атрымае кватэру на вуліцы Куйбышава, непадалёк ад Камароўкі, лічы — у цэнтры.

**Ядзя ела яблык**

Мастак і мадэль — вечная песня. Ёй тысячы гадоў.

Я пазнаў Ядзю імгненна. Глянуў і пазнаў. Хоць яна і апранутая, і хустка на галаве стракатая, але пазнаў. Маляваць — не фатаграфаваць. Жанчына стаяла скульптурна: абапіралася на левую нагу, правая крыху адстаўлена ўбок, корпус і галава павернутыя. Звычайная пастава для натуршчыцы.

Мяне яшчэ і на свеце не было, а Ядзя сядзела, ляжала, стаяла на шэрым дыктавым подыуме, на тле рознакаляровых драпіровак. З гіпсавай амфарай, з жаўтлявым чэрапам быка, побач з букетамі штучных кветак… Яе вялікае аголенае цела свяцілася і зіхцела.

І была яна маўклівая і засяроджаная…

Не ведаю, а ці ёсць сярод мастакоў, скульптараў, графікаў і манументалістаў, якія вучыліся ў апошнія гадоў пяцьдзясят, хоць адзін, які не маляваў Ядзю. Мусіць, няма… І мне пашчасціла маляваць яе і пісаць разоў пяць. І мае настаўнікі інстытуцкія, калі былі

студэнтамі, таксама малявалі, пісалі, ляпілі з гліны і з пластыліну гэтую жанчыну. У 1955-м яна прыйшла ў інстытут трохі падзарабіць. Думала, часова, а засталася на ўсё жыццё. Зрабілася прафесійнай натуршчыцай. Не была яна прыгажуняй у сённяшнім разуменні. Звычайная жанчына.

Я маляваў Ядзю ў вучэльні, потым некалькі разоў, але падоўгу, у інстытуце.

…Цэлюліт, варыкоз, валасы рэдкія, сівыя, спіна крышку сагнулася, твар у зморшчынках, блакітныя жылкі праглядаюць праз белую незагарэлую скуру, але я гэтаму мала надаваў увагі. Дэфармаванае часам і жыццём цела робіцца выразным, яго лягчэй маляваць… Гадоў восем таму…

Так, у новым тысячагоддзі сустрэў яе на аўтобусным прыпынку, на вуліцы Сурганава, побач з акадэміяй, побач з Домам друку, побач з уваходам у інтэрнат… Не магу прызвычаіцца да назвы — акадэмія. Ну, не акадэмія яна для мяне… Запарыце мяне алоўкамі — не акадэмія, а калі і так, то пухавіцкая, як яе абзываў мастак Малішэўскі.  Ядзя ела жоўты яблык. Няспешна, з асалодай, але і асцярожна. Стаяла на прыпынку, як скульптура. Вакол былі людзі. Яны ўсе рухаліся, а Ядзя стаяла.

Ядзя магла паглядзець на малюнак ці палатно, напісанае студэнтам любога курса, і беспамылкова, як загадчык кафедры, вынесці вердыкт. «Табе паставяць тройку, а табе чацвёрку… А гэты малюнак у фонд забяруць. А табе стыпендыі не дадуць, чуеш?» — спакойна разважала голая натуршчыца. На прыёмных іспытах яна казала маладым мастакам — хто і што атрымае. Па яе позірку можна было здагадацца — стане абітурыент студэнтам ці не. Натуршчыца ніколі не памылялася. Пра карціны не выказвалася, бо ў кампазіцыі не разумела. Яна была надзейная і спакойная. Не спазнялася, магла затрымацца, калі вельмі прасілі.

Нехта мне сказаў, што яна адмовілася пазіраваць апранутай. Пакрыўдзілася і сышла з акадэміі, а пайсці пазіраваць у вучэльню ці мастацкую школу гонар не дазваляў.

Яна ела яблык і глядзела на мяне. У твар. Так, як на скончаны малюнак. Тым жа абазнаным позіркам шэрых вачэй. Магчыма, яна маё імя спрабавала згадаць, прозвішча… Яна глядзела так, як тады — у 1980 годзе мінулага стагоддзя.

Я мог спытаць пра адзнаку… Мог, але… Навошта…

Доўгі зялёны аўтобус павёз старую жанчыну, якая ведала маё мінулае і маю будучыню…

Мастак і мадэль — вечная песня. Ёй тысячы гадоў.

2009 г.

## КАЗАНОВА І КВАЗІМОДА

У жанчыны сабраныя ў худы хвост жоўтыя валасы. Яна шые на машынцы «Зінгер». Хітае босай нагой педаль. А бліскучая іголка чыкае і чыкае, прабівае тканіну. Белай ніткі на белым не відаць. Прасціна павольна сунецца і спаўзае на падлогу.

Гэты сюжэт, выява жанчыны, якая шые-вышывае — штамп для мастака. Пры акне, побач са свечкай, пад абажурам… Такіх малюнкаў і карцін бачыў-перабачыў. Я ляжу з тэмпературай і гляджу на Зіну — дачку гаспадыні, і мне хочацца яе намаляваць. Але я толькі разглядаю, быццам запомніць вырашыў, гляжу і усё. Каб маляваць, то трэба паперу браць, аловак гайстрыць, трэба з-пад коўдры вылазіць.

Маляваць цяжка. Маляваць доўга. Намаляванае застаецца ў маёй памяці. Не буду сцвярджаць, што назаўсёды, але застаецца. Дачка гаспадыні няшчасная, але спадзяецца, што лёс да яе пераменіцца. У яе хлопчык і дзяўчынка, а мужа няма, кінуў і пайшоў да другой. Магчыма, каб не кінуў яе мужа, то і не жыў бы я ў гэтым доме. Навошта здаваць пакой чужым людзям, калі ў доме ёсць грошы?

Каб маляваць — трэба святло. Хто ж у цемры маляваць будзе. Я па вечарах, калі прыходжу з мастацкай вучэльні і збіраюся маляваць, то выкручваю слабенькую лямпачку і закручваю яркую. Калі сыходжу на заняткі, то гаспадыня маю яркую выкручвае і загарочвае сваю нядужую і цьмяную. Але гэта не гульня. Гэта — скваппнасць, беражлівасць. Адно добра, што ў гэтым цагляным прыватным доме цёпла. Гаспадар, яго партрэт стаіць на этажэрцы ў зале, паставіў добры кацёл і пусціў радыятары па ўсіх пакоях. Але не для кватарантаў гаспадыня стараецца і дом грэе. Унукі малыя хварэюць — вось і даводзіцца паліць вугаль і торф.

Пакой доўгі, панылы і цёмны. Шафа, машынка, два крэслы, канапа, ложак і доўгі рудны дыванок мышынага колеру. Адно акно. За акном яблыневы сад і паркан. Шторы ў дробныя кветачкі да падваконня. На канапе спіць Ігар, а я сплю на высокім ложку з жалезнымі біламі. Калі канапа раскладаецца, то даводзіцца шчаміцца. Вось такі вузкі той цёплы пакой. Ігар працуе інжынерам у Парку Чалюскінцаў. Ён адказвае за працу замежных атракцыёнаў. Ігару падабаюцца бландзінкі, але водзіць ён на сваю чырвоную канапу і брунэтак, і рудых. Лысых не бачыў і казаць на суседа не буду.

Мне шаснаццаць, а Ігару дваццаць сем. У яго ёсць жонка і дачка, але ён з імі не жыве. Дачка гаспадыні, а часам і сама гаспадыня, запрашаюць Ігара павячэраць, але ён заўсёды адмаўляецца. У Ігара жанчын — лічыць не пералічыць. Хоць дачка гаспадыні і светлавалосая, але ёй дваццаць шэсць, тым больш з дзецьмі.

Ігар носіць шэры касцюм, кейс, адпрасаваныя штаны, наваксаваныя чаравікі, белыя, чорныя ці сінія кашулі і скураны плашч. У яго ёсць і чорны капялюш з папяловай шаўковай стужкай і чорны парасон-аўтамат. Знаёмыя жанчыны ў майго суседа паўсюль: у краме, газетным кіёску, пральні, гастраноме, міліцыі, пашпартным стале, аптэцы, паліклініцы, на Прылукскага…

Гаспадыня прыводзіць жанчын забараніла. Але жанчыны трапляюць у наш вузкі пакой праз акно. Ігар грукае ў шыбку, я адчыняю шпінгалеты, запускаю халоднае восеньскае паветра, а следам з'яўляецца дзяўчына, жанчына. Худыя і поўныя, маладыя і не вельмі, гаваркія і спалоханыя, цвярозыя і п'янаватыя. Мне тады даводзіцца рабіць выгляд, што я моцна сплю. Гэта цяжка… Добра, што такая радасць не кожны дзень.

Ігара я маляваў двойчы. Адзін малюнак ён забраў на працу, паклаў пад шкло пісьмовага стала, а другі прышпіліў да сцяны, насупраць канапы, каб на сябе глядзець. Ён можа чвэрць гадзіны на той малюнак, зроблены чорным алоўкам, дзівіцца і пасміхацца загадкава.

У Ігара ёсць сціплы і магутны сябар Саня. І Саню я намаляваў, бо Ігар папрасіў. У Сані шырокія плечы, амаль кубічная галава і прамыя валасы колеру навошчанага паркета і яркі залаты зуб. Але Саню гэтыя дэталі зусім не псуюць, а наадварот дадаюць мужнасці. Саня з нянавісцю ставіцца да міліцыянераў. І ён ім не падабаецца, выклікае трывогу і неспакой. Можа, таму, як вып'е мужчына-волат,

так і трапляе ў розныя непрыемнасці. Ігару тады даводзіцца сябра ратаваць. У Ігара гэта атрымліваецца. Ён тэлефануе патрэбным жанчынам, сустракаецца, і яны яму дапамагаюць.

Потым Саня прыносіць валізу з бутэлькамі і хатняй ежай. На машынцы «Зінгер», зробленай у тысяча дзевяцьсот шастнаццатым годзе, накрываецца стол. П'юць Саня з Ігарам па-сапраўнаму, заўсёды як у апошні раз. Саня клянецца-бажыцца, што больш ні-ні, больш ніколі ён людзей у шэрых шынялях і з пагонамі чапаць не будзе. Звычайна пасля другой бутэлькі віна Саня расказвае пра вайну, на якой ён біў амерыканскіх марскіх пехацінцаў прыкладам свайго аўтамата АК і нагой сорак пятага памеру. І ні каратэ, ні другія прыёмчыкі амерыканскім хлопцам супраць яго не дапамагалі. У нейкай невядомай краіне адбываўся той лакальны канфлікт, тая кароткая, але жорсткая сутычка. Саня добры. Ён адразу будуе мне вялікі смачны бутэрброд. Такі высокі і шматслойны, што ў рот не месціцца. Ён сочыць, каб я шмат не піў і добра закусваў. Ён угаворвае Ігара вярнуцца да сям'і, бо там жа дачка трохгадовая. У Сані жонка ёсць, а вось дзяцей няма. Ігар неяк сказаў, калі мы завялі Саню на прыпынак і пасадзілі ў тралейбус, што ягонаму лепшаму сябру, на той выспе, пасярод мора трапічнага, амерыканцы адбілі памідоры, і таму дзяцей няма. Пры гэтым твар у Ігара выглядаў задуменным, хоць партрэт малюй.

Але ўсё, што я так доўга апісваў, — гэта толькі пачатак гісторыі. Сама ж гісторыя кароткая — даўжынёй роўна у трыццаць пяць гадоў. Пачалася ў восень тысяча дзевяцьсот семдзесят пятага, а скончылася праз трыццаць пяць гадоў, у новым тысячагоддзі. Вось так…

Дачка гаспадыні скончыла шытво. Падняла рукі, і прасціна ломкімі складкамі выпрасталася, завісла ў прасторы. Жанчына нягучна засмяялася. Прасціна вісела, прыхопленая за ражкі пальцамі, як прышчэпкамі, а Зіна стаяла за ёй. Потым яна перахапіла ільняную тканіну, пераламіла і склала. Гэта ўсё паўтарылася тройчы, па колькасці прасцін. Склала стос на канапу і спарадкавала машынку. На развітанне яна дакранулася прахалоднай далонню да майго лоба і сказала, што тэмпература, калі і ёсць, то не надта вялікая. Праз чвэрць гадзіны яна прынесла кубак гарачага малака з жоўтай пенкай і падала мне ў рукі.

Я сядзеў і піў малако, а яна глядзела ў акно і пастуквала пальцамі па машынцы. Яшчэ яна спытала, а ці пайду я заўтра на заняткі… Потым колькі часу дзівілася на малюнак, прышпілены да

сцяны кнопкамі. Было зразумела, што Ігар ёй падабаецца. А калі забірала цёплы кубак, то заўважыла, што нос у Ігарка большы, чым я намаляваў. Мне заставалася адно паціснуць плячыма і вінавата пасміхнуцца. Мы мала з ёй гаварылі…

За акном неба зрабілася цёмна-сцюдзёным, а дрэвы чорнымі. Прыйшлі Ігар і Саня. Запалілася святло. Ігар чмыхнуў носам і паглядзеў на мяне з усмешкай.

— Тут пахне жанчынай, — сказаў ён і захінуў шторы.

— Зіна заходзіла, шыла, — патлумачыў я.

Ігар пайшоў грэць ваду, а Саня распрануўся і пачаў распакоўваць валізу. Заўтра яму трэба ехаць у камандзіроўку, а таму сёння можна і выпіць.

Праз чвэрць гадзіны мы сядзелі на канапе. У Ігара і Сані былі ў руках шклянкі, поўныя віна, а ў мяне паўлітровы кубак, а ў ім кіпень з малінавым варэннем.

Саня захмялеў хутка, ён прыйшоў нападпітку, і пачаў скардзіцца на сваю жонку. Ігар слухаў уважліва, а потым сказаў сябру, каб той заткнуўся. Саня пакрыўджана змоўк. Колькі часу сядзелі ў цішыні. Было чуваць, як гаспадыня грыміць посудам і сварыцца на ўнучку, якая плёхаецца ў халоднай вадзе.

Саня падняўся і пачаў апранацца. Ён паціснуў мне руку. Ігар правёў яго да прыпынку. Вярнуўся і сказаў, што пазнаёміўся з прыгожай цёлкай, але сёння яму трэба выспацца, бо заўтра будзе справа. Ён ляжаў на нераскладзенай канапе, глядзеў у столь і слухаў музыку. Я чытаў кніжку і таксама слухаў музыку.

— Я куплю табе настольную лямпу, — раптам сказаў Ігар. — Атрымаю прэмію за новы атракцыён і куплю. Гэта будзе мой табе падарунак за партрэт.

— Зіна сказала, што ў цябе нос большы, чым я намаляваў.

— Усё адно я з ёй звязвацца не буду. Хопіць і без яе праблем. З бландзінкай пазнаёміўся, квіткі на чыгуначным вакзале прадае. Так што, калі трэба ехаць куды, то возьме. А завуць яе Джэма. Імя як у сабакі. А да нас Фаіна ўладкоўваецца, і мужа няма, разышліся. Нішто сабе такая Фаіна. Да вясны мне пакой у інтэрнаце абяцаюць… Абяцаюць, усе толькі абяцаюць, абяцаюць…

Калі я паглядзеў на Ігара, то ён спаў. Левая рука з гадзіннікам закрывала вочы.

Мне засталося выключыць музыку і патушыць святло.

Раніцай Ігар спытаў, калі я збіраюся вярнуцца з заняткаў. Патлумачыў, што будзе не адзін. Я сказаў, што вярнуся гадзін у дзевяць, не раней.

— Паспею, — сказаў ён задуменна, быццам у космас сабраўся паляцець.

Роўна ў дзевяць я ішоў ад тралейбуснага прыпынку ў свой завулак. Было холадна, кропаў дождж, мокрыя дрэвы, мокрыя парканы, мокры асфальт. Ігар і светлавалосая жанчына таропка выйшлі з-за рога. Ігар трымаў над светлавалосай парасон. Мы сутыкнуліся амаль нос у нос, але Ігар адвярнуўся і падхапіў жанчыну пад локаць. Я паправіў каўнер, вецер дзьмуў у твар.

Канапа была раскладзеная. На машынцы стаяла бутэлька чырвонага віна, на талерцы чорны вінаград, а на другой — акуратна парэзаная вяндліна. Такая, як прыносіў з дому Саня. Ён казаў, што яго жонка светлавалосая і маленькая. На этажэрцы стаяў нявыключаны прыёмнік.

Гучала музыка.

Я разумею, што па літаратурным сюжэце гэта няправільна, але.

Мне далі інтэрнат раней, чым Ігару, і я з’ехаў з вузкага і панылага пакойчыка з адным акном. Хацелася напісаць пра пакой — аднавокі… Настольную лямпу пакінуў Ігару.

Бачыў яго праз год, наступнай вясной, у парку. Выпадкова сустрэў. Ён стаяў у капелюшы, у шэрым касцюме і сіняй кашулі. Верхні гузік, як заўсёды, расшпілены. Ігар абапіраўся локцем на агароджу і глядзеў-слухаў, як носяцца бляшаныя тарпеды аэрадынамічнай формы, як вішчаць і смяюцца дзяўчаты, калі тарпеда саслізвае з вышыні і ляціць-ляціць. Ён слухаў, як грымяць ланцугі і гудзе рухавік.

Я гуляў у парку з дзяўчынай. Ігар ёй спадабаўся, а яна Ігару не спадабалася. Яго доўгі нос зморшчыўся. Ён правёў нас праз шчыльную чаргу і кантроль, пасадзіў у тарпеду. Мы насіліся на «Супер-8», пакуль Ігар не вярнуўся. Маёй сяброўцы было млосна, выглядала яна кепска і, каб я не падтрымліваў, магла б паваліцца.

Я спытаў, ці з’ехаў ён з вузкага пакойчыка ў цагляным доме, што стаіць у Крапоткінскім завулку. Ён сказаў, што пакуль яшчэ жыве там. Але гэта толькі пакуль.

Пра сябра-волата паведаміў, што даўно не бачыў, што Саня цяпер малады бацька і клопату хапае, бо жонка нарадзіла-такі дзіця, і яго сябар зусім кінуў піць. І ён сам цяпер амаль не выпівае. Мая сяброўка пачувала сябе кепска, і мы развіталіся з былым суседам.

Маляваць цяжка. Маляваць доўга. Намаляванае застаецца ў памяці надоўга, можа, назаўсёды. Я пазнаў яго адразу, як гэта ні дзіўна. Ён сядзеў насупраць увахода ў гастраном. Сядзеў на слізкім гранітным парапеце газона. Твар яго быў жудасны, азызлы, у сіняках і крывападцёках. Бомж глядзеў на дзверы і сціскаў кулакі. Вялікі рот расцягваўся ў гумовай усмешцы. Сапраўдны квазімода... Гэта быў Саня.

2010 г.

## НОЖЫКІ

*Борхесу прысвячаецца*

Калі б мне давялося складаць спіс рэчаў, якімі ў дзяцінстве ці падлеткавым узросце захапляўся і хацеў мець, то сцізорыкі, нажы, ножыкі займалі б ці не першыя радкі. У іерархіі сапраўдных каштоўнасцяў холодная зброя значна пераўзыходзіла кніжкі, асадкі-самапіскі, модную вопратку, ровар, прыёмнік-спідолу, скураны футбольны мячык, гадзіннікі...

На старэйшых — сяброў-знаёмых, на тых, у каго меліся добрыя нажы — глядзеў з прыхаванай павагай, з захапленнем і зайздрасцю.

Нож — святое. Такая тады, напрыканцы сямідзясятых і самым пачатку васьмідзясятых, у маім гарадскім пасёлку была мода. Няма сапраўднага нажа — ты не чалавек. Нажамі хваліліся, ганарыліся, забаўляліся, палохалі...

Віцька з Лёнькам, у свае сямнаццаць, баяліся, можа, толькі міліцыі.

1982 год. Чэрвень. Бераг штучнага возера.

Лёнька гаварыў з ледзь заўважнай, амаль няўлоўнай грэблівасцю да свайго мінулага:

«У мяне быў нож...

І ў майго стрыечнага брата Віцькі быў нож.

Мы іх разам зрабілі. Стараліся. Сабе ж...

У мяне з чорным вузкім лязом і касцянымі тронкамі, з цвёрдага ласінага рога. Зграбны такі ножык атрымаўся. А Віцькаў з лязом шырокім, на два пальцы, бліскучым, як тое люстэрка. Пры вялікай ахвоце паглядзецца ў халоднае жалеза можна, а пры жаданні — зайчыкаў у вочы пускаць. Віцька на паўгалавы за мяне вышэйшы, і рукі ў яго, вядома ж, даўжэйшыя. А мяне і тады, і потым Малым клікалі. Я свой так нагайстрыў, што правядзеш па руцэ ледзь чутна, — кропелькі крыві праз імгненне высыпаюць. А Віцькавым паперу можна было кроіць — такі гостры. У майго нажа лязо на два кулакі, а ў Віцькавага на паўтары. Мералі ўсё, ці дастане да сэрца...

Схапіліся з братам стрыечным за танцпляцоўкай у парку. Вясной. Напрыканцы траўня. Танцы яшчэ з Палаца культуры ў парк не перанеслі. Вечар. Выпілі віна. Слова за слова. Як заўсёды і пачынаецца... Я не хацеў... Ён першы пачаў. Сказаў, каб я да яго сястры не лез, не чапаў, казаў так — нібыта і не ведаў, што ў мяне з ёй даўно ўсё было. Мне ж сямнаццаць, а ёй шаснаццаць...

Віцька выхапіў свой бліскучы ножык, махануў мне перад тварам, сякануў паветра. Як нос не адцяў... Я ж гэтаксама свой чорны выцягнуў. Кажу яму, каб суняўся і не лез! Дзе там! Кажу, што з малой ягонай мы без яго парадаў разабрацца зможам. А ён не, насядае, лезе. З твару збялеў, як той сыр зрабіўся, адно вочы чарнеюць. Кідаецца на мяне — у горла пацэліць хоча. Я, вядома ж, адскокваю. Крычу, каб ён суняўся ды супакоіўся, падла. Дзе там! Віцька ж — шалёны. Калі што не па яго — адразу біцца лезе. Натура такая, кроў гарачая. Не глядзіць, хто перад ім, — стары ці малы, яму без розніцы. Каб я тады ўцёк — не зразумелі б... Як тады жыць? Свае і засмяюць. Адыходжу. А ён хрыпіць, зыркае, як мяне не бычыць ці не разумее, хто я такі. Ножыкам сваім бліскучым паветра сячэ... Бух! А за спінаю пруты жалезныя — агароджа танцпляцоўкі. Няма куды далей сунуцца. Віцька перакрывіўся радасна, як пад нагамі знайшоў нешта каштоўнае. Прыгнуўся і на мяне кінуўся. Я, хоць і худы тады быў, але не настолькі, каб праз пруты іржавыя прашчаміцца.

Мой нож па самыя вусы ў Віцькаў жывот увайшоў. Лязо ж вузкае, як той палец... А ён мне сваім бліскучым плячо разваліў, да самай косткі раскроіў...

Тут усе крычаць пачалі. А Віцька захроп. Мяне абшчапіў і плача. Кажа, што яму зусім не баліць. А можа, і не гэта казаў — вакол крыку, на ўвесь парк. З яго, потым чуў, і крыві не цякло. А з мяне раўчуком лілася. Рукаво і бок — мокрыя. Чорныя, ліпкія... Я збег. Ножык свой схаваў. Потым на допыце сказаў, што ў возера закінуў. Шукалі. А каб і закінуў, то не знайшлі б. Глей тут на дне. Сам ведаеш... А ножык цяжкі.

Раніцай мяне і ўзялі.

Раніцай Віцька і памёр...

На суд ні яго бацькі, ні мае не прыйшлі.

І Віцькава сястра не прыйшла — не пусцілі, відаць, малую.

Толькі мой старэйшы брат сядзеў пад акном закратаваным і на мяне глядзеў. Непрыемна так пазіраў, як здаровы на хворага. Я яшчэ яму ўсміхнуўся, свой жа, брат родны. А ён адно галавой пакруціў. Асуджаў... Зала была поўная — моладзі сабралася, усе знаёмыя. Усім цікава на забойцу паглядзець, а яшчэ цікавей, колькі гадоў уваляць. Дзясятку адхапіў. Адседзеў цалкам. Ніякая амністыя, а іх хапала, мне не дапамагла...»

Жыццё за дзесяць гадоў, пакуль Лёнькі не было ў гарадскім пасёлку, моцна змянілася. Знакамітай танцпляцоўкі ў парку не стала — дошкі згнілі, а іржавую агароджу разабралі. Ліпы, каштаны ды клёны выраслі. Падшыванцы зрабіліся хлопцамі, дзядзькі — дзядамі. У Віцькавай малодшай сястры за дзесяць гадоў — трое дзяцей. Лёнькавы бацькі пайшлі з жыцця. Спачатку бацька на сваім сінім мапедзе трапіў пад колы рэйсавага аўтобуса. Дожджык папырскаў — асфальт слізкі, вось мапед і панесла на скрыжаванні вуліцы і шашы. А праз тры гады маці не стала. Пайшла з раніцы па хлеб — самлела на вуліцы пад крамай. Спёка стаяла, парыла перад навальніцай — сэрца і спынілася.

Ён распытваў пра знаёмых, я адказваў, калі ведаў. Ён смактаў з рыльца піва і глядзеў на возера, быццам там, у вадзе, нешта адбывалася.

У мяне ёсць той нож з чорным вузкім лязом і касцянымі тронкамі. Лёнька схаваў яго пад шыферным дахам чырвона-цагляных старых, ці не даваенных, дрывотняў, побач з возерам. Там ён і праляжаў дзесяць гадоў, пакуль гаспадара не было. Іржа лязо паела. Зрабіла шурпатым, няроўным, крыху шчарбатым. Лёнька яго дастаў, агледзеў, абсалютна без усялякіх эмоцыяў на худым твары,

і аддаў мне. Яму той нож быў без патрэбы. Сентыментальных пачуццяў да мінулага ён не меў, а можа, удала навучыўся хаваць, не паказваць, не выстаўляць навідавок.

Яму той шчарбаты нож быў без патрэбы.

Больш нікога забіваць ён не збіраўся.

Другі раз Лёнька сеў на чатыры гады.

Каму б іншаму такая бойка сышла з рук. А Лёнька іншым не быў. Крымінальнае мінулае зрабіла сваю справу. За бойку на аўтобусным прыпынку з камандзіровачнымі мулярамі атрымаў напоўніцу. На той час ён паспеў ажаніцца, а жонка паспела нарадзіць дачку, здаецца, — Анютай клікалі. Ні дзіця малое, ні жонка маладая дапамагчы яму не маглі. Яны засталіся ў бацькоўскай кватэры на першым паверсе старога абшаляванага барака. Старэйшы Лёнькаў брат на той час жыў з сям'ёй асобна, на суседняй вуліцы, у белым кааператыўным доме. Ён пачаў заходзіць да братавай жонкі і пляменніцы — дапамагаць: дзе кран наладзіць, замок адрамантуе, дзе лямпачку заменіць, цукеркай ці яблыкам пляменніцу пачастуе... Карацей — закруціліся адпаведныя адносіны... На зону да Лёнькі, калі і ездзілі, то паасобку, а каб разам — дык ніколі.

Далей я магу адно ўявіць...

Лёнька выйшаў датэрмінова на колькі тыдняў. Яго ніхто не сустракаў і ніхто не чакаў. Ноччу, самым апошнім аўтобусам, прыехаў у пасёлак.

Канец траўня. Цёплая ноч. Бэз, язмін, каштаны ў квецені гронкамі бялеюць. Хрушчы, як кулі, носяцца, гудуць, пад ліхтарамі круцяцца. Ён прайшоў побач са сваім домам. Паглядзеў на цёмныя вокны бацькоўскай, яго і жончынай кватэры. Фіранкі на вокнах былі тыя ж, у дробныя кветачкі-ягадкі. Можа, каб ён убачыў дачку, ці жонку з дачкой на руках, усё б склалася інакш. Не ўбачыў... Спалі. Нават моладзь і тая цёплай ноччу па вуліцах не швэндалася.

Прыйшоў да старэйшага брата. Дзе была жонка з дзецьмі, чаму дома не аказалася, — не ведаю, але старэйшы, якому раніцай на завод, сустрэў брата радасна. Селі піць гарэлку. Лёнька з сабой прывёз. Пляшку не дапілі. Лёнька схапіў са стала нож. Звычайны такі нож — самаробны. На заводзе ў слясарным такія і робяць. Шырокае лязо з нержавейкі, наборная ручка стракатая. Такім і хлеб добра рэзаць, і бульбу абіраць...

Лёнька сам міліцыю і выклікаў. Патэлефанаваў і патлумачыў, што да чаго, каб сумненняў не мелі. Сеў на падлогу, запаліў і стаў чакаць, пакуль па яго прыедуць.

А нож на стале ляжаў. Лязом пабліскваў.

Самы звычайны нож. У кожным доме такі ёсць.

2005 г.

## СІ-ТА-ТА

(Калыханка для дзесяцігадовай дзяўчынкі)

**Аладкі**

Так і сказала… «Прынясі мне пісталет з адным патронам». Спакойна і нібыта жартам, а ў мяне — дыханне перахапіла ад таго спакою. Я замітусіўся. Падушку пачаў падбіваць. Коўдру папраўляць. А на вуліцы, за бальнічным акном, сонца яркае — восеньскае. Неба сіняе-сіняе. Дрэвы markdown рознакаляровыя. Чырвоныя. Жоўтыя. Залатыя. І лісце падае. Павольна так, нават урачыста. Ветру нуль. А ёй ні да чаго справы няма, позірк адсутны, углыб скіраваны. На цябе глядзіць, а вочы блішчаць. Сухія. Можа, каб заплакала, то ўсё б лягчэй было. Ніякага я ёй пісталета не прынёс. А надраў яблыкаў поўную місу, насмажыў аладак, склаў у слоік. А слоік ручніком абгарнуў, і на таксоўцы да яе. Каб цёплага паела. Яны — тыя аладкі — можа, і ўратавалі. Больш пра пісталет размоў не было…

**Цягнічок**

Драўляная трубачка падобная да катушкі, на якую тоўстыя ніткі намотваюць. Простая рэч і дасканалая. Цёплая, давер унушае… Спачатку доктарка сама паслухала, а потым і мне прапанавала. Сказала, каб я не баяўся, бо ад гэтага нікому ніякай шкоды не будзе. Апусціўся я на каленцы, вуха асцярожна да трубачкі прыціснуў… Можа, ты і чула, як цёплае, далонню сагрэтае дрэва да мамінага жывата прыціснулася. Спачатку пачуў аднастайныя цяжкія ўдары — здзівіўся, паслухаў і хацеў падняцца. А потым, як здалёк, як… Пачуў ціхае хуткае тахканне. Як цацачны цягнічок да мяне едзе. Спяшаецца… «Ну хопіць, хопіць», — доктарка кранула мяне за плячо і забрала чароўную трубачку.

**Гадзіннік**

Чуеш, як ён ціхенька цікае? Амаль нячутна, як цвыркунок. Вы з ім аднагодкі. Мама твая была цяжарная, але ведалі пра тое толькі мы з ёй, ведалі і нікому не расказвалі. Баяліся, каб не сурочылі наша шчасце. Летні дзень. На небе круціліся хмары. Горача, а мы пайшлі гуляць. Дождж пачаўся нечакана. Сапраўдная чэрвеньская залева. Мы схаваліся пад кінатэатрам «Перамога», што на рагу Камсамольскай і Інтэрнацыянальнай. А калі дождж крыху прыціх, то мы пабеглі і перахаваліся ў краме. Пачалі глядзець гадзіннікі. Іх там было шмат, яны цікалі з усіх бакоў, як конікі ў траве, як цыкады. Мама гэты японскі гадзіннік і наглядзела, выбрала. Гэта цяпер я кепска бачу маленечкія рысачкі, лічбы, значкі. А тады… Мы набылі яго. І з таго дня ён цікае, цікае, цікае. Адлічвае хвіліны, дні, гады твайго жыцця. Я не прамяняю яго ні на які іншы.

**Калыханка**

Калі цябе толькі прывезлі дамоў, ты кепска спала. Прачыналася, расплюшчвала вочкі і адразу пачынала плакаць. Маленькая, а голас незадаволены. Нават, як нам здавалася, злосны. Я пачынаў гушкаць твой ложак-люльку. Але табе гэтага было мала. Ты хацела на рукі. Ты любіла, каб цябе насілі-вазілі. Я акуратненька і асцярожненька даставаў цябе з ложка і пачынаў хадзіць па пакоі з кута ў кут, па дыяганалі. На зялёным дыване нават сцежку пратаптаў. Спыняўся перад акном і расказваў табе ўсё, што бачыў. Усё, што прыходзіла ў галаву. Слухаць ты любіла, адразу сцішвалася. Асабліва падабалася табе пра п’яніц розных, якія праходзілі пад акном, да пра тралейбусы і аўтобусы, якія едуць спаць. Пра снег, не ведаю чаму, табе зусім не падабалася. А снегу ў першы год твайго жыцця нападала шмат. Ён растаў аж у красавіку. А калі я стамляўся хадзіць, стамляўся гаварыць, то пачынаў адно толькі ціхенька паўтараць замест калыханкі: «Сі-та-та, сі-та-та, сі-та-та…»

**Патоп**

Ты спала ў вялікім пакоі, а мы ў меншым. А каб цябе чуць — дзверы не зачынялі. Пад раніцу, дзявятага траўня, мама прахапілася ад незразумелых гукаў. Пабудзіла мяне. Вакол плёхалася

вада. Вада была на падлозе. Вада была гарачая. Яна бегла па сценах. Цурчэла з разетак, кропала са столі. На вуліцы днела. Котка ляжала на спінцы канапы і назірала за нашымі мітуслівымі дзеяннямі. Па мокрай сцяне прабягалі іскры. Сінія, як мігалка хуткай дапамогі. Святла не было. Ты ж салодка спала ў сваім ложку-калысцы, пад мокрай сцяной. Мама схапіла цябе на рукі і забегала па кватэры… А вада ўсё прыбывала і прыбывала. Тады табе пашанцавала неверагодна. Адзін твой рух… Цябе ўратаваў сон. Тры дні пад'езд пражыў без вады. Тыдзень ці два мы сушыліся. Цікава, што табе снілася той ноччу, калі нас залілі суседзі, якія з'ехалі аж на чатыры дні садзіць бульбу, калі здарыўся той жахлівы патоп?

**Котка Буська**

Цябе яшчэ не было, а котка Буська жыла з намі. Яна лічыла, што мы — яе слугі. На рукі без сваёй ахвоты не ішла, нораў мела непакорлівы. Жыла сама па сабе. За галоўнага ў доме котка лічыла маму. Адчыняем дзверы, уваходзім, і яна саскоквае з камода — і да яе. Пачынае церціся аб ногі, а потым заскоквае ёй на плечы і, як той каўнер, едзе ў кухню. Калі з'явілася ты, калі жыццё пачало круціцца вакол цябе, то Буська пакрыўдзілася, зараўнавала… Вы суіснавалі з ёй у кватэры, але ніколі не сябравалі. А потым, на новай кватэры, калі ты падрасла і адчула сябе гаспадаром, Буська пачала на цябе злаваць. Хто з вас быў вінаваты і пачаў першы, не ведаю, але, відаць, ты. Аднойчы яна моцна цябе падрапала… Калі ты набліжалася і хацела з ёй пагуляць, то яна пачынала сычэць, а на карку ўздымалася поўсць. Карацей, вас трэба было разводзіць. Колькі мы табе ні тлумачылі, што да коткі лезці не варта, ты не слухала і рабіла насуперак. Котка бараніла сваю незалежнасць… Хоць і не хацелася, хоць за восем гадоў да Буські прывыклі, а давялося рабіць выбар. Буську аддалі незнаёмым людзям. Разам з яе посудам і ежай, з дошчачкай, аб якую яна гайстрыла кіпці. Нам без яе было сумна. Мы адчувалі перад ёй сваю віну, а ты нават і не заўважыла яе адсутнасць.

**Рыбіна сазан**

Пашанцавала, злавіў я вялікага сазана ў Свіслачы. Амаль чатыры кілаграмы рыбіна. Радасны і ўзбуджаны, прынёс дамоў. Сазан падраў торбу і, як толькі я парог пераступіў, пачаў тропацца на падлозе. Ты ад захаплення аж заскакала. Забегала вакол вялікай

рыбіны. Ты прапанавала набраць вады ў ванну і пусціць яго. Вырашылі — зрабілі. Спачатку ён ляжаў на баку і зебрамі хліпаў. А потым ачуняў і пачаў плаваць. Ты стаяла над ваннай і сачыла за кожным яго рухам. Асцярожна, адным пальцам, як да гарачага, узялася да яго дакранацца, потым — смялей. Ты пачала гуляць з ім. Цесна яму было ў ванне. Ён насіўся, выскокваў… Пырскі ляцелі ў розныя бакі. Ты смяялася і спрабавала яго схапіць. Развесялілася — не суняць… А пасля мы яго елі. І ты не магла даць веры, што гэта той самы вялікі сазан, з якім ты забаўлялася, якому ты спрабавала запіхваць у рот размяклы хлеб.

**Поні**

Тое было пры ўваходзе ў парк. Ты доўга і ўважліва глядзела на вялікага белага каня, на мітусню дзяцей і дарослых, а маленькага поні не заўважала. Слухала, як звонка цокаюць падковы па асфальце. Нават сама колькі разоў тупнула. Поні звалі Люська. Нізкі, злосны, чорны, жаўтазубы. Я падняў цябе і пасадзіў на бліскучае коўзкае сядло. Ты ўчэпіста трымалася за грыву і глядзела на вострыя конскія вушы. Я ішоў побач, гатовы падхапіць цябе, калі што якое. Гэта быў першы раз, калі ты ехала на сапраўдным, жывым кані. На маленькім, злосным, падобным да вялікага сабакі. Але ж поні — таксама коні. А маме мы не сказалі, што каталіся, а то яна б на нас насварылася.

**Ліхтарык**

Табе было тры гады. Ты моцна захварэла. Прастудзілася. Тэмпература пад сорак. Млоснасць. Ты была ну зусім ніякая — сумная. Ляжала з заплюшчанымі вачамі, і нішто цябе не радавала. Мы з мамай самі ледзь трымаліся, каб не расплакацца ад бездапаможнасці. Я паехаў за лекамі, і ў ЦУМе набыў ліхтарык. Убачыў і зразумеў — гэта тое, што трэба. Звычайны кітайскі ліхтарык. Ярка-зялёны, з шэрай пімпачкай-кнопкай. Не ляльку, не сабачку ці вавёрку, а ліхтарык набыў і прывёз. Ён і стаў надоўга тваёй самай улюбёнай рэччу. Ты разглядала яго, свяціла ў твар сабе і тым, хто да цябе падыходзіў: маме, мне, дакторцы. Залаты шар святла лётаў па столі і сценах, па мэблі і кветках… Ты ж не выпускала яго з рук, той ярказялёны ліхтарык, нікому не давала. Прыкладала да шкельца вузень-

кую далонь, і яна чырванела. І відовішча тое цябе заварожвала. Гэта няпраўда, што дзеці ведаюць нейкую таямніцу жыцця, а падзяліцца ёй з дарослымі не жадаюць. Проста гэта вельмі прыгожа — ярка-малінавае святло, якое ледзь заўважна пульсуе... Ноч, а ты глядзіш на чырвань. Глядзіш і спрабуеш зразумець. Засяроджана так глядзіш і не плачаш.

14.11.2005 г.

## ЗЯЛЁНЫ БІТОНЧЫК

Я ішоў па малако.

Капейкі, загорнутыя ў паперу, ляжалі на дне ярка-зялёнага, на два літры, бітончыка з драўлянай жоўценькай ручкай. Мне крыху сорамна — не хлапечая справа хадзіць па малако. Таму і прастаяў колькі ў пад'ездзе, счакаў, пакуль на вуліцы, побач з домам, не будзе сяброў. Яны, нарэшце, падхапіліся і зграяй пабеглі ў бок будоўлі. Праводзіў аднакласнікаў-аднагодкаў зайздрослівым позіркам. Ім добра, яны вольныя, мне ж давядзецца цягнуцца ў краму, стаяць у чарзе — губляць час на нейкае там малако. Чым разліванае малако смачнейшае за тое, што ў вялікіх літровых бутэльках — я не разумеў. Мама ж пераконвала, што малако з вялізных бляшаных бітонаў — лепшае і смачнейшае. Таму мяне выпраўлялі менавіта за ім. Давалі грошы, звычайна без рэшты, і я ішоў. Акрамя малака трэба купіць і бохан хлеба, бо не будзе з чым павячэраць. Прайшоў вуліцай, а на плошчы сустрэў суседа, які нёс поўны трохлітровы слоік малака. Мішка глянуў на мяне спярша са спачуваннем, а потым пераможна. Ягоныя клопаты скончыліся, мае пачыналіся.

— Тамака та-а-кая чарга… Прыйшоў бы раней, я б і табе малака ўзяў.

Я на яго радасныя развагі не сказаў ні слова, а толькі рукой узмахнуў.

— А нашы дзе? — спытаў Мішка.

Я паціснуў у адказ плячыма і заспяшаўся. Манеткі, загорнутыя ў спісаны ліст з майго старога сшытка, глуха забомкалі на дне зялёнага бітончыка.

Пад крамай тоўпіліся злосныя людзі ў чаканні машыны з хлебам. Жанчыны абураліся, многія былі з дзецьмі. Калі ж прывязуць хлеб — ніхто не казаў, але ўсе чакалі, не разыходзіліся. Мужчыны палілі ў цяньку пад ліпамі, побач са сваімі роварамі.

У «малочным» чарга была невялікая, я хутка ўсіх палічыў. Аказалася — усяго толькі трыццаць два чалавекі. Акрамя мяне і сівавусага дзядзькі з кавенькай і маленькім алюмініевым бітончыкам ды маладзёна з футбольным мячыкам пад пахай мужчынаў не было. Дзве прадаўшчыцы працавалі спрытна, адна прымала грошы і давала рэшту, а Стася шэрай паўлітровай конаўкай з доўгай ручкай налівала ў прапанаваны посуд малако.  Пазайздросціў тым, хто падыходзіў да прылаўка, і там, без усялякай чаргі і штурханіны, купляў вялікія бутэлькі з яркімі зялёнымі накрыўкамі. Маё месца — за высокай жанчынай з заплаканай дзяўчынкай на руках. Малая то плакала, то пачынала гучна ікаць. Ад няма чаго рабіць лічу чаргу наноў: як было трыццаць два чалавекі — так пакуль і засталося. Стаяць мне тут ды стаяць з паўгадзіны, калі не болей. Бразгае посуд, вялікая лейка, конаўка, звіняць капейкі, ліецца малако. Нарэшце падыходзіць і мая чарга. Малая, якую маці паставіла на падлогу, каб самой зручней разлічвацца, зноў пачынае плакаць. Я спрабую яе суцешыць. Мой зялёны бітончык на мокрым прылаўку.

— Колькі, два? — пытае маладзейшая прадаўшчыца і дадае: — Тася, у гэты два.

Грыміць конаўка, бразгае лейка, ліецца малако.

— Сорак восем, — глядзіць на мяне зверху прадаўшчыца.

Тася адсоўвае ад сябе поўны, як вока, бітончык, бярэ наступны.

Разгублена і спалохана абмацваю кішэні, выварочваю іх. І толькі пад пытальнымі позіркамі прадаўшчыц і жанчын з чаргі, незадаволеных нечаканай затрымкай, да мяне даходзіць, што грошы мае — там, пад малаком.

— Ну, хлопчык, давай хутчэй свае капейкі, — гучыць за спінай.

— Яны тамака… — кажу ціха і паказваю на бітончык. — На дне ляжаць.

Мае тлумачэнні, разгубленасць і праз яе сполах выклікаюць недаверлівыя ўсмешкі, ад якіх робіцца прыкра і хочацца праваліцца скрозь зямлю. Гляжу на бітончык так, быццам ён празрысты, і я тыя манеты бачу.

У чарзе чуецца смех, а я чырванею і чырванею: вушы, твар, шыя — гарацъ.

— Ну, дык даставай, чаго стаіш?

— А ты вазьмі — адпі.

— Ага, адпі, не выліваць жа яго.

Я пачаў піць. Малако падалося страшэнна нясмачным, я закашляўся.

— Яшчэ, малы, трохі глыні!

— Хоць нап’ецца ўволю.

— …

Калі выпілася з паўлітра, а можа, і больш, таго разліванага малака, я апусціў у бітончык, ці не па локаць, руку. Пальцы спачатку намацалі размяклую паперу, а потым манеткі, якія рассыпаліся і не даваліся, выслізвалі, прыціскаліся да донца, ні падчапіць… У чарзе смяяліся, малако выплёхвалася на прылавак, на кашулю. Стася незадаволена хітала галавой. Папера размякла, чарніла расплылося, малако набыло светла-бэзавы колер. Выбраў, вылавіў, дастаў усе да апошняй капейкі, расклаў на прылаўку.

Маладзейшая прадаўшчыца папраўіла свой высокі белы каўпак, падала мне вільготны рушнік, каб я выцер рукі. Вакол смяяліся. Стася ж бліснула залатым зубам і крыкнула:

— Малака засталося літраў дванаццаць, чаргу не займайце! А каму вельмі трэба — купляйце ў бутэльках!

Праз маўклівую чаргу, якая сціснулася, як мяхі гармоніка, да самых дзвярэй я ішоў у цішыні…

Ад крамы, над якой жаўцеў надпіс «Хлеб», ад’ехала машына-будка. Натоўп завірыраваў, ламануўся на дзверы. Тут лічыць колькасць пакупнікоў было бессэнсоўна, бо я не ведаў, колькі людзей набілася ў маленькую крамку. Стаяць паміж пракуранымі, насцярожана-маўклівымі дзядзькамі з мяхамі ў руках нязручна. Яны ўсё паглядалі на свае ровары пад сцяной, але з чаргі не выходзілі.

Смачна пахла свежым хлебам ад тых, хто выносіў яго на руках або ў мяхах-заплечніках ці сумках. Чарга рухалася павольна. Акрамя хлеба нічога не было. Мала хто браў менш чым на рубель. А гэта сем боханаў. У мяне ж было толькі пятнаццаць капеек, і мне трэба быў усяго адзін бохан.

Калі мы з дзядзькамі падсунуліся пад самыя дзверы, то давалі ўжо толькі па два бохaны ў адны рукі. Калі ж апынуліся ў прапахлай свежым хлебам, запоўненай парожнімі паддонамі задушлівай краме — сталі даваць па адным.

Я паставіў свой зялёны бітончык на прылавак і палез у кішэнь па капейкі. Манеткі яшчэ не паспелі ўпасці ў прышрубаваны да прылаўка алюмініевы сподак, як мяне штурхнулі ў спіну. Мой зялёны бітончык кульнуўся, спачатку выплехнуў малако на прылавак, а потым бразнуўся на цэментавую падлогу. Пакуль глядзеў на белую лужыну — апошні пакамечаны бохан забралі.

Я не плакаў.

Ну, а больш у той цёплы травеньскі дзень шэсцьдзясят сёмага года нічога цікавага і не адбылося.

13.12.2005 г.

## ПАРТА

Снег павольна падаў.

Буйнымі і цяжкімі сняжынкамі.

Раптоўнаму снегу радаваліся толькі дзеці, якія спяшаліся ў школу.

Саракагадовы бомж, па мянушцы Камар, нечаканаму снегу не толькі не здзіўляўся, але і не заўважаў яго. Камара моцна смажыла і круціла. Яму было кепска. Так пагана бывае чалавеку толькі нараніцу. Але гэтак жа яму было і ўчора, і заўчора, і шмат дзён.

Ён пахадзіў пад крамай, якая яшчэ і не думала адчыняцца. Потым дварамі дайшоў да прыёмнага пункта шклатары. На жалезных дзвярах вісеў добра знаёмы, а таму ненавісны, замок, а на снезе былі толькі сабачыя ды птушыныя сляды.

Снег павольна падаў.

Буйнымі і цяжкімі сняжынкамі.

Камар ізноў давалокся да крамы. Сённяшні дзень быў не яго...

Але бомж пра гэта стараўся не думаць. Падобныя непатрэбныя развагі яго не займалі. Ды і хто стане напружвацца і філасофстваваць, калі гарыць шлунне, калі засмяглы рот прагне таннага віна,

якое — і пітво, і наедак адначасова. Камар чорнай далонню грабануў снегу. Адкусіў ад яго, як ад белага хлеба, выцер даўно няголенае падбароддзе і пайшоў... Не бязмэтна, а накіравана, хутка так. Дзіўна, паліць не хацелася зусім. У кішэні ляжаў пакамечаны пачак танных цыгарэт і ружовая запальнічка. Нікога са знаёмых пакуль не трапілася. Камар спісваў нешанцаванне на холад і раптоўны снег.

Міліцыянераў бомж заўважыў першым. Яны ішлі па вуліцы і гаманілі. Сытыя, цёпла апранутыя, упэўненыя. Камар прыціснуўся да сцяны, а потым схаваўся за рог дома. З ахоўнікамі парадку сустракацца не хацелася, і не таму, што маглі пабіць, затрымаць і пачаць разбірацца. Камар не любіў, хоць час ад часу і даводзілася, расказваць сваю біяграфію.

Ён перайшоў вуліцу. Міліцыянеры яго заўважылі, але следам не падаліся.

Бомж павярнуў да дзіцячага парка. Ранне. Бязлюддзе і цішыня. У парку нікога такім надвор'ем не спаткаеш, нічым не разжывешся. Спарцмены, сабачнікі, дзеці з яркімі заплечнікамі. На мосціку праз Свіслач Камар убачыў мужчыну. Той стаяў і крышыў батон. Карміў качак. Вада ў рацэ чарнела і хвалявалася бясконца. На хісткую паверхню падалі сняжынкі і раставалі, прападалі. Снег бялеў на траве, сівеў на кустах, а на асфальце раставаў. Парапет і сцежкі былі мокра-чорнымі.

Мужчына быў у цёплай, з капюшонам марынарцы. Разам з качкамі харчаваліся крышаным батонам і белакрылыя крыклівыя чайкі. Яны выхоплівалі размяклы хлеб. Але мужчына карміў птушак механічна. Ён, як падалося Камару, нават увагі на іх не звяртаў.

Камар прыгледзеўся і пайшоў хутчэй. Ён папраўляў шапку і зашпільваў гузікі. Ён яшчэ не быў канчанай бруднай істотай. Пакуль яшчэ меліся некаторыя праявы цывільнасці ў яго зашмальцаваным абліччы. Нават пальчаткі не палохалі дзіркамі-ранамі, а шапка з пумпонам выглядала рыхтык новая... Камар адчуў, што ўдача павярнулася да яго тварам і гэты дзень, нарэшце, складзецца...

Бомж падышоў і стаў побач з дагледжаным мужчынам. Выцягнуў, можа, і крыху мітусліва, з пачка цыгарэту і запаліў.

— Прывітанне, Толік! — голас бамжа прагучаў бадзёра.

Мужчына павярнуўся на голас, зірнуў на суразмоўцу, хітнуўся. Заняўся ранейшай справай, пачаў дужымі пальцамі крышыць батон.

— Ты што, не пазнаеш? Я — Віцька, Віцёк Камароўскі.

— Віцёк? — прамовіў мужчына і агледзеў бамжа з ног да галавы, як жанчыну. — Зашпіліся на ўсе гузікі.

— Мы з табой... — крыкнуў узрадавана бомж. — За адной партай, бляха, тры гады сядзелі. Школа нумар сорак два. Дзясяты «А».

Але гузікі бомж паспрабаваў такі зашпіліць. Гузіка пад каўняром не аказалася. Адно брудны бясколерны шалік паправіў.

— Віцёк... Віцёк... — здзекліва-аднастайна мармытаў мужчына.

Высокая жанчына з’явілася нечакана. Яна была ў шэрым каракулевым футры, на якім снег не раставаў, як і на траве. У руцэ трымала стракатую торбу з ежай. Яна зірнула на бамжа, як па твары ляснула, — наводмаш.

Падаў снег і раставаў на чыгуннай агароджы.

— Адвалі! Што трэба? — звонкі жаночы голас гучаў загадна.

— Толік, Анатоль, яна што, твая жонка? — глянуў перш на мужчыну-аднакласніка, потым на высокую жанчыну бомж. — Мне, Толік, на бутэльку віна. Усяго толькі. Чуеш. Я вярну. Мы ж з табой за адной...

Жанчына зыркнула на разгубленага бамжа, зірнула па баках, як шукала дапамогу. Потым схапіла мужчыну пад локаць і скранула з месца.

Мужчына зрушыўся. Ён няўпэўнена, па-дзіцячы перастаўляў ногі, а крокі атрымліваліся дробненькія.

— Ты... казёл... казёл... — пакрыўджана, шэптам абураўся бомж. — Я да цябе як да сябра, як да чалавека, а ты...

Высокая жанчына ў шэрым футры азірнулася. Твар у яе выглядаў стомленым, спакутаваным.

Круціліся чайкі. Нервова крычалі.

Снег павольна падаў.

Буйнымі і цяжкімі сняжынкамі.

— У нас ёсць парта? — раптам спытаў мужчына.

— Якая парта, Анатоль?

— Парта... Парта... Парта... Зашпіліся... Вецер...

Бомж скрушліва глядзеў услед свайму аднакласніку і разумеў, што ўдача ізноў ад яго адвярнулася.

Мужчына раптам спыніўся. Азірнуўся. Жанчына тарганула яго за руку.

— Спачатку паснедаеш, а потым лекі і мыцца. Сёння нам да доктара, — голас яе гэтым разам гучаў хоць і заклапочана, але будзённа.

Мужчына звузіў вочы і зрабіў пару шырокіх упэўненых крокаў.

— Пазнаў я цябе, Віцька. Хоць ты і мала да сябе падобны... Амнезія, Віця, лепш, чым турма...

— Ты нешта сказаў? — жанчына глянула на мужа.

— Парта мая дзе?.. — мужчына тарганууся, як не паслізнууся.

Снег павольна падаў.

Буйнымі і цяжкімі сняжынкамі.

2007 г.

## ЧЫРВОНЫ МЯЧЫК

У 1973 годзе я паступіў у мінскую мастацкую вучэльню імя Глебава.

***

Чацвёра хлопцаў гулялі на школьнай пляцоўцы ў футбол.

Ім было па сямнаццаць.

Яны ляніва, адно каб змарнаваць час, перакідалі мячык адзін адному, лупілі ў сцяну, штурхаліся, крыху вадзілі. Адзінаму гледачу і гаспадару чырвонага мячыка было восем. Ён сядзеў на мулкай парэнчыне зламанай лавы, слініў далоні, прыгладжваў віхры і сачыў за палётамі свайго мячыка. Калі той адлятаў у кусты пад плот ці пад дрэвы, то малому даводзілася бегчы. Хлопцы не прыспешвалі, цярпліва чакалі. Яны сноўдалі па пляцоўцы, уздымалі цёплы пыл, але ўсё гэта адбывалася нявесела і неяк нервова...

Мячык адкаціўся далёка, пад вокны жоўтай аднапавярховай школы, і Сярожка пайшоў, а потым пабег.

Фэд паглядзеў на гадзіннік, толькі ён адзіны з чатырох і меў яго, і пачаў перабэрсваць чаравікі. Калі Сярожка вярнуўся, то старэйшыя сыходзілі. Мішка, Фэдаў сусед па пад’ездзе, азірнуўся і паказаў малому кулак. Хлопцы падаліся ў бок Першамайскай, праз парк.

Сярожка, з чырвоным гумовым мячыкам у руках, пастаяў на краі пыльнай асфальтаванай пляцоўкі, падумаў і рушыў следам. Гуляць гэтым летнім вечарам у футбол не выпадала.

Аліка перанялі ў парку, за гаражамі. Ён ішоў рукі ў кішэнях, глядзеў пад ногі. Пад пахай нёс палатняную торбачку з парожнім паўлітровым слоікам. Алік падняў вочы, паглядзеў кожнаму з хлопцаў у твар, выцягнуў рукі з кішэняў і адкінуў торбачку пад сцяну. Яна мякка гупнулася на пыльную траву. Ён і не збіраўся ўцякаць. Не такім быў. Зубы сцяў, напяўся, а пальцы самі ў кулакі сціснуліся. Ён яшчэ слінай, імгненна загуслай, цвыркнуў сабе пад ногі. Тут усё і пачалося. Чацвёра на аднога — гэта «не раз на раз»... Аліка збівалі з ног, валілі, а ён уставаў. Глядзеў шалёнымі вачамі на Фэда, на Мішку і кідаўся наперад. Ён не сказаў ні слова. Не папрасіў, каб яны спыніліся. Не прашаптаў кароткае «хопіць». Ён падцягваў ногі, станавіўся перш на каленцы, а потым на локці і падымаўся. У Фэда пачалася сапраўдная істэрыка. Фэд, можа, адзіны з чатырох, ведаў, што Алік — баец... Але ж не настолькі... Каб Алік ляжаў, то яго б і кінулі біць. Можа, нават і падняцца дапамаглі б і дадому давялі. «Заб'ю, падла!» — закрычаў Фэд і адставіў за спіну руку. У далонь лёг нож. Гэта быў апошні аргумент у спрэчцы, хто, як цяпер кажуць, «круцейшы». Пабітыя ў кроў пальцы сціснуліся. Алік прыўзняўся і ўбачыў белае лязо. Страсянуў разбітай галавой, неверагодна, але здолеў зноў падняцца і рушыць насустрач нажу. Сам пайшоў на Фэда. Той зрабіў крок назад, адступіў. Зноў, але гэтым разам не крыкнуў, а шэптам выціснуў з сябе, паабяцаў, што заб'е. «Падай! — спалохана крыкнуў Мішка. — Падай, паўдурак, а то заб'е!»

Фэд не хацеў, але не было ў яго іншага выйсця, як не меў яго і Алік.

Крок, і нож увайшоў у жывот. Гэта была перамога.

З гэтага моманту пачынаецца іншая гісторыя.

Новая вішнёва-бліскучая «Ява» выглядала нечым нетутэйшым побач з бруднай і дабітай машынай хуткай дапамогі. На дзверцах аўтамабіля яркімі плямамі гарэлі адно крыжы. Віктар, гаспадар матацыкла, барабаніў пальцамі па тугім скураным сядзенні, разглядаў пратэктары на ўскінутым пярэднім коле. Тамара стаяла побач, пад каштанам. Твар і шыя дзевятнаццацігадовай дзяўчыны пабраліся ружовымі плямамі. Тамара пра гэта ведала, але што зробіш, калі

хвалявалася — скрозь чырванела. Яна толькі верхні гузік белага халата зашпіліла. «...А мне што рабіць, скажы, скажы? — выкрыквала дзяўчына. — Мне што, задавіцца цяпер? Што ты маўчыш?» — «Трэба было думаць... Ты ж медык... Я тут пры чым?» — адказаў Віктар і крутануў нагой пярэдняе кола свайго новага матацыкла. Зазіхцелі золатам пруткі. Тамара і Віктар маўчалі. Віктару хацелася як мага хутчэй з’ехаць з абрыдлага бальнічнага двара. Тамары хацелася праваліцца скрозь зямлю. Знікнуць назаўсёды. Збегчы, з’ехаць. Далёка-далёка, туды, дзе яе ніхто не ведае...

«Я цябе не люблю... Чуеш?» — гучна, па-будзённаму сказаў Віктар і хутка надзеў чырвоны, пад колер «Явы», шлем. Рухавік не здрадзіў, завёўся з першага разу. Тамара адвярнулася і моцна заплюшчыла вочы. Так, што аж у вушах зазвінела. А калі адкрыла, то ўбачыла толькі сіні дымок...

Сярожка хаваўся побач з гаражамі. Ён сядзеў на кукішках за кустамі барбарысу. Яго не бачылі. Спачатку яму было цікава глядзець, як «малоцяцца» дарослыя хлопцы. Ніхто ж ні ў кога нічога не забраў. Чаму яны тады б’юцца? А потым дзіцёнак спалохаўся, але ні закрычаць, ні пабегчы не мог. Адно прыціскаў да жывата свой чырвоны мячык. Шкроб пазногцямі пругкую гуму, як не прапароў.

У жываце зрабілася кепска — круціла, таму і ціскаў, таму і пароў свой мячык. Ён усё бачыў, але не ўсё разумеў. Па-сапраўднаму спалохаўся, калі Фэд, а за ім астатнія пабеглі. Алік ляжаў тварам у зямлю. Нерухомы. Мячык выпаў. Сярожка нахіліўся і падняў яго. Ціхенька пралез праз кусты і наблізіўся. Прамовіў імя, агледзеўся. Крануў Аліка за плячо і пабег. Ён ляцеў праз парк на плошчу. Бег і плакаў. Выскачыў праз дзірку у агароджы. Убачыў людзей. Два мужчыны і жанчына ішлі да сталоўкі. Алік закрычаў, ускінуў руку. Чырвоны мячык выслізнуў, заскакаў па дарозе, пакаціўся. Сярожка імгненне толькі і разважаў. А потым пабег па свой мячык.

Адкуль вылецеў бліскучы матацыкл?

Ну хто скажа, адкуль і навошта?

Сярожку падкінула. Спачатку ўгару, да неба, а потым ён пакаціўся па шурпатым асфальце... Ад плошчы да новай бальніцы зусім недалёка. Чырвоная кропля мячыка аддалялася, рабілася меншай, а малы цягнуў да яе рукі, пакуль кропля не знікла зусім...

Тамара сядзела на цагляным ганку і плакала. Чорныя слёзы цяклі па шчаках. Падфарбаваныя, скусаныя вусны крывіліся.

Алік расплюшчыў вочы. Кашуля была мокрая ад крыві, крысо пінжака набрыняла, хоць выкручвай, а бок выдаваў слізкім. Ярка-чырвоныя далоні, быццам у алейную фарбу ўбрудзіўся, не слухаліся, пальцы склейваліся. Алік прыціснуў рукі да жывата. У сярэдзіне нясцерпна пякло, і кроў з жывата цякла. Ён указальным пальцам, праз кашулю, намацаў мокрую дзірку. Побач з торбачкай, кінутай у траву, адшукаў шырокі ліст трыпутніку. Заляпіў ім дзірку, прыціснуў далонню. Ён пайшоў праз парк да бальніцы. Праз кусты, па клумбах, напрасткі. Галоўнае не спыняцца. Да бальніцы ж недалёка. Ён дайшоў. Дацягнуўся. Давалокся. Дапоўз. У прыёмным пакоі сам скінуў пінжак, яшчэ змог павесіць яго на спінку жалезнаногага крэсла. Сам пачаў рашпільваць кашулю, каб паказаць прабіты жывот. У прахалодным і паўцёмным пакоі панавала ціша і пах хлоркі. Хірург і астатнія дактары знаходзіліся у аперацыйнай. Там спрабавалі ратаваць васьмігадовага малога, які васкачыў пад матацыкл з парку. Дзіцёнка прывезлі ў бальніцу паўгадзіны таму. Пакуль высілкі дактароў былі беспаспяховымі. Сярожкава сэрца запрацавала, але ў свядомасць ён пакуль не прыходзіў...

Крэсла паваліліся і загрымела. У пакой убегла Тамара і войкнула. На падлозе ляжаў перапэцканы крывёй паўраспрануты хлопец.

Прайшло тры дні.

Фэд стаяў на балконе і паліў. Расціснуў недапалак падэшвай пантоплі. Абапёрся на парэнчыну і пачаў адціскацца. Ён не лічыў. Адціскаўся і глядзеў у двор. Хутка павінны былі вынесці з пад'езда труну. Людзі пры ўваходзе зрушыліся, адсунуліся, натоўп сціснуўся, як пальцы сціскаюцца ў кулак. Духавы аркестр выпрастаўся, узняў начышчаныя інструменты. Глуха бухнуў барабан, уздыхнулі трубы. Загаласілі жанчыны, а Фэд працягваў адціскацца. Па спіне пабег тонкі, як нітка, і халодны, як шкло, струменьчык поту. Выплыла нязвыкла кароценькая труна. Фэд спрабаваў разглядзець бела-ружовы твар Сярожкі. Глядзеў і не пазнаваў. Сярожка, колькі яго памятаў Фэд, заўсёды бегаў непрычасаным. Цяпер жа валасы прыціскаліся да ілба, як прыклееныя. Фэдаў сябар Мішка стаяў пад акацыяй і плакаў. Галаву не ўздымаў, каб Фэд з балкона не ўбачыў. А Фэду плакаць і не хацелася. Ён адціскаўся і адціскаўся.

Прайшло сорак дзён.

Тамара сядзела ў прыёмным пакоі бальніцы і слухала радыё. Перадавалі канцэрт па заяўках. Яна ведала, што праз паўгадзіны Віктар зойдзе па яе і яны пойдуць дамоў. Калі ж яна сыдзе ў дэкрэт, то яны з'едуць з пасёлка. Высветлілі ж, што яе Віктар у той аварыі ні пры чым. Малы сам кінуўся пад колы. А пакуль можна ні пра што асабліва і не думаць, ціхенька падпяваць і грызці кіслы яблык.

З гэтага моманту пачынаецца іншая гісторыя.

Хлопцаў на школьнай пляцоўцы было двое — Фэд і Алік. У паўзмроку жаўцела аднапавярховая школа. Фэд паставіў нагу на жалезную парэнчыну зламанай лавы і ўзяўся перабэрсваць чаравікі. Ён рабіў гэта няспешна, але і неяк нервова. У бок Аліка стараўся не глядзець. Той стаяў і трымаў рукі ў кішэнях.

Фэд выпрастаўся, абцягнуў крыху закароткую майстарку, зірнуў на гадзіннік.

«А ты зможаш? А то я і адзін спраўлюся», — сказаў і спрытна накаціў на нагу чырвоны гумовы мячык. Пару разоў падкінуў з калена на калена і пасануў Аліку. Той спыніў мячык адным рухам. Прыціснуў, каб не скакаў. «Пайшлі... Ён хутка будзе. Каля прыпынку і пяроймем гада», — упэўнена прамовіў Алік і падкінуў на далоні нож.

Снежань 2006 г.

## ВУЛІЦЫ І ЛЮДЗІ

### Страла

З амерыканскіх клёнаў цёк сок. І з таполяў абпілаваных, і з каштанаў цёк сок… Кульцістыя дрэвы падпіралі сіняе неба побач з чырвонацаглянымі гаражамі... З амерыканскага клёна Толік зрабіў сабе лук. А дамы-чатырохпавярховікі на Кастрычніцкай ружавелі, як зефір. Пад абпілаванымі дрэвамі сохла бялізна, і яна нагадвала пра снег. Любка ішла па вуліцы. Ёй было васямнаццаць. Вочы шэрыя… Толік стаяў на грукатлівым даху гаража. У руках трымаў лук з амерыканскага клёна. Адзінаццацігадовы хлопец усклаў на цеціву стралу, зробленую з аконнага штапіка. Плюнуў на пальцы і напяў лук.

Не кажыце мне ніколі пра маю малую радзіму брыду. Ніколі не кажыце!

Ціўкнула нацёртая смалой вяроўка. Страла ўдарыла Любу ў плячо. Войкнула дзеўка. Падняла стралу і зламіла злосна. Да нашага пад'езда заспяшалася.

«Во, бляха. Заўважыла!» — плюнуў Толік на кірзавы бот. Люба пайшла да Толікавых бацькоў. Яна несла ў руцэ паламаную стралу. А бацькі — на працы.

У кватэры Любу сустрэў Шурка, старэйшы Толікаў брат.

Не кажыце на маю малую радзіму брыдкія словы. Не кажыце!

Бо Толік — мой аднакласнік і сусед. А яго лук з амерыканскага клёна і страла са штапіка аконнага — чароўныя. Шурка з Любай сорак два гады жывуць разам.

А Толік на небе.

**Цукерка**

Сапраўдны сябар заўсёды толькі адзін.

Мы з Валодзькам дапаглі маёй суседцы цётцы Ніне перанесці з гаража ў кватэру дванаццаць парожніх трохлітровых слоікаў. Суседка закатвала гуркі і памідоры. Прынеслі і не пабілі. Валодзька схапіў мой мячык і пабег на школьную пляцоўку. Суседка перагледзела кожны слоік і дала мне дзве вялікія шакаладныя цукеркі. Вядома, што адну мне, а другую Валодзьку. Як жа інакш. Я сваю з'еў у пад'ездзе, фанцік выкінуў, рот выцер. Пабег да школы. Мой сябар сам насам ганяў па пыльным стадыёне мячык. Я радасны аддаў Валодзьку цукерку. Ён разгарнуў фанцік. Глянуў на мяне. Я зрабіў выгляд, што цукерка была ўсяго толькі адна. Сліну пракаўтнуў, калі згадаў яе смак. Валодзька адкусіў палову, а другую падаў мне. У мяне пачырванелі вушы, калі ўзяў і пачаў есці. Мой сябар падфутболіў мячык. Ён завіс у паветры над пыльным стадыёнам. Потым мячык упаў і пачаў скакаць. Бух-бух-бух…

Я выціраў рот і сачыў за мячыкам… Школы на Кастрычніцкай, дзе мы вучыліся, няма. Замест яе — дзіцячы садок.

Валодзькава цукерка аказалася смачнейшай...

**Дзевяць-дзесяць**

Мішка Мармуль сядзеў пад пальмай у фае Палаца культуры і граў на чорна-белым баяне вальсок. У Мішкі Мармуля няма прыпяканкі, рагаткі, ножыка, самаробнай клюшкі. Мішка тоўсты і няўклюдны. Ён не ўмее даваць нырца, плавае толькі па-сабачы, не умее з’язджаць з ледзяной гары на нагах — скрозь падае на сраку і сунецца, як торба з бульбай. Ён не мацюкаецца, не крадзе ў бацькі папяросы, не ўмее вадзіць мячык…

Я стаю побач з гардэробам, камечу зімовую шапку і гляджу, як кароткія Мішкавы пальцы бегаюць па касцяных кнопках, як Мішка наморшчвае нос і прытупвае сабе кірзавымі ботамі. Побач з маімі нагамі расцяклася па чыстым паркеце брудная лужына расталага снегу. Мішка заплюшчыў лупатыя вочы. Хоць бацькі і настаўнікі ставяць яго ў прыклад, але Мармуля няма за што паважаць.

Мішка з казённым баянам застаўся пад пальмай, а я пайшоў. Мне было дзевяць, а Мішку дзесяць. Я мог падысці і так піхнуць Мішку ў бок, што ён паваліцца пад пальму і пачне румзаць.

Але Мішка граў вальсок, а мне не ставала паветра.

**Дэнатурат**

Дэнатурат я не піў, але выгляд яго мне падабаўся заўсёды. Радасны анілінавы колер хваляваў. Адразу зразумела — гарыць звонка-празрыстая смярдзючая вадкасць выдатна. А мужчыны пілі — бачыў на свае вочы. Моршчыліся, але каўталі і салам заядалі.

Яфіменкі жылі ў трэцім доме. Дзве дачкі, брат і бацькі. Старэйшы Яфіменка дробны і худы, а яго жонка мажная, у брудным сацінавым халаце з рукавамі закасанымі. Рукі — як ногі. Яна заўжды крычала на падлеткаў, каб да яе дачок не чапляліся. А да іх ніхто чапляцца і не збіраўся, бо дурніцы як ёсць. У Яфіменак былі свінні ў дрывотні. Свінняў яны гадавалі, памыі са сталоўкі па Кастрычніцкай насілі ў тазах і вёдрах, расплёхвалі. Толькі бацька не насіў, бо нямоглы. Ён другі год пакутаваў на страўнік. Яму нават аперацыю рабіць адмовіліся. Каб не пакутаваць далей, Іван Яфіменка вырашыў скончыць жыццё самагубствам. Узяў літровую бутэльку дэнатурату і падняўся на гарышча. Там выпіў да апошняй кроплі і паваліўся тварам у птушыны памёт. Вечар і ноч на гарышчы ляжаў. Знай-

шла суседка, калі панесла бялізну вешаць. Крыку нарабіла, галубоў распалохала. Іван яшчэ не сканаў. Завезлі ў бальніцу. Праз тыдзень Івана выпісалі дамоў. Выпісалі, а ён не памірае. Месяц не памірае, другі не памірае… Усе чакаць перасталі. Іван схадзіў праверыцца, а яму дактары сказалі, што ён здаровы і вантробы — як новыя. На Каляды Яфіменкі адну свінню забілі, а пад Вялікдзень другую. Дактарам свежаніны занеслі.

Дэнатурат запаважалі не толькі на Кастрычніцкай, але і на Школьнай, і на Пасялковай…

**Каханне**

У Сямёна Кавальчука штаны клёшныя, белы шырокі рэмень, чаравікі на абцасах, кашуля памаранчыкавая з каўняром вялікім. У Сямёна электрагітара самаробная і валасы доўгія. У Сямёна Ірка-прыгажуня і каханне. У Іркі круглы, як яблык, твар, валасы залатыя кучаравыя, вусны пульхныя чырвоныя і каханне. Зайздросцяць усе Сямёну з Іркай. Сямён песні піша і сваёй дзяўчыне спявае. Голас у Кавальчука салодкі, але не гучны. Я мог гучней і пранізлівей крыкнуць, але песні я не складаў, на гітары не граў, Ірка мяне не заўважала. Мне ж толькі дванаццаць, а Сямёну шаснаццаць. У такім узросце чатыры гады адлегласць вялізная — не пераскочыць. Зайздроснікаў у закаханых заўсёды хапае. Настаўніца і расказала Іркіным бацькам, чым такое каханне можа скончыцца. Бацькі на дачку насварыліся, на вуліцу па вечарах пускаць перасталі. На Сямёна крычалі, абражалі…

Казалі, што маці дачку да жаночага доктара ў Гомель вазіла.

Пасля гэтага Ірка з Сямёнам вырашылі скончыць жыццё самагубствам. Ірка вышэй чым на тры прыступкі залезці баялася. Адразу млела. Закаханыя дамовіліся, што атруту глынуць у адзін дзень і пэўны час. Жылі хлопец з дзеўкай на Заходняй, ці не праз тры дамы. Як дамовіліся, так і зрабілі. Што глыталі закаханыя, не ведаю, але пэўна, што лекі. Сямёну зрабілася кепска. Ён пальцы ў рот — і яго вывернула. Калі вады выпіў, то зноў званітаваў. А пасля кінуўся да Іркі. Яна ляжала на канапе і ледзь дыхала. Прыехалі дактары. Дзяўчыне зубы расціснулі, шланг у рот уставілі, страўнік прамылі. Потым у бальніцу завезлі…

Ірка з Сямёнам пасля бальніцы зусім не размаўляла, а Сямён і сам не хацеў. Вось такая гісторыя на Заходняй вуліцы здарылася.

Віцька Руды мне сказаў, што дактары з хлопца і дзяўчыны ўсё каханне да апошняй кроплі вымылі марганцоўкай ружовай. Я Віцьку паверыў, бо ён на два гады старэйшы.

**Інтэрнат**

Інтэрнатаўскіх сірот мясцовыя ніколі не білі. Хабзайцаў малацілі, а дзяцей у шэрых палітонах і аднолькавых чаравіках не чапалі.

Чатырохпавярховы цагляны будынак стаяў за парканам. Брамка, вароты, жалезны паркан. Не падабаўся мне будынак.

Гурток выяўленчага мастацтва наведвалі два падлеткі з інтэрната. Меншага звалі Мішка Гарбачоў. Другі — васьмікласнік Лёнік. Ён на два гады старэйшы за Мішу. Лёнік маляваў кепска, а Мішка выдатна. Яны хадзілі ў гурток з восені, з першага верасня. Пасля Калядаў не з'явіліся колькі разоў, і кіраўнік гуртка паслаў мяне даznацца, чаму хлопцы не ходзяць. У інтэрнаце было чысценька, светла і цёпла. Я сустрэў Лёніка. Ён сказаў, што Мішка маляваць не будзе. Калі выходзіў, то заўважыў Мішку. Гаварылі не вельмі доўга. Мішка прызнаўся, што Лёнька яму забараніў маляваць. Я развярнуўся шукаць васьмікласніка, каб даць у рыла, але не знайшоў. Лёнька схаваўся.

Праз два тыдні Мішка ўцёк са школы-інтэрната. Не знайшлі…

У школу-інтэрнат заходзіў толькі аднойчы.

Інтэрнат, турма, бальніца заўсёды далёка, нават калі яны і на суседняй вуліцы...

**Начоўкі**

«Апрогся», — так і сказала пра свайго саракагадовага зяця цётка Ніна.

Яны жылі на Кастрычніцкай у трэцім доме. На вокнах былі белыя занавескі, а на балконе віселі шэрыя бляшаныя начоўкі.

Жэнька, мой аднакласнік, калі хацеў мяне паклікаць, то грукаў кулаком па дне. Бляшаныя начоўкі гулі на ўсю вуліцу.

На бацькавым пахаванні Жэнька маўчаў.

**Будзільнік**

Старыя, асабліва цёткі, кідаць камяні не ўмеюць…

Маскаліха хадзіла па вуліцах пасёлка ў доўгай чорнай спадніцы,

хустцы, насунутай на вочы, у карычневай кофце і хатніх тапках. Хадзіла хутка і нячутна. Дробная старая цётка, прыгнутая і запалоханая жыццём. Мы, дзеці, бегалі следам, круціліся вакол і крычалі: «Будзільнік, будзільнік, будзільнік!» Яна сварылася, магла няўмела шпурнуць каменем і не патрапіць…

Казалі, што Маскаліха раней працавала на шклозаводзе прыбіральшчыцай. У канторы падлогу шаравала, смецце выносіла. Там і скрала з дырэктарскага кабінета будзільнік. Спадабаўся, напэўна, так моцна, што не змагла стрымацца. Схавала пад спадніцу, а калі выходзіла з завода, то ён пачаў звінець. На прахадной падаў голас. Злодзея затрымалі і з працы звольнілі. Відаць, даўно гэта было, але не забылася. Так яе і звалі — Будзільнікам, а яна злавалася.

Яна магла ісці па вуліцы, няхай сабе і па Кастрычніцкай, раптам спыніцца, скласці далонь ракаўкай, прыціснуць да вуха… Стаяць на адным месцы і паварочваць галаву. Даволі доўга магла стаяць і слухаць толькі ёй чутнае. Можа, далёкае, а можа, і блізкае…

Гэтыя яе нечаканыя прыпынкі пасярод вуліцы палохалі. Можа, яна чула, як бяжыць-кропае час. Абсалютна нябачны, як паветра. Можа, яна ведала, што кожнаму празвініць будзільнік і тады яго звольняць… Мне здаецца, што я раблю старую цётку занадта містычнай і значнай, а яна насамрэч звычайная — трапілася на крадзяжы гадзінніка.

Але што ж яна так уважліва слухала?

**Віцька Козыр**

Віцька старэйшы за мяне гады на тры. Здаецца, яго бацька служыў міліцыянерам. Хоць Віцька і старэйшы, але мы з яго здзекаваліся, білі і абражалі. Хлопец, калі і крыўдзіўся, то праз хвіліну забываўся на свае крыўды і зноў пасміхаўся прыязна. Стаяў і глядзеў на тое, чым мы займаліся, лыпаў блакітнымі вочкамі, цёр вялікай далонню шчаку…

Прайшло-прамінула сто гадоў.

Вось Віцька на аўтобусным прыпынку. З шашы да прыпынку пад'язджаюць аўтобусы, з іх выходзяць людзі. Пад'язджаюць маршруткі і запаўняюцца пасажырамі на Гомель. Мажны мужчына ў шэрым паліто з адным гузікам стаіць і праводзіць позіркам машыны. Як усе старыя, ён паварочваецца ўслед таму, што знікае, не

галавой, а ўсім целам. Пачынаецца дождж. Віцька абмацвае кішэні і дастае дзве пячэнніны. Дзьме на іх і пачынае грызці. Ён есць, як старая бяззубая малпа, але акуратна. Крошкі не сыплюцца. У нягоненага Віцькі Козыра тоўстыя чырвоныя губы. Параўнанне Віцькі са старой малпай мяне злуе сваёй недакладнасцю. Людзі спяшаюцца, бо хто ж будзе стаяць пад дажджом. Людзі з'язджаюць і прыязджаюць. Толькі Козыр застаецца стаяць. Многія з тых, хто біў і абражаў ідыёта, даўно на могілках. Раптам Віцька паварочваецца да мяне і дае пячэнніну. Надкусаную, абсліненую. Лыпае блакітнымі вочкамі, на мокрым твары блішчаць кроплі дажджу. Крыху вагаюся, але пачастунак бяру, бо ён — чысты. Віцька задаволена смяецца і кажа: «І ў Гомлі дождж».

Іду пад парасонам да плошчы. У руцэ пячэнніна, і я не ведаю, што мне з ёй рабіць.

**Смех**

Аднакласніца Ленка Тронская жыла на ціхай вуліцы ў прыватным доме. У Ленкі памёр бацька. Некалькі сямікласнікаў, якім Тронская падабалася, пайшлі на пахаванне. Класная адпусціла з урокаў. Мы прыйшлі. Побач з домам стаяла грузавая машына з адкінутымі бартамі, пара легкавікоў, курылі мужчыны. Ленка выйшла да нас у двор. На ёй было ўсё чорнае: хустка чорная, чаравікі чорныя, панчохі. Выглядала кепска. Раней Тронская часта казала, што бацьку не любіць. Толік паглядзеў на Ленку і пацікавіўся колерам яе бялізны. Аднакласніца спачатку стрымана ўсміхнулася, а потым засмяялася па-сапраўднаму, а далей гучна зарагатала. Істэрыка. Павыходзілі жанчыны з дома. Спалохаліся. Ленку пачалі паіць вадой з валяр'янкай, даваць жоўценькія пігулкі…

На той вуліцы быў толькі аднойчы, калі аднакласніца шалёна рагатала на бацькавым пахаванні.

Колер пігулак памятаю, а вось назву вуліцы забыўся.

**Кашуля**

Цыгане з'яўляліся ў пасёлку вясной і восенню. Калі садзілі і капалі бульбу.

Запомніў, як цыган выцяў пугай свайго цыганёнка. У таго ажно кашуля раз'ехалася на спіне. Цыганёнак качаўся на асфальце і кры-

чаў. А цыган-бацька сеў на калёсы і паехаў. Цыганёнак, як сабачка, пабег даганяць.

У клубе ішоў фільм «Няўлоўныя мсціўцы». Там геройстваваў цыганёнак Яшка ў чырвонай шаўковай кашулі.

**Сляза**

Сляза на Валодзькавым воку.

Пакуль яна дабегла да сярэдзіны шчакі, то зрабілася чорнай, як семка ў спелым яблыку.

А за паўгадзіны да слязы…

Неба чыстае, бясхмарнае — чэрвеньскае. Вецер упарты і гарачы, нябачны.

І раптам зрабілася цёмна-цёмна. Заскавыталі сабакі, зазвінелі разбітыя шыбкі, па Кастрычніцкай з грукатам і ляскатам ляцеў і падскокваў пакарабачаны вялізны ліст іржавай бляхі. Жалезіна захрасла ў кустах побач са школай. Вада ў возеры ззяла, як расплаўлены свінец. Ляцелі прасціны, навалкі, кашулі матлялі рукавамі, саскоквалі з балконаў і куляліся ў паветры. Суседка крычала і спрабавала хапаць бялізну, а маеткі і рушнікі разляталіся. І не глядзела жанчына на тое, што яе спадніца надзьмулася і вось-вось вецер падхопіць і яе, беланогую. Падкіне і панясе над гарадком разам з мужавай кашуляй…

А калі раптам стала ціха, то пасыпаўся карычневы пыл. І змянілася ўсё вакол непазнавальна. Не так, як снег змяняе, а паіншаму. Снег не прыцiскае душу да зямлі. А карычневы, у пыл расцярушаны торф, выклікаў немату і тужлівасць.

**Кіно**

Мне ўсяго чатыры гады. У мяне кашаль. Мама прывяла мяне на рэнтген. Там нас сустрэла жанчына-доктар у белым халаце і валёнках. У кабінеце халодна і нязвыкла. Я расплакаўся, жанчынадоктар, каб мяне супакоіць, сказала, што зараз пакажа мне кіно. Ад такога абяцання я супакоіўся і пачаў распранацца. Мяне паставілі ў кабінку. Падлога паднялася. На грудзі насунулася халоднае шкло. Згасла святло.

«Дрэннае ваша кіно!» — закрычаў я і заплакаў.

«Што, што?» — не зразумела і перапытала доктар.

Жанчына-рэнтгенолаг гадоў трыццаць пасля таго сустракала мяне на вуліцы і пытала: «Дрэннае было кіно? Як ты вырас».

Апошні раз мы сустрэліся на плошчы. Свяціла яркае сонца, на каштанах бялелі кветкі. Дзьмуў цёплы вецер. Такі цёплы, які бывае толькі ў траўні. Яна мяне не пазнала, хоць я зняў цёмныя акуляры і павітаўся.

Яе выпісалі з бальніцы.

Дрэннае кіно.

**Ціхая вуліца**

Вуліца Садовая ціхая. І людзі там спакойныя. Нават і расказаць няма чаго пра гэтую вуліцу з прыватнымі дамкамі і прыгожай назвай. Хіба што як на ёй знайшлі Толікаву руку. Сабака выцягнуў руку на асфальт і трыбушыць пачаў. Убачыў гаспадар, загадаў, каб цуцык брыду кінуў. А сабака кідаць не хацеў і да гаспадара не ішоў… Потым і астатнія часткі Толіка пазнаходзілі: нагу, галаву, тулава. Хлопцы вучыліся ў адной школе, бо жылі на Садовай. Толік з'ехаў на шабашку першым, а потым і суседзяў у сваю брыгаду запрасіў. Жэнька з Ігарам паехалі, папрацавалі. Казалі, што Толік не разлічыўся з хлопцамі. Вось яны і не даравалі яму. Вуліца Садовая самай ціхай і спакойнай лічылася, з Кастрычніцкай, ці Першамайскай — не параўнаць.

**На Школьнай**

Віцьку Сухога папрасілі прыбегчы другім, а ён прыбег першым і атрымаў грамату. Ён мог і яшчэ пару кружкоў па парку нарэзаць. Дыхалкі хапала.

Хлопцаў трое, а Віцька адзін. Усе трое старэйшыя за яго і нашмат дужэйшыя. Віцька крыкнуў і пабег. Праз кусты, без сцежак. І хлопцы кінуліся следам. Сухога загналі да бетоннага паркана. Пастка. Віцька схапіў дрын. Калі дрын зламіўся, васьмікласніка пачалі біць…

Потым стаміліся, кінулі і пайшлі.

Віцька падняўся на карачкі, а потым і на ногі стаў. Языком выціснуў выбіты зуб, які ледзь трымаўся. Выплюнуў разам з крывёй і паспрабаваў зрабіць крок. Віцьку хіснула, і каб не паркан, то ён бы і ўпаў. Расшпіліў непаслухмяную прарэху і памачыўся. Было балюча, але галава трохі перастала круціцца.

Ноччу падлетку зрабілася кепска. Ванітавала. Бацькі спалохаліся, выклікалі «хуткую». Доктар і паведаміў у міліцыю. Участковы прыйшоў у палату, але Віцька не сказаў пра трох хлопцаў з вуліцы Школьнай. Маўчаў і глядзеў на тры зорачкі лейтэнанцкіх пагонаў...

Гэта быў верасень 1976-га.

З сярэдзіны верасня і амаль да канца вясны Віцька ездзіў у Гомель па тры разы на тыдзень. Усім казаў, што займаецца ў гуртку, дзе робяць мадэлі планераў. Шалёсткая папера, клей, акуратныя рэйкі часам з'яўляліся на яго стале. Потым, у траўні, ездзіць перастаў, рэйкі, клей і папера зніклі. Прыехаў да Віцькі высокі мужчына ў сіняй кашулі. Ён угаворваў Сухога вярнуцца ў секцыю бокса і працягваць займацца. Віцька сказаў, што яму гэта нецікава. Легкавік з сінім надпісам «Дынама» з'ехаў. Гэтая падзея засталася амаль не заўважанай.

Першым быў Шурка па мянушцы Малы. Шурка і рыпнуцца не паспеў. Сухі зламіў яму нос і выбіў два пярэдніх зуба. Упаў пасля трэцяга ўдара і застаўся ляжаць.

Косцік трапіўся за клубам. Лебяда ішоў і курыў. Сухі з'явіўся перад ім, як з пад зямлі. Косцік вышэйшы за Віцьку на галаву і ў плячах шырэйшы. Лебяда галіўся і гадаваў чорненькія вусы. Бойка скончылася хутка.

І Фэда Лашкевіча Віцька адмудохаў тым жа вечарам. Калі падбеглі Фэдавы сябры са Школьнай, то Сухі сышоў. Фэд курчыўся на зямлі і стагнаў.

Участковы не мог паверыць, што Сухі адзін перамог трох. Вельмі дробным і здохлым выглядаў васьмікласнік у параўнанні з хлопцамі з вуліцы Школьнай.

Віцьку Сухога забіла раўнівая каханка. Яна была малодшай сястрой Косціка Лебяды. Жанчына перацяла Віцькава горла, калі той спаў. Здарылася гэта на вуліцы Школьнай, на Каляды, пачынаўся 1989 год.

**На фантане**

Алік Царлюкевіч прызнаўся ў каханні Райцы. Аліку — пятнаццаці яшчэ не было, а Рая тры гады як замужам, дзіця… Жанчына глядзела на падлетка і не ўсміхалася. Гэта адбывалася на плошчы гарачым вераснёўскім днём, калі яшчэ не верыцца, што лета скон-

чылася. Алік трохі ніжэйшы за Раю, а можа, гэта з-за прычоскі жанчына здавалася высокай. Рая хацела нешта сказаць Аліку. Падбірала патрэбныя словы.

З двара сталоўкі на плошчу выбеглі шэрая сучачка, а следам кульгавы Джэк. На плошчы Джэк забрахаў і наскочыў на сучку. Рая пайшла. А потым амаль пабегла па Кастрычніцкай.

Джэк саскочыў з сучкі і закульгаў у двор сталоўкі, дзе бразгацелі алюмініевыя паддоны, дзе выгружалі з машыны прадукты. Алік прысеў, схапіў камень і кінуў у сучку. Не пацэліў. Плюнуў скрозь зубы на пыльны асфальт і пайшоў, рукі ў кішэнях, да аўтастанцыі.

Мы, падлеткі, сядзелі на фантане і рагаталі.

**Піва**

Бочкі з півам былі рудыя і непрывабныя, а піва смачнае. Бочкі тыя стаялі на колах, іх прычэпам прывозіла шэрая грузавая машына. Падключалі два чорных гумовых шланга, пускалі ваду, каб келіхі мыць, і гандлявалі півам. Бочак было тры. Адна на плошчы, побач са сталоўкай, насупраць фантана. Другая пры шашы, на аўтобуснай станцыіі, пад каштанамі, паблізу галантарэйнай крамы. Трэцяя побач з гастраномам. Вось тую, далёкую, падлеткі з Кастрычніцкай і зламілі. Адагнулі рог жалезных дзверак. Віталік засунуў руку і адкруціў кран. Віцька перарэзаў чорны шланг, па якім брудная вада сцякала ў каналізацыйны люк. Піва пачало выліваццa. Пяцёра падлеткаў злілі два вядры піва і прынеслі яго ў сутарэнні пад нашым домам. Яны і мяне запрашалі тым півам пачаставацца. Гукалі з сутарэнняў праз малое акенца, іржавай сеткай забітае, але я не пайшоў, бо нечым быў моцна заняты. Хоць забі, чым такім заняты, — не згадаю. Другое вядро піва хлопцы дапіць не паспелі. Міліцыянеры з дружыннікамі дзверы ў сутарэнні высадзілі. Потым Віталік на Віцьку сварыўся, што той кран у бочцы не закруціў, і міліцыянеры заўважылі, як піва ў каналізацыю цякло…

**Марак**

Вуліца Кастрычніцкая заканчваецца возерам. Там яшчэ і сёння растуць вялікія таполі, паміж асфальтам і вадой. Шурка пахваліўся, што перамахне возера за паўгадзіны. Шурка дужы, на флоце служыў. Скінуў адзежу на пясок і паплыў. Цёмна было — горача

і задушна. Мы стаялі і глядзелі, як Шурка плыве. А потым плавец знік… І рыба не плёхала.

Мы пабеглі да сёмага дома. Назаўтра Шурку шукалі невадам, баграмі дно мацалі… Мы, падлеткі, якія бачылі Шурку апошнімі, хадзілі па беразе. Было горача, але купацца не хацелася. І вадалазы тапельца не знайшлі…

Шурку ўбачыла жанчына з сёмага дома, што па Кастрычніцкай. Гэта было праз тры дні, пасля навальніцы. А пасля пахавання мы пайшлі купацца на возера. Вада была непрыемна цёплая, як падагрэтая. З тыдзень возера не пераплывалі, а потым на Шурку забыліся, як і не жыў марак.

**Чэмпіён**

Мы басцяліся па вуліцах, гарышчах і сутарэннях, біліся, палілі бацькоўскія папяросы, ганялі на «лайбах» па пасёлку...

Сашка ж трэніраваўся, выступаў на спаборніцтвах і перамагаў. Настаўнікі і бацькі ставілі яго нам у прыклад... Потым ён стаў чэмпіёнам і атрымаў медаль. А потым пачалося дарослае жыццё. Сашка быў трэнерам, бандзітам, бізнесменам, а потым яму ўсё надакучыла. Аднакласнік кінуў піць. Завязаў раптам, без падрыхтоўкі. Гэта так усіх здзівіла, што кожная размова-сустрэча з былымі аднакласнікамі пачыналася з гэтай падзеі ці учынка. Прайшло два гады — Сашка кінуў паліць... Завязаў. Пачалі гаварыць. Паміж алкаголем і тытунём быў яшчэ адзін учынак — Сашка кінуў каханку, але пра гэта амаль ніхто не ведаў... Ён жыў колькі гадоў ціха, пра яго не было нават чуваць. А потым узяў і скочыў з дванаццатага паверха.

Той ноччу на небе гарэла поўня, яркая і недасяжная, як медаль...

**Бацінкі**

Ведаеце знакаміты нацюрморт Вінцэнта ван Гога. Той, са старымі пакарабачанымі бацінкамі. Яны стаптаныя, зношаныя, яны прайшлі многа дарог і шмат бачылі... Бацінкі могуць расказаць пра гаспадара больш, чым яго партрэт.

Хмарачосаў у пасёлку не будавалі. Самыя вышэзныя пабудовы — шклозаводскія коміны і пяціпавярховікі на вуліцы Першамайскай. Але для хмарачосаў на заводзе рабілі шкло і везлі яго ў вялізных скрынях на экспарт за акіян.

Мішка Цімашэнка жыў на вуліцы Узбярэжнай, у сваім доме. Там стаялі толькі прыватныя дамы. Калі Мішка з малодшай сястрой ішлі ў школу, а бацькі на завод, то двор вартавала кудлатая, кароткахвостая аўчарка. Дунай хадзіў па двары і грымеў ланцугом. Каб і не было сабакі, то наўрад ці хто рызыкнуў лезці ў цагляны дом з жоўтым франтонам і круглым вакенцам-ілюмінатарам. У Мішкі бацька пад два метры ростам. Зловіць, раздзярэ, як анучу, мала зладзюгану не падасцца. Мішкаў бацька працаваў на заводзе грузчыкам. Пакаваў вялізныя лісты вітрыннага шкла ў скрыні, а потым ставіў тыя скрыні на прычэп машыны. Ехала-плыло парэзанае шкло ў далёкую Амерыку ды іншыя краіны з экзатычнымі і зманлівымі назвамі.

Мішка занудзіўся. Хадзіў прыгнечаны, да гульняў абыякавы. Па сакрэце расказаў, што яго бацька вырашыў пайсці жыць да іншай жанчыны, але дом і сабаку пакіне ім. Бацька збіраў чамаданы. Невясёлая гісторыя… І мне яна не спадабалася, бо больш не будзе каму пакатаць нас з Мішкам на чорным матацыкле КА-750.

Мішкаў бацька пайшоў на завод у першую змену, а сын з дачкой у школу. Нечакана Мішку з сястрой з заняткаў забралі. Яго бацьку завезлі з цэха ў бальніцу.

Ліст вітрыннага шкла, падняты аўтапагрузчыкам са стала, завіс у паветры. Прысоскі шпокнулі. Шкліна, памерам два на два метры, таўшчынёй у дзюйм, абрынулася. Рассыпалася на тысячы зіхоткіх гарачых аскепкаў.

Пройдзе год, і Мішка пахваліцца мне бацькавымі бацінкамі. Выцягне іх з-пад шафы. Вялікія (сорак шостага памеру), на чорнай падэшве, шэрыя, пашытыя з тоўстай свіной скуры, з металічнымі бубкамі-заклёпкамі, забэрсаныя пляскатымі матузкамі. Бацінкі грузчыка будуць бяз заднікаў і часткі абцасаў. Тая вялізная шкліна абсячэ разам з заднікамі і абцасамі грузчыкавы пяты.

Гэта няпраўда, што мужыкі смялейшыя за жанчын. Хто гэта прыдумаў, хто зрабіў такую выснову? Скалечаны Мішкаў бацька застанецца ў сям'і, не сыдзе да іншай жанчыны.

**Сустрэча на Камунальнай**

Іду па вуліцы Камунальнай, а з таполяў ляціць пух.

...Мне давялося бачыць тысячы анёлаў. Можа, і больш. Намаляваных на сценах сабораў, выкладзеных з каляровых каменьчыкаў,

высечаных з мармуру, выразаных з дрэва, адлітых з бронзы і жалеза, злепленых з гліны, пластэлінавых і васковых. На дошках абразоў і палотнах. Анёлаў, намаляваных на паперы… Дзясяткі тысяч рукатворных анёлаў. І ні разу не бачыў сапраўднага — жывога. Хіба так можа быць? Анёлы існуюць, але мне пакуль не пашчасціла ўбачыць...

Па Камунальнай ляціць тапалёвы пух. Вочы пачынаюць слязіцца, і мне здаецца, што пад ружовай трансфарматарнай будкай стаіць ён. Пры шэрых дзвярах, на якіх чарнее трафарэтная выява чэрапа і маланкі…

**Другое неба**

Гэта смачней за соль і цукар — гарачым языком лізнуць неба…

Хто не хацеў дакрануцца да сінечы? Далонню, чырвонай ад іржы, успатнелай шчакой, спінаю ці грудзямі пад надзьмутай высокім ветрам кашуляй адчуць яго бязмежнасць і глыбіню. У адзінаццаць яшчэ не паадвальваліся крылы, а можа, дарослыя яшчэ не паспелі адарваць нябачныя дзіцячыя крылы.

Самае высокае на гэтым баку шашы — чырвоны комін кацельні. Ён толькі крыху ніжэйшы за завадскія коміны. Калі цёмна, то комін кацельні глядзіць на зоры тэлескопам. А за вялізнымі вокнамі кацельні катлы і печы, качагары і агонь.

Вечар. Атрамантавае неба. І безліч бела-сініх зорак.

Тры падшыванцы вырашылі ўзлезці на комін. На самы-самы верх. Але спакуса паглядзець у запатнелае акно жаночай лазні, у прадрапанае ў брудна-салатавай фарбе вочка — аказалася большай, чым прага вышыні. Большай, чым прага бязмежнага неба… І толькі адзін з трох падшыванцаў, пакуль яго сябры па чарзе прыпадалі ілбамі да шкла, палез на комін.

Ён ускараскаўся на самы верх. Ледзь не разбіўся, калі з’едзеная іржой скобка прыступкі зламілася… Ён лізнуў кроў з рассечанай губы. І гэта быў смак неба.

Акрамя гэтага ён нічога не расказаў цікавага. А яму пра жаночую лазню гаварылі і гаварылі…

Цяпер таго коміна няма.

Як няма ў мяне і другога неба.

2009—2010 гг.

# СТО АКВАРЭЛЬНЫХ МАЛЮНКАЎ. БАЦЬКА

**Ляскоўка**

У лесе безліч дрэў, але ёсць адно…

Невялікая лясная яблынька-дзічка, якую бацька называў — «мая ляскоўка». Дзічка расла крокаў за дваццаць ад пясчанай дарогі пад соснамі. Скрозь, калі мы ішлі з ім у вёску да дзеда з бабай, то ён прыпыняўся і шыбаваў да гэтай разгалістай яблынькі. Кідаў на траву пляцак і сядаў. З нетраў плецака выцягваў пляшку віна, здзіраў корак і няспешна адпіваў палову… А бліскучы корак згінаў і прыладжваў на якую нізкую галіну — упрыгожваў дрэўца… Пасміхаўся свайму вынаходніцтву. Я хадзіў непадалёк і еў суніцы, шукаў грыбы, сачыў птушак. Бацька запальваў папяросу і глядзеў праз галіны ў неба ці сачыў за мной. Ад папяросы закручваўся сіні дымок. Ён сядзеў чвэрць гадзіны пад той яблынькай. На твары быў спакой і засяроджанасць. Ён і не заўважаў нават, што папяроса згасла…

Тут не пра выпіты партвейн гаворка, віно тут ні пры чым. Я пра словы, якія чуў ад свайго бацькі. Яблыньку ён зваў — «мая ляскоўка». Адну, з тысяч дрэў, якія шумелі над намі, над мужчынам і яго дзіцёнкам.

Для мяне тое бацькава слова «мая» — вельмі важнае і дарагое.

Мая дарога, мой дом, мая вуліца, мая рака, маё возера, мой лес… Свядомае жыццё пачынаецца з гэтага слова. Калі чалавек не можа сказаць — «мая ляскоўка», то і бацькаўшчыны ў яго няма.

І не трэба мне шмат колераў…

Хопіць вохры залацістай, крышку блакітна-бялёсай, якой намалюю лапікі неба і дым папяросы, яблынька ж атрымаецца сама, калі змяшаць золата вохры з блакітам…

А бацькава кашуля будзе светлай, як пясок на дарозе пад соснамі…

**Чаромха**

Дзіўна, але я са сваёй амаль фатаграфічнай памяццю, з уменнем дадумваць і дамалёўваць як ні стараюся, як ні высільваюся, а так і не магу сказаць, які з існуючых успамінаў пра бацьку — самы першы… Самы першы! Безумоўна, ён ёсць, павінна ж існаваць кропка адліку. Апошні, суровы — колеру зямлі на могілках, памятаю, а першы размыўся… Ён, відаць, самы пяшчотны і праз-

рысты, як вада. Вось таму і не згадваецца. Вось таму і не магу яго намаляваць…

…Травеньскі лес. Стракаценне бяроз. Сакоўная зеляніна травы і яшчэ зусім мяккага лісця на дрэвах. Бацька трымае мяне за руку і паказвае хуткіх і палахлівых птушак. Адкуль ён іх усіх ведае? Сойка, дзяцел, грак, сарока-варона, сінічка… Мэта вандроўкі ў вясновы лес мне не вядома, і ён не кажа, але мяне гэта і не напружвае... Гэты малюнак — бела-зялёны і халаднаваты, як цень на вадзе ў лашчыне. Бацька перанясе праз лашчыну, а далей стане трымаць на руках. Мы наломім вялікі букет чаромхі. Такі агромністы, што мяне, трохгадовага, за ім не відаць. Я стамлюся, і бацьку давядзецца несці на адной руцэ мяне, а ў другой чаромху. Кветкі пачнуць казытаць мой твар, хістацца перад вачамі, і я не змагу больш бачыць імклівых птушак, якія пералятаюць дарогу. Я засну на руках…

Белая чаромха… Стракатыя бярозы, сінія бацькавы вочы, дыханне… Можа, гэта — першы ўспамін?

**Матузок**

Так старанна і доўга забэрсваю наваксаваныя чаравікі, няспешна і надзейна завязваю матузкі «маміным банцікам»…

Быццам наперадзе дальняя дарога…

Быццам ніколі больш… А бацька глядзіць і маўчыць.

Гэтак было і ў адзінаццаць маіх гадоў і ў сорак пяць…

Чорна-белы малюнак. Колкія штрыхі простага алоўка.

…І сённяшняя дата ў правым верхнім куце шурпатага аркуша...

**Арэхі**

У першым класе загадалі зрабіць восеньскі гербарый. Я назбіраў у скверы, што побач з домам, лісця…

А ў нядзелю пад вечар бацька вярнуўся з вёскі. Ён выцягнуў з плецака газету, разгарнуў яе і выклаў на стол вялікі стос рознаколеровага лісця. Круглы стол, за якім я рабіў урокі, ледзь змясціў усё багацце… Лісце тое яшчэ вільготнае. У пакоі запахла кастрычніцкім лесам і грыбамі. Я сядзеў і разглядаў, выбіраў з лепшага найпрыгажэйшае. А бацька пытаў, з якога дрэва той ці іншы ліст. Кляновыя — большыя за яго далонь. Чырвоныя, як марознае сонца надвячоркам. У рукі боязна браць, пальцы апячэш. Ліпавыя, асінавыя,

грабавыя, колькі каляных дубовых лістоў, з ляшчыны мяккае лісце, з явару, з бярозы… Не хопіць фарбаў, каб намаляваць гэты ўспамін, не хопіць колераў на маёй палітры…

А таму я намалюю дождж і мокры лес, дрэвы з чорнымі камлямі і мужчыну ў кепцы, які ідзе нетаропка па рудым дыване і трымае ў руцэ колькі барвовых і зыркіх, як агонь, лістоў… Няхай і кляновых…

«А вавёрку ты бачыў?» — спытаю бацьку.

Ён спахопіцца, выйдзе ў калідор і прынясе поўныя жмені арэхаў-«лузганцоў».

Я забудуся на лісце і пачну лічыць, перабіраць, як каштоўныя пацеркі, тыя арэхі з нашага з ім лесу.

**Вавёрка**

Я сяджу на вясковых могілках. Пад змрочнымі старымі елкамі. Мне няўтульна, самотна, халодна і абыякава.

Гляджу на крыжы і агароджы, на шэрыя помнікі… Я прыехаў і прыйшоў, каб прыбраць, каб пафарбаваць жалеза, якое грызе іржа, паправіць лаву… Але не магу пачаць працаваць, бо навалiліся ўспаміны, нават з месца скрануцца няма як… Не ведаю, колькі б я так сядзеў: нерухома, каменна, і думаў пра кепскае і цяжкае, каб не яна — жывая душа.

Рудая вавёрка праскочыла праз пруты агароджы, зірнула на мяне з утравелага капца і пабегла па царстве сініх крыжоў.

І самота мяне адпусціла…

**Спадчына**

Мужчыны ягады збіраць не любяць. За кожнай ягадзінай трэба нагнуцца, перад кожнай укленчыць. І мой бацька тут — не выключэнне. Іншая справа грыбы. Гэта сапраўдны мужчынскі занятак — хадзіць па лесе і вышукваць, высочваць грыб…

Вось мы і пайшлі ў грыбы. Зайшлі даволі далёка, і я стаміўся. Захацеў піць, і бацька напаіў мяне. Набраў у кепку цёплай вады ў лагчыне і падняў над маёй галавой. Балотная вада працякала праз тканіну, зіхоткі струмень звіваўся, заплятаўся, а я стаяў пад кепкай, і вада цурчэла мне ў рот. І была яна смачнай і жывой, як у казцы. А потым бацька назбіраў суніц і карміў мяне ягадамі з далоні. Паль-

цы яго былі ў чырвоных плямах сунічнага соку, і пахлі тыя ягады жніве́ньскім сонцам і тытунём…

Ну, як намаляваць зменлівы і смачны водар… Не ведаю.

Гадоў праз пяць, калі мне будзе дзесяць, бацька пакажа мне ў лесе ўсе свае сакрэтныя грыбныя мясціны: далёкія і блізкія. Перадасць у спадчыну.

Няма тых лясоў, а грыбныя мясціны хіба забудзеш?

Мне сняцца старыя бярозы і жоўта-зялёны мох, лясныя кардоны, павуціна на кустах ляшчыны і цёмныя шапкі баравікоў, яркія галоўкі падасінавікаў, трымценне лісця, падзенне лісця, палёт… І рыпенне, калі вострае лязо нажа зразае грыб. Ведаю, што насамрэч не вярнуся туды ніколі, а толькі ў снах, каб убачыць там бацьку, які гукае мяне, пяцігадовага. Я пабягу на яго голас і заўважу пад нагамі вялікі грыб. І закрычу сцішана-радасна, што і я знайшоў баравіка. А бацька здзівіцца і дасць мне свой нож, каб я зрэзаў той грыб.

Сам жа чыркне запалкай і задаволена зацягнецца…

**Цягнік**

Шкляная попельніца на белым падваконні. Скрыначка запалак. Старамодныя акуляры. Недапалак. За акном — двор. Далёкі краявід з комінамі шклозавода. Чыгунка, за старым калгасным садам, якая робіцца бачнай, калі імчыць цягнік. (Зусім сціплы малюнак, ледзь падфарбаваны.)

З вокнаў цягніка мне бачны белы дом з сілікатнай цэглы і вокны кватэры на пятым паверсе. Там, на белым падваконні, шкляная попельніца, скрыначка запалак і ключы ад кватэры, якія я пакінуў, бо дома заўсёды нехта будзе, не было такога, каб я прыехаў і мне не адчынілі…

Бацька заўсёды сядзеў пры акне і праводзіў позіркам мой цягнік на Мінск…

**Ключы**

Колькі разоў бацька прасіў мяне намаляваць дзедаў дом, падворак з паветкай, замёт, хлеў, браму, яблыневы сад, шляшок (абнесеную плотам дарогу да хаты)…

І не абы-як, а пазнавальна, па-сапраўднаму, лепш, чым на каляровым здымку. Каб было відаць, што дах — жалезны і пафарба-

ваны чырвоным, што аканіцы белыя, што фортка ў агарод — сіняя, а вялікая брама — чырвоная… Што побач з домам дзве яблыні белага наліву, а далей — старыя разгалістыя дрэвы — штрыфель і ранетка, што пад вокнамі растуць бела-ружовыя мальвы і кусты парэчак… Здавалася, а што тут складанага, бяры палатно, эцюднік і малюй старанна і няспешна, маленькім пэндзлікам… Але я адцягваў і не браўся за працу, заўсёды знаходзілася нешта іншае і больш пільнае, а, калі шчыра, то я не разумеў бацькавай замовы на такі даклады фатаграфічны рэалізм. А ён чакаў… Бывала, падыходзіў і глядзеў праз маё плячо, як на палатне пачынаў з'яўляцца суседскі падворак ці мурзаты твар вясковага падшыванца. Здавалася б, а што складанага ў бацькай замове? А я так і не намаляваў дзедаў дом, яго дом, мой дом…

Не намаляваў так, як хацеў ён. Потым не стала дзеда з бабай, дома, бацькі…

Аднойчы, калі і дома дзедава колькі гадоў як не было, я ўбачыў, што бацька сядзіць побач з буфетам і круціць у пальцах, перабірае вязку старых ключоў. Абмацвае кожны, лашчыць у дужых пальцах…

Гэта ад брамы, гэта ад трысцена, ад каморы, ад сенцаў, верхні ключ, а гэты ад шафы — маленькі і зграбны. Ён не выкідаў ключы — як спадзяваўся, што калі-небудзь яны спатрэбяцца, прыдадуцца… Ведаў, што новым ключом стары замок не адамкнеш, а родным, то і можна…

Ён ідзе толькі яму вядомай сцежкай да дома. У руках вязка старых ключоў…

А дом той намаляваны мной… Намаляваны, намаляваны, намаляваны…

А ключы бразгаюць, і гук гэты ледзь чутны ў шапаценні дажджу...

**Картачкі**

Бацька любіў фотаздымкі. Мог падоўгу гартаць альбом, перабіраць капэрты з карткамі. На ўсіх яго здымках абавязкова мелася дата, а на некаторых і надпіс, які тлумачыў здымак. «1957 год. Май. Свержань. На вяселлі Віктара». Аднойчы я спытаў, а што за Свержань такі. Бацька расказаў, што гэта маленькі гарадок, дзе ён быў у камандзіроўцы, а Віктар — яго знаёмы шафёр. Там, у Свержані, ёсць старая драўляная царква вельмі прыгожая.

Калі памёр дзед, то ў бацькі была зламаная, загіпсаваная нага. Ён толькі выпісаўся з бальніцы, хадзіў на мыліцах. Загадаў мне ўзяць фотаапарат і зняць пахаванне. Я не спытаў, навошта здымаць. Фатаграфаваў так, як лічыў патрэбным. Я ж студэнт другога курса інстытута — мастак. Быў упэўнены — кепска не зраблю. Нашчоўкаў дзве стужкі, надрукаваў сотню картак і прывёз дамоў. Бацька доўга пераглядаў здымкі. Крывіўся, нерваваўся, а потым не стрываў і пачаў абурацца. На яго думку я наздымаў абы-чаго…

Вось ён на калёсах едзе побач з труной, загіпсаваная нага тырчыць, а мыліца — як антэна. Вось крыж вялізны (нашто такі рабіць?), пры дзвярах коса стаіць. Вось чалавек незнаёмы з роварам і хлебам пасярод вуліцы і ў кепцы. Спіны, спіны, а хто — і не разабраць. Ногі, патыліцы, бутэлькі. Вось суседскія ўнукі батон ядуць. Вось кошык з яблыкамі і малаток з цвікамі. Сабака спалохана з будкі выглядае. Конь яблыкі есць з дрэва. Баба хустку перавязвае. А дзеда ў труне як след не зняў. Пінжак і рукі, а галавы не відаць…

Потым ён карткі расклаў па капэртах і схаваў.

Гадоў праз дваццаць я пацікавіўся тымі здымкамі. Ён прынёс тонкі канверт з шэрай паперы. У канверце тым ляжала толькі дванаццаць картак. Тых, якія бацька палічыў добрымі. Ён вадзіў пальцам па слізкай паперы і расказваў, дзе хто і каго з іх сёння няма на гэтым свеце. Да мяне дайшоў сэнс жалобнага фатаграфавання. Пахаванні і вяселлі — тыя святы, калі абавязкова збіраюцца ўсе, як блізкія, так і далёкія сваякі. Фатограф гэты момант фіксуе. Гэта — як у войску… Вяселле — ранішняя «паверка», а пахаванне — «вечаровая».

— А добры я дзеду крыж зрабіў, — пахваліў я сам сябе.

— Мне толькі такі вялікі не рабі… Дубка шкада, — адказаў бацька.

Астатніх здымкаў быццам ён і не знайшоў. А мама потым патлумачыла, што бацька іх доўга перабіраў, а потым выкінуў, бо на некаторых выглядаў кепска са сваёй паламанай нагой, а на іншых былі незнаёмыя людзі, якія ні да дзеда, ні да яго не мелі адносінаў…

Бацькава пахаванне ніхто не фатаграфаваў.

**Размова**

Бацька сядзіць за сталом у дзедавай хаце. На стале вячэра, якую мы з ім прывезлі, і гарэлка. Дзве гранёныя шклянкі, прысунутыя адна да адной…

— Гэта ж быў твой дзед! Мой бацька… Ты гэта разумееш?

— Пайду спаць, — кажу і сыходжу ў другі пакой.

А ён застаецца сядзець за сталом. Чую, як чыркае запалка, як ён кашляе. Глуха булькае гарэлка…

Прачынаюся рана. За вокнамі туман. Заўсёды напрыканцы верасня ў вёсцы туманы. Такія, што і платоў не відаць, а толькі ніжнія галіны блізкіх яблынь. Іду праз хату. Чапляю нагой гранёную шклянку на падлозе. Яна коціцца і грыміць. Бацька, які спіць на дзедавым ложку, прахопліваецца, сядае. Я выходжу ў сенцы, бяру з начовак яблык і кусаю. Салодкі, прахалодны сок напаўняе засмяглы рот. Сяджу на мокрых бярвёнах ганка і ем яблык. Учарашні вечар здаецца нерэальным.

Кошык, нож, тры яблыкі, цыгарэты, запалкі…

— Схаджу ў лес.

— Можа, разам?

Спыняюся ў парозе.

— Ай, не, ідзі сам, а я ў хаце пабуду.

Я азіраюся. Бацька стаіць у браме, абапіраецца плячом на дубовую шулу і глядзіць мне ўслед. Туман. У тумане чуецца, а можа, мне гэта толькі падалося, як ён з кімсьці размаўляе.

**Кроў**

…А малюнак просты. Бацька з сынам стаяць, а на зямлі ляжыць нож. І цёмныя цені на зялёнай зямлі…

Калі ўзяўся гуляць «у ножыкі», то і правілы мусіш выконваць. Колькі разоў давялося мне зубамі выдзіраць з зямлі невялікі калок. Зямля тая чорная, тлустая і мярзотна хрубасцела на зубах. Вясковыя падлеткі рагаталі, падначвалі мяне — меншага, гарадскога і мурзатага. Адплёўваўся, крывіўся, але не заплакаў ад крыўды.

Потым яны давіліся зямлёй і пляваліся. Але гэта будзе потым.

Па-сапраўднаму гуляць «у ножыкі» мяне навучыць бацька… Мы будзем сядзець у лесе, побач будзе сохнуць сена, і ён пачне паказваць мне, як трэба кідаць нож, колькі разоў ён павінен перавярнуцца ў паветры, каб дзюбай трапіць у зямлю.

У кожнай гульні свае сакрэты… Бацька цярпліва і, як мне падалося, ахвотна, раскрывае іх. Самаробны нож лётае ў паветры: з калена, з локця, з пляча, з ілба, праз спіну...

У мяне пачне атрымлівацца. Галоўнае — адчуць той кавалак навостранага жалеза, яго вагу і спярша ўбачыць, уявіць той імклівы палёт, а потым кінуць…

Бацька паказваў далонню палёт нажа, а я кінуў… Востры нож дзюбай трапіў у бацькаву руку, дакладна ў бэзавую жылу. Пырскнула высокім фантанчыкам неверагодна яркая кроў. На мяне, на яго, на кашулі, на траву… Я спалохана закрычаў, а бацька засмяяўся, хоць і спалатнеў. Ён знайшоў цёмна-зялёны ліст пад кустом ляшчыны, прыціснуў яго да рукі. Кроў сунялася хутка. Потым павярнулі сена на лясной паляне і пачалі гуляць далей. Я быў асцярожным, напалоханым, а таму бацька лёгка перамог.

Мінулым летам я паказваў дачцэ, як трэба кідаць нож у зямлю. Расказваў, што гэтай справе мяне навучыў яе дзед.

У кожнай маёй перамозе заўжды ёсць і будзе кропля бацькавай крыві.

…Той самаробны ножык ляжыць на зялёнай зямлі. І бацькаў цень побач…

**Дом**

Я шмат разоў чуў ад бацькі слова «дамоў». Сабрацца і выправіцца ў вёску — гэта — «дамоў». Чым бліжэй выхадныя, тым часцей ён казаў, што трэба збірацца «дамоў».

У 1992-ым усе дамы стаялі пустыя. Жыхароў перасялілі ў іншыя месцы. Святла не было, абрэзаныя драты ляжалі на зямлі, матляліся на слупах. А ён ехаў туды, ішоў праз лес і жыў колькі дзён у дзедавай хаце. Ён не мог яе кінуць, не мог дазволіць, каб яе канчаткова разрабавалі, расцягнулі. Ён прыязджаў і адбудоўваў тое, што мог, прыладжваў адарваныя дзверы, навешваў замкі, прыбіраў смецце, нават падлогу мыў і двор падмятаў, абкошваў траву, абразаў галлё на яблынях. Тапіў печ і грубку, нават калодзеж адрамантаваў, каб была вада…

Ён не баяўся жыць у доме. Не баяўся ліхіх людзей, якія на грузавых машынах ездзілі па выселеных і яшчэ не закапаных, не знішчаных вёсках. А чаго яму было баяцца, калі ён быў дома. Гэта няхай яны баяцца. Рана клаўся спаць, рана ўставаў і браўся за працу…

Бацька быў п’яны. Ён зайшоў у пакой, дзе я сядзеў за сталом і нешта запісваў у нататнік. Зірнуў праз маё плячо. Вядома, прачытаць без акуляраў нічога не змог. Ды і не збіраўся... І як некалі, нават не магу сказаць, калі тое апошні раз было, правёў далонню па маёй галаве. Пагладзіў.

Сеў насупраць і пачаў расказваць, як хацеў спаліць дом. Як абліў газай з іржавай каністры падлогу і сцены ў сенцах… Як чыркнуў запалкай… Як не здолеў кінуць тую зыркую запалку пад ногі і пайсці прэч… І не спыняцца, не абарочвацца. Праз поле, да старога сада, праз лес, да шашы… Ён спахапіўся, нацягаў вады і вымыў падлогу і сцены, каб не смярдзела газай… Думаю, што гэта ён рабіў радасна, можа, і са слязамі…

Бацька папрасіў, каб яго пахавалі на вясковых могілках…

Каб завезлі дамоў.

**Дым**

Кастрычнік. Восеньская імжа. Вялікае-вялікае неба бела-шэрага колеру, руды іржэўнік, невялікі статак кароў, цяпельца, бялёсы, як малако ў вадзе, дым, што ціснецца да колкай зямлі. Я сяджу пры вогнішчы і пяку бульбу. Побач ходзяць каровы. Яны пазіраюць на мяне сумнымі вільготнымі вачамі. Сваёй карове я даю скарынкі хлеба, і яна беражліва бярэ яго з далоні мокрым і мяккім ротам. Суседскім каровам я нічога не даю, але ад цяпла не адганяю. Час не рухаецца, а можа, гэта мне адзінаццацігадоваму так здаецца. Адна птушка ўздымецца ў дробны дождж і тут жа ўслед тысячы. Яны пакружляюць пад нізкім небам і апусцяцца зноў у іржэўнік. І толькі агонь патрэсквае, і толькі жывёлы працягваюць нудна і аднастайна жаваць траву.

Поле на пагорку паміж лясоў. Вось я і пазіраю на карычнева-зялёны лес. Бацька адышоў паглядзець грыбоў, а мяне пакінуў за пастуха. Нарэшце ён з’яўляецца.

Ідзе нетаропка ў сваім цёмным брэзентавым плашчы. Кепка ў руках, а ў ёй грыбы.

А якія — не памятаю. Вось і ўся карцінка, вось і ўсё кіно…

Тады мне надакучыў дождж, каровы, недапечаная бульба і бацька з яго грыбамі... Цяпер жа той шэра-руды восеньскі краявід, прапахлы дажджом і дымам, люблю. Бо і я, і бацька, і птушкі, і каровы — яго частка, а сам краявід — частка мяне.

**Крылы**

Усе настаўнікі, якія былі ў мяне і якія, магчыма, будуць, не змогуць паказаць і тысячнай часткі таго, што паказаў бацька.

…Апошнія журавіны, прыцярушаныя першым мяккім снегам, і яшчэ яркую зялёную траву на балоце — паказаў бацька.

Кругі на спілаваным старым дубе. Ён вадзіў маім пальцам па іх і прымушаў лічыць. Пасля дваццаці я збіваўся, а ён мяне папраўляў…

Вострыя, як іголкі, кіпці кажана. І яго неверагодна мяккія крылы.

На ўзмежку, пад слівай, птушынае гняздо, а ў ім яечкі, падобныя да каменьчыкаў, размаляваных markingрознакаляровымі кропкамі і рыскамі. І саму птушку, якая прыціскалася да травы і выдавала параненай.

Аблокі, якія неверагодна хутка ляцяць і ляцяць, а па пожні бягуць іхнія цені і робяць свет зменлівым і жывым.

Мятлік колеру жнівеньскай ночы... Да яго крылаў нельга было дакранацца нават чуйнымі дзіцячымі пальцамі, а можна толькі глядзець і дзівіцца з загадкавых блакітных знакаў. А я дакрануўся…

Імклівы каршук, які падае да зямлі і хапае птушку, а потым нясе яе ў кіпцях да лесу, каб накарміць сваіх птушанят.

Млечны шлях і зоры…

Акіяны і рэкі, і горы на цыратавай карце…

Межы краін і птушак, якія іх не ведаюць…

А яшчэ я дазнаўся ад яго, што струменьчык вады, таўшчынёй з запалку, які цячэ з кухоннага крана, за суткі можа наліць аж сорак вёдраў. Кран трэба закрываць. Чаму запомнілася гэта? Відаць, гэта важна…

**Конь**

Мне было чатырнаццаць, а напрыканцы жніўня пайшлі дажджы.

Тры кардонкі пластыліна я ператварыў у адзін шэра-карычневы камяк. Дошачка, колькі цвічкоў, алюмініевы дрот… Дзед з бабай назіралі за маёй справай з цікавасцю. Такога яны не бачылі, хоць і пражылі доўгае жыццё. Калі зрабіў каркас, то адразу пачаў яго аблеплiваць пластылінам. Неўзабаве праз пару дзён быў гатовы пластылінавы даўгагрывы конь на пастаменце. У хаце было прахалодна. Я сядзеў на бабіным куфры пры акне, зрэдку глядзеў на мокрае шкло, за якім вецер хістаў дрэвы. Я так захапіўся справай, што нават не хадзіў па грыбы. Нарэшце скончыў. Конь атрымаўся. Нават капыты былі акуратныя і круглыя, а доўгая грыва падзелена на тонкія хвалі… Наструнены конь стаяў на пастаменце, пярэдняя

правая нага была прыўзнятая, як быццам ён наважыўся ўдарыць ёй у зямлю, а потым пабегчы. Асабліва дзівіўся дзед. Ён аглядаў майго каня так, нібыта той быў жывы, а ён сабраўся набыць яго, а цяпер трэба адшукаць загану і збіць кошт. Недахопаў дзед не знайшоў. Пластылінаваму каню ў рот не зазірнеш. Скульптуру дзед уласнаручна паставіў на стале пад абразамі. Няхай нагадвае пра таленавітага ўнука, бо хто яшчэ такую зробіць?

Наступным летам скульптуры не было. Дзед незадаволена расказаў, што адбылося. Пакуль ён быў у двары і нешта парадкаваў, то мой бацька каня паламіў, а тым пластылінам пазамазваў вокны з вуліцы, каб не дзьмула, каб шыбкі не трымцелі, каб дождж не зацякаў і не псаваў рамы, каб у хаце было цяплей...

Потым, праз пяць і праз дзесяць гадоў, я глядзеў на той пасохлы пластылін, крані — і ён адвальваецца, і думаў пра дзеда, бабу, бацьку.

І ніколі не пашкадаваў таго каня.

**Сланы**

Зімой шэсцьдзясят чацвёртага мне было шэсць. Мама не магла нагнуцца, замінаў вялікі, як падушка, жывот. Валёначкі мне ўздзеў бацька. Яму трэба было пільна перастрэцца з сябрам Віктарам. Добрая нагода прагуляцца і пакатаць мяне на санках. Палазы вішчэлі па ўтаптанай і цвёрдай скарынцы снегу. Сцежкі, над імі вялізныя сумёты, а над сумётамі ноч з незлічонымі зоркамі. Я сяджу на саначках, бацька цягне… Піўнуха: піва, гарэлка, а мне — цукерка. Дым, гамана, зноў піва, гарэлка, цукерка. Потым буфет пасялковай лазні: піва, гарэлка, мне — кіслы яблык… Бацьку хістала з боку ў бок. Я сядзеў стомлены, нават не плакаў. Двойчы ці тройчы бацька паслізваўся і падаў. Абтрасаў снег, пасміхаўся мне і цягнуў санкі. На сцежцы каля парку бацька кульнуўся, а я выпаў у сумёт… П’яны бацька рушыў далей і пацягнуў за сабой санкі. Чаму я не закрычаў — не ведаю… Снег забіўся ў рукавы, пад шапку, у валёнкі. Снег быў такі халодны, што апякаў…

Цемра змяніла свет да непазнавальнасці.

Я ішоў праз глыбокі снег уздоўж бетоннага паркана.

Шары. Вогненыя шары… Гэта шаша, а на ёй машыны. Колькі разоў я спрабаваў узлезці на адхон, але так і не здолеў. Пайшоў уз-

доўж дарогі. Памятаю, што моцна плакаў. Па шашы праносіліся машыны. На мяне ляцеў цвёрды і брудны снег. Дом убачыў, калі не было моцы ісці. Дом не наш, незнаёмы… Вокны гарэлі жоўтым і цытрынавым, як ледзяшы. Стомлены і ўзрадаваны, я сеў у сумёт, каб адпачыць. Мне было цёпла, і я пачаў засынаць — за-мяр-заць...

І тады з'явіліся яны.

Хто? Залатыя сланы!

Чарада магутных залатых сланоў.

Магутны хобат падхапіў мяне — камячок, у сярэдзіне якога слаба пульсавала цяпло, выцягнуў з сумёта, павольна ўзнёс над зямлёй…

Бацька знайшоў мяне...

Мне было за сорак. Мы сядзелі на кухні, і я расказваў яму пра ўнучку. Не памятаю, як я прыгадаў той выпадак. Бацька спахмурнеў. Вінавата апусціў вочы. Разліў па чарках гарэлку. Выпілі. А потым ён, крыху сарамліва, спытаў, а пра якіх-такіх сланоў я трызніў, пакуль ён нёс мяне дамоў, а потым, на досвітку, у бальніцу.

— Адкуль у нас тут сланы? Сюды і звярынец ніколі не прывозілі, — ён гаварыў, як жартам, а пальцы калаціліся.

Гэта — шчаслівы ўспамін, вельмі яркі малюнак. А сапраўды, адкуль тыя сланы, ды яшчэ залатыя?..

**Час**

Гадзіннік… Механічны, у бліскучым сталёвым корпусе, трэба штодня падкручваць колца. Шкло і корпус падрапаныя. На белым цыферблаце буйныя лічбы. Стрэлкі зялёна-чорныя, мусіць, і ў цемры відаць — не правяраў. Як для мяне, то такі гадзіннік цяжкі. А бацьку ён падабаўся — з рукі не здымаў, і працаваў, і спаў з ім… Але гадзіннік зламіўся, стрэлкі перасталі рухацца. У нашай майстэрні рамантаваць адмовіліся, нейкай дэтанькі не знайшлося. Я прыехаў дамоў, і бацька паскардзіўся на майстра няўмеку… Папрасіў, каб я адрамантаваў яго ў сталіцы. Так і прыехаў бацькаў гадзіннік у маленькай кардонцы ў Мінск. Часу бегаць па майстэрнях не было. Гадзіннік ляжаў у пісьмовым стале. Я на яго забываўся, а бацька нагадваў колькі разоў. Каб не бегаць па майстэрнях, мы з жонкай зайшлі ў краму і купілі новы гадзіннік, зручны, механічны, супрацьударны, з вялікімі лічбамі, з датай, на прыгожым карычневым раменьчыку. Яго і завёз бацьку ў падарунак. Новы гадзіннік

яму спадабаўся. З тым гадзіннікам яго і пахавалі. Толькі не на руку надзелі, а мама паклала ў кішэнь пінжака…

Я не ведаю, як можна намаляваць бацькаў гадзіннік. Так, каб было і без подпісу зразумела, што гэты падрапаны, стары гадзіннік для мяне вельмі важная рэч.

Я так і не адрамантаваў яго… А хіба можна па намаляваным гадзінніку зразумець — спыніўся час ці стрэлкі бягуць?

**Берагі**

Рэчка Ліпа, як для мяне, пяцігадовага, была за даляглядам, далёка.

Перабрацца на другі бок можна па мосце, а можна і бродам. Бацька прывёз мяне на мулкай раме ровара, бо на багажніку стаяў кошык. А ехалі мы да дзедавай сястры, да бацькавай цёткі, па вішні. Брод быў плыткі, там пераганялі кароў, пераязджалі вазы з сенам і дровамі… Вады — даросламу меней, чым да калена. Бацька разуўся, закасаў калашыны, падняў ровар на плячо і пайшоў праз раку. Я стаяў і зачаравана глядзеў, як ён брыдзе па празрыстай рацэ, як ляцяць зіхоткія пырскі, як круцяцца колы ровара, а з іх сыплюцца кроплі… Водбліскі вады былі і на яго твары, і на кашулі, і на руках. Ён паклаў ровар на неверагодна зялёную траву і паклікаў мяне…

На вялікіх вербах мільгацела рачное святло. І ўсё вакол трымцела і трапятала. Бацька клікаў мяне ісці да яго, а я стаяў на беразе і не мог зрабіць першы крок. Раку бачыў наскрозь. Так і стаяў, як зачараваны, разглядаў казюрак і мітуслівых рыбак… Бацька не ўмеў плаваць — ён быў лясным чалавекам. Але пераходзіць рэчку не баяўся. А мама плавала добра, бо нарадзілася і вырасла на беразе Сожы.

Я так і не перайшоў тады рэчку.

Потым я бегаў на Ліпу купацца. Сотні разоў пераплываў плёс, скакаў з невысокага берага бомбачкай і салдацікам, даваў нырца.

Але назаўсёды рэчка Ліпа застанецца такой, якой паказаў яе бацька — некранутай меліярацыяй, не спрамленай, як канава, не плыткай, а жывой…

Гэта чыстая праўда, што рэкі дзяцінства працякаюць праз сэрца. Так напісаў мой любімы пісьменнік. І яшчэ праўда, што яны ніколі не перасыхаюць і не мялеюць. Яны заўсёды поўныя празрыстай вады.

Акварэльнай фарбай па белай паперы намалюю тыя водбліскі, тыя хвалі, тыя вастралістыя вербы...

І, вядома ж, мужчыну з роварам на пячы, які пераходзіць на той бок Ліпы…

**Шышкі**

Такіх прыгожых елак на Новы год, якія ставіў бацька, больш не будзе ніколі…

Бацька прывозіў іх не з лесу.

Ён залазіў на вышэзныя яліны, якія раслі за вёскай, вакол старога сада, і зразаў вярхушку: бухматую, цёмную, разлапістую, з сіняватымі хваінкамі, з сапраўднымі залацістымі шышкамі на галінах. Абгортваў посцілкай, як дзіцёнка, перавязваў шпагатам і прывозіў у кватэру. Мама ніколі не ўдзельнічала, калі мы з бацькам упрыгожвалі дрэва цацкамі, лямпачкамі, дожджыкам. Я падаваў з вялікіх кардонак крохкія і лёгкія шарыкі, спадарожнікі, падобныя да прымуса, машынкі, рыбак, вавёрак, а ён прыладжваў іх да галінак. І цукеркі вешаў сам, так, каб мне было зручна здымаць, і зорку ўздзяваў…

Упрыгожаную елку не прыбіралі аж да майго дня нараджэння, хоць з яе і сыпаліся сухія іголкі і разносіліся па кватэры…

Калі я з’ехаў у Мінск вучыцца, а дома застаўся малодшы брат, бацька працягваў ставіць елку. А потым і брат з’ехаў з дому, а елка была.

Вядома, бацька не лазіў на высокія дрэвы — састарэў, саслабеў. Ялінку куплялі.

Нават у апошні год свайго жыцця ён прынёс і ўпрыгожыў елку…

Мама спыталася: «А навошта ты гэтым займаешся?»

А ён сказаў: «Няхай стаіць, бо раптам хто з сыноў прыедзе…»

Шумяць старыя елкі з залацістымі шышкамі на вершалінах…

**Усмешка**

Не любяць беларусы немцаў і не палюбяць… І колькі б немцы ні прасілі прабачэння, ні каяліся, колькі б ні плацілі і ні дапамагалі, адносіны ні зменяцца…

У бацькі былі два старэйшыя браты — Павел і Мікола. Абодва загінулі.

У сорак першым, на самым пачатку лета, жонка старэйшага бацькавага брата, Паўла, прыехала з Ленінграда ў вёску — пагасцяваць. Меншаму з дзяцей два, а старэйшаму хлопчыку пяць. Пачалася вайна, яны і засталіся тут, аж да сорак пятага. А бацькаў брат Павел загінуў у блакадным Ленінградзе.

Паўлаў старэйшы сын, мой стрыечны брат, вывучыўся на лётчыка.

У сямідзясятым ён прыехаў да нас з Ленінграда. Яны з бацькам сядзелі два дні і дзве ночы за сталом і пілі гарэлку. П'янымі не былі. Як па мне, то наадварот, выглядалі неверагодна цвярозымі. Яны гаварылі пра вайну, але не пра тое, як ім было страшна, як кепска, як не было чаго есці, а як ім было добра. Яны згадвалі тыя чатыры гады і смяяліся… Смяяліся… Не гучна, не рагаталі, але смяяліся. Беларусы, адрозна ад многіх, не рагочуць, а пасміхаюцца… Так і мой бацька з пляменнікам палілі «Беламор», пілі, гаманілі і пасміхаліся…

Большасць іх размоў была пра лес, грыбы, ягады, сена, коней, пташак…

Яны гаварылі пра дрэвы, як пра людзей… Згадвалі дубы, якія і я бачыў, лясное балота… Успаміналі, як цікава было хавацца ў лесе, у будках, зробленых з галля...

Пра недаспелыя яблыкі, ад якіх пякотка і баляць жываты…

Як партызаны забіралі карову, а яна не хацела ісці і баданула маладога партызана так, што той паляцеў пад плот, а шапка пакацілася па сцежцы…

У мяне ёсць адна фотакартка Паўла. Бацька аддаў яе мне.

На адваротным баку надпіс: «Фатаграфаваўся ў 1932 годзе 25 ліпеня. Г. Рэчыца. Судабудаўнічая школа. Сцепаненка Павел Уладзіміравіч.

«Няхай у цябе будзе — ён жа табе родны дзядзька. Я Паўла і так памятаю, а ты ж ніколі не бачыў», — бацька сказаў гэта з той невытлумачальнай беларускай усмешкай, якую немагчыма намаляваць.

Увогуле, ён ведаў значна больш, чым мог выказаць.

І была ў той усмешцы вайна…

**Вецер**

Бацька ў царкву не хадзіў. Не бачыў я, каб ён калі маліўся… Але рэлігійныя святы ведаў і выпіваў. Лічыў, што хрысціць дзіцёнка трэба, а вось на пахаванні можна і без папа абысціся… Вось так. Не надта складана, па-беларуску…

Калі мой стрыечны брат нечакана кінуў выкладаць ва ўніверсітэце і пайшоў вучыцца на святара, то ўсе сваякі абурыліся. Кожны лічыў, што праз гэта займее непрыемнасці на працы. Падтрымаў пляменніка тады адно мой бацька.

Яны сядзелі пры хаце, на жэрдках старога плота, і гаварылі...

Пра дзеда, які, па маладосці, спяваў у царкоўным хоры, пра аднавяскоўцаў, пра сваякоў, сярод якіх ёсць інжынеры, настаўнікі, электрыкі, дактары, мастак, лётчык, вайскоўцы, вадалаз, ляснік, а цяпер і поп свой будзе…

Малады святар разводзіў рукамі, як хацеў абняць увесь свет, і казаў што ўсё ад Бога: і кветкі, і трава, і лес, і сонца, і вецер… І ўсё гэта даў яму Бог… І цяпер яго Радзіма паўсюль… І пра птушак, якія не жнуць і не сеюць, а Бог ім дае…

«Работа як работа, і святары некаму трэба, галоўнае, каб табе самому падабалася і грошы плацілі, — разважаў бацька. — Сям'ю ж карміць трэба, сын расце. Бацькоў даглядаць — старыя…»

А потым, праз паўгадзіны, ён раптам спытаў у маладога святара-пляменніка, ці ведае той, пад якім вуглом хаты закапаны яго пуп?

«Можа, пад гэтым, а можа… Тут недзе, а што?» — усміхнуўся святар.

Міша памёр на тры гады раней за бацьку. Вёскі на той час не было, закапалі, знішчылі. Людзі той царквы, дзе служыў айцец Міхаіл, хацелі пахаваць свайго святара побач з храмам. Але сваякі прывезлі яго на вясковыя могілкі.

Там, дзе ўсе нашы.

Можа, і ёсць так, што Бацькаўшчына там, дзе могілкі…

А ўсё астатняе ад Бога?

Малады святар у чорным і мой бацька ў святочным строі сядзяць на срэбных жэрдках вясковага плота. А вакол кветкі, аблокі і трава. Вецер і Радзіма.

І гэты нервовы малюнак, бывае, сніцца, пралятае перад вачамі…

**Чамаданчык**

Я памятаю той фарсісты чамаданчык яшчэ новым і прыгожым. Чырвона-карычневы, з бліскучымі вугалкамі, са сталёвымі замочкамі-зашчапкамі. Бацька ездзіў з ім у камандзіроўкі. У ім прывозіў падарункі. Потым чамаданчык заняў месца ў шафе. Ён і цяпер стаіць там. Над ім вісіць на плечыках вопратка. Раней адзенне вісела цесна, а цяпер вольна — бацькавай вопраткі няма. Мама аддала ўсё сваякам, суседзям, знаёмым. Толькі чамаданчык застаўся.

Калі бацькі сыходзілі на працу, то я выцягваў яго з шафы і пераглядаў, перабіраў начынне. Старыя фотаздымкі ў капэртах, дакументы розных гадоў, ганаровыя граматы, аблігацыі, схемы тэлевізараў, радыёлы, пральнай машыны, пасведчанні, растрапаныя нататнікі, ордэр на кватэру, тэхнічны пашпарт на дзедаву хату і падворак, загадкавыя электралямпачкі, паламаныя асадкі… У гэтым чамаданчыку сямейны альбом, некаторыя яго старонкі пустыя… Існаванне многіх даведак мог зразумець толькі гаспадар. Навошта ж я ізноў пераглядаю, перабіраю… Знаходжу сваю фотакартку за шосты клас і доўга гляджу на яе. А потым акуратна складаю, закрываю абшарпаны чамаданчык і стаўлю ў шафу…

Ведаю, што, калі прыйдзе час, гэты чамаданчык будзе адзіным, што я вазьму сабе.

**Крэсла**

На сваё вяселле мой дзед зрабіў мэблю: ложак, дзве драўляныя канапы, два сталы, два крэслы і колькі зэдлікаў. Было тое да рэвалюцыі. Мэбля перажыла гаспадара.

На сённяшні дзень цудам засталося толькі адно крэсла. Другое дзед аддаў на вяселле адзінай дачцэ. Яго лёс мне невядомы. Мой бацька забраў з дзедавай хаты крэсла і перавёз у гарадскую кватэру. Раней яно было пафарбаванае чырвона-карычневай алейнай фарбай, такой, як і шырокія масніцы. Фарба пааблушчвалася, і бацька перафарбаваў самаробнае крэсла пад колер кухні. Зрабіў сінім.

Зручнае крэсла, хоць і цяжкое, ледзь пасунеш. Па-свойму нават прыгожае. З высокай разной спінкай, на крыху выгнутых пярэдніх ножках, з рэйкай-падстаўкай, каб можна было абаперціся абцасамі.

Бацька любіў гэтае крэсла, падоўгу сядзеў на ім. Я забяру яго і перавязу ў Мінск, але няхай гэта будзе няхутка, бо і мама часта сядзіць на ім і глядзіць у акно.

**Партрэт**

Я спрабую намаляваць партрэт бацькі словамі. Заходжу з розных бакоў. Праз рэчы, якія яму падабаліся альбо якія ён не любіў. Праз краявіды, у якіх яго бачыў, якія яму падабаліся, праз яго кепскія і добрыя звычкі… Але не атрымліваецца. Яго вобраз сыходзіць, цячэ, як вада, ляціць, як тапалёвы пух… Я злуюся на сваё няўмельства, на тое, што бракуе патрэбных слоў, што зробленае — нейкая паўпраўда… Злуюся, што словы застаюцца словамі…

Перабіраю ў памяці карціны сапраўдных мастакоў, перабіраю імёны і прозвішчы.

Разважаю, а каму б з мастакоў я замовіў партрэт свайго бацькі. І знаходжу адказ. Немагчымы, але адзіны. Я згодны заплаціць. Столькі, колькі той мастак папросіць. Я ведаю, што, у адрозненне ад мяне, ён не памыліцца, не схлусіць, а зробіць тое, што трэба. Я пазнаёміў бы галандца Вінцэнта ван Гога са сваім бацькам. І Вінцэнт напісаў бы на шурпатым палатне «Партрэт мужчыны». Бацька б сядзеў на сінім крэсле, якое зрабіў мой дзед сабе на вяселле. І глядзеў на мяне ярка-блакітнымі вачамі, і дымок бы ад папяросы закручваўся…

**Жонка**

Шкло можна ірваць, як тканіну. Ламіць, як тонкі лёд. Правільна прарэзанае шкло ломіцца пад уласным цяжарам. А яшчэ можна ціхенька пастукаць пад шурпатым следам алмаза, і ўбачыш, як расколіна пабяжыць па рысцы, а шкліна хрумсне, абломіцца…

Бацькі вырашылі зашкліць балкон. Бацька сабраў і замацаваў раму. Шкло стаяла ў гаражы. Бацькі і я пайшлі, каб парэзаць яго па памеры, прынесці і ўставіць. Па дарозе я расказваў, як робяцца сапраўдныя вітражы, як спрытна навучыўся ў інстытуце рэзаць шкло. Мама слухала ўважліва, а бацька не…

Мама паклала на стол абцягнуты суконнай коўдрай вышчарблены кавалак шкла. Правяла па шкліне далонню, як пыл сцёрла. Указальным пальцам намалявала круг, а потым, адным рухам, чыр-

канула сваім алмазам. Намаляваны круг быў памерам са сподак. Колькі разоў ударыла знізу шклорэзам, ляпнула далонню, і шкло пасыпалася. У няроўнай шкліне засталася круглая дзірка. Я здзіўлена войкнуў.

Мама паставіла дзіравую шкліну пад сцяну і ўзяла наступны кавалак шкла. Намалявала на ім вільготным пальцам круг, а потым прарэзала яго. Ад таго круга правяла шклорэзам тры промні. Пастукала знізу і шкло абсыпалася, а ў руцэ застаўся шкляны круг. Паклала на стол дзіравую шкліну, а потым свой круг.

Ён увайшоў у дзірку, як там быў.

У мяне слоў не было. А што я мог сказаць. Мама пачырванела. Я зірнуў на бацьку. Ён разгублена пасміхаўся.

— Ну, а што ты хацеў… Яна ж — мая жонка, а твая…

Мы з бацькам неслі праз пасёлак парэзанае мамай шкло. Неслі, як памагатыя, як носяць зброю... А мама ішла следам і трымала ў руцэ звычайны шклорэз, як незапаленую свечку.

**Узрост**

Хто з нас хоць раз не бегаў з бацькам навыперадкі?

Калі мне было восем, то бацька мне саступаў і дазваляў на колькі крокаў апярэдзіць сябе. Пасля выдаваў стомленым і задыханым. Выціраў лоб, прычэсваў мяккія валасы, хваліў мой хуткі бег, задаволена смяяўся…

Гадоў у дванаццаць я бег з апошніх сіл, а бацьку так і не здолеў апярэдзіць. Праўда, перад гэтым ён адмаўляўся, бегчы не хацеў, хоць я ўгаворваў настойліва. Беглі мы з ім ад брамы да слупа. Было там адлегласці крокаў сто. Бацька зноў апярэдзіў мяне.

А праз два гады я яго перамог. Ён паглядзеў на мяне здзіўлена, як не верыў, ці як першы раз бачыў. Наступным ранкам прапанаваў зноў бегчы. Але тады я заўпарціўся. Ён паставіў на сцежку кошык, мы ішлі па грыбы, скінуў плашч, выцягнуў з кішэні сцізорык, зняў боты, а потым і кепку. Адмовіцца я не мог. Сталі мы плячо ў плячо. Ён нервова ўзмахнуў рукой і мы паляцелі. Моўчкі, бязгучна.

Зноў я апярэдзіў крокаў на пяць.

Бывае, калі згадваю той імклівы бег, то і шкадую, што не паддаўся, не саступіў, не дазволіў яму яшчэ пару гадоў адчуваць сябе маладым і дужым.

**Манеты**

Крыўдна, што ў беларусаў сёння няма сваіх манет. Грошы папяровыя: тысяча, пяць, дзесяць, дваццаць, сто… Ну, а еўраманеткі назваць сваімі пакуль язык не паварочваецца.

Калі мне было гадоў дзевяць-дзесяць, то пачалі з'яўляцца юбілейныя манеты. У маім двары і класе ўсе кінуліся іх збіраць. Бацькі, а калі дакладна, то менавіта бацька, і аддаваў мне манеты, а здаралася, што і рублі. У мяне была металічная скрыначка з-пад халвы, там я і трымаў сваю калекцыю. Сёння няма ў дзяцей такога захаплення, калі ім у рукі трапляюць манеткі, няхай сабе і замежныя, то яны не надта і радуюцца. Я ж кожную сваю манетку ведаў. Дзесяць капеек — з ракетай і сонцам, пятнаццаць — з выявай «Масфільма», дваццаць — з крэйсерам «Аўрора», пяцьдзясят і рубель — з профілем Леніна.

Мы збіралі калекцыю разам з бацькам. Па выхадных ці ўвечары я даставаў з этажэркі скарбонку, і мы раскладалі бліскучыя і не вельмі кружочкі на круглым стале, перабіралі. Калі якая манетка траплялася брудная, то бацька цёр яе, аглядаў праз маё павелічальнае шкло, нёс на кухню і чысціў содай. Манетка пачынала зіхцець і выглядала радаснай і святочнай. Цягам часу манет назбіралася чатырнаццаць рублёў. Да пятнаццаці не хапала трыццаць капеек. Зусім крыху не хапала. Я правяраў, калі бацька вяртаўся з працы, ці не з'явілася ў яго колькі юбілейных манетак у кішэнях. Скарбонка мая бляшаная доўга не папаўнялася.

Усе мае юбілейныя манеты, якія збіраліся амаль год, бацька прапіў за вечар. Я глядзеў на яго п'янага і гатовы быў ад нясцерпнай крыўды памерці. А ён сядзеў на канапе ў паліто, пазіраў на мяне і казаў: «Я ўсё ведаю, усё разумею, але жыццё такое вось…»

Больш я манеты не збіраў, хоць і траплялася юбілейныя.

**Схованка**

Калі ў мяне не было свайго жытла, то большую частку набытых у Мінску кніжак я звозіў да бацькоў і пакідаў там. За сем гадоў жыцця па інтэрнатах і прыватных кватэрах кніжак сабралася ладна. Мне аддалі спачатку палову, а потым і ўсю зашклёную шафу. Посуд мама прыбрала ў сервант, а я ўсе паліцы запакаваў кніжкамі. Ніжнія — ажно ў два рады. Бацька многія з маіх кніжак

перачытаў, а так як частка з іх — альбомы па мастацтве, то ён іх пераглядзеў. Здаралася, што і пры мне ён браў які альбом і прасіў патлумачыць, што такое цікавае ў карцінах мастака, што я гэтую кніжку набыў аж за дванаццаць рублёў… Я тлумачыў, а ён слухаў.

Бацька любіў разглядаць важкія фаліянты. Акуратна перагортваў старонкі, перакладаў папіросную паперу, чытаў, калі трапляліся па-руску ці па-польску, подпісы. Найбольш падабаліся мастакі Адраджэння… Гэта і зразумела.

Вельмі падоўгу ён пераглядаў карціны і малюнкі Пітэра Брэйгеля-старэйшага. Важкая кніга ў палатнянай вокладцы пад зялёным суперам. Так доўга, здаралася, сядзеў пры акне, што мне рабілася крыху няёмка. Пакладзе альбом на калені і глядзіць. Нават калі ў мяне з'явілася першае сталае жытло ў Мінску, то з бацькоўскай кватэры я забраў зусім няшмат кніжак і альбомаў. Брэйгеля пакінуў.

І мама казала, што зялёную кнігу ён бярэ з шафы часцей за іншыя. Аднога разу з'явілася нагода з машынай. Прыязджаў у Гомель на здымкі дакументальнага фільма. Заскочыў да бацькоў. Напакаваў вялікую кардонную скрыню кніжкамі, ледзь з аператарам знеслі з пятага, і з'ехаў.

Можа, праз год, а можа, праз два, спатрэбіўся мне Брэйгель. Зняў альбом з паліцы і пачаў гартаць. Дату перапраўляраў. Гартаю хуценька, і там, дзе знакамітая карціна «Паляўнічыя на снезе» знаходжу пяцьдзясят рублёў.

Тых — савецкіх. Важкіх, за іх можна было дзесяць такіх альбомаў купіць. Я зразумеў, чые грошы. Патэлефанаваў і расказаў. Бацька прызнаўся, што хаваў грошы ў нейкай вялікай кніжцы з карцінамі, але ў якой, то і згадаць не змог.

**Сасна**

Ад вёскі тое месца, куды мяне сямігадовага вёў бацька, было далёка. Спачатку мы ішлі берагам лесу. Потым дарогай з глыбокімі калюгамі. Потым па ўтравелай сцежцы — ярка-зялёнай, якая то знікала, то з'яўлялася. Мокрыя кеды на маіх нагах чаўкалі і ўсхліпвалі. Нарэшце, рушылі напрасткі праз лясны гушчар. Бацька не тлумачыў, куды вядзе, а я і не пытаў. Тупаў сабе, па баках зыркаў… Я стаміўся. Авадні з камарамі заелі, адмахвацца надакучыла.

— Глядзі, — сказаў бацька, калі мы выбраліся з алешніку.

Пад нагамі жоўта-зялёнымі хвалямі ляжаў мох.

Месца гэтае называлася Сцяпа́ненкаў Мох. Нехта з продкаў нашых ездзіў сюды драць той мох на будоўлю. Ну, мох і мох сабе. Нічога дзіўнага. На імху тым — буйныя і цёмныя, як вішні, суніцы. Па дзве-тры на кусціку.

І сосны вялікія, як залатыя. На кожным дрэве падсочка, іржавыя бляшаныя лейкі з жывіцай. Пахне тая жывіца неверагодна востра, а галоўнае, не адмываецца і не адціраецца з пальцаў…

Але не гэтае месца — мэта далёкага падарожжа. Праз чвэрць гадзіны, калі мы прайшлі па мяккім імху стары сасоннік з падсочкай, то і выйшлі…

— Вось! — урачыста прамовіў бацька.

Дрэва стаяла на невялікай паляне. Вакол быў зліняны парудзелы мох.

Вялікія сосны, супраць гэтага дрэва, выдавалі першакласнікамі побач з настаўнікам.

Сасна, а гэта была яна, падалася мне большай за гомельскую тэлевежу, вышэйшай, чым цагляныя коміны касцюкоўскага шклозавода…

Бацька пераможна зірнуў на мяне і пайшоў да яе. Дакрануўся, як парукаўся, а потым сеў пад ёй і прываліўся спінай да камля. А я хадзіў вакол агаломшаны і расціснуты веліччу, хадзіў і маўчаў…

Думаў пра тое, што, калі ўзлезці на самы верх — убачу чырвоны дах дзедавай хаты, навакольныя вёскі, лясныя і палявыя дарогі… Я быў упэўнены, што там — на версе — выцягні руку і можна крануць аблокі. Гэтую сасну мы не змаглі абхапіць… Каб дзед быў з намі, то тады, магчыма…

Большага дрэва я не бачыў ніколі. Тэлевізар і кніжкі — не лічацца...

Потым я хадзіў туды са стрыечным братам. Бачыў, як доўга бегла па дрэве хуткая вавёрка. Чуў, як нябачны дзяцел грукаціць без супынку высока ў небе, шуміць вецер, дажджом цярушацца голкі...

Ад той сасны — сёння яе няма — для мяне пачынаецца мой бераг…

**Татуіроўка**

Было гэта ў 1980 годзе, на трэцім курсе інстытута, але я і сёння памятаю непрыемна-віскліві гук электрабрытвы, пераробленай у турэмную машынку для «біцця наколак». Тады ў мяне і з'явілася татуіроўка. Не выкшталцоная, стылёвая, рознакаляровая «тату», а сапраўдная мужчынская «масцюха». Мне яе зрабіў сябар. Я ўзамен зрабіў другому сябру…

Не надта, каб і хутка, але прывык да выразнага знака на скуры. Прыехаў дамоў — да бацькоў. Скінуў швэдар, кашулю. Бацька глядзеў на маё плячо паверх акуляраў, а потым паправіў акуляры, пасунуў іх да вачэй.

— Пакажы-пакажы! А што гэта азначае? — дакрануўся да майго левага пляча.

— Нічога… Так… — кінуў, бо хацеў аджартавацца.

Бацька памаўчаў. Мне зрабілася няёмка за маю татуіроўку, з якой ён не зводзіў позірк. Ён усё маўчаў. Я сеў вячэраць. Ён глядзеў. Ён зразумеў, што гэта не забаўка. Што за гэтым знакам стаіць нешта сур'ёзнае.

— Мае дзядзькі-кавалі па дваццаць гадоў адсядзелі на Поўначы, але ніхто сабе нічога такога не зрабіў, а мужчыны былі дужыя… Ну, ты ж не злодзей?

— Не… — я адказаў упэўнена.

Калі я павячэраў, то ён нечакана сказаў: «Калі мне было гадоў дваццаць, то і я хацеў сабе што-небудзь гэткае. Але так і не прыдумаў».

Больш пра маю татуіроўку ніколі не гаварылі.

**Шрот**

Бацька быў халасты і марыў пра паляўнічыя трафеі… Калі яму было гадоў дваццаць пяць, а мяне не існавала, то ён набыў стрэльбу. Прыклад залаціста-вішнёвы, а на замку выгравіраваны даўгавухі паляўнічы сабака з качкай у зубах. Стрэльба аказалася ўдалай — біла шротам «кучна», а «жаканам» трапна…

Вядома ж, зброя — справа мужчынская. Жанчыны зброю не любяць і правільна робяць… Ад мяне малога стрэльбу хавалі ў шафу. Я навучыўся тую шафу адчыняць лязом сцізорыка, адно каб толькі патрымаць зброю, пацерціся шчакой аб прыклад, пазабаў-

ляцца. Вялікая і цяжкая стрэльба смачна пахла порахам, агнём-дымам і машынным алеем.

Аднойчы стрэльба бахнула ў маіх руках, хоць я і быў упэўнены, што яна не зараджаная. Мне споўнілася дванаццаць, і я страляў качак на балоце. Тры качкі збіў і выцягнуў з вады. Другі раз яна стрэліла, калі бацькаў малодшы брат зняў яе са сцяны і пачаў круціць. Дзіўна, як мой бацька застаўся жывы. Шрот пасек фотаздымкі ў рамках на сцяне. Пасек фотаздымкі нябожчыкаў і жывых, а бацьку ніводны свінцовы шарык не зачапіў. Каб далей ад граха, то дзед загадаў ад стрэльбы пазбавіцца. Бацька тую стрэльбу прадаў суседу па пад'ездзе. За дваццаць пяць савецкіх рублёў і пляшку гарэлкі. Сусед быў сапраўдны паляўнічы.

Наша незараджаная стрэльба бахнула, калі дзядзька Хведар пераплываў забалочанае возера на гумовай лодцы. Шрот прасек балоны, і сусед аказаўся ў халоднай вадзе.

Суседа паспелі выцягнуць, а стрэльба ляжыць у муле, на дне балота.

Мне здаецца, што калі праз тысячу гадоў яе знойдуць археолагі, то яна зноў бабахне…

А вось на шэрым фотаздымку яна не стрэліць ніколі, а бацька будзе пасміхацца вечна.

**Надпіс**

Падлетак выразае на кары асіны сваё імя і дату. Надпіс — пяць літар і чатыры — робіць на вышыні сваіх вачэй. Спачатку шнары на дрэве яркія, бела-жоўтыя, мокрыя, па іх цячэ сок. Потым парэзы зацягнуцца, зробяцца рудымі, пачарнеюць. Асіна будзе расці, трапяткое срэбна-зялёнае лісце будзе аблятаць і вясной з'яўляцца наноў.

Надпіс, зроблены падлеткам, будзе ўздымацца.

Бацька пакажа мне чатыры асіны па-над абмялелым кар'ерам старой цагельні, паблізу з лясной дарогай. Лісце на вялізных, не абхапіць, дрэвах будзе нервова трымцець і калаціцца. Я дакрануся да шурпатай кары, нечым падобнай да старой ватоўкі, і стану глядзець. Чорны надпіс будзе высока над маёй галавой, але я здолею яго прачытаць.

— Я быў меншы за цябе, калі яго зрабіў.

— Навошта?

— Не ведаю… Пайшлі.

Часам я думаю пра чатыры асіны, на адной з якіх надпіс, зроблены бацькавай рукой у траўні тысяча дзевяцьсот сорак чацвёртага года… Я добра сабе ўяўляю хударлявага падлетка з самаробным нажом, які старанна выразае сваё імя.

Па той ляснай дарозе даўно не ходзяць людзі. Можа, і дрэвы зламіў вецер, можа, спілавалі людзі…

Я так даўно там не быў.

**Совы**

Позні вечар летняга дня. Сава сядзела на ніжняй галіне яблыні. Насупраць вокнаў. Вялікая і бухматая птушка. Круціла галавой. Яе, нават з ганка дзедавай хаты, было добра відаць, хоць сонца і села за лес. Падалі ў бульбоўнік яблыкі. Саву мне паказала баба. У яе голасе чуўся сполах. Я забег у хату, а вярнуўся на ганак са стрэльбай. Прыладзіўся і стрэліў. Сава ўпала пад яблыню, і яблыкі пасыпаліся. Потым я прынёс яе ў двор і паклаў на ганак. Было цемнавата, добра не разгледзіш, і я перацягнуў скрываўленую саву ў сенцы. Баба глядзець на яе не захацела. Гэта была вялікая птушка з моцнай дзюбай і гострымі кіпцямі… Да наступнага дня яна ляжала ў сенцах, прыкрытая начоўкамі.

Калі-нікалі я згадваю забітую саву. Думаю пра яе. Спрабую зразумець, навошта забіў, за што? Адказу не знаходжу…

Калі паміраў бацька, то на вершаліны бяроз у двары дома, насупраць вокнаў нашай кватэры, на пятым паверсе, чатыры дні ўзапар, прыляталі совы…. Іх было дзясяткі два, а можа, і больш. Прылягалі надвячоркам, а раніцай знікалі. Хісталіся вершаліны бяроз, і птушкі пагойдваліся. Адкуль у пасёлку столькі соў бралася? Адказу няма…

**Звычкі**

Некаторыя бацькавы звычкі мяне раздражнялі. Я нават абураўся…

Ну, навошта прачынацца на досвітку, калі на працу трэба ісці ў восем. А бацька прачынаўся, гатаваў сабе распушчальную каву, паліў і глядзеў у акно. На ранішняе неба, на аблокі, на вершаліны дрэў… Хадзіў па кватэры, тупаў, замінаў спаць… Навошта

вырошчваць бульбу, гуркі, памідоры, цыбулю. Прасцей пайсці і купіць у краме ці на базары. І паліваць не трэба, даглядаць, скарадзіць, капаць, перавозіць… Чаму ў вёску трэба абавязкова ехаць самым першым аўтобусам, які ідзе а шостай раніцы, а вяртацца апошнім? Але ён рабіў так. Чаму, калі выходзіш на вуліцу, то трэба апранацца ў чыстае, як на свята? Чаму трэба галіцца з вечара, а не раніцай ці ў дзень? Чаму трэба стрыгчыся і не хадзіць кудлатым? Навошта садзіць дрэвы перад домам, зломяць дзеці, машыны… А бацька садзіў, абкопваў і паліваў, майстраваў агароджы, ставіў штыкетнік. Насіў з пятага паверха вёдрамі ваду. І паліваў не толькі тыя, якія пасадзіў сам… Чаму трэба спалоханаму дзіцёнку дапамагчы шукаць у траве згублены ад кватэры ключ. Старому суседу адчыніць паштовую скрыню з непаслухмяным замком… Тысячы звычак… Пра ўсе і згадаць немагчыма. Я цяпер раблю многае так, як рабіў бацька.

Нават кепку надзяваю так, як ён… І не задаю сабе больш пытанняў, а навошта ўставаць на досвітку, навошта доўга глядзець у неба і чысціць чаравікі…

Раблю і не пытаю.

Чэрвень—жнівень 2008 г.

## АКВАРЭЛЬНЫЯ МАЛЮНКІ. ДЗЕД

### Зямля

Мой васьмідзесяцігадовы дзед вырашыў паміраць, бо дужа захварэў. Балела «сярэдзіна». Захварэў напрыканцы лютага, а я, сямікласнік, прыехаў у вёску пасля сакавіцкіх святаў. Дзед загадаў, каб я ўзяў рыдлёўку і схадзіў на вясковыя могілкі, глянуў, ці глыбока зямля адтала, бо сам ён з хаты выбрацца нядужае. І патлумачыў далей: каб мужчынам-далакопам было няцяжка магілу капаць, а то мерзлая зямля, як камень, ламамі біць давядзецца… Узяў я рыдлёўку. Апрануў ватоўку, надзеў боты і рушыў праз агарод, а потым напрасткі, па гразкім полі, да невясёлых і няўтульных могілак. Ішоў, ледзь ногі з зямлі сакавіцкай выдзіраў. Дацягнуўся. Пастаяў на цвёрдым укарэлым снезе. Паторкаў дол, дзе цямнелі лапікі зямлі, пад елкамі і бярозамі голымі. Развярнуўся і пайшоў

па сваіх жа слядах да нашай хаты. Дзед засмуціўся. Пакрахтаў, пастагнаў, калі даведаўся, што зямля крышку больш, чым на штых рыдлёўкі, адтала. Я не маніў, так тое і было… Праз тыдзень дзед тупаў па двары і разбіваў цяжкім ломам уляжалы і цёмны снег пад плотам і на сцежках.

**Кузня**

Конь чырвоны, нават залаты. Зваць каня — Сокал. На лбе белая зорка. Ён, як усе прыгажуны, — капрызны, злосны. Я хацеў даць яму скарынку хлеба з соллю, пакуль дзед парадкаваў на калёсах living рознае жалеззе. Сокал скарынку з'еў і нямоцна кусануў мяне за плячо. А потым мы паехалі з дзедам у кузню. Гэта далёка-далёка — за лесам. На ўсе мае пытанні дзед адказвае падрабязна і ахвотна. Толькі ні пытанняў, ні адказаў не запомніў. У лесе дзед перадае мне, шасцігадоваму, лейцы. Вось таму я і шчаслівы, а ў шчаслівых — памяць павярхоўная. Торгаю шырокія лейцы, пакрыкваю. Сокал бяжыць па лясной дарозе. Хвост яго чорны матляецца перад вачамі. Калёсы падскокваюць на каранях, якія выпінаюцца на дарозе, быццам жылы на дзедавых руках. Дзіўна, запомніў з той паездкі мала. З цёмнага лесу выязджаем — вялікае поле і агромністае летняе неба з белымі аблокамі.  І яшчэ запомніў, як дзед сказаў, што, калі яго не будзе, я стану жыць замест яго…

Тады мяне праблема бессмяротнасці не займала, а вось сляпні на ўзмакрэлай спіне каня здаваліся ворагамі. Я іх забіваў, забіваў...

**Імя**

Мяне назвалі па дзеду.

Памятаю свайго дзеда Уладзіміра добра.

Ён памёр, калі мне ішоў дваццаць першы год.

Ні разу дзед не сказаў мне кепскага слова, не пакрыўдзіў. Не ўдарыў, і бацькам не дазваляў на мяне сварыцца. Ні разу, калі я сядзеў за кніжкай ці маляваў, не выключыў святло, не загадаў і нават не папрасіў, каб я ішоў нешта рабіць па гаспадарцы. Ён ставіўся да кніжак і да малявання з павагай неверагоднай. Ён навучыў мяне касіць, кляпаць касу і гайстрыць яе шурпатай мянташкай. Пілаваць і калоць дровы, араць і скарадзіць, вадзіць каня і хадзіць за плугам, запрагаць і выпрагаць каня, правільна валіць дрэва, так,

каб яно не захрасла і не паламала іншыя, меншыя. Ён цярпліва паказваў і тлумачыў, як і што павінен рабіць мужчына. І ён радаваўся і пасміхаўся ў вусы, калі бачыў плён сваёй сялянскай навукі… Ён зрабіў мне маленькую рыдлёўку і касу пад мяне. І малаток у мяне быў свой — спрытны, маленькі, з ясеневай ручкай. Здавалася б, а што мне, гарадскому чалавеку, з той сялянскай навукі, дзе я магу яе скарыстаць сёння? Але за кожным з гэтых заняткаў стаяць зямля, лес, пожня, жывёлы і птушкі, дождж і снег. За гэтым хаваюцца родныя словы. І не важна, што зараз многія амаль выйшлі з ужытку, зрабіліся старажытнымі. Але музыка захавалася… Тая сапраўдная, адзіная… Не руская і не літоўская, не польская і не ўкраінская, а свая.

Хацеў напісаць пра дзеда, а напісаў пра выхаванне… І гэта справядліва.

**Словы**

Дзед ведаў назвы ўсіх траў, птушак, кветак, звяроў, інструментаў, зорак, дарог і сцежак, мясцін у лесе і на балоце, на пожні… Па габлюшцы мог сказаць, з якога яна дрэва, са старога ці маладога… Ён не адмахваўся ад маіх пытанняў, а размаўляў са мной як з дарослым. І з маімі аднагодкамі гаварыў так, як са сваімі… Я забыўся тысячы родных слоў. Тых, прамоўленых дзедам доўгімі восеньскімі вечарамі, летнімі днямі на палявых і лясных дарогах. Шкадую, што няўважліва слухаў, што не запісваў, што не збярог… Але ведаю, што многія згадаю, калі вазьму ў руку ці дакрануся позіркам: да травінкі, да дрэва, да кавалка цагліны, ці прысню альбо пакаштую… І тады я зноў пачую голас свайго дзеда. І вернецца тое пачуццё лёгкасці і надзейнасці. І адчую пад нагамі зямлю. І перастану тлуміць сваю душу неадольнымі пытаннямі…

Я гляну на дзеда, зазірну ў яго сінія вочы, і ён скажа: «А гэта, унук, рэзьвіны… Здымай іх са сцяны, і пойдзем па салому…»

**Узрост**

Вечар доўгага летняга дня. Мне гадоў сем ці восем. Дзед, у свае восемдзесят, яшчэ дужы мужчына. Сядзім на канапе за сталом, гамонім — у старога з малым заўсёды ёсць пра што. Дзедавы рукі ляжаць на абрусе. Вялікія, жылістыя, напрацаваныя, дужыя і адначасова спрытныя. Скура на іх, як пергаментная, як паверхня

